# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*






Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 3 (71) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2015 г.


425 гадоў
З ДНЯ НАДАННЯ ГОРАДУ ЛІДЗЕ
МАГДЭБУРГСКАГА ПРАВА
ГОДНАСЦЬ ПРОДКАЎ – ГОНАР НАШЧАДКАЎ

# Лідскі Летапісец



*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*



**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 3 ( 71 ) ЛІПЕНЬ - ВЕРАСЕНЬ 2015 г.**


## *У НУМАРЫ:*





**На першай старонцы выкладкі білборд з ваывай Лідскай ратушы.**
***Здымак Станіслава Судніка.***



**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**


**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// naszaslowa.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**11 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 788.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.09.2015 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.03.2016 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 11700 руб.**
**індывід. 6 мес.- 23400 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218-1792






# Свята фермераў Лідчыны

30 жніўня ў аграгарадку Дворышча адбылося даволі незвычайнае мерапрыемства - свята працы фермераў Лідчыны. Раней такіх свят у раёне не ладзілі, але ідэя яго правядзення знайшла падтрымку ў асяродку кіраўнікоў прыватных сельскіх гаспадарак - і "першы блін" не атрымаўся камяком! Хоць на парозе восені спраў не меней, чым летам, фермеры вырашылі адкласці іх на адзін дзень, каб сабрацца разам, падвесці вынікі працы за сезон, адпачыць, дый проста пабачыцца, абмяняцца думкамі, падзяліцца марамі.

Ініцыятарам і арганізатарам свята выступіла раённая асацыяцыя фермераў, якую ўзначальвае Віктар Кудла. Дарэчы, Віктар Іванавіч у1973-1987 гадах кіраваў эксперыментальнай базай "Ніва", а пасля выхаду на пенсію сумесна з сынамі Артурам і Вадзімам заснаваў фермерскую гаспадарку "Расінка-2002". Менавіта тут, на Дварышчанскай зямлі нараджалася гэтая новая форма гаспадарання. Сярод першых на Лідчыне заснавалі ўласныя фермерскія гаспадаркі менавіта дварышчане: Ян Борыс, Вітольд Барыла, Казімір Кахно, Эдуард Капачэль ... Наогул, Дварышчанская акруга багатая на фермераў. Тут паспяхова шчыруюць Валянцін Капачэль з сынам Андрэем, сям'я Віталя Міхайловіча. У жывапісным куточку на беразе Жыжмы Артур Вашкевіч сумесна з бацькамі стварыў аграсядзібу "Гроты". Зыходзячы з гэтага, не падаецца дзіўным, што месцам для правядзення першых "фермерскіх дажынак" абралі менавіта Дворышча. Вельмі ўдала была падабрана і пляцоўка для свята - коннаспартыўная школа, якая размясцілася побач са старынным паркам былога панскага фальварка.

Сонечнай раніцай менавіта сюды з'язджаліся фермеры з сем'ямі з усяго раёна і запрошаныя на свята госці: першы намеснік старшыні райвыканкама Сяргей Чаркоўскі, кіраўнік раённай інспекцыі Дзяржтэхнагляду Альфрэд Ненартовіч, намеснік старшыні раённай падатковай інспекцыі Наталля Гурэнда, ад раённай ветэранскай арганізацыі - Валерый Бушлякоў, знакаміты фермер з Воранава Андрэй Дарняк, а таксама мясцовыя кіраўнікі - старшыня сельскага Савета Іван Ганевіч, дырэктар РСУП "Саўгас "Лідскі" Уладзіслаў Ірчыц.

Тут на пляцоўцы, уздоўж векавых ліпаў, усе адразу траплялі ў незвычайнае асяроддзе - на выставу пад адкрытым небам сельскагаспадарчых механізмаў, тэхнікі і прылад, якімі ў пазамінулым і пачатку мінулага стагоддзя карысталіся вяскоўцы. Чаго тут толькі не было: плужкі і асыпальнікі, сявенка, драўляныя бароны з ворчыкам, конны манеж і малатарня, арфа і сячкарня, жорны і шуфлікі, вырабы з саломы: гарнец і кубышкі…. Гасцям патлумачылі, што гэтыя рэрытэтныя рэчы і тэхніку збіраў па ўсёй ваколіцы за свае сродкі Віктар Іванавіч Кудла, які вядомы яшчэ і як мясцовы краязнавец. У арганізацыі выставы і цікавай віктарыны яму дапамагалі загадчыца бібліятэкі Людміла Марцінкевіч, сын Вадзім і ўнучка Ксеня. Многія рэчы былі падпісаны, а частка - не. Наведавальнікам прапаноўвалася адгадаць іх назву і прызначэнне, па выніках адгадак пераможцам гарантаваўся "прызсюрпрыз". У некаторых выпадках гэта было няпроста. Асабліва многа людзей сабралася вакол невялічкай прылады - колькі тут было меркаванняў: і крышыць капусту, і рэзаць хлеб, а мо габляваць… (На самай справе станком наразалі тытунь для самакрутак). Фермерам далі час падумаць, каб адгадаць.

Тым часам гасцям прапанавалі агледзець канюшню, дзеннікі са спартыўнымі коньмі. Усіх уразіла чысціня гадаванцаў, спецыфічны водар паветра, як выказалася адна наведвальніца: "Запахла дзяцінствам". Увагу і цікавасць выклікаў стэнд з дасягненнямі выхаванцаў: граматы, кубкі, перамогі на прэстыжных спаборніцтвах. Было праінфарма-вана, што



***Арфа***



***Спружыноўка***

якраз сёлета споўнілася 30 год, як тут у Дварышчы, за сродкі эксперымента-льнай базы "Ніва" былі закуплены спарто-выя скакуны і ў 1985 годзе заснавана конна-спартыўная секцыя. Узначальваў яе майстар спорту СССР Аляксандр Батура, а першымі выхаванцамі былі Вася Іваноў, Ала Ёрш, Вадзім Кудла, Віця Ліхарад.

А потым усіх запрасілі на крытыя трыбуны канкурнага поля.

На свята прыйшлі многія жыхары Дворышча, прыехалі і з горада цэлыя сем'і. Таму на трыбунах і вакол іх было вельмі шматлюдна. Прыходзілі і сталыя, і моладзь, было шмат сем'яў з дзецьмі. Напачатку перад фермерамі і ўсімі прысутнымі выступіў Віктар Кудла. Ён коратка нагадаў гісторыю развіцця фермерства на Лідчыне, якая налічвае ўжо 25 гадоў, назваў самых першых фермераў:



***Віктарына***

"Больш за 20 год працуюць на сваіх фермерскіх гаспадарках Валянцін Бяляўскі, Рамуальд Палейчык, Алег Макараў, Эдуард Раманоўскі, Станіслаў Банцавіч, Генадзь Козел, Іван Дулько, Зянон Жэлудзевіч.

Паступова фермерскія шэрагі папаўняліся больш маладымі, адукаванымі фермерамі, а ў саміх гаспадарках з'яўлялася больш сучаснай тэхнікі, пабудаваліся сховішчы для зерня, бульбы, агародніны.

Ад бацькоў прынялі "лейцы" і маюць добрыя вынікі Віктар Навіцкі, Святлана Крыніцкая, Віталь Чычкан. Цэлымі сем'ямі працуюць Эдуард Міцкевіч, Андрэй Юхневіч, Людміла Журневіч.

Асабліва добрыя поспехі штогод атрымлівае Валера Шарыч. На плошчы ў 370 гектараў ён вырошчвае бульбу, моркву, буракі, капусту і іншую агародніну, якая фасуецца ў сеткі і пастаўляецца ў рознічны і аптовы гандаль. Сёлета гаспадарка вырасціла больш за 5 тыс. тон прадукцыі. Даволі вялікую плошчу займаюць землі сям'і Арлаўцоў (220 га), Андрэя Венславовіча (164 га), на якіх вырошчваюць разнастайную агародніну, сартавую бульбу і збожжавыя.

Даволі паспяхова займаюцца садоўніцтвам і ў тым ліку саджанцамі Ганна Дубінчык, Іван Жынель з жонкаю Вольгай, дружная сям'я Ганны Бадзяк, Віталь Алефяровіч. Ягаднікі (трускалкі, маліну, парэчкі, аро-



***З мікрафонам Віктар Іванавіч Кудла***

ню і інш.) вырошчваюць Сяргей Шмуцінскі, Андрэй Карнееў, Іван Кеўра.

А вось Генадзь Радзівон з сынам Андрэем у прысадзях каля вёскі Пяцюляўцы заснаваў пчолапасеку і атрымлівае больш за 20 цэнтнераў мёду.

За новую і даволі рызыкоўную справу ўзяўся Слава Лукашэвіч. Сёлета гаспадарка вырошчвала агуркі на плошчы 30 гектараў у адкрытым полі і пад плёначнымі цяпліцамі - 2 га. Як вынік паставіў свежыя і раннія агуркі гараджанам і на перапрацоўку. А Слава Кайлевіч займаецца жывёлагадоўляй і пастаўляе свежае мяса ў свае магазіны "Мясныя дары".

На сёняшні дзень у раёне зарэгістраваны 44 фермерскія гаспадаркі Усяго фермерскія землі складаюць 2294 гектары, з іх 1692 гектары адведзена пад ворыва. Гэта няшмат (для параўнання: у раёне адно дзяржаўнае сельгаспрадпрыемства ў сярэднім займае каля 8 тысяч гектараў сельгасугоддзяў і каля 4,9 тысячы гектараў - ворыва). Але ёсць усе падставы меркаваць, што фермерства на Лідчыне будзе пашырацца і развівацца. Усё больш цікаўнасці да гэтай справы праяўляе моладзь, больш разнастайнай становіцца спецыялізацыя гаспадарак, укараняюцца прагрэсіўныя тэхналогіі, пашыраецца матэрыяльна - тэхнічная база, набываецца сучасная тэхніка, будуюцца памяшканні.

На жаль, дзяржава вялікія сродкі выдаткуе калгасам, так званым СПК, што ў "бяздонную бочку", а вось шчырым, працавітым гаспадарам зямлі - крошкі…

Яшчэ нядаўна заснавалі фермерскія гаспадаркі, а ўжо дабіваюцца добрых вынікаў маладыя энтузіясты Саша Барысевіч, Гена Дудзіч, Ігар Скачкоўскі, Тарэса Немчына. За апошні год на фермерскі шлях гаспадарання сталі Стась Ардзюк, Слава Карэнда, Гена Шэшка, Уладзімір Роман, Юргілевічы.”



***На возе цікавей***

Потым выступіў першы намеснік старшыні райвыканкама Сяргей Чаркоўскі. Ён выказаў падзяку ў адрас фермерскіх гаспадарак Лідчыны, якія не проста выжываюць, а плённа працуюць у складаных умовах рынкавай эканомікі і тым самым прыносяць карысць сваёй дзяржаве, сваім сем'ям і ўвогуле Лідскай зямлі, якую яны прыводзяць у парадак, паказваюць прыклад іншым, як трэба па-сапраўднаму працаваць.

Пасля невялікай афіцыйнай часткі мерапрыем-



***“Лісапетны батальён”***



***Перад стартамі***

ства, гасцям была прапанавана цікавая канцэртная праграма "Лісапетны батальён", падрыхтаваная артыстамі Ганчарскага Дома культуры. Затым увагу гледачоў літаральна прыкавалі да сябе сябры рыцарскага клуба "Дайнава" ў старажытных доспехах прадэманстраваўшы рэканструкцыю невялікага эпізоду з часоў Грунвальдскай бітвы.

Потым на канкурнае поле выйшлі выхаванцы Дварышчанскай конна-спартыўнай школы на чале са старшым трэнерам майстрам спорта СССР Уладзімірам Юркевічам. Спачатку юныя жакеі прадставілі гледачам лепшых коней школы, пасля чаго разам са сваімі чацвераногімі сябрамі прадэманстравалі сапраўдныя майстэрства і талент у пераадоленні штучных бар'ераў. Па выніках лепшыя наезднікі ад імя асацыяцыі фермераў атрымалі салодкія прызы і шчырыя апладысменты ўсіх гледачоў.



***У палёце***

А ля будынка конна-спартыўнай школы было арганізавана катанне дзяцей вярхом на конях у суправаджэнні трэнераў, бо многія дзеці ўпершыню сядзелі конна. Колькі тут было эмоцый, жаданне праехацца яшчэ…Тым часам іншыя дзеці з бацькамі ўладкаваўшыся на возе з кіроўцам-фурманам запрэжаным конікам пад шаластунамі накручвалі кругі па стадыёне. І тут ад ахвочых не было адбою… Але ўсіх задаволілі…

Завяршылася святкаванне на канкурным полі падвядзеннем вынікаў віктарыны па адгадванні назваў даўнейшых сельскагаспадарчых прылад і прадметаў побыту. Пераможцамі сталі фермеры, якія прадэманстравалі найлепшае веданне побыту сялян у даўнія часы: Валянцін Капачэль, Ганна Бадзяк, Іван Дулько. А "прызам-сюрпрызам" пераможцу дазвалялася самастойна праехаць верхам на лепшым скакуне, астатнім - у вазочку…

Далей свята прадоўжылася за "круглым сталом" у аграсядзібе "Гроты" Артура Вашкевіча, на якім былі больш грунтоўна падведзены вынікі дзейнасці раённай асацыяцыі фермераў. Гаварылі аб набалеўшых праблемах, планах на бліжэйшы год, дзяліліся досведам. Гаманілі, весяліліся, танчылі.. Добраму настрою садзейнічаў багаты святочны стол з разнастайнымі прысмакамі, у асноўным з прадуктаў фермерскіх гаспадарак.

Усе адзначылі добрую арганізацыю мерапрыемства, якое падрыхтаваў аргкамітэт у складзе Віктара Іванавіча Кудлы, Валянціна Капачэля, Волі Навіцкай, Марыны Юхневіч, Івана Дулько, Міхаіла Бадзяка, Рэгіны Вашкевіч. Было выказана пажаданне каб Свята фермераў стала традыцыйным, больш масавым, з удзелам усіх фермераў Лідчыны. Адпачыўшыя, павесялеўшыя фермеры раз’язджаліся дамоў, каб заўтра з новай энергіяй пачаць працоўны дзень… Наперадзе "восень - работ восем"!

***В. К.***

# Кроніка Ліды

## 100

У ліпені 100 балаў на Цэнтралізаваным тэставанні атрымалі:
*Ліцэй № 1 г. Ліды*
**Лізавета Яскевіч** - беларуская мова;
**Ганна Тумілевіч** - руская мова;
**Міхась Шаўлюк** - фізіка.
*СШ № 1 г. Ліды*
**Кацярына Лісоўская** - руская мова.
*СШ № 17 г. Ліды*
**Ірына Кодзік** - хімія.

У ліпені споўнілася 100 гадоў **Ніне Васільеўне Дукі** з в. Бурносы Траццякоўскага сельсавета Лідскага раёна.



*Ніна Васільеўна Дукі і яе 76-гадовая дачка Вера Васільеўна Вашчыла*



7 жніўня ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь лідзянка **Ала Гародка** ўзнагароджана Ордэнам Маці.




У жніўні 2015 г. у Менску ў выдавецтве "МАЭН" выйшла кіга **Валера Санько** "Сучаснае беларускае літаратурнае жыццё". 280 ст. Наклад 99 асобнікаў.



22 жніўня каманда па мініфутболу "Лідсельмаш" выйграла Суперкубак Беларусі.



5 - 6 верасня ў Шчучыне прайшоў XXII Дзень беларускага пісьменства.



У верасні старшыня Лідскай рады ТБМ Лявон Анацка здабыў 2 месца на Кіеўскім марафоне на 100 км у сваёй узроставай катэгорыі.

# 425 гадоў з дня надання гораду Лідзе Магдэбургскага права

17 верасня 1590 года кароль і вялікі князь Жыгімонт III Ваза надаў гораду Лідзе Магдэбургскае права.



**Жыгімонт III Ваза падпісаў прывілей г. Лідзе на Магдэбургскае права**

***МАГДЭБУРГСКАЕ ПРАВА*** *— феадальнае гарадское права, склалася ў нямецкім горадзе Магдэбургу ў XII-XIII ст.*

*Магдэбургскае права склалася з розных крыніц, у т.л. з прывілеяў, выдадзеных архіепіскапам Віхманам гарадскому патрыцыяту (1188), Саксонскага зярцала, пастаноў суда шэфенаў Магдэбурга і інш. Мела ўніверсальны характар, г.зн. трактавала розныя віды праваадносін: дзейнасць гарадской улады, суда, яго кампетэнцыю і парадак судаводства, пытанні зямельнай уласнасці «ў межах горада», парушэнні ўладання, захопу нерухомасці, устанаўлівала пакаранні за розныя віды злачынстваў і г.д. Асобае месца займалі нормы, што рэгулявалі гандаль і рамесніцтва, дзейнасць цэхаў і купецкіх гільдый, парадак падаткаабкладання. Магдэбургскае права з'явілася юрыдычным замацаваннем поспехаў гараджан у барацьбе з феадаламі за самастойнасць. Яно давала гораду права на самакіраванне і ўласны суд, права зямельнай уласнасці і вызваленне ад большай часткі феадальных павіннасцей. Магдэбургскае права было перанята многімі гарадамі Усходняй Германіі, Усходняй Прусіі, Сілезіі, Чэхіі, Венгрыі, Польшчы.*

*З XIV ст. Магдэбургскае права пашыралася на гарады ВКЛ. Жыхары гарадоў, якія атрымлівалі Магдэбургскае права, вызваляліся ад феадальных павіннасцей, ад суда і ўлады ваяводаў, старастаў і інш. дзяржаўных службовых асоб. У прыватнаўладальніцкіх гарадах Магдэбургскае права не вызваляла гараджан ад залежнасці і ўлады феадалаў, аднак залежнасць не мела рысаў прыгонніцтва. На аснове Магдэбургскага права ў горадзе ствараўся выбарны орган самакіравання — магістрат, які размяшчаўся ў ратушы (ад ням. Rathaus — літаральна "дом рады"). Ратушы былі ва ўсіх населеных пунктах, якія мелі Магдэбургскае права. У судовай практыцы магістратаў Беларусі разам з Магдэбургскім выкарыстоўваліся нормы агульнадзяржаўнага права: Статутаў ВКЛ, судовых статутаў сталіцы - Вільні і ўласнай юрыдычнай практыкі.*

*Магдэбургскае права мелі каля 60 гарадоў і мястэчак Беларусі. Прывілеі на Магдэбургскае права дзяржаўным гарадам выдавалі вялікія князі ВКЛ, прыватнаўладальніцкім гарадам - уладальнікі гарадоў або па іх хадайніцтве вялікія князі. Кароль Жыгімонт III Ваза падпісаў, сама меней, 18 прывілеяў на Магдэбургскае права для гарадоў і мястэчак Вялікага Княства, 9 з іх знаходзяцца цяпер у Літве, 9 - у Беларусі.*

*Магдэбургскае права гарады Беларусі атрымоўвалі на працягу больш, чым 250 гадоў: Вільня (1387), Берасце (1390), Коўня (1408), Трокі (1409), Слуцк (1441), Высокае (1494), Гародня (1496), Полацк (1498), Менск (1499), Браслаў (1500), Ваўкавыск (1503), Камянец (1503), Наваградак (1511), Рэчыца (1511), Мілейчыцы (1516), Слонім (1531), Барысаў (1563), Мерач (1569), Радашковічы (1569), Пяшчатка (1569), Дзісна (1569), Сураж (1576), Магілёў (1577), Мазыр (1577), Ула (1577), Пінск (1581), Дзвінск (1582, Езярышча (1583), Нясвіж (1586), Кобрын (1589), Гарадзец (1589), Пружаны (1589),* ***Ліда (1590)****, Любча (1590), Віцебск (1597), Орша (1620), Чавусы (1634), Мсціслаў (1636), Ружаны (1637), Чэрыкаў (1641), Дзівін (1642), Друя (1643), Лагішын (1643), Малеч (1645), Капыль (1652).*

У канцы 16-га стагоддзя, на момант атрымання Магдэбургскага права Ліда была вялікакняскім горадам з адной вуліцай, якая распасціралася ў паўночным кірунку ад замка. Побач з замкам быў Рынак. Дзейнічалі дзве праваслаўныя цэрквы Святога Збаўцы і Прачысценская, каталіцкі касцёл Усіх Святых і Святога Крыжа, кальвініскі збор і сінагога (з 1579). Мелася некалькі заезджых двароў з карчмой. Будынкі былі драўлянымі. Гарадская зямля першапачаткова была ўласнасцю Вялікага князя, з часам асобныя ўчасткі былі прададзена ў прыватную ўласнасць, адным з першых пакупнікоў гарадской зямлі быў Павел Рошчым (1566), пазней два пляцы купіў Аляхновіч (1589). З 1568 г. Ліда была буйным судовым цэнтрам, паседжанні земскага суда праводзіліся ў замку.

Старастам Ліды на той час быў Ян Станіслававіч Абрамовіч (? - 19.4.1602) - ваявода Менскі (з 1593), пісьменнік, выдавец кніг, кальвініст. Паходзіў з роду Абрамовічаў, якія славіліся багаццем і адукаванасцю. Удзельнічаў у дыспутах з езуітамі, прысутнічаў на Торуньскім сінодзе (1595), на нарадзе пратэстантаў з праваслаўнымі ў Вільні (1599). Выдаў у 1598 г. евангелічны "Катэхізіс", які змяшчаў 300 рэлігійных песень, яму прыпісваюць аўтарства твору "Погляды ліцвіна на танную куплю і даражэйшы продаж збожжа" (1595), у якім абаранялася права на свабоду гандлю. Мяркуецца, што менавіта Ян Абрамовіч і быў ініцыятарам надання Лідзе Магдэбургскага права.

***Кароткая сутнасць прывілею гораду Лідзе на Магдэбургскае права.***

*Гораду Лідзе даецца Магдэбургскае права і гарадская пячатка (герб).*

*Гараджане вызваляюцца ад усіх абавязкаў, якія супярэчаць Магдэбургскаму праву. Падпарадкоўваюцца толькі войту і гарадскім уладам.*




**Пячатка Лідскага магістрата за 1792 год**

*Крымінальныя справы разглядаюцца судом войта, грамадзянскія - судом бурмістра. Незадаволеныя могуць звяртацца да Лідскага старасты, у крайнім выпадку - да караля.*

*Стараста выбірае бурмістра з 4 жыхароў горада, прапанаваных гараджанамі.*

*Войт зацвярджаецца каралём пажыццёва (ці на абумоўлены тэрмін), надзяляецца дзвюмя валокамі зямлі (42 га).*

*Дазволена праводзіць штотыднёвы суботні гандаль і штогод два кірмашы: першы - у траўні-чэрвені, другі - у верасні. Усім без выключэння дазволена ў гэтыя дні прадаваць, мяняць і купляць.*

*Гораду выдзяляецца бочка кракаўскай меры, якая адпавядае 4 карцам ці 72 гарнцам меры літоўскай (каля 200 л).*

*Вызначаны гандлёвыя гарадскія зборы - па 2 манеты з бочкі. Мяшчане і жыхары наваколляў ад гандлёвых збораў вызваляюцца. Частка падатку з прыезджых ідзе ў гарадскі скарб.*

*Гараджанам перадаюцца ў карыстанне ўсе гарадскія землі.*

*Аплата падаткаў за гарадскія землі праводзіцца штогод. Падаткаабкладанне сядзібаў, хат і гарадскіх пляцаў не праводзіцца. Падаткі збірае войт і здае старасту.*

*З кожнай квітанцыі 6 грошаў застаецца ў скарбе на гарадскія патрэбы. Прыбыткі з лазні, вагаў, цырульні застаюцца гораду.*

*Дазволена пабудаваць адну агульную лазню ўбаку ад горада.*

*Шляхта і баяры, якія жывуць у горадзе, плацяць падаткі, выконваюць абавязкі гэтак жа як мяшчане.*

*Будаўніцтва і рамонт мастоў, дарог, ратушы, гадзінніка і школы праводзіцца за кошт горада.*

*Паблізу ад касцёла загадана пабудаваць лякарню, стварыць агульныя гандлёвыя пункты і склады. Падаткі з гандлёвых пунктаў і арэндная плата са складоў збіраюцца ў карысць горада.*

*Соладавы і піўны завод павінны будавацца па-за горадам. Коміны старанна ўладкоўвацца.*





**Макет Лідскай ратушы**



**Макет Лідскай ратушы ў інтэр’еры горада**







***Банеры да 425-х угодкаў надання гораду Лідзе Магэбургскага права***

На Беларусі Магдэбургскае права скасавана паводле ўказаў Кацярыны II у Магілёўскай губерні ў лістападзе 1775, у Менскай — у траўні 1795, у Заходняй Беларусі — у снежні 1795.

Галоўны з прывілеяў - прывілей караля Жыгімонта III Вазы на атрыманне Лідай Магдэбургскага права ад 17 верасня 1590 г. быў апублікаваны ў часопісе "Лідскі летапісец" № 4 за 1999 г. У 2004 г. чатыры з пяці каралеўскіх прывілеяў былі надрукаваны ў кнізе "Памяць. Ліда і Лідскі раён".

Сёлета спаўнілася 425 гадоў гэтай найважнейшай падзеі ў гісторыі горада, і грамадскасць правяла шэраг мерапрыемстваў да гэтай даты.

Нарэшце быў завершаны шматгадовы працэс па стварэнні макета Лідскай ратушы. Удзел бралі Станіслаў Суднік (ідэя), Вадзім Вераб'ёў (эскіз), Сяргей Трафімчык (арганізацыйныя моманты), а макет выканаў скульптар з горада Бярозаўкі Яўген Лукашэвіч, той самы, які стварыў для Лідскай бібліятэкі бюст Янкі Купалы.

Быў распрацаваны і выдадзены ў Лідскай друкарні мастацкі буклет, прысвечаны ўгодкам Магдэбургскага права, у тым ліку адну старонку займае Лідскі каляндар на 2016 год з шэрагам датаў лідскай гісторыі.

Былі распрацаваны, выкананы і ўстаноўлены два банеры, на якіх пададзены макет Лідскай ратушы, упісаны у пейзаж горада, на тое месца, дзе грамадскасць мае планы дабіцца яе аднаўлення.

"Белпошта" з ініцыятывы ТБМ выдала мастацкі канверт да 425-х угодкаў надання гораду Лідзе

Магдэбургскага права.

У “Лідскай газеце” № 68 (12624) ад 2 верасня 2015 года надрукавана вялікае інтэрвію Святланы Медуніцы са Станіславам Суднікам пра Лідскую ратушу, у якім афіцыйна было заяўлена пра неабходнасць аднавіць у Лідзе гэты важны будынак.

3 кастрычніка на этнаграфічнай сядзібе “Пескі” пад Лідай прайшоў краязнаўчы “круглы стол”, прысвечаны 425-м угодкам надання г. Лідзе Магдэбургскага права. Сабраліся краязнаўцы з Ліды, Бярозаўкі, Ёдак, Дворышча. З Менска прыехаў малады гісторык Кірыл Сыцько. Арганізоўвала імпрэзу Лідская гарадская арганізацыя ТБМ.




***Буклет да 425-х угодкаў надання гораду Лідзе Магэбургскага права***



***Малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі Кірыл Сыцько***




***Канверт да 425-х угодкаў надання гораду Лідзе Магэбургскага права***

Станіслаў Суднік зрабіў даклад пра гісторыю Лідскай ратушы і пра найноўшую гісторыю дзейнасці лідскай грамадскасці па яе аднаўленні. Афіцыйна быў прадстаўлены макет Лідскай ратушы. Удзельнікі “круглага стала” даручылі Станіславу Судніку звярнуцца да лідскіх уладаў ад імя краязнаўчай грамады Лідчыны з прапановай аднавіць Лідскую ратушу.

Кірыл Сыцько распавёў пра фонды з дакументамі Лідскага магістрата, пра тое, як яны аказаліся ў Менску, што само па сабе вельмі цікава, а таксама прачытаў даклад на тэму “Нефармальная ўлада рыма-каталіцкіх святароў у Лідскім павеце”.

***Яраслаў Грынкевіч.***



***Краязнаўцы Лідчыны***

# *110 гадоў таму, выйшла першая кніга па гісторыі нашага горада*

У 1905 г., надрукавана кніга Міхала Шымялевіча "Горад Ліда і Лідскі замак" [1] паклаўшая пачатак навуковаму лідскаму краязнаўству. Праз год праца перавыдадзеная ў штогодніку "Віленскі каляндар". Гэтая кніга не страціла сваёй навуковай каштоўнасці да нашага часу (напрыклад, на яе спасылаецца Алег Трусаў у кнізе "Старадаўніх муроў адраджэнне. Мінулае і сучаснасць Лідскага замка" [2] і сталася падмуркам усіх сучасных даследванняў Ліды. Кніга выдадзена, калі аўтару было 26 гадоў, але колькасць выкарыстанага аўтарам матэрыялу не можа не ўражваць. Са спасылак бачна, што Шымялевіч ужо паспеў грунтоўна папрацаваць у Віленскі архіве і ўжо меў вялікі асабісты архіў.


Городъ Лида и Лидскій замокъ.


З вялікай бібліяграфіі крыніц па ісламскай тэматыцы даведваемся пра кнігу "Шимелевич М. Литовские татары. Вильно, 1906" [3]. Станіслаў Дзядулевіч у кнізе па генеалогіі літоўскіх татараў піша пра кнігі Шымялевіча: "Szymielewicz Michal. Szkice etnograficzne o Tatarach litewskich. 1906." [4] і "Szymielewicz Michal. O tatarach w powiecie lidzkim. Lida. 1914" [5] (верагодна, абедзве кнігі ўсё ж на рускай мове). Апошняя кніга - рукапіс, які не быў надрукаваны, сам Міхал Шымялевіч пісаў ў рэцэнзіі на кнігу Станіслава Кручынскага "Татары - літоўцы" [6]: *"З бібліяграфіі гэтай кнігі, даведаўся, што мае рукапісныя нататкі "Аб татарах літоўскіх у Лідскім павеце" не загінулі, а знаходзяцца ў добрых руках - у зборах сп. Леана Кручынскага ажно ў Гдыні"* [7].

Праз шмат гадоў даследчык успамінаў, як на пачатку стагоддзя ён збіраў матэрыял для гэтых кніг: *"Болей за трыццаць гадоў таму* (тэкст напісаны ў 1930-я гг. - *Л.Л.*), *будучы маладым, рухомы адзіна ўласнай цікавасцю, калі на возе, а часцей пешшу абышоў дзясяткі татарскіх ваколіц і фальваркаў і некалькі мусульманскіх мячэцяў у паветах Лідскім, Віленскім, Ашмянскім і Наваградскім, пабываў у дабрадушных і гасцінных татарскіх сем'ях і ў выніку сваіх краязнаўчых вандровак напісаў такую невялікую працу пра літоўскіх татараў - этнаграфічныя нарысы. Гэтая кніжка, пасля таго як рэдактары прыбралі некалькі вельмі небяспечных, на тыя часы, старонак (напрыклад, пра ахвяраванне чорнага барана, супольныя з праваслаўнымі пілігрымкі на мусульманскія могілкі), пры канцы 1905 г. надрукаваная ў Вільні на 12 старонках"* [8].

Падрабязная біяграфія даследчыка будзе надрукавана ў наступных нумарах.

***Леанід Лаўрэш.***

[1] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок: исторический очерк. Вильна: Типография "Русский Починъ", 1905.

[2] Трусаў А. Старадаўніх муроў адраджэнне. Мінулае і сучаснасць лідскага замка. Мінск, 1990.

[3] Marcinkowski Christoph. The Islamic World and the West: Managing Religious and Cultural Identities in the Age of Globalisation. LIT Verlag M?nster, 2009. S. 107.

[4] Stanislaw Dziadulewicz. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. S. 329.

[5] Stanislaw Dziadulewicz. Herbarz rodzin tatarskich w Polsce. S. XI.

[6] Stanislaw Kryczynski. Tatarzy Litewscy. Warszawa, 1938.

[7] Szymielewicz Michal. Na marginesie "Tatarow litewskich" // Ziemia Lidzka №3-1938. S.37.

[8] Szymielewicz Michal. Na marginesie "Tatarow Litewskich" // Ziemia Lidzka. 1938. № 3. S. 37.

# Лідскай дзіцячай музычнай школе - 60 гадоў

Пачыналася ўсё ў далёкім 1955 годзе. Сярод архіўных матэрыялаў школы захаваўся загад ад 7 жніўня 1955 года - залічыць дырэктарам школы Васіля Іосіфавіча Цупрыняка. Тады ж былі прыняты на працу і чацвёра педагогаў: Георгій Міхайлавіч Жукаў, Самуіл Мендзялевіч Ліберман, Клара Паўлаўна Мар'ясіна і Сяргей Паўлавіч Штундар. Вядома, што першы набор складаўся з 69 вучняў. Навучальны працэс пачаўся з адкрыцця чатырох класаў: фартэпіяна, баян, домра і скрыпка.

Першапачаткова школа размяшчалася на вуліцы Камсамольскай, побач з будынкам, дзе сёння знаходзіцца Кіраванне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне. Гэта быў аднапавярховы драўляны будынак, выфарбаваны ў блакітны колер. Усярэдзіне - прасторны, але не падзеленае на класы. Крыху пазней для юных музыкаў гаркам выдзеліў аднапавярховы цагляны будынак па вуліцы Кірава. Яшчэ праз час музычная школа пераехала на вуліцу Ламаносава. Крыху пазней педагагічны калектыў папоўнілі новыя настаўнікі: М.І. Рачкоўская, Л.Ф. Вішнеўская, З.Г. Кражава.

**Зоя Георгіеўна Кражава** ў музычную школу прыйшла ў 1958 годзе, праз год стала завучам, і гэтую пасаду яна займала на працягу наступных 25-ці гадоў. За сваю выдатную працу яна была ўзнагароджана Міністэрствам культуры СССР. І сёння Зоя Георгіеўна ахвотна дзеліцца сваімі ўспамінамі:

- *Я буду гаварыць ад душы,* - адразу адзначае яна. - *Я шчаслівая, што лёс мне падарыў магчымасць працаваць і сябраваць з такімі выдатнымі і таленавітымі людзьмі. Першы дырэктар школы - Васіль Іосіфавіч Цупрыняк - быў чалавекам высокамаральным, прыстойным, добразычлівым, але патрабавальным. Ён многае зрабіў для развіцця і росквіту школы. Быў створаны дзіўны калектыў, усе чальцы якога не проста здольныя і таленавітыя музыкі, але і Педагогі з вялікай літары. Яны не толькі вучылі граць на інструменце, але і выхоўвалі сапраўдных грамадзян сваёй краіны. Славай і гонарам школы на многія гады сталі выкладчыкі М.І. Рачкоўская, Э.І. Банцэвіч, А.І. Несцяровіч, Т.І. Шчаблыкіна, Е.М. Красоўская, Т.Л. Кажэка, Т.С. Піцкова, Т.І. Раднова, В.А. Пілуй, В.Ф. Калодка, Л.М. Хальпукоў, А.І. Бакуменка, П.В. Стока.*

Выкладчыкі вялі і вялікую асветніцкую працу. З 1959 гады пры школе быў створаны лекторый. Зоя Георгіеўна распавядае, што, калі не было магчымасці ўзяць з сабой інструменты, яны з адным патэфонам хадзілі па школах горада, дзе арганізоўвалі музычныя лекцыі.

- *У тыя часы музычная школа была адзіным культурным цэнтрам горада, і мы па-сапраўднаму неслі культуру ў масы. На працягу многіх гадоў педагогі школы ўсяляк спрыялі развіццю мастацкай самадзейнасці горада, падтрымлівалі калектывы заводаў "Лідсельмаш", "Лідахарчканцэнтраты", "Лакафарба", дапамагалі медыцынскаму аб'яднанню, ансамблям "Лідчанка", "Чаравічкі". Акрамя таго, кожны з педагогаў, апроч выкладання, меў дадатковую нагрузку ў самой школе, галоўным чынам гэта быў аркестр. Я, напрыклад, хор вяла.*





Да сярэдзіны 70-х у школе сфармаваліся фартэпіяннае і клавішна-народнае аддзяленні. Пашыраліся струнна-смычковое, струнна-народнае, духавое аддзяленні.



Дасведчаным выкладчыкам захоўваць іх напрацаваныя традыцыі дапамагалі маладыя калегі: Л.В. Квяткоўская, С.П. Кнутовіч, І.С. Русецкі, Л.С. Лагунова, І.П. Булгакава, Г.В. Таўкач. У тыя ж гады ў музычнай школе быў створаны і ансамбль скрыпачоў, а затым на яго базе - камерны аркестр, кіраваў якім І.С. Русецкі.

*- Мае гады вучобы ў музычнай школе прыйшліся на 1961-1966 гг. Гэта перыяд станаўлення і пачатку росквіту школы,* - распавядае Святлана Дзмітрыеўна Карпава (Дакука). - *Я вучылася на струнна-народным аддзяленні па класе домры і вельмі добра памятаю, як да нас прыйшоў малады, энергічны выкладчык - Віктар Аляксеевіч Янкоў. Інтэлігент, прафесіянал, ён мог любому прышчапіць любоў да домры - тады гэты інструмент быў вельмі папулярны. З імем гэтага чалавека ў мяне звязаны лепшыя ўспаміны. Віктар Аляксеевіч стварыў аркестр, у складзе якога мы аб'ехалі не толькі ўсю Беларусь, але і выступалі ў Літве, на ВДНГ у Маскве. Скончыўшы пазней Гомельская музычную вучэльню, а затым Беларускую дзяржаўную кансерваторыю, я зноў вярнулася ў Ліду і пачала выкладаць у музычным каледжы (што працягваю рабіць і сёння) і адначасова ўдзельнічала ў аркестры выкладчыкаў, створаным Віктарам Янковым. Гэта быў выдатны калектыў. Асноўны наш "касцяк" - гэта Іосіф Улан, Ядвіга Дашкевіч, Люся Дарошка. Мы прапагандавалі наша народнае мастацтва, працавалі практычна на адным запале, але, тым не менш, гэта былі лепшыя часы - самыя светлыя і вясёлыя.*

Школа выпусціла звыш трох з паловай тысяч выпускнікоў. З іх 750 звязалі сваё далейшае жыццё з музыкай. Многія сталі настаўнікамі сваёй школы, працуюць у Лідскім музычным каледжы, выкладаюць у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, выступаюць у складах вядомых калектываў і сольна. Сярод выбітных выпускнікоў можна назваць імёны, якія на слыху і напэўна вядомыя многім лідзянам. Гэта піяністка і кампазітар Дзінара Мазітава, спявачка Вольга Вронская, джаз-музыка Ігар Гіро, дацэнт БГПУ імя М. Танка Уладзімір Бубен, выкладчык Акадэміі музыкі Аляксандр Антановіч, выкладчыкі Лідскага музычнага каледжа Міхаіл і Бэла Дзвілянскія, Станіслаў Мішкель, Людміла Будай, Ала Догілева, Т.В. Вераб'ёва, Л.П. Скачко, С.П. Ціханюк, С.Д. Карпава, В.Н. Баброўская, Л.В. Рута, Н.Н. Даргель, Н.Н. Салькоўская, С.В. Антончык, А.В. Вялікіна, А.В. Салуянаў, Е.М. Міхалькова.

Пра сённяшні дзень Лідскай дзіцячай музычнай школы мастацтваў распавядае дырэктар **Алена Жылінская:**

*- Цяпер у школе займаюцца 543 навучэнцы. Адкрыта 21 спецыяльнасць, сем аддзяленняў: фартэпіяна, струнна-смычковых інструментаў, духавых інструментаў, харавое аддзяленне, клавішна-народнае, струнна-народнае, тэарэтычнае. У апошнія гады сфармаваны эстрадныя класы: эстрадных спеваў і бас-гітары. Гонар школы - узорныя і народныя калектывы. Дарэчы, гэты год юбілейны не толькі для школы, але і для двух калектываў - Народнага камернага аркестра (кіраўнік - Ірына Васілік) - яму 30 гадоў - і Народнага аркестра рускіх народных інструментаў (кіраўнік - Таццяна Шух) - яму 35. Нашу школу не выпадкова завуць кузняй талентаў. Сярод навучэнцаў - сямнаццаць стыпендыятаў Адмысловага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі! Шэсць з іх адзначаны фондам за апошнія тры гады. А пра вынікі працы красамоўней за ўсё сведчаць дасягненні. За гэты год мы заявілі пра сябе ў 34-х конкурсах - і гэта толькі ад абласнога да міжнароднага ўзроўню! У іх прынялі ўдзел 114 выхаванцаў, 77 з іх сталі лаўрэатамі ці дыпламантамі. Хоць гэты год яшчэ не скончаны…*



*Для многіх лідзян навучанне музыцы стала сямейнай традыцыяй: сярод навучэнцаў школы няма такіх, чые бацькі калісьці займаліся ў нас. Магу сказаць: цікавасць да музыкі ў Лідзе ёсць. Калі летась у нас было 520 вучняў, то сёлета - 543. Прывяду і такую лічбу: летась 13 нашых выпуск-*



*нікоў паступілі ў музычныя ССНУ, і па гэтым паказчыку Лідская дзіцячая музычная школа - першая ў вобласці.*

*У перспектыве школа накіравана на развіццё. Хочам развіваць эстрадны кірунак. Акрамя таго, плануем адкрыць клас электрагітары. Ёсць задумкі па развіцці фальклорнага кірунку. Нашу "фішку" - джазфэст "Птушка", які ўжо набыў статут абласнога, - хацелася б вывесці на ўзровень міжнароднага. Акрамя таго, плануем актыўна займацца абменам досведам: мы ўжо наладзілі сувязі з Шальчынінкаем, выязджалі ў Екабпілс. Асвойваем і новы для нас кірунак - паслугі для дарослых. Займаемся і самымі маленькімі: адкрыты групы ранняга эстэтычнага развіцця, зазіраем у будучыню, спрабуем разглядзець зародкі таленту і накіраваць у патрэбнае рэчышча.*

**Аддзяленні Лідскай дзіцячай музычнай школы**

**Фартэпіяннае аддзяленне**

На фартэпіянным аддзяленні навучаецца 106 вучняў і працуе 21 настаўнік. Настаўнікі школы выхавалі шмат таленавітых вучняў, якія працягнулі прафесійнае навучанне ў Лідскім дзяржаўным музычным каледжы і ў Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі музыкі.

Большасць настаўнікаў - выпускнікі школы: Дудко Г.В., Коўзель Д.А., Смоліч Н.В., Сердзюкова Г.К., Вішнеўская Н.А., Каляда В.В., Васільева С.І., Бяльчыцкая Н.Г., Каршун Е.В., Касцюкевіч М.В., Саломіна І.К., Урбановіч В.Б., Потька Т.А.

Паспяхова працуюць настаўнікі, якія прыехалі з іншых рэгіёнаў: Маркевіч В.В., Булыга Л.Г., Шабаліна Л.В.,. Вейкуць Л.В., Парц Л.Ф., Лугіна Н.В.

Многія вучні неаднаразова перамагалі ў Рэспубліканскіх, Міжнародных і рэгіянальных конкурсах: Бельская В., Антановіч С., Енза Н., Мазітава Д., Мельнічэнка Д., Скрыннік А., Насека Л., Цыдзік Д., Бунцэвіч Я., Шабанова М., Бакуновіч А., Цыгель С., Хітрун С., Фалітарчык В., Мякшыла Я., Кеўра В., Пашкоўская Н.

**Струнна-смычковае аддзяленне**

Аддзяленне налічвае 7 настаўнікаў па класе скрыпкі і 2 настаўнікі па класе віяланчэлі. На аддзяленні навучаецца каля 80 навучэнцаў. З ліку вучняў створана 2 калектывы: Камерны ансамбль малодшых класаў і Узорны камерны аркестр. Кіруе абодвума калектывамі Арлова А.Г. З мэтай прапаганды твораў беларускіх аўтараў, класікі і джазу вядзецца вялікая канцэртная дзейнасць



Велізарнай папулярнасцю ў горадзе карыстаецца Народны камерны аркестр пад кіраўніцтвам Васілік І.І.

**Клавішна-народнае аддзяленне**

На клавішна-народным аддзяленні Лідскай ДМШМ навучаецца 88 дзяцей, працуе 8 педагогаў: Кучура Т.В., Ржан Т.З., Васілік І.І., Ткач Н.Л., Трубеева Е.В., Мацылевіч А.Р., Шух Т.Ф., Абрамчык М.Э.. Аддзяленне з'яўляецца адным з лепшых у школе па паспяховасці. 90% навучэнцаў займаюцца на "добра" і "выдатна".

Настаўнікі і вучні аддзялення ўдзельнічаюць

у канцэртнай дзейнасці школы. Адзін з найстарых калектываў школы - Народны аркестр рускіх народных інструментаў пад кіраўніцтвам Шух Т.Ф. - садружнасць настаўнікаў клавішна-народнага і струнна-народнага аддзяленняў.

### Струнна-народнае аддзяленне

Навучанне на струнна-народным аддзяленні вядзецца на 4 інструментах: гітара, домра, балалайка, цымбалы. На аддзяленні працуе 13 настаўнікаў, навучаецца каля 90 навучэнцаў. Нашы вучні з добрай якасцю абараняюць гонар школы на розных конкурсах і фестывалях. Многія навучэнцы з'яўляюцца стыпендыятамі Адмысловага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Па падтрымцы таленавітай моладзі": Меляняка К., Лашкова І., Гейль В., Суровіч А., Кашлей Д., Аніскевіч В., Комінч А., Кузьма А., Федаровіч В., Бялова А.

### Духавое аддзяленне

На аддзяленні працуюць 7 настаўнікаў, і навучаюцца 67 навучэнцаў. Навучанне вядзецца па спецыяльнасцях: флейта, кларнет, саксафон, валторна, трамбон, труба, барытон, туба, бас-гітара, ударныя прылады. Вялікая ўвага надаецца сумеснаму музыцыраванню вучняў. Апроч дуэтных ансамбляў з ліку вучняў створаны 2 калектывы: Ансамбль духавых інструментаў малодшых класаў і Узорны духавы аркестр. Кіруе калектывамі Андрэй Тадэвушавіч Васора.

Аркестр выступае на розных пляцоўках горада, удзельнічае ў конкурсах і фестывалях.

### Харавое аддзяленне

Хор - маленькая мадэль свету. Удзел у жыцці хору дапаможа дзіцяці пачуць сябе і не згубіцца сярод іншых. На харавым аддзяленні працуюць сапраўдныя артысты: Бірук А.С., Бойка С.Г., Куль В.В., Ігнатоўская Т.Л., Кароль Л. Ст., яркі талент прафесіяналізм і творчы пошук якіх дапамагалі харавым калектывам нашай школы дасягнуць высокіх вынікаў.

Усе дзеці любяць спяваць у хоры. Спевы ў хоры выхоўваюць уменне працаваць і мець зносіны ў калектыве, імкненне падзяліцца з іншымі набытым духоўным багаццем.

### Тэарэтычнае аддзяленне

Тэарэтычнае аддзяленне - важная і неад'емная частка нашай школы. Развіццё музычнага слыху, памяці, пачуцця рытму навучэнцаў, пашырэнне іх музычнага далягляду, знаёмства з лепшымі дасягненнямі сусветнага музычнага мастацтва - вось задачы, якія стаяць перад выкладчыкамі тэарэтычнага цыклу. На аддзяленні працуюць кваліфікаваныя настаўнікі: Паўлава Г.Б., Кузняцова С.І., Жывіцкая С.В., Запівалава Е.Г., Калмыкова М.Г., Грэмза Е.В.

Навучэнцы не раз станавіліся пераможцамі і прызёрамі алімпіяд па сальфеджыа і музычнай літаратуры, а выпускнікі нязменна паказваюць высокія вынікі пры паступленні ў сярэднія музычныя навучальныя ўстановы.

## Творчыя калектывы Лідскай дзіцячай музычнай школы

### Народны камерны аркестр

Гісторыя Камернага аркестра Лідскай дзіцячай музычнай школы пачалася ў 1985 годзе, калі выкладчык школы Галіна Іванаўна Картаўцава заснавала камерны квартэт. Самымі першымі яго ўдзельнікамі сталі Жыдаловіч Ірына Мікалаеўна, Кавалеўская Таццяна Мікалаеўна, Язлавецкая Наталля Мікалаеўна. З першых дзён свайго стварэння калектыў пачаў прымаць актыўны ўдзел у творчым жыцці школы, выконваючы галоўным чынам творы замежных класікаў, а ў 1988 годзе нават удзельнічаў у конкурсе метадычных і творчых работ выкладчыкаў навучальных устаноў культуры і мастацтва.

Паступова калектыў пашыраўся, змяняліся яго кіраўнікі, рэпертуар папаўняўся новымі творамі сучасных замежных і беларускіх аўтараў, усё больш актывізавалася і канцэртная дзейнасць аркестра. З 1999 года кіраўніком калектыва стаў выкладчык школы Агарак Аляксандр Васільевіч. Менавіта пад яго кіраўніцтвам у 2001 годзе камерны аркестр абараняе званне "НАРОДНЫ". Гэта была асабліва значная падзея ў жыцці калектыва. У склад былі ўведзены духавая і ўдарная групы, з'явіліся салісты. Музыкі пачалі шырока прапагандаваць музыку беларускіх кампазітараў 18-19 стагоддзяў і сучаснікаў, а таксама з'явіліся ў рэпертуары творы і лідскіх аўтараў.

Нароўні з творчай дзейнасцю пачалі надаваць больш увагі і музычна-асветніцкай працы сярод падрастаючага пакалення - камерны аркестр і па сённяшні дзень часты госць у дзіцячых садах і школах. Гэты музычны калектыў з'яўляецца неаднаразовым удзельнікам многіх гарадскіх святаў і мерапрыемстваў. А ў 2004 годзе аркестр выступаў на фестывалі камернай музыкі "МІРСКІ ЗАМАК". Нямала ўражанняў у музыкаў засталося і ад сумеснага канцэрту з нямецкім аркестрам, які адбыўся ў нашым горадзе некалькі гадоў назад.

Новая старонка ў гісторыі Камернага аркестра была перагорнута ў 2008 годзе, калі калектыў узначаліў Сымановіч Аляксандр Аляксандравіч. Ён з'яўляўся не толькі кіраўніком, але і аранжыроўшчыкам выконваных твораў. Жанравы кірунак калектыва тут жа стромка змяняецца, з'яўляецца эстрадны рэпертуар.

Музыкі выконваюць творы замежных класікаў і беларускіх аўтараў абсалютна розных стыляў, на іх канцэртах можна пачуць музыку як чыста для камернага складу, так і для эстрадна-сімфанічнага.

У кастрычніку 2010 года аркестр узначаліла Васілік Ірына Іосіфаўна, якая працягнула ўсе добрыя традыцыі калектыва.

Пры ёй у сакавіку 2011 года аркестр у чарговы раз з поспехам пацвердзіў званне "НАРОДНЫ", годна выступіў на абласным аглядзе-конкурсе аматарскіх калектываў інструментальнага жанру, а таксама на 1-м джазавым фэсце, які прайшоў у нашым горадзе.

Музыкі, не спыняючыся, працягваюць ісці ў нагу з часам. На сённяшні дзень удзельнікі калектыва-



гэта 18 выдатных прафесійных музыкаў і 3 вакалісты-Кацярына Клімовіч, Гражына Комінч, Часлаў Янушкевіч. Аранжыроўшчыкамі аркестравых твораў з'яўляюцца Аляксандр Сымановіч і Уладзімір Рыжэнін. Сёння Камерны аркестр можна па праве назваць "ЭСТРАДНЫМ КАЛЕКТЫВАМ".

**Узорны цымбальны аркестр**

Дзіцячы цымбальны аркестр быў створаны ў 1988 годзе, яго кіраўніком і дырыжорам з дня заснавання і да цяперашняга часу з'яўляецца настаўнік Агарак Г.М.

З кожным годам склад аркестра змяняўся, колькасць удзельнікаў аркестра павялічвалася. Аркестр выступае на розных пляцоўках горада і раёна. Рэпертуар аркестра разнастайны. Гучаць творы беларускіх, рускіх, замежных кампазітараў. Калектыў у наш час высокапрафесійны, пра гэта кажуць вынікі і поспехі шматгадовай працы.

У 1989 г. Цымбальны аркестр з гонарам выступаў і прадстаўляў Рэспубліку Беларусь у г. Кіеве, дзе быў адзначаны дыпломам на Міжнародным конкурсе - фестывалі.

1992 г. Рэспубліканскі конкурс аркестравых і харавых калектываў імя І. Жыновіча. Дыплом II ступені - 1 месца.

1996 г. Гародня. Міжнародны конкурс кампазітараў. Аркестр атрымаў Дыплом Гран - Пры за лепшую ілюстрацыю сачынення (вучаніцы Маркевіч Ганны).

1997 г. Аркестр атрымаў званне "Узорны".

1998 г. Рэспубліканскі конкурс-фестываль "Беларусь мая песня". Дыплом III ступені.

2000 г. Дыплом I ступені на абласным фестывалі народнай музыкі.

2001 г. Дыплом I ступені на абласным конкурсе харавых і аркестравых калектываў "Новыя імёны".

2004 г., 2008 г., 2011 г. Пацверджанне звання "Узорны".

**Узорны духавы аркестр**

Калектыў неаднаразова браў удзел у абласных і рэспубліканскіх святах духавой музыкі, марш-парадах духавых аркестраў, якія праходзілі ў г. Менску, у г. Беластоку (Польшча), а таксама ў фестывалі "Срэбныя трубы" ў г. Стаўрове Уладзімірскай вобласці (Расія) і ў г. Уладзіміры (Расія), дзе быў адзначаны адмысловымі дыпломамі і прызамі.

Аркестр удзельнічаў у Рэспубліканскім конкурсе дзіцячых музычных школ і па выніках трэцяга тура быў узнагароджаны Ганаровай граматай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Аркестр удзельнічаў у Рэспубліканскім конкурсе дзіцячых музычных школ і па выніках трэцяга тура быў узнагароджаны Ганаровай граматай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

У снежні 1994 гады аркестр атрымаў званне "Узорнага духавога аркестра".

У красавіку 2001 года калектыў займае першае месца ў абласным фестывалі "Новыя імёны", чым пацвердзіў сваё званне "Узорны".

У 2004 годзе аркестр удзельнічаў у конкурсе, прысвечаным 60-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і быў узнагароджаны ганаровай граматай.

На працягу свайго існавання аркестр шмат

выступаў на розных пляцоўках горада і раёна, браў удзел у справаздачных канцэртах школы.

У рэпертуары аркестра беларуская, руская і замежная духавая музыка, песні, вальсы, маршы, эстрадна-джазавыя кампазіцыі, папулярная музыка для вечароў адпачынку.

Удзельнікі аркестра працягваюць навучанне ў розных установах Рэспублікі Беларусь, пасля чаго ігра ў аркестравых калектывах становіцца асноўным відам дзейнасці і любімай справай на доўгія гады.

Сёння калектывам кіруе настаўнік школы па класе барытона, трамбона Андрэй Тадэвушавіч Васора.

**Народны аркестр рускіх народных інструментаў**

"Народны" аркестр рускіх народных інструментаў выкладчыкаў ДМШ г. Ліды - гэта адзін з найстарэйшых калектываў школы, творчая дзейнасць якога налічвае звыш 30 гадоў. Калектыў быў створаны на базе аркестравай групы Народнага ансамбля песні і танцу гарадскога Дома культуры "Лідчанка" таленавітым педагогам і музыкам Янковым Віктарам Аляксеевічам.

Дэбютам калектыва можна лічыць выступленне на 25-гадовым юбілеі школы ў 1980 годзе. З гэтага часу пачынаецца актыўная творчая дзейнасць калектыва. У 1994 годзе аркестр пад кіраўніцтвам таленавітага маладога дырыжора Агарак Галіны Мечыславаўны абараніў высокае званне "Народны калектыў". Важкі ўнёсак у працу аркестра таксама зрабілі рознабакова адораныя музыкі і дырыжоры Лайкоўская Ірына Юр'еўна, Стока Пётр Уладзіміравіч. З 2001 года калектывам кіруе Шух Таццяна Фёдараўна.

Выканальніцкая практыка і наватарскі пошук вызначылі інструментальны і колькасны склад аркестра, які складаецца з 20 прафесійных музыкаў, выкладчыкаў клавішна-народнага і струнна-народнага аддзяленняў школы, якія віртуёзна валодаюць такімі інструментамі, як домры, балалайкі, баяны, бас-гітара, ударныя інструменты. Нароўні з традыцыйным стылем музыцыравання, вядомымі стандартнымі манерамі інструментальнага выканальніцтва калектыў спалучае ў сабе творчыя рысы, заснаваныя на самабытнасці і народнасці.

Шырокая канцэртная, культурна-асветніцкая дзейнасць аркестра. Выступленні аркестра з вялікай цікавасцю ўспрымаюцца самай шырокай слухацкай аўдыторыяй.

Калектыў прымае актыўны ўдзел у розных фестывалях і конкурсах. Так, у 2005 годзе на абласным фестывалі народнай музыкі "Зайграйце, музыкі” аркестр быў узнагароджаны дыпломам, а ў 2011 годзе на абласным конкурсе інструментальнай музыкі быў ганараваны званнем Лаўрэата конкурсу.

Рэпертуар аркестра складаюць творы розных стыляў і жанраў ад народнай класікі да сучаснай музыкі. Шмат увагі надаецца сачыненням беларускіх аўтараў. Аркестр цесна супрацоўнічае з іншымі творчымі калектывамі школы, такімі, як узорны хор "Камертон", вакальная група "Натхненне", салістамі-вакалістамі Анжалікай Бірук, Ларысай Шабалінай, салістамі-інструменталістамі Людмілай Капковіч (гітара), Вольгай Сакалоўскай, Таццянай Холад (цымбалы) і іншымі.

Выступленні аркестра рускіх народных інструментаў выкладчыкаў ДМШ г. Ліды не пакінуць нікога абыякавым, узбагацяць новымі эмоцыямі, далучаць вас да свету народнага мастацтва.

**Узорны хор “Камертон”**

Харавы калектыў - гэта шматстатнасць удзельнікаў, тут кожны каштоўны сваім непаўторным духоўным светам, гэта калектыў аднадумцаў. З дня заснавання хору ў школе працавалі высокакваліфікаваныя спецыялісты, дасведчаныя, творчыя хормайстры, яркі талент прафесіяналізм і творчы пошук якіх дапамагалі харавым калектывам нашай школы дасягнуць высокіх вынікаў. З 1955 года вялікая ўвага надаецца харавым спевам.

Першым выкладчыкам па хоры стала Кражава З.Г., крыху пазней эстафету працягнулі: Якушава Н.І., Ваўрух М.В., Спірына Е.Н.

З 1998 г. кіраўнік - Бойка С.Г. Хор у 1999 г. абараніўся на званне "Узорны".

Хор" Камертон" на працягу некалькіх гадоў з'яўляецца лаўрэатам і дыпламантам міжнародных і абласных конкурсаў: "Новыя імёны" (у розныя гады), Дыплом II ступені (2000 г.) і Лаўрэат I ступені (2006 г.), міжнародны фестываль "Каложскі дабравест" (2010 г.) Лаўрэат III ступені, Калядны фэст Навагрудскай епархіі "Слава ў вышніх Богу" (2009 г.)- лаўрэат I ступені. А таксама на Фестывалях творчых калектываў навучэнцаў ДМШ і ДШМ Лідскага метадычнага аб'яднання на працягу некалькіх гадоў хор паказвае высокі ўзровень выканальніцтва.

Хор "Камертон" прымае актыўны ўдзел у канцэртнай дзейнасці горада і раёна. Спевы ў хоры - адзін з відаў калектыўнага музыцыравання. Гэты прадмет вядзецца на ўсіх музычных аддзяленнях школы ў 1 класе, на харавым і фартэпіянным з 2 па 7 клас. Дзеці з задавальненнем наведваюць харавыя заняткі, бо тут яны маюць зносіны адзін з адным, дзеляцца сваімі думкамі і перажываннямі.

Дзеці, якія займаюцца ў харавых калектывах, не ўяўляюць сабе сваё жыццё без спеваў. Займаючыся на ўроках хору, калектыў становіцца вялікай сям'ёй, якая аб'яднана адной ідэяй абудзіць самыя светлыя пачуцці дабрыні, любові і ўзаемапаразумення, як у саміх дзецях, так і ў слухачах. На базе харавога калектыва ў школе існуе вакальная група, у склад якой уваходзяць найболей адораныя навучэнцы.

У 2005 г. вакальная група заняла I месца на конкурсе "Новыя імёны". У 2008 г. стала Дыпламантам на Фэсце творчых калектываў навучэнцаў Лідскага метадычнага аб'яднання.

Вакальная група ў 2011 г. заняла II месца на конкурсе "Веснавы праменьчык" у г. Маладзечне.

*Скампанаваў*
***Станіслаў Суднік***
*паводле матэрыялаў СМІ і Лідскай ДМШ.*

# Лідскія юбіляры 2015 года

## 150 гадоў таму пад Лідай нарадзіўся лідар крымска-татарскага руху Мацей Сулькевіч

20 ліпеня 2015 года споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння выдатнага вайсковага начальніка, генерал-лейтэнанта Сулеймана Сулькевіча - кіраўніка Крымскага краявога ўраду, які існаваў з чэрвеня па лістапад 1918 года. Мацей Аляксандравіч (мусульманскае імя Сулейман) Сулькевіч паходзіў з татараў ВКЛ.

Фармаванне гэтай этнічнай групы пачынаецца з XIV стагоддзя. Палітыка кіраўнікоў Вялікага Княства Літоўскага ў значнай ступені дзіўная - у той час як Еўропа "ўзбройвалася супраць татараў", літоўскія князі ахвотна з імі супрацоўнічалі.

У 1395 годзе разгромлены Тамерланам хан Тахтамыш некаторы час знаходзіўся ў Літве, а яго сын Джэлал-ад-Дзін удзельнічаў у знакамітай Грунвальдскай бітве. 15 ліпеня 1410 года яго кавалерыя размясцілася на правым фланзе польска-літоўскага войска, атакаваўшы тэўтонцаў.

Прадэманстраваўшы Вітаўту свае намеры працягваць бацькаву палітыку дружалюбнага супрацоўніцтва, Джэлал-ад-Дзін атрымаў падтрымку вялікага князя Літоўскага ў барацьбе за ханскі пасад. Ужо ў наступным годзе ён абвясціў сябе ханам спачатку ў Крыме, а да вясны 1412 года ўжо і ў Сараі - адбылося гэта пры падтрымцы ВКЛ.

Паводле летапісца Міхалона Ліцвіна, будучы заснавальнік Крымскага ханства Хаджы Гірэй нарадзіўся ў Літве, у Троках.

Сулейман Сулькевіч нарадзіўся 20 ліпеня 1865 года ў Віленскай губерні ў радавым маёнтку Кемейшы Лідскага павета (зараз Воранаўскі р-н) у шляхецкай сям'і. У 1883-1886 гадах ён скончыў у Варонежы Міхайлаўскі кадэцкі корпус, затым артылерыйскую вучэльню.

Яго вайсковая кар'ера развіваецца паспяхова: штабс-капітан, капітан, камандзір роты, старшы ад'ютант штаба 34-й пяхотнай дывізіі. У 1899 г. Сулькевіч ўпершыню ўзнагароджаны - ён атрымлівае ордэн Святога Станіслава 3-й ступені і ў снежні таго ж года - званне падпалкоўніка. Праз чатыры гады, у кастрычніку 1903 года, Сулькевіч прызначаны на пасаду начальніка штаба 15-й пяхотнай дывізіі, у снежні таго




***Татарскія воіны ВКЛ***




***Мацей Сулькевіч***

ж года атрымлівае званне палкоўніка.

Расейска-японская вайна прыносіць яму новыя высокія ўзнагароды. Не абыходзіць яго бокам Першая сусветная вайна. У сакавіку 1915 года Сулькевіч прызначаецца начальнікам 33-й пяхотнай дывізіі 21-га армейскага корпуса 3-й арміі, яму прысвоена званне генерал-лейтэнанта.

Рэвалюцыі - Лютаўская буржуазная, а затым Кастрычніцкая сацыялістычная - уносяць карэнныя змены ў жыццё народаў былой Расейскай імперыі. Сулькевіч ўсталёўвае сувязі з абраным у траўні 1917 года ў Маскве на Ўсерасейскім з'ездзе дэлегатаў мусульманскіх вайсковых арганізацый кіраўніцтвам (Харб Шуро) і прыступае да фармавання на Румынскім фронце 1-га асобага мусульманскага корпуса. Яго мэтай было аказанне дапамогі Крыму або Казані ў рэалізацыі планаў нацыянальнага адраджэння.

Узімку 1918 года бальшавікі разагналі прадстаўнічы орган крымскіх татараў - Курултай, па-зверску распраўіўшыся з старшынём нацыянальнага ўраду і муфтыем Крыма Наманам Чэлебіджыханам. Адносіны крымскіх татараў з бальшавікамі, і без таго не бязвоблачныя, сталі яшчэ больш нацягнутыя.

10 сакавіка 1918 года бальшавіцкі ўрад абвясціў сваім дэкрэтам тэрыторыю Крыма Савецкай сацыялі-стычнай рэспублікай Таўрыдай. Аднак урад гэтай рэспублікі прабыў ва ўладзе крыху больш за месяц.

У выніку выбараў 18 красавіка 1918 года склад новага Савету стаў змяшаным - у яго, акрамя бальшавікоў, увайшлі эсэры і меншавікі. Аднак у гэты момант да Крыма падступілі немцы. Чальцы савецкага ўраду, баючыся як немцаў, так і паўстанцаў - крымскіх татараў, прынялі рашэнне не змагацца за захаванне савецкай улады і ўцякаць з Крыма.

Такім чынам, 1 траўня 1918 года ў Крыме запанавалі немцы. Раней, 21 красавіка, было створана Часовае бюро Курултая. На паседжанні 19 траўня быў зацверджаны дакумент, згодна з якім крымска-татарскі парламент павінен быў быць папоўнены прадстаўнікамі іншых народаў. Курултай абвясціў сябе часовым крымскім парламентам з ініцыятывай фармаваньня ўраду. Прэм'ер-міністрам быў абраны Джафер Сейдамет, але яму так і не ўдалося сфармаваць урад, а нямецкія ўлады вырашылі зрабіць стаўку на генерала Сулькевіча. У канцы чэрвеня 1918 года ім быў сфармаваны Крымскі краявы ўрад, куды ўвайшоў і Джафер Сейдамет, як міністр замежных спраў.

Кабінет Сулькевіча праводзіў паслядоўную палітыку, накіраваную на ўмацаванне суверэнітэту Крыма. У перыяд існавання ўраду Сулькевіча ствараецца міністэрства замежных справаў, заснуоўваецца крымскае грамадзянства, зацвярджаюцца сцяг і герб Крыма. У планах было і стварэнне ўласных узброеных сілаў. Усе гэтыя ініцыятывы не маглі спадабацца камандаваньню нямецкіх акупацыйных войскаў. Урад Сулькевіча праіснаваў да 15 лістапада 1918 года, спыніўшы існаванне пасля сыходу нямецкіх войскаў з Крыма.

Не знайшоўшы агульнай мовы з Антонам Дзянікіным, які неўзабаве заняў Крым са сваёй добраахвотніцкай арміяй, Сулейман Сулькевіч пакінуў Крым і накіраваўся ў Баку, дзе ўзначаліў Генеральны штаб азербайджанскай арміі.

А неўзабаве жыццё Сулеймана Сулькевіча трагічна абарвалася. У траўні 1920 года, пасля ўступлення ў Азербайджан 11-й арміі Савецкай Расеі, ён быў арыштаваны ВЧК і 15 ліпеня 1920 года расстраляны.

***Гульнара Бекірава.***

*Кірыл Сыцько*

# МЕНТАЛЬНАСНЫЯ І ІДЭАЛАГІЧНЫЯ ДЭФАРМАЦЫІ ЛІДСКАГА РЫМА-КАТАЛІЦКАГА ДУХАВЕНСТВА ПАЧАТКУ ХХ СТАГОДДЗЯ НА ПРЫКЛАДЗЕ ЖЫЦЦЯ І ДЗЕЙНАСЦІ КСЕНДЗА ЮЗАФА (ІОСІФА) ШКОПА

Фонд 694 "Vilniaus Romos kataliku metropolijos kurija" Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва захоўвае шмат спраў за перыяд з 1432 па 1941 гг., датычных непасрэдна Заходняй Беларусі. Сярод гэтых спраў маюцца тыя, якія праліваюць святло на такую антрапалагічную зону, як светапогляднасць жыхароў Лідчыны пачатку ХХ ст.

Тут трэба заўважыць, што тэрмін "архіў" у дадзеным артыкуле мае сэнс больш шырокі за прынятыя афіцыйна ў беларускай гістарычнай навуцы трактоўкі. Так, звязьмом паміж архаічным пачаткам і метафізічнай асновай існавання "архіва" ў тым выглядзе, у якім ён уяўляецца большасці даследчыкаў, з'яўляецца факт. Увядзенне гістарычнага факту ў "архіў" у тым выглядзе, у якім яго бачыў Мішэль Фуко - як сістэму выказвальнасці ("выказвання - падзеі") у яго матэрыяльным абліччы, з'яўляецца першаснай сэнсавай нагрузкай існавання любога суб'екта ўзаемадзеяння абсалютнай умоўна-патэрнай сацыяльнай сістэмы (тут бачыцца абсалютна нелагічным апісваць абазначаны вышэй фонд з пункта гледжання архівазнаўства, бо факт аб яго існаванні захоўваецца ў архіўных даведніках - такім чынам, вывядзенне гэтага артыкула на ўзровень архівазнаўства будзе працягам трыумфу ненавуковай алагічнасці). Трэба, аднак, памятаць, што кожнаму такому суб'екту ўласцівыя сацыяльныя вымярэнні, якія, па-сутнасці, канструююць эмацыйна-сэнсавую дамінанту сацыяльнай групы, ствараючы імператыўны пасыл для кожнага яе асобнага прадстаўніка.

Вызначаны пасыл яскрава праяўляецца ў дзеяннях рымска-каталіцкага духавенства пачатку ХХ ст. Так, да прыкладу, аднолькавы тып паводзін у адных і тых жа сацыяльна-палітычных абставінах прагладаецца праз дакументы асабістых спраў, дзённікаў і біяграфій ксяндзоў, якія займаліся душпастырствам на Лідчыне ў вызначаны перыяд часу, напрыклад Юлія-Алёіза Элерта (LVIA, ф. 694, воп. 1, спр. 1211), Юзафа Шкопа [6], Людвіга Балабана (LVIA, ф. 694, воп. 1, спр. 1005), Вікенція Бародзіча [1, с. 423], Іаана Сахаркі [1, с. 422], Караля Любянца [11, с. 227], Гіпаліта Баярунца [9, с. 9] і г.д.

Гістарычна рымска-каталіцкі ксцёл на Беларусі, у сілу ўплыву на розныя колы насельніцтва і, як наступства, паспяховай папулярызацыі ў шырокіх масах ідэі манізму ў сістэме "парафіяне - святарства - Бог", стала пэўным вобразам у народнай культуры. Карл Гінзбург, тым не менш, называў такія народныя вобразы саладжавымі і стэрэатыпнымі [3, с. 35].

Тут варта заўважыць, што ў гэтым выпадку вобраз з'яўляецца ідэалагізаванай знакавай сістэмай, адлюстраваннем праз прызму светаўяўленняў соцыюму знешне бачнага станоўчага (альбо адмоўнага) досведу зносін парафіян з касцёлам. Галоўным перадатчыкам, некаторым "рэкламным" знакам вызначанага сацыяльнага інстытута з'яўляўся парафіяльны ксёндз. Праз механічнае зчытванне яго паводзін і нараджаўся вобраз. Нетранзітыўнае чытанне такога знака (яго словаў, паводзінаў і г.д.) і нараджае сістэму задаволенасці, аднак узнікае праблема - у такой сістэме пастаянна працуе фактар адсутнасці рэальнасці, то бок фрустрацыя [2, с. 81].

У сувязі з гэтым узнікае неабходнасць даследавання маністычных рэлігійных сістэм на прадмет пазбаўлення гістарычнай існасці ад міфічнай вобразнасці і ўмоўнасці.

Важна заўважыць, што ўсялякае "я", абранае за кропку адліку, па-сутнасці з'яўляецца працягам сукупнасці мностваў "я" [5, с. 95], адлюстраваннем эпохі. Такім чынам, патрабаванне аб'ектывізацыі гістарычных ведаў вядзе даследчыка да мікрагістарычнага ўзроўню, персаніфікацыі фактаў, вывучэння ментальнасных і ідэалагічных чыннікаў не сацыяльнай групы, але кожнага асобнага яе прадстаўніка.

Рымска-каталіцкае духавенства Лідчыны пачатку ХХ стагоддзя ўяўляла сабой досыць арганічную сацыяльную групу з прысутнасцю моцна выражаных гарызантальных сувязяў. Фактычна гэта праявілася ў алгарытмічнасці адносін кожнага асобнага святара да цывільнага ўраду Расійскай імперыі, падкрэслена негатыўнага стаўлення да праваслаўных [8, с. 21], у распаўсюдзе прапольскіх і антысеміцкіх настрояў [9, с. 18].

Масавасць фактаў рэлігійнай і ідэалагічнай нецярпімасці, якія праглядаюцца ў дзейнасці рымска-каталіцкага духавенства пачатку ХХ стагоддзя, гавораць аб некаторай патэрнасці ў пабудове рыма-каталіцызму ў заходніх губернях Паўночна-Заходняга краю. То бок, асоба адзінкавага ксяндза пад дзеяннем не рэлігійнага вучэння, але рэлігійна-палітычнага дагмату, дэфармавалася і злівалася ў сваім падабенстве з асобамі іншых ксяндзоў, якія разам, у сукупнасці стваралі з дапамогай падабенства ментальнасна-ідэалагічных чыннікаў уласнай псіхалогіі завершаную заканамерную гістарычную рэгулярнасць, што называецца "Рыма-каталіцкім святарствам пачатку ХХ стагоддзя". Аднак тут трэба заўважыць, што элементы

патэрна прадказальна паўтаральныя толькі на абмежаванай лакацыі з прычынаў сустракання і перапляцення на абазначанай тэрыторыі пэўных фактараў прамога ўздзеяння на суб'ект выказвання, цікавы нам у дадзеным выпадку - палітыкі цывільнага расійскага ўраду, сутыкнення інтарэсаў рыма-каталіцкага і праваслаўнага духавенства, высокага ўзроўню рэлігійнасці асноўных мас насельніцтва [8, с. 23].

Вызначаная патэрнасць дае магчымасці да вывучэння жыццядзейнасці не ўсіх прадстаўнікоў рыма-каталіцкага духавенства абазначанага перыяду.

Так, напрыклад, у гістарычным архіве ў Вільні захоўваецца асабістая справа ксендза Іосіфа Шкопа, дэкана Лідскага, якому, як паказвае аналіз гістарыяграфіі гісторыі Лідскага дэканата, не было нададзена ніякай увагі. Тым не менш, гэтая асоба заслугоўвае яе ў поўнай меры, бо дзейнасць кс. Іосіфа прыпала на цяжкі для дэканатса час - апошні перыяд існавання Расійскай імперыі.

Ксёндз Юзаф (Іосіф) Шкоп нарадзіўся ў 1864 годзе ў маёнтку Заблудава Беластоцкага павета Гарадзенскай губерні. Адразу ўзнікае пытанне, чаму аўтар называе кс. Шкопа то Юзафам, то Іосіфам. Справа ў тым, што ў асабістай справе ён значыўся як Юзаф [6, арк. 1], аднак у дакументах, якія складаў асабіста, напрыклад, у спісах духавенства Лідскага дэканата на выбары, пазначаўся як Іосіф (Шкопъ Іосифъ) [4, арк. 15]. Гэта прамы след палітыкі цывільнага ўраду ў адносінах да рыма-каталіцкіх святароў, калі іх абавязвалі складаць дакументы на рускай мове з улікам рускай традыцыі напісання імёнаў.

У 1882 годзе кс. Шкоп скончыў 5 класаў Беластоцкага рэальнага вучылішча, пасля чаго, у 1883 годзе, паступіў у Віленскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю, з якой выпусціўся ў 1887 годзе.

Рукапакладзены 2 жніўня 1887 года Ковенскім біскупам. 4 жніўня 1887 года кс. Юзаф Шкоп прынёс прысягу вернасці Мікалаю ІІ на служэнне ў Сакольскім касцёле [6, арк. 5]. Цягам наступнага года кс. Шкоп выконваў абавязкі вікарыя ў Сакольскай парафіі, у 1888 - 1890 гг. - вікарыя Вострабрамскага Віленскага касцёла [там жа, арк. 6]. Прысяга з'яўлялася абавязковым актам, чым фактычна прызнаваўся факт знаходжання рымска-каталіцкага касцёла ў падначаленым да расійскага цывільнага ўраду становішчы.

24 ліпеня 1890 года кс. Юзаф быў прызначаны пробашчам Ляцкай парафіі Лідскага дэканата (цяпер Лядск Шчучынскага р-на), а ў 1905 годзе стаў дэканам названага дэканата [там жа, арк. 13]. У перыяд знаходжання на пасадзе пробашча Ляцкага касцёла кс. Шкоп узначальваў адначасова і Шчучынскую парафію, не маючы пры гэтым на тое дазволу з боку Віленскага губернатара, што выклікала хвалю незадавальнення з боку цывільных уладаў [там жа, арк. 18]. Не вядома, аднак, ці панёс кс. Юзаф за гэта пакаранне.



***Святкавання 50-годдзя пастырства ксяндзом Шкопам, здымак зроблены ў Ляцку.***
***На гэтым фотаздымку ксёндз Шкоп пяты ў другім радзе - сядзіць па цэнтры.***

На гэтым праблемы з цывільнымі ўладамі ў Ю. Шкопа не скончыліся. Так, у 1906 годзе, праз год пасля таго, як ён стаў Лідскім дэканам, на яго была заведзена крымінальная справа па артыкуле 178 г. зв. "Уложения о наказаниях уголовных и исправительных Российской Империи" - "За порицание веры православной", у выніку якой мерай пакарання была абрана падпіска аб непакіданні пастаяннага месца жыхарства [6, арк. 9-11].

Такім чынам, праз непрынящце праваслаўя - асноўнай апоры царызму ў Расійскай імперыі - бачым тую ідэалагічную мадэль, якая працавала ў шэрагах рымска-каталіцкага духавенства пачатку ХХ ст.

Невядома, аднак, ці прытрымліваўся кс. Шкоп дадзенай падпіскі, але ўжо ў 1909 годзе ён рапартаваў аб неабходнасці выезду за мяжу з мэтай паправіць сваё здароўе і атрыманні замежнага пашпарта [там жа, арк. 12]. Гэты рапарт быў ўхвалены [там жа, арк. 13] і падпіска аб нявыездзе для Юзафа Шкопа была скончаная.

На гэтым, аднак, праблемы з цывільнымі ўладамі не скончыліся. Так, у 1911 годзе на абазначанага святара паступіла скарга ад сяляніна Івана Восіпава Апановіча аб "обманном склонении в переходе из одной веры в другую" [там жа, арк. 24], з якой становіцца вядома, што І. Апановіч прывёў да кс. Шкопа сына з просьбай прыглядзець за ім, бо сам ён збіраўся адплываць на заробкі ў ЗША, аднак ксёндз пагадзіўся прыняць яго толькі пры ўмове, што яны абодва перахрысцяцца па каталіцкім абрадзе, а пазней Апановіч перадумаў адплываць. Версіяй жа кс. Шкопа было тое, што хлопец служыў пры ягонай плябаніі лакеем і непрыстойна сябе паводзіў, за што і быў звольнены. У адказ на гэта Апановіч падаў скаргу як знак помсты.

Цікавым з'яўляецца той факт, што пасля атрымання скаргі Віленскай духоўнай кансісторыяй, кс. Шкопу быў накіраваны ліст за подпісам апостальскага пратанарыя з прапановай апошняму "выказать свои соображения по данному поводу" [там жа, арк. 23]. То бок, на справе бачацца адносіны кансісторыі да дадзенага выпадку, калі ксендза не прымусілі даць тлумачэнні, але папрасілі выказаць тое, што ён думае на гэты конт.

Наогул можна сказаць тое, што рымска-каталіцкія ксяндзы Віленскай дыяцэзіі нярэдка займаліся прапагандай рыма-каталіцызму сярод праваслаўных. Даходзіла нават да антыправаслаўных шэсцяў [1, с. 422].

Адным з такіх ксяндзоў быў Іаан Сахарка, разам з якім Юзаф Шкоп даваў прысягу імператару Мікалаю II і навучаўся ў семінарыі.

Сам Ю. Шкоп, па сцвярджэнні краязнаўцы В.В. Сліўкіна, забараняў сваім прыхаджанам мець з праваслаўнымі любыя стасункі, брацца з імі шлюбам, размаўляць і наогул нават вітацца, як з людзьмі, якія адракліся ад Бога [7].

У 1915 годзе ксёндз Ю. Шкоп прасіў дазволу



***Ляцкі касцёл Святога Станіслава Біскупа, адрэстаўраваны ўласна ксендзам Юзафам Шкопам. Фотаздымак датуецца 1935 годам.***

выехаць у акупаваную Вільню на лячэнне, а напрыканцы 1918 падаў прашэнне аб адстаўцы з душапастырства і пасады Каноніка ганаровага і Лідскага дэкана па прычынах таго, што доўгі час хварэе на рэўматызм [6, арк. 43]. Гэтае прашэнне было адобрана, аднак ужо ў 1921 годзе, як мы дазнаемся, кс. Шкоп быў адпраўлены ў адстаўку з шэрагаў Войска Польскага, у якім з'яўляўся капеланам [6, арк. 45]. То бок, атрымліваецца, што фактычна ксёндз Юзаф падаў у адстаўку з пасады дэкана, а ўжо прыблізна ў 1919 годзе, не гледзячы на хваробу, пайшоў змагацца супроць Чырвонай Арміі. Гэты факт некаторым чынам праясняе ментальнасна-ідэалагічныя характарыстыкі дадзенай асобы і раскрывае яе русафобскую і антыправаслаўную накіраванасць.

По вяртанні з савецка-польскай вайны, тым не менш, кс. Шкоп стаў пробашчам у парафіі Чорная Весь, пры гэтым неаднаразова падаючы просьбы аб пераводзе яго ў Лідскі дэканат. У 1931 годзе такая просьба была задаволена, і кс. Юзаф павярнуўся ў Ляцкую парафію. Пры гэтым трэба адзначыць, што паводле інвентару перадачы парафіі кс. Шкопам кс. Бароўскаму, першы ўклаў шмат асабістых высілкаў для аднаўлення касцёла Станіслава Біскупа, разбуранага і ўзарванага расейскімі войскамі ў часе Першай Сусветнай вайны [10, арк. 2].

У 1936 годзе, адчуваючы блізкі надыход смерці, Шкоп звярнуўся ў Рым з просьбаю адкрыць для яго асабістую капліцу, дзе б толькі адзін ён, звольніўшыся з пасады пробашча, мог праводзіць набажэнствы па рымска-каталіцкаму абраду. Гэтая просьба аднак не была задавольненая, і 16 ліпеня 1937 года Юзаф Шкоп адышоў да Бога.

Якім чынам раскрыццё біяграфічных звестак у сукупнасці ў адлюстраваннем асобных ментальнасных чыннікаў асобы дапамагло нам у раскрыцці пытанняў ідэалагічна-ментальнай скіраванасці Рымака-таліцкага касцёла на тэрыторыях Заходняй Беларусі ў пачатку ХХ ст.? Па-першае, доўгае і паспяховае знаходжанне кс. Шкопа ва ўлонні касцёла, у тым ліку і на паспяхова значнай пасадзе, адлюстроўвае агульныя настроі, якія панавалі ў колах рымска-каталіцкага святарства ў гэты перыяд часу. Па-другое, як мы ўжо казалі, вызначаная сістэма мае прызнакі патэрну, што дае агульнае ўяўленне пра кожнага асобна ўзятага прадстаўніка духавенства вызначанага перыяду з правам на пэўны працэнт пагрэшнасці. Па-трэцяе, гэта адлюстроўвае агульныя настроі рымска-каталіцкіх вернікаў, бо святар, з'яўляючыся прадстаўніком касцёла "ў народзе", адначасова пераймае частку сацыяльных настрояў.



*Касцёл Св. Станіслава ў Лядску. Сучасны выгляд.*

**Крыніцы і літаратура:**

1. Бендин А. Ю. Проблемы веротерпимости в Северо-Западном крае Российской империи (1863-1914 гг.) / А. Ю. Бендин. - Минск : БГУ, 2010. - 439 с.

2. Бодрийяр, Ж. Система вещей / Ж. Бодрийяр - М. : Добросвет, 2001. -215 с.

3. Гинзбург К. Сыр и Черви. Картина мира одного мельника, жившего в XVI в. / К. Гинзбург. - М. : "Российская политическая энциклопедия" (РОССПЭН), 2000. - 272 с.

4. Дело о выборах в Государственную Думу 8 июля 1907 г. // Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas. - Фонд 604. - Воп. 4. - С. 6273. - Л. 15.

5. Латур, Б. Об интеробъективности / Б. Латур // Социология вещей: сб. ст. / Издательский дом "Территория будущего"; под ред. В. С. Вахштайна. - М., 2006. - С. 169-199.

6. Личное дело кс. Юзефа Шкопа 1887 - 1938 гг. // Lietuvos Valstybinis Istorijos Archyvas. - Фонд 694. - Воп. 3. - С. 1210. - Л. 1 - 57.

7. Сливкин В. В. Лидский уезд. 1915 год. Органы власти и самоуправления / В. В. Сливкин // История города Лида [Электронный ресурс]. - 2014. - Режим доступа: www.lida.info/lidskij-uezd-1915-god-organy-vlasti-i-samoupravleniya. - Дата доступа: 16.02.2015.

8. Сыцько К.В. Сацыяльна-палітычнае становішча Рымска-каталіцкага касцёла ў Лідскім дэканаце ў канцы XIX - пачатку XX стст. / К. В. Сыцько // Лідскі летапісец. - 2014. - № 2 (66). - С. 19-24.

9. Boyarunets, H. Zapisy o Krzyzy i Kaplicy w Cwiermah / H. Boyarunets - Lida : з дакументаў Лідскага Фарнага касцёла Узвышэння Святога Крыжа, 1936. - 50 с.

10. Inwentarz Kosciola Lackiego dane od dnia ... kwietnia 1936 r. // Архіў касцёла св. Станіслава Біскупа. Без фонду. - Без вопісу. - Спр. Б/н. - Арк 2.

11. Moroz, M. Krynica. Ideologia i przywodcy bialoruskiego katolicyzmu / M. Moroz. - Bialystok: Bialoruskie Towarzystwo Historyczne, 2001. -284 s.

***Віктар Кудла***

# Экскурс у гісторыю беларускага бежанства Першай сусветнай вайны

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Вёска поўнілася чуткамі аб прыбліжэнні фронту, аб гвалтоўным высяленні, і асабліва баяліся казакоў, якія праславіліся безчалавечнай жорсткасцю. Пасля доўгіх ваганняў вырашылі збірацца ў дарогу.

Наколькі адказна дзяржава спрабавала падыходзіць да эвакуацыі сваіх грамадзян з зоны ваенных дзеянняў у глыб Расіі, можна мяркаваць па вопісу рухомай і нерухомай маёмасці.

Пры аналізе гістарычнага дакумента "Вопіс маёмасці" можна заўважыць: на якім высокім узроўні дзейнічала дзяржава ў цяжкія гадзіны вайны. Усё было ў рамках заканадаўства і строга прапісана, каму што рабіць.

Селянін в. Дроздава Кудла Іван Ісідаравіч звярнуўся ў паліцэйскі ўчастак Лідскага павета з заявай аб тым, што ён з сям'ёй вырашыў выехаць у Расію ў якасці бежанца. Згодна з цыркулярам Віленскага губернатара ад 17 ліпеня 1915 г. № 23963 паліцэйскі ўраднік Іваноў (ініцыялаў няма) 20-га ўчастка 5-га стану Лідскага павета прыбыў на сядзібу прасіцеля разам з сельскім старастам Ганчарскай грамады Восіпам Дычком.

Сумесна з запрошанымі сумленнымі ацэншчыкамі Васілём Кудлам, Восіпам Шутам і сведкамі Мікалаем Кудлам і Юрыем (прозвішча неразборчыва) правялі вопіс усёй рухомай і нерухомай маёмасці і пасеваў селяніна в. Дроздава Івана Ісідаравіча Кудлы.

Усе дадзеныя вопісу аб колькасці і кошту ў рублях былі занатаваны на друкарскім бланку, падпісаны ўсімі ўдзельнікамі і выданы на рукі гаспадару.

Дзякуючы таму, што гэты стогадовай даўнасці дакумент зберагліі, мы маем магчымасць меркаваць як жылі, што мелі ў той час сяляне - серадмякі заходнебеларускай вёскі.

Кожны, хто цікавіцца, мае магчымасць зрабіць свае асабістыя высновы. (Копія дакумента ў дадатку.)

А зараз мы паспрабуем зрабіць аналіз аб узроўні дабрабыту майго дзеда Івана Ісідаравіча *(Табліца 1)*. Гледзячы на вопіс нерухомай маёмасці, можна сказаць, што матэрыяльная база селяніна была на той час нядрэннай.

*Табліца 1*

| № | Назва пабудоў | Колькасць | Кошт *у руб.* |
|---|---|---|---|
| 1 | Дом жылы новы | 1 (адзін) | 1000 |
| 2 | Дом жылы стары | 1 (адзін) | 500 |
| 3 | Гумно | 1 (адно) | 700 |
| 4 | Свіраны | 2 (два) | 600 |
| 5 | Хлявоў | 2 (два) | 300 |
| 6 | Хлявоў для жывёлы | 2 (два) | 300 |
| 7 | Канюшня | 1 (адна) | 150 |
| 8 | Прыбудова да дома | 1 (адна) | 100 |
| 9 | Склад для дроў | 1 (адзін) | 20 |
| | Усяго нярухомай маёмасці | | 3670 |

Прааналізуем вытворчую базу селяніна.

Асноўнай цяглавай сілай у апрацоўцы глебы і транспартным сродкам былі 2 кабылы і конь па ацэнцы - 500 рублёў. (*Заўвага* - у1848 годзе ў гаспадарцы была пара валоў.) Да іх ішоў цэлы шэраг прымітыўных на той час сельскагаспадарчых прылад працы і механізмаў: саха, бораны - жалезная і драўляная, малатарня, сячкарні - конная і ручная. Для перавозкі грузаў меліся вазы і сані. А ў святочныя дні селянін запрагаў лепшага каня ў брычку, а зімою ў вазок і ўсёй сям'ёй рушыў на кірмаш, рынак ці ў царкву.

Аб дабрабыце селяніна сведчыць наяўнасць жывёлы - 8 галоў: тры каровы, дзве цялушкі, двое цялят і бык - усяго на 480 рублёў. Можна меркаваць, што малочных прадуктаў хапала і для сям'і, і на продаж. Апроч гэтага было чацвёра свіней па 40 рублёў, 22 курыцы - па 1 рублі, 20 авечак па 9 рублёў, што забяспечвала сям'ю мясам, яйкамі і воўнай, з якой выраблялі доўгімі зімовымі вечарамі сукно, а потым шылі адзенне.

Дзед быў нядрэнным пчаляром: у яго на пасецы было больш за 20 вуллёў. На прысядзібным участку рос садок, толькі не зразумела, чаму толькі адна яблыня (кошт - 25 руб.), а 24 слівы і вішні (коштам па 5 руб.) і 27 груш (коштам па 17 руб. 59 кап.). Верагодней за ўсё, яблыкі доўга не захоўваліся, а сушаныя грушы ўжываліся ўсю зіму. Пазней, у марозную зіму 1940 г. усе грушы вымерзлі, і памятаю, яшчэ доўга на гумнішчы тырчалі іх пні.

Па ўспамінах майго бацькі ў гаспадарцы было дзесяць дзесяцін ворнай зямлі, сенажаць, выган і невялікі лясок - дзве дзесяціны. На той момант у жніўні 1915 года бульба заставалася ў полі і па ацэнцы, ураджай мог быць 700 пудоў, гэта значыць 11,2 тоны па 2 кап/кг. на 245 рублёў.

У засеках свірана заставалася 680 пудоў, у пераліку больш за дзесяць тон збажыны. З гэтай колькасці было: жыта - 5600 кг па 10 кап., аўсу - 3520 кг па 12,5 кап., ячменю - 800 кг па 12,5 кап., грэчкі - 480 кг па 14,6 кап., лубіну - 160 кг па 15,6 кап., гароху - 320 кг па 12,5 кап. - усяго на 1250 руб.

Без увагі ацэншчыкаў не засталася нават салома жытняя, аўсяная, ячменная коштам па 2 кап/кг і сена - па 6,3 кап/кг агульным коштам 768 руб., раў-

назначна кошту гумна ці ўсёй жыўнасці … Апроч гэтага было нарыхтавана прамой саломы (кулі) для ўладкавання саламянай страхі - 200 пудоў, г.зн. 3200 кг па 3 кап/кг на 100 рублёў.

А цяпер глянем, што заставалася з хатняй маёмасці: хатні посуд - на 170 руб., сталы, лавы, куфры, кублы - 41 руб. Вопратка - на 470 руб., палатно вясковае - 1000 аршынаў на 200 руб., кросны - 40 руб., жорны - 10 руб. Ацэншчыкі ўзялі на ўлік нават плот каля садка і падворка - 60 сажняў на 180 руб., дошак на 120 руб, нарыхтоўкі з дубу для вазоў - 1,5 аршына - 30 рублёў.

Згодна з вопісам уся маёмасць Івана Ісідаравіча Кудлы была ацэнена ў 10 491 рубель, на той час даволі вялікія грошы.

Паводле запісу на грашовых купюрах, - дзяржаўны банк гарантаваў абмен папяровых грошай на залатую манету ў суадносінах: 1 рубель - 1/15 імперыяла ўтрымлівае 17,424 долей чыстага золата.

А колькі золата можна было атрымаць за 10 з паловай тысяч рублёў? Цяжкая задачка...

Але што сталася з гэтым багаццем, распавяду: памятаю, у дзяцінстве мы з імі забаўляліся, гулялі ў "прадаўцоў і пакупнікоў", многа знішчылі, але пару соцень засталося.

**Нелірычнае адступленне: адчуйце розніцу!**

У пяцідзесятых гадах, маю старэнькую бабулю Еўку Белавус - маёй мамы маці, якая выгадавала трох сыноў і чатырох дачок, мела добрую гаспадарку і валодала дваццацю дзесяцінамі зямлі - "раскулачылі" і вывезлі ў Казахстанскую пустыню. Забіралі ноччу пад руляй вінтоўкі... З сабою ўхапіла невялікі клунак вопраткі і торбу ежы… Везлі ў "цялятніках"… Выкінулі ў стэпе - ні кала ні двара. Самі зляпілі мазанку з гліны і саломы - так жылі і працавалі на зборы бавоўны.

А на пакінутай гаспадарцы ўсю маёмасць (пералік быў бы значна большым, чым у 15 годзе) забралі, расцягалі, знішчылі… І ніякіх вопісаў, ні паперак… Сумна і трагічна!!!

А цяпер вернемся ў 1915 год.

**З успамінаў Кудлы Івана Іванавіча:**

*"Мы ўжо ведалі, што нашыя бабуля, цёця і сястра апынуліся і ўладкаваліся пад Серпухавым. Як не хацелася, але абставіны прымусілі рушыць у дарогу - немец ужо захапіў Вільню.*

*Тата Іван Ісідаравіч, мама Аляксандра Вікенцьеўна і я - шасцігадовы хлопчык - выехалі дзесьці пад канец жніўня 1915 г. Памятаю, як збіраліся ў дарогу: грунтоўна рыхтавалі фурманку, узялі запаснoе кола, змазвалі буксы… На воз упакавалі яду: сала, здор, крупы з грэчкі і ячменю, муку і гарох. Вопратку і палатно склалі ў куфар, а посуд у сундук.*

*Зарэзалі барана, закалолі свінчо, пасалілі і склалі ўсё ў драўляныя бочкі.*

*Запраглі лепшага каня, другога побач на змену… З абразом Мікалая Цудатворца* (дарэчы гэты абраз аберагаў нашу сям'ю ўсе гады бежанства, ваеннага ліхалецця, атэістычнага дурману - і цяпер у пачэсным кутку як дарагая рэліквія. *В.К.* *)абнеслі фурманку, развіталіся з роднымі мясцінамі і рушылі ў невядомасць…*

*З нашай вёскі выехала напэўна больш паловы жыхароў: сем'і Шутоў браты Аляксандр,Сямён, Ануфрык, Зянон, Любы Кудлы, Максімовічаў…*

*Кароў гналі пры возе. Мама даіла. Малака хапала, лішак давалі іншым.*

*Першы прыпынак ля Наваградка. Там быў катлапункт. Давалі "шчы лянівыя", але ў нас хапала свайго. Тут жа кармілі і коней. Надвор'е было спякотнае - усім хацелася піць. У вясковых студнях ваду вычэрпвалі да дна.*










***Царскія грошы***



*Абраз Мікалая Цудатворца*

*першапачаткова дыслакавалася ў Астраўцы, удзельнічалі ў абароне Смаргоні, затым ваявалі з германцамі дзесьці ў Эстоніі. Бацька многа расказваў пра населеныя пункты, пра баі. Знаў з сотню слоў па-эстонску. Але мы гэта запамятавалі… Набліжаўся фронт, па дарозе суцэльнай плынню цягнуліся конныя абозы з бежанцамі. Трывога ахапіла ганчароўскіх сялян, і многія (Міцюкевічы, Гукі, Данэйкі і іншыя) рушылі ў дарогу.*

*Наша сям'я: дзед Кандрат, бабка Ганна, дзеці - Надзя і Зося - таксама вырашылі падацца ў бежанцы. (На гэты час старэйшая - Вольга выйшла замуж за цёзку па прозвішчы - Германовіча з Нававасадаў і выехала ў Літву. Там ён з братам выкупіў маёнтак Шантупа каля Гедройцаў. І не прызнаваліся, што яны беларусы, а літоўцы - Германавічусы…)*

*Што маглі грузілі на калёсы: і яду, і адзенне, штосьці з жыўнасці. У дарозе нацярпеліся гора… Былі размяркавальныя пункты…*

**З успамінаў Кудлы Івана Іванавіча:**

*"Далей рушылі ў бок Дняпра. Вазы з бежанцамі ехалі ў 4-6 радоў. Гналі жывёлу, шмат гублялася…*

Пазней бежанцы пачалі перамяшчацца адмысловымі бежанскімі абозамі. Гэта калона фурманак, крытых брызентам і гружаных найбольш каштоўнай маёмасцю. На фурманках ехалі дзеці і старыя, дарослыя члены сям'і шлі пехатою, побач гналі жывёлу.



**Беларускія бежанцы восенню 1915 г. Баранавіцкі раён. Фота з сайта gazetaby.com**

**Распавядае Ражнова (Каханоўская) Ядвіга Міхайлаўна:**

*"Добра памятаю аповед маёй маці Соф'і пра выселкі ў Расею:*

*У дзеда Іосіфа Шута былі чатыры сыны, і ўсе мелі асобныя гаспадаркі ў Дроздаве, працавалі, жылі няблага. Калі заварушыліся аднавяскоўцы і пасля доўгіх ваганняў усё ж такі рашылі ўцякаць ад "немчуры". І не думалі, што далёка і на доўга. У палукошкі ўпакавалі самае неабходнае. Выязджалі на падводах адным абозам з драздаўцамі: бацька Аляксандр, маці Ганна, сястра Марыя і я - Соня, мела 8 гадоў. Бацькавы браты: Ануфрык, Сямён, Зянон - усе з сем'ямі, трымаліся разам…*

**Германовіч Вольга Кандрацеўна і Германовіч Аляксандра Кандрацеўна** (З успамінаў свайго бацькі Кандрата Кандратавіча з в. Ганчары Лідскага павета):

*"Калі пачалася вайна бацьку Кандрата і яго брата Аляксандра прызвалі ў царскае войска. Частка*



***Дарогі, дарогі, без літасці вы,***
***няма вам, дарогі, канца...***



***Бежанцы на прывале. Лагер каля Слуцка. 1915 г. Фота С. Фёдарава.***



***Бежанка доіць карову***



***Бежанцы каля пункта сілкавання, 1915 г. БГА-1 -694***

*Людзі ішлі пехатой: шум, крык, лаянка.*

*Разам ехалі Гросы з Істакоў. Нікадзіму быў год, захварэў тыфам, дык хацелі скінуць... Было многа з Ганчароў: Германовіч Кандрат з сям'ёй. Трымаліся знаёмых, але ў гэтым вэрхале пагубіліся...*

*Насустрач ішло многа вайсковай тэхнікі, вазоў, салдат, конных казакоў.*

*Спадзяваліся затрымацца на Дняпры: абяцалі ж пераможную вайну!*

*Вось там вялікае зборышча народу - цэлы вэрхал: жывёла, вазы, хворыя, трупы людзей ... Пахаладала - хадзілі ў лес па дровы, палілі вогнішчы, грэліся...”*

Уздоўж галоўных дарог, якіх прытрымліваліся бежанскія абозы, былі ўладкаваныя харчовыя пункты, на якіх можна было атрымаць гарачую ежу, запас прадуктаў "сухім пайком", фураж для жывёлы. Хворыя маглі атрымаць тут медыцынскую дапамогу.

Адной з важнейшых артэрый бежанства па ўспамінах Ф. Кудрынскага стаў невялікі павятовы горад Магілёўскай губерні Рагачоў:

*"Цераз гэты горад у 1915 годзе прайшло толькі зарэгістраваных каля 700 тысяч чалавек* [10, с. 82] (больш паловы ад усіх беларускіх уцекачоў).

З-за адсутнасці пэўных планаў эвакуацыі рух уцекачоў быў хаатычным. Па гасцінцах, што ішлі на ўсход, цягнуліся бясконцыя плыні вымушаных вандроўнікаў, сярод якіх пераважна былі дзеці, жанчыны і старыя. Толькі ўздоўж дарогі Берасце - Масква паміж Кобрынам і Баранавічамі ў ліпені 1915 года лік бежанцаў дасягнуў 400 тысяч чалавек. Многія з іх, знемагаючы ад спякоты, смагі і голаду гінулі па дарозе [1, с.



ДОКЛАДЪ
Окол. Надзирателя
3 участка
ВАРШАВСКОЙ ПОЛИЦІИ
РУТКОВСКАГО
Августа 18 дня 1915г.
Ст. Токарня
Бобруйскаго уѣзда.

Копія.

ЕГО ВЫСОКОБЛАГОРОДІЮ
Г.Приставу 3 участка Варшавской
Полиціи.

На станціи Токарня я нахожусь на службѣ съ 9 сего Августа по наблюде-нію за проѣзжающими бѣженцами изъ Привислинскаго края и охранѣ имущества мѣстныхъ жителей. Все это время какъ я, такъ и находящіеся тутъ же Околоточные надзиратели Ога и Пропенко и городовые Щепатскій, Трояновскій, Кисель, Мухинъ, Мурза и Внукъ употребили всѣ свои силы для воспрепятствованія расхищенія бѣжен-цами хлѣбныхъ растеній и сѣна мѣстныхъ жителей, но достигали цѣли лишь при слѣдованіи бѣженцевъ одиночныхъ и малыми партіями, силой отнимая у нихъ награбленно ими сѣно и снопы овса; при слѣдо-



ваніи же бѣженцевъ по 500-700 человѣкъ мы оказались не въ силѣ защитить названные предметы отъ бѣженцевъ, которые не смотря на наши увѣщанія и угрозы, что будемъ стрѣлять, толпой набрасывались на находящійся по пути картофель, сѣно, овесъ и т.п., толкая насъ и подавляя своей массой и такимъ образомъ разобрали у помѣщика Прушиновскаго нѣсколько скирдъ сѣна и клевера. О чемъ честь имѣю доложить Вашему Высокоблагородію на распоряженіе. Околоточный Надзиратель Рутковскій

Настоящій докладъ для пріобщенія къ дознанію по дѣлу заявленія Штабсъ-Капитана Прушановскаго препровождаю Г.Приставу I стана Бобруйскаго уѣзда. Вр.и.д.Пристава 3 уч.гор.Варшавы
18 Августа 1915 года.

Вѣрно: Уѣздный Исправникъ

*ДАКЛАД*
*Акал. Наглядчыка*
*3 участка*
*ВАРШАЎСКАЙ*
*ПАЛІЦЫІ*
*РУТКОЎСКАГА*
*Жніўня 18 дня 1916 г.*
*Ст. Такарня*
*Бабруйскага павета.*

*Копія*
*ЯГО*
*ВЫСОКАБЛАГАРОДЗІЮ*
*Г. Прыставу 3 участка*
*Варшаўскай Паліцыі.*

*На станцыі Такарня я знаходжуся на службе з 9 гэтага Жніўня па назіранні за бежанцамі, якія праязджаюць з Прывіслінскага краю і ахове маёмасці мясцовых жыхароў. Увесь гэты час як я, так і змешчаныя тут жа Акалотачныя наглядчыкі Ога і Прапенка і гарадавыя Шчапацкі,Траяноўскі, Кісель, Мухін, Мурза і Ўнук ужылі ўсе свае сілы для перашкоджанню раскрадання бежанцамі хлебных раслін і сена мясцовых жыхароў, але дасягалі мэты толькі пры руху ўцекачоў адзіночных і малымі партыямі, сілай адбіраючы ў іх нарабаванае імі сена і снапы аўсу; пры руху ж уцекачоў па 500-700 чалавек мы аказаліся не ў сіле абараніць названыя прадметы ад бежанцаў, якія не гледзячы на нашы ўгаворванні і пагрозы, што будзем страляць, натоўпам накідваліся на бульбу, сена, авёс і да т.п., якія трапляліся па дарозе, пхаючы нас і душачы сваёй масай і такім чынам разабралі ў абшарніка Прушаноўскага некалькі сцірт сена і канюшыны. Пра што гонар маю дакласці Вашаму Высакароддзю на распараджэнне. Акалотачны Наглядчык Руткоўскі.*

*Гэты даклад для далучэння да дазнання па справе заявы Штабс-Капітана Прушаноўскага адпраўляю Г. Прыставу I стану Бабруйскага павета. Ч. в. с. Прыстаў 3 уч. гор. Варшавы 18 Жніўня 1915 года.*

*Правільна: Павятовы спраўнік ...*

147]. Часта іх ніхто не хаваў, таму, як успаміналі пасля тыя, каму ўдалося перажыць жахі бежанства, панурая карціна бясконцай плыні суправаджалася адпаведнымі пахамі целаў, якія гнілі на ўзбочыне [10, с. 93]. *"Людзі хварэлі, а смерць збірала свой ураджай. Трупы валяліся каля дарогі. Ніхто не прыбіраў, не звяртаў на мёртвых ніякай увагі"* [2, с. 32]. Абозы бежанцаў (пад Лідай, Кобрынам, Пінскам, Пружанамі, Слонімам) патрапілі пад нямецкія авіяабстрэлы [7, с. 796; 16, с. 24]. Па тых жа ўспамінах бежанцаў многія са шчаслівчыкаў, якім усё ж знайшлося месца ў перапоўненых прамысловым абсталяваннем чыгуначных вагонах, знаходзілі сваю смерць прама ў іх. Толькі на станцыі Менск і толькі за некалькі дзён было пахавана 1516 чалавек. Гінулі, як правіла, ад голаду і эпідэмій (сярод бежанцаў афіцыйна зарэгістравана 9 тысяч выпадкаў захворвання халерай) [10, с. 99, 132-133, 143, 151-152; 12, с. 60]. Практычна ў кожным з цягнікоў з бежанцамі знаходзілася па некалькі дзясяткаў трупаў, якія падарожнічалі ў вагонах па некалькі дзён.

Ф. Кудрынскі з болем успамінаў: *"Смерць перастала быць страшнай. Пачуццё гаротнасці пры страце блізкіх моцна падтупілася. Спыненне жыцця глыбокіх старых стрымана вітаецца бежанцамі, як збавенне ад лішняга рота і як палягчэнне далейшага вандравання. Тое ж часам і ў адносінах да малагадовых дзяцей"* [10, с. 97].

Але іншую карціну больш рэальную, малюе ў сваіх лістах сведка таго, што адбывалася рускі пісьменнік Канстанцін Паўстоўскі:

*"Хвалююць бежанцы, у большасці ўзлаваная, касцяная, небывала дзікая маса. З-за хлеба б'юцца да крыві адзін з адным. Калі не хопіць ежы ці паўстане якое-небудзь непаразуменне, могуць забіць. Усюды рабаванні, падпалы. Калі тысячы бежанцаў змешваюцца з адступаўшым войскам, падчас пераходу па да-*




***Бежанцы ў лесе каля Баранавічаў***

*рогах, загачаным на дзясяткі вёрст, калі кожны імкнецца ўратаваць сваё жыццё, адзіная абарона для кожнага - рэвальвер і бізун. І іх пускаюць у ход занадта часта. Штораніцы мы знаходзім каля сваёй хаты кінутыя трупы халерных. Халера расце. Няма ніводнай бежанскай фурманкі не заражанай. Усе дарогі - могілкі. Трупы злёгку толькі присыпаюць пяском. Смурод нясцерпны."* (З ліста ад 29 жніўня 1915 г., вёс. Гінцэвічы Менскай губ., каля Баранавічаў.)

Большасць людзей не мела аніякага ўяўлення пра тое, куды ў канчатковым выніку яны патрапяць, дзе будуць жыць. Усе ведалі цвёрда адно - яны ехалі ў Расію, якая павінна ім даць прытулак, а некаторыя нават спадзяваліся яшчэ лепш наладзіць там сваё жыццё. І хоць апошніх было няшмат, але яны сапраўды мелі для падобных надзей усе падставы, бо некаторыя іх аднавяскоўцы і сваякі, выехаўшы ў другой палове XIX - пачатку XX стст. у рускія гарады ці перасяліўшыся на сібірскія і іншыя землі, нядрэнна там ўладкаваліся.

Справа ў тым, што ў канцы XIX ст. царскія ўлады агітавалі нашых сялян перасяляцца ў глыб Расіі. Гарантавалі ім бясплатны праезд і свабоду выбару месца пасялення. Гэтай магчымасцю ў асноўным карысталіся цэлыя сем'і, а часам у адзіночку выязджалі маладыя людзі. Некаторыя з такіх перасяленцаў даволі хутка разбагацелі і нават станавіліся заможнымі землеўладальнікамі, а хтосьці нават абжыўся ўласнымі прадпрыемствамі, уключаючы невялікія заводы і фабрыкі.

Наплыў бежанцаў прыняў такі масавы характар, што стаў пагражаць дзейнасці тылу арміі, узнікла небяспека эпідэміі халеры ў войсках, бежанцы станавіліся прычынай сацыяльнай напружанасці ў месцах руху і прыпынкаў

Першапачаткова высяленцы накіроўваліся за лінію Дняпра, аднак набліжэнне фронту прывяло да наступнай іх адпраўкі ў глыб Расіі. Такая складаная сітуацыя запатрабавала ад С.І. Зубчанінава складання такога плану эвакуацыі, па якім людзі з кожнай эвакуяванай мясцовасці накіроўваліся б па бліжэйшай гужавой або чыгуначнай дарозе ў адну ці дзве пэўныя губерні. Першы мільён бежанцаў Паўночна-Заходняга фронту быў размеркаваны па 15 губернях Расіі - ад 30 да 100 тыс. чалавек.

Увосень 1915 г. з надыходам халадоў становішча бежанцаў у Беларусі наблізілася да крытычнага. Стала відавочным, што без арганізацыі чыгуначных перавозак бежанцаў гэтую праблему не вырашыць.

У той час гужавым шляхам рухалася 450-500 тыс. чалавек. Асабліва шмат бежанцаў знаходзілася паміж Менскам і Смаленскам, Гомелем і Бранскам. Было прынята рашэнне арганізаваць з 5 па 15 кастрычніка вываз эвакуяваных у глыб Расіі і выдзяляць для гэтай мэты штосутачна 1200 вагонаў.

Пры пасадцы ў цягнік дазвалялі браць "не больш за два пуды багажу на аднаго чалавека", але фактычна грузілі ўсё хатняе начынне, прычым відавочца пісаў, што "большасць бежанцаў едзе са значным запасам пшаніцы, мукі і інш. прадуктаў". Каля станцый заходніх губерняў спынялі транзітныя абозы; у бежанцаў скуплялі коней з вазамі і іншую жывёлу, каб паскорыць вываз насельніцтва цягнікамі.

Коней і жывёлу здавалі арміі пад квітанцыі, разлік па якіх атрымлівалі пазней, ужо ў месцах часовага пражывання. Часам грошы выдавалі адразу, як, напрыклад, сям'і Ціхана Трахімюка, якая здала вайскоўцам трох дойных кароў, двух цялят, 12 авечак і некалькі свіней.

Кожны цягнік меў свайго суправаджальніка, які павінен быў клапаціцца пра эвакуяваных ад моманту пасадкі да рассялення ў месцах прыбыцця. На пажыўных пунктах транзітных станцый людзей кармілі "гарачай ежай", у тым ліку "выдавалі дзецям яйкі, малако і белы хлеб". Адначасова медыкі аказвалі дапамогу хворым, эпідэмічных хворых выдалялі з цягнікоў для стацыянарнага лячэння. Такі быў усталяваны парадак, але ў жыцці назіралася іншае: цягнікі бежанцаў рухаюцца надзвычай павольна, з кароткімі прыпынкамі на час кармлення кранаюцца без папярэджання, таму "адны паспяваюць атрымаць ежу, а іншыя - не, прычым, многія бежанцы адстаюць ад цягніка". Вагоны "біткам набітыя", уперамешку са здаровымі "ляжаць у трызненні тыфозныя і курчацца ў курчах халерныя хворыя", якія "часта хаваюцца, каб не трапляцца на вочы медыцынскаму персаналу падчас абыходаў".

Але апынуцца ў вагонах, хоць бы і такіх, марылі ўсе бежанцы. На станцыях пасадкі былі шматтысячныя чэргі. Напрыклад, бежанец з Гарадзенскай губерні Ян Зінюк успамінаў, што ў Слоніме яго сям'я і аднавяскоўцы не змаглі сесці ў цягнік з-за вялікага наплыву людзей, якія чакалі ўжо 2 тыдні сваёй чаргі ў жніўні

1915. Праехаўшы на конях далей, да станцыі Баранавічы, яны назіралі тую ж карціну: "Людзей столькі, што пальца не ўваткнуць", у Бабруйску было тое ж, толькі ў Раслаўлі Смаленскай губерні ўдалося сесці ў вагон.

На станцыях пасадкі бежанцам давалася права выбару месцаў часовага пражывання. Напрыклад, бежанка Марыя Лісоўская з Гарадзенскай губерні адзначала, што жыхары яе вёскі, даехалі да Менска на падводах і, перасеўшы ў вагоны, выбралі месцамі пражывання Самарскую і Смаленскую губерні, а хтосьці - Украіну і Сібір.

У вагонах размяшчалі па 6 бежанскіх сем'яў, было цесна, але цёпла. Па сведчанні бежанцаў, у дарозе да месца прызначэння іх аглядалі медыцынскія работнікі, выяўляючы і шпіталізучы хворых, на чыгуначных станцыях працавалі і пажыўныя пункты. Напрыклад, Юзаф Навіцкі з Гарадзенскай губерні ўспамінаў, што па дарозе ў Омск пра іх клапаціліся: выдавалі прадукты і грошы, па прыбыцці ў Омск бежанцаў да вясны размясцілі ў бараках перасяленчага пункта. Там былі кухня і лазня, людзей кармілі і выдавалі грашовую дапамогу, а таксама цёплую вопратку тым, хто яе не меў.

Больш верагодна што чыгуначны транспарт не спраўляўся з нагрузкай. Цягнікі з бежанцамі стаялі ў корках, збіваліся з раскладу, нечакана змянялі кірунак руху, не кажучы пра тое, што яны перашкаджалі іншым чыгуначным сродках, якія абслугоўвалі фронт.

У хвіліны кароткіх прыпынкаў на час кармлення на пунктах сілкавання, размешчаных падчас на значнай адлегласці ад станцый, цягнікі краналіся без папярэджання, так што не ўсе паспявалі атрымаць ежу, але нават не гэта было галоўнай праблемай. Самае страшнае, што многія, асабліва дзеці, адставалі ад цягнікоў. Так, у дакументах Таццянінскага Камітэта гаворыцца, што толькі ў адзін дзень *"19 верасня 1915 г. у Маскву прывезена 300 дзяцей, якія страцілі ў дарозе бацькоў, а 20-га такіх жа ўжо было 500"*.

Сведкам апісванай трагедыі мільёнаў нашых людзей быў ваенны карэспандэнт, пісьменнік Міхаіл Прышвін. У сваіх дзённіках ён пакінуў жудаснае, па сутнасці, апісанне таго, што адбываецца ў цягніку з бежанцамі: *"Бежанцы. - Трэці дзень не еў! Не хлусяць - для хлусні таксама патрэбен вольны час. Ірве ў акно. Ва ўрыльніку вараць бульбу. Тут вараць, а там гадзяць. Прычына страт родных: пайшлі па дровы, а цягнік пайшоў. Не будзь свайго, дык усе б мёртвымі прыехалі. Тут жа ў цягніку паміраюць і кожны дзень нараджаюцца... Уся маса не ведае, куды, навошта, што?"*

Не ўсім бежанцам ўдалося даехаць да месцаў пасялення без страт. У дарозе паміралі ў асноўным старыя і малыя дзеці. Так, 11 бежанскіх сялянскіх сем'яў (з Беластоцкага і Бельскага паветаў Гарадзенскай губерні) з 100 страцілі ад аднаго да трох чалавек, усяго 20, у асноўным ад халеры за перыяд свайго руху ад пасадкі ў вагоны да месцаў часовага размяшчэння.

Масавае прыбыццё бежанцаў суправаджалася з'яўленнем чутак пра пагрозу небяспекі з боку непрыяцеля і маючую адбыцца эвакуацыю. Насельніцтва выяўляла неспакой і патрабавала ў банках свае ўклады. Просты люд любіў паглядзець на бежанцаў, якія пасяліліся па суседству, уступіць з імі ў размову. Абывацелі тоўпіліся каля дамоў, разглядалі гуляўшых там дзяцей бежанцаў, прыносілі прадукты ці вопратку. Прэса пісала, што ўцекачы хутка асвойваліся ў горадзе, ста-



***Бежанцы на адкрытых платформах***

навіліся "ледзь не пераважным элементам у кінематографе і тэатры" і ўсюды адчувалі сябе нязмушана. Пры гэтым бежанцы не переставалі здзіўляцца брудным дварам і "леташняму" снегу на вуліцах, стварацъ нязручнасці для насельніцтва, звалкамі бруду нават каля помнікаў даўніны. Маладыя дзяўчаты-бежанкі асуджаліся абываталямі за любоўныя сувязі з ваеннапалоннымі, як і пэўная частка жаночай паловы карэннага насельніцтва.

**З успамінаў бацькі, Кудлы Івана:**

*"Праз некаторы час далі каманду грузіцца ў вагоны: былі крытыя і адкрытыя. Коней забралі вайскоўцы, кароў адпусцілі на волю.*

*Колькі дзён ехалі па чыгунцы - не памятаю. Мне было цікава назіраць за мясцовасцю: мільгалі вёскі, цэрквы, палоскі пасеваў, масты, рэчкі...*

*На прыпынках спяшаліся ў кусты, потым па ваду. Дзесьці кармілі.*

*З вагонаў выносілі памерлых. Лямантавалі. Хтосьці адставаў ад цягніка...*

*Высадка ў Ніжнім Ноўгарадзе. Натоўп людзей ў бараку. Цесна. Кармілі. Сваю яду частку зрасходавалі, а многа і сапсавалася. Тут упершыню спазнаў голад."*

А цяпер звернемся да архіўных матэрялаў, што ўдалося знайсці ў Інтэрнэце і ў бібліятэцы:

*"У кастрычніку 1915 г. быў зацверджаны праект аб прызначэнні Галоўнаўпаўнаважаных па ўладкаванні бежанцаў у глыбіні імперыі, якія павінны былі кіраваць ў рамках вызначаных ім раёнаў транспарціроўкай і ўладкаваннем бежанцаў. Мэтай іх працы было аб'яднанне намаганняў мясцовых уладаў, урадавых і няўрадавых арганізацый у справе аказання дапамогі бежанцам.*

*Да сярэдзіны верасня ў розных губернях знаходзілася каля 750 тыс. бежанцаў, уключаючы ўсіх, хто прыбыў у тыл з пачатку вайны. У наступныя 3,5 месяцы толькі маршрутнымі цягнікамі вывезлі на ўсход звыш 2 млн. чалавек".*

Асноўная маса бежанцаў з Беларусі асела ў цэнтральных губернях Расіі, у Паволжы. Трэба адзначыць, што да восені 1915 сістэматычная рэгістрацыя бежанцаў фактычна не праводзілася, хоць аддзяленні Усерасійскага саюза гарадоў і земстваў часткова вялі ўлік людзей - пры пасадцы іх на чыгуначных станцыях. Згодна з іх звесткамі, на 1 чэрвеня 1916 колькасць бежанцаў налічвала 2.757.735 чалавек. З іх 38% складалі выхадцы з Гарадзенскай губерні, 8,6% - з Віленскай, 3,7% - з Менскай, 3,7% - з Віцебскай губерні. Каля 47,1% ад агульнай колькасці бежанцаў складалі жыхары Беларусі.

**Рэальная сітуацыя летам 1915 года і першыя дзеянні ніжагародскіх уладаў**

З канца лета бежанцаў пачалі перавозіць па чыгунках адмысловымі маршрутнымі цягнікамі да вызначанага пункта прызначэння. Шлях гэты займаў, як правіла, не меней месяца, а то - і два.

Гл. картку рэгістрацыі бежанцаў: тут час выхаду з месца (вёска Валотына Гарадзенскага павета Гарадзенскай губерні) 15 жніўня 1915 года, а час прыбыцця ў дадзены пункт (сяло Чорнае Балахнінскага павета, Ніжагародскай губерні) - 21 кастрычніка 1915 года. Як рухаліся: спачатку на падводзе да Оршы, адтуль па чыгунцы праз Смаленск і Маскву да станцыі Расцяпіна Ніжагародскай губерні.

Тады, у жніўні 1915 года ніжагародскія ўлады не былі гатовыя да прыёму велізарнай колькасці новых людзей. Не было інфармацыі нават аб прыкладным ліку чаканых бежанцаў; не існавалі арганізацыйныя структуры, якія кіравалі справай прыёму, размяшчэння бежанцаў, у паветы не былі адпушчаны спецыяльныя грашовыя сродкі для прыёму і ўтрымання бежанцаў, закону аб бежанцах не існавала, таму не быў вызначаны памер бежанскага пайка, не было ўказанняў аб умовах размяшчэння бежанцаў на прыватных кватэрах (закон будзе прыняты толькі 30 жніўня 1915 г.) у паветах не было дастатковай колькасці хлеба (у Ніжагародскай губерні, размешчанай у Нечарназем'і, свайго хлеба не даставала нават у даваенныя гады, а падчас вайны з-за недахопу транспарту падвоз хлеба скараціўся).

Калі губернатар В.М. Барзенка атрымаў інфармацыю аб маючым адбыцца прыбыцці 100 тыс. бежанцаў, ён звярнуўся ва ўсе павятовыя земствы з прапановай арганізаваць Павятовыя камітэты па прыёме бежанцаў, сабраць звесткі аб памяшканнях, якія падыходзілі для раскватаравання бежанцаў - высветліць іх ёмістасць і ўмовы, на якіх яны могуць быць прадастаўлены.

Тады ж 7 жніўня 1915 губернатар звярнуўся тэлеграмай ва ўрад з просьбай выдзеліць грошы на ўтрыманне бежанцаў, зыходзячы з разліку: харчовы паёк - 4 руб. на дарослага, 2 руб. на дзіця, кватэрны паёк - 2 руб. на дарослага, 1 руб. на дзіця. Упэўненасці, што ў хуткім часе дзяржава пераліччыць грошы, не было. Выхад меліся шукаць на месцах: у Арзамасе прынялі рашэнне выкарыстаць мясцовыя земскія сродкі. Ніжагародскі павет звярнуўся ў Таццянінскі Камітэт з просьбай выдзеліць грошы з крэдыту на ваенныя патрэбы. Разлічвалі на грамадства, спрабуючы праз утвораныя камітэты "паўплываць на лепшыя якасці чалавека", г.зн. разлічвалі на дапамогу сялян, мяркуючы, што па крайняй меры на першым часе, сяляне могуць даць бежанцам жыллё і накарміць іх.

У лісце Міністэрства ўнутраных спраў ад 2 жніўня 1915 года да ніжагародскага губернатара змяшчаецца такая рэкамендацыя: *"Службовым асобам па сялянскіх справах належыць карыстацца ўсімі выпадкамі сумоўя з сялянамі, каб выклікаць у іх, спагадлівае і спачувальнае стаўленне да долі людзей, якія страцілі свае здабыткі, якія страцілі звычайны заробак і якія пакінулі на волю лёсу свае наседжаныя месцы, з'яўляецца адначасова і выкананнем найважнейшага запавету, дадзенага людзям Хрыстом, і служ-*

№ 9354

**Карточка регистраціи бѣженцевъ (на семью)**

Время составленія карточки 12 [illegible] 1915 г.

Мѣсто составл. карт.: губернія Нижегородская уѣздъ [illegible] гор., селен. село Черное [illegible]

ГЛАВА СЕМЬИ.
Фамилія Бецуцкий (Бецурский)
Имя Яковъ
Отчество Петровичъ
Полъ муж.
Подданство Русский
Національность [illegible]
Вѣроисповѣданіе православное
Званіе или сословіе крестьянинъ

Мѣсто прежн. постоян. жительства: губернія Гродненская
уѣздъ Гродненский волость (гмина) [illegible]
городъ, мѣстечко, селеніе дер. [illegible]
Какимъ путемъ и способомъ шли [illegible]

Время выхода съ мѣста 15 августа 1915 г.
Время прибытія въ данный пунктъ 27 сентября 1915 г.
Число потерявшихся въ пути родичей
Число умершихъ въ пути

Посѣвн. площ. (на своей и арендов. землѣ) 20 дес.; рабочаго скота 3 головъ; рогатаго скота 5 головъ.
Недвижимое домъ съ надвор. постр.
Торгово-пром. завед.: названіе
Число наемн. раб.
Снималъ-ли квартиру, комнату, уголъ, койку; плата въ мѣс. руб. коп.

Составъ прибывшей семьи (включая главу семьи).

| | Кѣмъ приходится главѣ семьи. | И м. п. | Возрастъ. | Чѣмъ занимался на мѣстѣ; профессія, промыслы у крестьянъ *). | Чѣмъ можетъ заниматься теперь. |
|---|---|---|---|---|---|
| Глава семьи. | — | Яковъ | 58 | [illegible] | [illegible] |
| Другіе члены семьи. Мужского пола. | сынъ | Варфоломей | 16 | | |
| | сынъ | Михаилъ | 14 | | |
| | сынъ | Павелъ | 12 | учащийся | |
| Женскаго пола. | дочь | Варвара | 21 | | |

*) ПРИМѢЧ. Въ этой же гр. дѣлается отмѣтка о неработоспособности.

*бай Радзіме, якая патрабуе ад сваіх грамадзян напружання ўсіх сіл для пераможнага выхаду з пасланых часова цяжкіх выпрабаванняў".*

Ужо 8 жнівень 1915 года адбылося першае паседжанне Арзамаскага павятовага камітэта па догляду бежанцаў. Цікавыя вытрымкі з выступаў павятовага маршалка дваранства Г.С. Панюціна, якія сведчаць аб яго высокіх маральных якасцях, аб ўменні браць на сябе адказнасць:

*"...Як Вы бачыце, тэлеграма п. Губернатара напісана ў катэгарычным тоне (у Арзамаскім павеце падлягае размясціць 15 000 бежанцаў), ніякіх іншых указанняў тэлеграма не ўтрымоўвае, закона пра бежанцаў не існуе. Весці перапіску пра тое, як рабіць і што рабіць, гэта значыць губляць час, тады як кожную хвіліну мы можам чакаць невядомы лік бежанцаў, а таму мы павінны быць гатовыя да ўсяго і спраўляцца з гэтай справай сваім розумам і саматугам. Пытанне пра бежанцаў у наш час гэта пытанне першачарговай дзяржаўнай важнасці".*



**Від на горад Арзамас, фота М.П. Дзмітрыева, 1890-е гады.**

*...Адмысловых сродкаў на ўтрыманне бежанцаў няма ніякіх. Пра нормы не ведае, відаць і п. Губернатар, інакш ён бы апавясціў. Але няма ніякага сумневу, што сродкі будуць адпушчаны, і ўсе выдаткі пакрыты. Пакуль жа не асігнуюць грошай, я буду расходаваць з усіх наяўных у маім распараджэнні сум, бо я не маю маральнага права пакінуць паміраць з голаду тысячы ні ў чым не вінаватых жанчын і дзяцей, даручаных так ці інакш маёй апецы".*

Бежанцы дастаўляліся выключна цягнікамі па чыгунцы. Гэта былі цягнікі, з прамой дастаўкай людзей да пункта прызначэння, якія змяшчалі да 1500 чалавек з рэчамі, але часам прыбывалі ў прыстасаваных вагонах, прычэпленых да пасажырскіх цягнікоў.

Першыя цягнікі з бежанцамі прыбывалі на адзіны размеркавальны пункт губерні - станцыю Ніжні Ноўгарад. Тут жа ажыццяўлялася рэгістрацыя, выраблялiся бежанскія білеты. Рэгістрацыя не ішла гладка - нярэдкія сітуацыі, калі дзесяткі, а то і сотні бежанцаў

павета жылі, не маючы рэгістрацыйных білетаў, якія давалі права атрымання дапамог са сродкаў земскіх арганізацый. На ўсіх чыгуначных станцыях былі абсталяваны прыёмныя пункты для бежанцаў. У горадзе Арзамасе прыёмны пункт быў размешчаны ў бараках для багамольцаў каля станцыі Арзамас. Тут праводзіліся рэгістрацыя і медыцынскі агляд. Затым усе ішлі на зборны пункт вайсковага начальніка для прыёму ежы. Абед не быў шчодрым, паколькі харчовае забеспячэнне кожнага бежанца на прыёмных і пажыўных пунктах было каля 20 капеек. Напрыклад, пажыўны пункт пры станцыі Мухталова ў дзень мог накарміць да 500 чалавек толькі гарбатай з цукрам і цёплым хлебам. Часам на прыёмным пункце даводзілася праводзіць да 2 сутак. Затым на абывацельскіх падводах бежанцаў развозілі па сёлах і вёсках павета. Большасць бежанцаў не мела цёплага адзення і абутку.

Варта адзначыць выпадкі бескарыслівай дапамогі бежанцам. Так, сяляне Ардатаўскага павета бясплатна падалі падводы для эвакуацыі бежанцаў ўглыб павета, у выніку чаго былі сэканомлены 2500 руб., якія потым патрацілі на набыццё ім цёплага адзення.

Ужо праз 3-4 дні ў мэтах выканання прадпісанняў губернатара паліцэйскія прыставы і ўчастковыя земскія начальнікі прадставілі спісы свабодных памяшканняў. Гэта былі хаты сялян, мяшчан, гасціныя рады, дамы таварыстваў, земскія школы і будынкі іншых навучальных устаноў, любыя пустыя памяшканні. Дапамогу прапаноўвалі людзі багатыя і людзі бедныя. У горадзе Ніжнім Ноўгарадзе больш за 6000 чалавек былі размешчаны на тэрыторыі Ніжагародскага кірмаша. Некаторыя жыхары губерні прапанавалі памяшкання бесплатна. Але ў асноўным, памяшканні прапаноўвалі за плату. У паветах па цане 0,5 - 1,5 руб. у месяц на чалавека, у залежнасці ад наяўнасці ацяплення і асвятлення. У Ніжнім Ноўгарадзе кут у падвале каля дзвярэй каштаваў 5 руб. у месяц на чалавека, а кошт кватэры даходзіў да 15 рублёў. Прычым, знайсці кватэру ў Ніжнім было амаль немагчыма. Насельніцтва Ніжняга Ноўгарада тады складала прыкладна 112 тыс. чалавек, а бежанцаў у горадзе апынулася каля 30 тыс. Ды яшчэ эвакуяваныя прадпрыемствы і шпіталь. Ніжагародскім аддзяленнем Епархіяльнага камітэта былі прадастаўлены памяшканні для бежанцаў у Ніжагародскім Пячорскім манастыры на 90 чалавек, Дабравешчанскім - на 30 чалавек, у Архірэйскім доме - на 16 чалавек, у доме духоўнага ведамства на Ціханаўскай вуліцы - на 60 чалавек, у Гарадзецкім Феадораўскім падворку - на 20, пры Ніжагародскім Маскоўскім вакзале - на 15 чалавек, у


***Агульны выгляд Узнясенскага Пячэрскага мужчынскага манастыра, горад Ніжні Ноўгарад, фота М.П. Дзмітрыева, 1900-я гады.***

*Яго Правялебнасці Уладыку*
*Епіскапу Ніжагародскаму*
*Высокаправялебнейшаму епіскапу Макарыю*
*Павятовага настаўніка спадчыннага*
*грамадзяніна Уханскага вучылішча*
*Холмскай губерні, Грубяшэўскага павета,*
*бежанца Мікалая Васільевіча Якаўлева.*

*Прашэнне.*

*Мяне змясцілі на двары (пад голым небам) у нумарах Кісельнікава, дзе валяюся я цэлы тыдзень, а спаў у сырым падвале, дзе захварэла мая дачка 8,5 гадоў, вучаніца Траякураўскай гімназіі, ветранай воспай і кашляе, ды і я таксама захварэў і праца мая (займаюся музыкай і літаратурай - пішу паэму "Холмшчына" і цяпер кампазірую) стаіць два тыдні. Я ж без месца. Тым часам наглядчык нумароў Кісельнікава над бежанцамі (ён сябе назваў: немец-курляндчык- Эгель) займае дзве пасады: наглядчык тут і ў горадзе (быццам бы на "Пячэрцы", дзе зараз жыве яго жонка і духгадовае дзіця). Таму ён карыстаецца дзвюмя казённымі кватэрамі, ды двума жалаваннямі - ці нельга ўсепакорнейша прашу, папрасіць Вашую Высокаправялебнасць папрасіць пра надаванне мне пасады наглядчыка тут у нумарах Кісельнікава, а ён Эгель хай застаецца на ранейшым месцы, бо ён не ў патрэбе ні ў горадзе, ні ў выхаванні сваіх дзяцей у сярэдняй навучальнай установе.*

*Я, сам - трэці, г.зн. я, сын і дачка і трое на вайне, і ўжо 8,5 месяцаў я пра іх нічога не чую. Ды я і сам быў на вайне, дзе 10 -18 жніўня 1914 г.пад горадам З...? кантужаны 10 пудовай непрыяцельскай шрапнэллю, што лопнула нада мной, забіўшы траіх, чацвярых каля мяне, і я ад гэтага аглушаны і па цяперашні час чую ў вушах страшны шум і звон.*

*Ваша Высокаправялебнасць не адмоўце мне ў наданні прошанай тут пасады наглядчыка ў нумарах Кісельнікава, што гэтым мяне пазбавіць (хоць бы) ад непрыемнасці і гаркаты, якую я цяпер трываю.*

*А ў мяне на вайне знікла маёмасці да 3000 руб + яравыя і азімыя.*

*Усепакорнейша прашу Вашую Высокаправялебнасць не адмовіць мне ў прошанай пасадзе наглядчыка нумароў Кісельнікава, чакаю міласцівую рэзалюцыю.*

*Ваша Высокаправялебнасць - не адмоўце!!!*
*28.03.1916.*

*Канавіна, нумары Кісельнікава.*

царкоўна-прыходскай школе вёскі Гардзееўка - на 5 чалавек і ў Арзамаска - Аляксееўскім манастыры маглі размясціць да 30 чалавек. Усе гэтыя памяшканні былі здадзены бясплатна.

Адначасова ў паветах быў пачаты збор інфармацыі аб свабодных працоўных месцах. Але іх было няшмат. Некаторым прыватным асобам патрабаваліся рабочыя: сталяры, цесляры, мельнікі, садоўнікі, кухаркі, чорнарабочыя. Цікавыя заявы прыватных асоб аб найманні бежанцаў на працы ў свае гаспадаркі. Вось вакансіі ў г. Арзамасе: пекар - 14 чалавек, цясляр - 14 чалавек, цырульнік - 1 чалавек, бондар - 2 чалавекі, прыслуга - 4 чалавекі, чорнарабочыя (землякопы) - 521 чалавек. Таксама не было пастаяннай працы ў сельскай мясцовасці, але яна магла адкрыцца як часовая пры малацьбе хлеба, выкопванні бульбы, ачыстцы цыбулі. На чыгуначнай станцыі можна было займацца пагрузкай на мясцовых складах. Такім чынам, відаць, што патрабаваліся, як правіла, чорнарабочыя, ды і то для часовых работ.

Толькі 29-га жніўня 1915 г. на нарадзе быў усталяваны, а затым прыняты губернскім земскім камітэтам харчовы месячны паёк па 5 руб. на дарослага і па 2 руб. 50 кап. на дзяцей да 5 гадоў. На кватэрнае забеспячэнне з ацяпленнем было вызначана па 2 руб. на дарослага і па 1 руб. на дзіця да 5 гадоў. Тым перасяленцам, якім кватэры даваліся павятовым камітэтам, кватэрны паёк не выдаваўся. Аднак устаноўленыя грашовыя пайкі бежанцы пачалі атрымліваць толькі ў сярэдзіне кастрычніка 1915 г.

Не менш значнай праблемай, чым забеспячэнне бежанцаў харчаваннем і дахам, была праблема забеспячэння іх цёплай вопраткай і абуткам, бо большасць бежанцаў прыбывала, не маючы нават зменнай бялізны.

У лістападзе 1915 г. Выканаўчая Камісія заявіла, што прыступіла да нарыхтоўвання камплектаў цёплага адзення: кажушкоў, шапак, валёнак, пальчатак. Аднак лік адпушчаных камплектаў цёплых рэчаў не можа перавышаць 25% у адносінах да агульнай колькасці бежанцаў. *"Асігнаванні на кожнага бежанца, які жыве ў нястачы, г.зн. які не можа асабіста набыць вопратку і абутак на свае сродкі, не павінна перавышаць на кожнага 20 рублёў у год"*. Камусьці ўдавалася атрымаць валёнкі, боты, паўкажушкі, сукенкі, але ўсё ж такі гэтая патрэба высяленцаў задавальнялася толькі ў нязначнай ступені.

Вось прыклад вырашэння праблемы абутку пасяджэннем Выканаўчай Камісіі: "*МУС прапанавала ў мэтах эканоміі скуры, якая патрэбна для войска, забяспечыць бежанцаў абуткам палегчанага тыпу - анучамі і лапцямі"* ды набыць 2000 пар бракаванага абутку.

Праблему забеспячэння бежанцаў мінімальна неабходным адзеннем вырашыць так і не ўдалося. Так, прадстаўнік Таццянінскага камітэта ў 1916 г. заявіў, што камітэт абмяжоўваецца выдачай абутку і адзення толькі гарадскім бежанцам, а распаўсюджваць сваю дзейнасць на паветы не мае магчымасці ў сілу абмежаванасці сродкаў *(Ф.1743, воп.1936, спр. 5, 1916)*.

**З успамінаў бацькі:**

*"З Ніжняга Ноўгарада цягніком нас перавезлі ў Лукаянава.*

**Даведка**. На пачатак 1916 года ў Лукаянаўскім павеце прынялі: мужчын -1661, жанчын - 2220, дзяцей - 1917, усяго - 5798 бежанцаў, у тым ліку 878 яўрэяў.



***Вакзал г. Лукаянава, 1900 гады***




***Карта Лукоянаўскага павета Ніжагародскай губерні. 19-тае стагоддзе.*** *Пад нумарам 3145 населеных месц значыцца казённае сяло Стара- Раждзественна (Стараселле) на рэчцы Кецім (на карце у правым вуглу). Адлегласць ад павятовага горада Лукаянаўска - 45 вёрст, а да станавога квартала - 4. У сяле налічвалася 150 двароў: насельніцтва - 691, з іх - 331 мужчын, 360 жанчын. Мелася праваслаўная царква, школа.*

*Выдалі білет бежанца і нейкія грошы…*

**Даведка.** Згодна з запісам у “Білеце бежанца” № 3515 ад 30 лістапада 1915 года сям'я ў складзе: Кудлы Івана Ісідаравіча - 44 год, Аляксандры - 32 гады, чорнарабочых і Івана - 7 год прыбыла на месца 21 кастрычніка 1915 года ў сяло Стара - Раждзественна.

**Дарэчы папярэджанне:** *"Білет бежанца відам на жыхарства служыць не можа."*

Тут жа адзнакі аб выдадзеных дапамогах, завераныя пячаткай: па снежань - 27 руб. 96 кап., а за снежань, студзень і люты па 21 рублю.

У паветах на Земствы ўскладаліся работы па:

- прыёме і рэгістрацыі бежанцаў;
- эвакуацыі іх у вёскі;
- уладкаванні пажыўных пунктаў на месцы прыёму;
- задавальненні бежанцаў харчовым і кватэрным забеспячэннем, медыцынскай дапамогай;
- пошуку па магчымасці заробку;
- задавальненні культурна-бытавых і рэлігійных патрэбаў;
- стварэнні дзіцячых прытулкаў, ясляў;
- забеспячэнні адзеннем, абуткам і г.д.

**З успамінаў бацькі:**

*“Падводамі нас перавезлі ў сяло Стара-Раждзественна.*

*Мясцовае насельніцтва прыняло добразычліва. Земства выдала дом, нейкія прыбудовы. Далі каня, карову, курэй. Бацьку ўладкавалі на службу лесніком. Першыя месяцы выдавалі дапамогу, але потым, калі бацька пачаў зарабляць, нам адмянілі. Зажылі добра. Недалёка рака, лес. Бацьку спадабалася праца лесніком і надта добрая, урадлівая зямля і сенажаці. З вясковымі былі ў добрых зносінах. Наведвалі царкву, матуля мела добры голас, спявала ў царкоўным хоры, а так працавала на гаспадарцы. Яды хапала сабе і прадавалі малако, масла, сыры, яйкі.*

*Здзіўляла многае: як апраналіся мясцовыя сяляне: кашуля на-выпуск, падпярэзана аборкаю. Ваду насілі з рэчкі па два вядры з каромыслам цераз плечы.*



Путь слѣдованія

13515

БИЛЕТЪ БѢЖЕНЦА,

выданный отъ Нижегородскаго Земско-Городского Комитета о бѣженцахъ

1915 года Ноября 30 дня

Видомъ на жительство служить не можетъ.





Пособія деньгами и выдачами

**Білет бежанца Кудлы Івана**

*Па завядзёнцы ў тым сяле ў кожнай хаце быў самавар, для нас гэта была навіна: чаёўнічалі ўсёй сям’ёй. І калі хтосьці заходзіў, адразу запрашалі за стол, падавалі і булкі. У хуткім часе і бацька купіў на кірмашы бліскучы самавар. І мы таксама прызвычаіліся ганяць чаі. Мой абавязак быў распаліць: браў трэскі, шышкі, гарачыя вуглі з печы і, насадзіўшы халяву бота на камінок, раздзьмуваў самавар”.*

(Памятаю, яшчэ у пасляваенны час па святах у гэтым самавары варылі чай. Патым усё часцей на стале была самагонка, і самавар закінулі… Цяпер крыху аддраіўшы збольшага прачытаў надпісы: *“Самоварная фабрика А.В.С……а переемника фирмы Павла Ивановича БАТАШЕВА в Туле, 1-ый сорт”.*

На знешнім баку выбіты 10 медалёў: штосьці ўдалося прачытаць: *“1807 Император Николай… Самодержец Всея России. Золотая 1909. Серебр.-*



**Самавар з часоў бежанства**



**Царкоўная кніжыца 1915 года, дзе запісаны родныя сям’і Кудлы "аб здравіі"**

*1907. В верном труде и един. сила. 1908 - общество сельск. хоз-ва… Приз на чел... императорское ...Доно Кубанское-Терское О.С.Х. Бруссель 4 солон …”.*

Вось якая рэліквія ў сямейным музеі!)

Сур'ёзныя цяжкасці ўзнікалі і ў справе забеспячэння бежанцаў пайком. У дакладзе Выканаўчай камісіі ад 8 снежня 1915 года было заяўлена, што *"прадуктовы паёк змяншаецца ў сваім памеры ці выдача его спыняецца зусім у тым выпадку, калі бежанец атрымоўвае заробак, які забяспечвае яго з сям’ёй”.*

Праз два месяцы, 8 лютага 1916 г. на нарадзе Выканаўчай камісіі былі ўстаноўлены адзіныя правілы, абавязковыя для ўсіх земскіх і гарадскіх устаноў, якія займаюцца справай дапамогі бежанцам. Дапушчалася скарачэнне і поўнае спыненне дапамогі ў выпадках, калі:

- працаздольны бежанец адмаўляецца без паважных прычын ад працы;
- пры заробку сям'і не менш за 20 руб. у месяц - сям'я пазбаўлялася аднаго пайка, пры заробку не менш за 30 руб. у месяц - двух пайкоў і пры заробку сям'і не менш за 50 руб. у месяц уся сям'я здымалася з пайка.

Памер дзяржаўнай дапамогі ставіў перасяленцаў ва ўмовы, пры якіх праца для іх была матэрыяльна цікавай.

**Рэальнае жыццё (Прашэнні)**

***Копіі архіўных дакументаў - прашэнні і скаргі бежанцаў, якія адлюстроўваюць іх праўдзівае становішча:***

*“Марыя Станіславаўна Дэгрыс,*
*якая пражывае ў Н. Ноўгарадзе,*
*па вул. Узвіжанскай, д. 9, кв. 21*

*Прашэнне*

*Маю гонар давесці да ведама Вашай Правялебнасці пра мой бядотны стан. Я ёсць уцякачка з г. Коўні, да вайны муж мой значыўся бухгалтарам і атрымліваў жалаванне 80 руб. у месяц, але з першай мабілізацыяй быў узяты на вайну і ў наш час знаходзіцца ў палоне. Мяне тут заспела вялікае няшчасце, двое дзяцей маіх: хлопчык 4-х гадоў і дзяўчынка 6-ці гадоў, памерлі адначасова. Адзіная мая дачка знаходзіцца ў наш час у лякарні, і я сама хворая і абцяжарана сямействам: пры мне знаходзіцца маці 60 гадоў і сястра мая з маленькім грудным дзіцем, якой муж знаходзіцца на вайне, так што зарабляць з нас ніхто не можа, а павінны жыць. З пайка салдацкага я атрымліваю 7 рублёў і бежанскага 21 рубель. Пры гэтым я павінна дасылаць мужу штомесяц. У цяперашні час апошнія капейкі патраціла на хваробы і пахаванні дзяцей. Прашу Вашай Правялебнасці не адмовіць у маім няшчасці і патрэбе.*

*Марыя Дэгрыс,*
*15 сакавіка 1916 года.”*

Як толькі бежанскае насельніцтва больш ці менш асела ў пэўных раёнах, чарговай задачай стала іх працаўладкаванне. У мэтах забеспячэння бежанцаў працай былі створаны Бюро працы, якія граюць ролю пасярэднікаў у справе попыту і прапановы на працу бежанцаў.

А што ж сабою ўяўлялі працоўныя рэсурсы?

Звесткі аб размеркаванні бежанцаў па роду заняткаў, сабраныя да красавіка 1916 года, кажуць, што сярод пераселенага насельніцтва толькі трэцяя частка з'яўлялася працаздольнай, паколькі сярод яго было шмат жанчын з дзецьмі і старых. Ад усіх працаздольных: 57% - сельскагаспадарчыя і чорнарабочыя, 23% - рамеснікі, 20% мелі featureзнага роду заняткі.

Жыхары г. Смаргонь Віленскай губерні, а гэта прыкладна 1200 чалавек, якія працавалі на радзіме ў

гарбарнай справе ці сумежнай ёй - краўцы, шаўцы - былі паселены ў сяло Багародскае Гарбатоўскага павета, якое з'яўлялася тады цэнтрам гарбарнай прамысловасці. Практычна не сустракаюцца бежанцы, якія валодаюць вытворчай прафесіяй, дзе мяркуецца наяўнасць адмысловых навыкаў, адукацыі. Такія, відаць, аказаліся эвакуяванымі разам са сваімі прадпрыемствамі.

Такім чынам, калі пад крытэрыем разумнасці рассялення бежанцаў па губерні мець на ўвазе ўлік іх прафесійнай прыналежнасці, то можна сказаць, што Ніжагародскія ўлады размеркавалі прыбыўшых досыць разумна.

**Сельскагаспадарчыя работы**

Вясной 1916 года ўлады пачынаюць актыўна заклікаць перасяленцаў да ўдзелу ў сельскагаспадарчых работах, асабліва тых, хто па месцы свайго ранейшага жыхарства займаўся менавіта сельскагаспадарчай працай. Уладу падтрымалі ў гэтым і нацыянальныя арганізацыі. Перасяленцам прапаноўвалася наймацца як у прыватнаўласніцкія гаспадаркі, так і ў сялянскія, паколькі яшчэ ў 1915 годзе 81% усіх губерняў па Расіі заявілі пра недахоп працоўных рук у вёсцы ў сувязі з ўсеагульнай мабілізацыяй мужчын-кага насельніцтва.

У адпаведнасці з уведзенымі правіламі, бежанцы, якія атрымлівалі заробак на сельгасработах, у незалежнасці ад памеру яго, захоўвалі права на харчовы паёк. Зняцце з пайка за адмову ад гэтага віду працы магло тычыцца толькі працаздольнага бежанца, які адмовіўся ад працы, а не яго сям'і. Дастатковай падставай для адмовы магло служыць: нязвычкі да сельскагаспадарчых работ, хвароба, веданне іншых спецыяльнасцяў, ненармальна нізкая цана, прапанаваная за працу і г. д.

Пры гэтым сельскагаспадарчымі рабочымі лічыліся бежанцы, занятыя па апрацоўцы глебы, уборцы траў і збажыны, па доглядзе за быдлам. Занятыя ж на розных прадпрыемствах па апрацоўцы сельгаспрадукцыі такімі не лічыліся.

Аднак недахоп рабочых рук на вёсцы не быў такім вострым, паколькі ў царскай Расіі было вялікае аграрнае перанасяленне, а працэнт узятых у войска працаздольных мужчын складаў толькі 11,2% да ўсяго насельніцтва краіны.

У Ніжагародскай губерні да канца красавіка 1916 г. у вёсцы попыт на работнікаў-бежанцаў быў нязначны. Мясцовыя сяляне аддавалі перавагу мала аплачванай жаночай працы.

Вось характэрнае паведамленне аднаго валаснога праўлення ад 28 красавіка 1916 г.: *"Насельніцтва да пачатку палявых работ і перад пачаткам шырока азнаёмлена пра магчымасць прапанаваць бежанцам паступіць на сельскагаспадарчыя работы, і са свайго боку бежанцы заўсёды выказваюць поўную сваю згоду на работы, але ў наш час не прыкметна вялікага попыту на іх паслугі з прычыны таго, што шырока ўжываецца жаночая праца - ёсць шмат гаспадарак, дзе работы выконваюцца выключна жанчынамі, такім чынам, у гэтыя гаспадаркі патрэбныя будуць працоўныя хіба на сенажаць і жніво".*

*Яго Правялебнасці Правялебнаму Макарыю*
*Епіскапу Балахнінскаму.*
*Бежанкі з Рыгі, мяшчанкі г. Рыгі*
*Аляксандры Іванаўны Швякінай,*
*якая жыве ў наш час:*
*с. Бор Сямёнаўскага павета,*
*дом В. Вікулава.*

***Прашэнне.***

*Я, просьбітка Аляксандра Швякіна, бежанка з Рыгі ўвесь час пражывала з іншымі бежанцамі ў Ніжагародскім кірмашы ў нумарах Кондрацьцева. З наступленнем разліву вады, мяне з іншымі бежанкамі перавялі на жыхарства ў с. Бор, іншых жа пакінулі тут, гэта значыць у межах Ніжняга Ноўгарада.*

*Маючы на руках чацвярых малагадовых дзяцей, з якіх старэйшаму - 13 гадоў, а малодшаму - 5 гадоў, і старую маці 76 гадоў, я ў наш час маю на жыхарстве ў сяле Бор вострую патрэбу (муж мой на вайне), бо дапамогу толькі пачалі выдаваць мне ў палавінным памеры і то, толькі пад умовай, каб я ішла на сельскія работы, а калі не пайду, то тады пазбаўляюся і палавіннай дапамогі.*

*Быўшы мяшчанкай і не маючы паняцця пра сялянскія работы, я ў наш час знаходжуся ў самым крытычным становішчы, бо акрамя таго, што не магу рабіць сялянскую работу, я нават не магу яе выконваць і таму, што ад малагадовых дзяцей і хворай старой маці пайсці куды-небудзь не магчыма.*

*На падставе выкладзенага, я звяртаюся да Вашай Правялебнасці, пакорна прашу Вас, не адмовіць мне ў Вашым распараджэнні пра перавод мяне на жыхарства ў межы Ніжняга Ноўгарада, гэта значыць у Ніжні ці Канавіна.*

*Адважваюся спадзявацца, што Вы Ваша Правялебнасць, маёй просьбы не пакінеце без задавальнення.*

*1916 года, красавіка 14 дня.*

Але 6 траўня 1916 г. у павятовыя земскія ўправы паступіў цыркуляр ад Ніжагародскага губернатара, які загадвае прыняць больш рашучыя меры да прымусу працаздольных бежанцаў да сельскагаспадарчых работ і да высялення з гарадоў у сельскія мясцовасці ўсіх здольных да сельскагаспадарчай працы бежанцаў Пры гэтым звярталася ўвага на недапушчальнасць штучнага заніжэння заработнай платы бежанцаў супраць існых мясцовых цэн (такія выпадкі ў губерні назіраліся).

Для саміх жа бежанцаў сельскагаспадарчая праца была не выгадная, бо аплачвалася яна параўнальна нізка. Так, напрыклад, *"пілаваць дровы каштуе ад 3-5 руб. у дзень, а на сельскагаспадарчых работах больш за 1 рубель з гаспадарскімі харчамі зарабіць цяжка"*. У некаторых воласцях сельскагаспадарчая праца аплачвалася ў два разы ніжэй, чым праца цесляра, столяра, каваля. Адной з прычын непрадукцый-

насці перасяленцаў з'яўлялася адсутнасць у гаспадарках коней. Дакументы сведчаць, што ў паветах, дзе існавала нармальная аплата працы бежанцаў, адмоваў іх ад працы амаль не назіралася.

Праца перасяленцаў была, як правіла, падзённа-часавая - большасць выконвала чарнавую працу ў якасці наймітаў у сялян. Не дзіўна, што тыя, хто знаходзіў больш аплачваную працу, аддавалі перавагу ёй, не гледзячы на пазбаўленне пайка, таму што сям'я працягвала яго атрымліваць.

Улада нярэдка злоўжывала магчымасцю пазбаўлення пайка перасяленцаў за адмову ад сельгасработ, не маючы на тое належных падстаў, пра што сведчаць скаргі і просьбы бежанцаў.

Да 1 чэрвеня 1916 года агульная колькасць бежанцаў, якія сталі на работы па паветах (г.зн. без г. Ніжняга Ноўгарада) - 3312 чалавек, гэта 30% ад працаздольных, у тым ліку і на сельскагаспадарчыя - 613 мужчын, 215 жанчын, 205 падлеткаў.

У дакументах адзначаецца, што да канца 1916 года палова бежанцаў так і не змагла ўладкавацца на працу. Эфектыўная сістэма працаўладкавання іх так і не была створана аж да рээвакуацыі.

*У Рускую арганізацыю*
*пра апеку рускіх бежанцаў.*
*Бежанца, адстаўнога пенсіянера*
*Аляксея Іванавіча Міхайлоўскага*

**Прашэнне.**

*Дзякуючы клопатам і апецы чальца Арганізацыі айца Пятра, па хадайніцтве, я атрымліваю ў таварыстве Імператарскага палявання пасаду ўрадніка, мне неабходна абмундзіраванне, але сродкаў station ўча няма. Атрымліваю пенсію 22 руб. 86 кап. у месяц і на такі аклад пры такой дарагоўлі харчуецца пяць душ сям'і.*

*Апякун першага Апякунства п. Іваноў выдае казённыя пайкі толькі бежанцам-жыдам, як пагалоўным і адкрытым ворагам Святой Русі, і ў наш час - таемным ворагам - палякам, а рускіх бежанцаў, калі хто зойдзе прасіць, то Іваноў загадвае гарадавому гнаць прэч.*

*22 снежня я зайшоў і прасіў дзеля Хрыста дапамагчы мне колькі-небудзь падтрымаць малагадовую сям'ю да свят, але п. Іваноў закрычаў: "Без сумлення і сораму", на гарадавога: "Гані яго адгэтуль". Гарадавы, бачачы такую несправядлівасць, не выканаў нахабны загад, нават не крануўся і з месца. І пры тым я ўбачыў - сядзіць за сталом жыдоўка і выдае жыдам казённыя пайкі, тады я зразумеў, што трэба адгэтуль рускаму ўцякаць. І ўспомніў тое, што я меў адзінага сына Уладзіміра, які служыў на пошце службоўцам, падтрымліваў маю малагадовую сям'ю, паступіў у дзейснае войска і ўжо паклаў жывот свой на полі, і таксама і я нясу ад жыдоўскай, польскай і крывавжэрнай рукі кайзера за Веру, Цара і Айчыну раны, якія яшчэ маюць патрэбу ў лячэнні, і зразумеў, што зграданы Іваноў на справе - тыя ж самыя галёшы, што і здраднікі Святой Русі і Праваслаўнай Царквы Хрыстовай Мясаедаў і Грыгор'еў, калі ён сыноў Расіі гоніць, а ворагаў з вялікімі ласкамі задавальняе.*

*Пра вышэйпададзенае адважваюся ўсепакорна прасіць паноў-чальцоў і Святых бацькоў Арганізацыі пра дапамогу рускім бежанцам не адмовіць у выдачы мне пазыкападобна на абмундзіраванне 60 руб. А такую суму прашу растэрмінаваць для ўнясення на 3 месяцы, бо я атрымліваю пенсію ў 3 месяца 68 руб. 58 кап., то такая сума будзе выплачана мною з пенсіі. Пенсійную кніжку я давяраю на Арганізацыю.*

*Просьбіт: адстаўны фельдфебель А. Міхайлоўскі.*

*23 студзеня 1916 года.*

*Г. Ніжні Ноўгарад, вул. Пахваліхінская, дом Шышова.*

А. Міхайлоўскі звяртаецца ў Ніжагародскае аддзяленне Усерасійскага таварыства папячэння пра бежанцаў рускай нацыянальнасці. Яго антысеміцкія настроі абумоўлены паразай рускага войска на франтах, якую Стаўка тлумачыла падрыўной дзейнасцю габрэяў. Вядома, што атысеміцкія настроі распаўсюджваліся першым чынам у войску, а А. Міхайлоўскі - фельдфебель рускага войска.

З другога боку, вядома, што ў многіх арганізацыях, якія абслугоўвалі бежанцаў, працавала шмат габрэяў. Менавіта габрэйскія дабрачынныя арганізацыі атрымлівалі значныя сродкі з казны.

Першым часам людзі і не збіраліся грунтоўна наладжваць побыт на чужой ім тэрыторыі, яны спадзяваліся ў хуткім часе вярнуцца дадому - бо, як заўсёды, вайна была абяцана кароткай і пераможнай...

Перасяленцам было цяжка акрыяць ад перажытага гора: спусташэння, цяжкай дарогі, у якой многія страцілі блізкіх. Патрабавалася нямала часу, каб прывыкнуць да новых умоваў.

У 1916 г. пачалося згортванне палітыкі дзяржаўнай падтрымкі пераселенага насельніцтва. З восені гэтага года каштарысныя адлічэнні былі разлічаны толькі на 50% агульнай колькасці бежанцаў. Памер харчовага пайка ў залежнасці ад мясцовых умоў і цэн ўсталёўваўся ў межах ад 15 да 20 кап. у дзень на чалавека. Харчовую і кватэрную дапамогу мелі права атрымліваць толькі дзеці да 14 гадоў уключна, непрацаздольныя і працаздольны член сям'і, калі ён па ўмовах дадзенай сям'і вымушаны застацца для нагляду за дзецьмі і непрацаздольнымі.

Сельскагаспадарчых рабочых з 1 кастрычніка 1916 г. з пайка таксама знялі.Улады цудоўна разумелі, што выжыць на бежанскі паёк нельга, але фінансавыя сродкі паглынала вайна і разруха: *"Не падлягае ніякаму сумненню, што пры існых у наш час высокіх цэнах на ўсе прадукты першай неабходнасці, устаноўлены Кіраўнічымі Палажэннямі прадуктовы паёк уяўляецца цалкам недастатковым для той часткі бежанскага элемента, якая па складзе сваіх сямей ці па іншых умовах пазбаўлена магчымасці здабываць сродкі да існавання".*

**Хочаш выжыць - працуй!**

*Яго Правялебнасці*
*Найправялебнейшаму*
*Уладыку Макарыю*
*Старшыні*
*Ніжагародскага аддзялення*
*Ўсерасійскага Таварыства*
*апекі пра бежанцаў.*
*Настаўніка-бежанца, які пражывае*
*пры Пячэрскім манастыры,*
*Лаўрэнція Новіка*

***Прашэнне.***

*У верасні месяцы гэтага 1916 года мяне з маёй сям'ёй у ліку пяці чалавек пазбавілі бежанскага пайка. Працаздольных у маёй сям'і, акрамя мяне, не маецца: бо маці мая мае 63 гады, сын 11 гадоў вучыцца ў Ніжагародскай духоўнай вучэльні на свае сродкі, дачка 7 гадоў таксама ходзіць у школу, а жонка з-за хваравітага стану зарабляць не можа. Жалаванне ж я атрымліваю ўсяго 65 руб. у месяц. Утрымоўваць сям'ю на атрымоўваныя мною сродкі пры сучаснай дарагоўлі і навучаць сына ў духоўнай вучэльні няма магчымасці і становішча маё вельмі цяжкае. З улікам выкладзенага і паводле наступнага цыркуляра МУС пра новы парадак выдачы пайкоў бежанцам і пастановы Камітэта пра бежанцаў, пакорна прашу Вашу Правялебнасць, ці не знойдзеце магчымым па Вашым найміласцевым меркаванні забяспечыць маё цяжкае становішча - непрацаздольных чальцоў маёй сям'і залічыць на бежанскі паёк.*

*Пры гэтым прыкладаецца пасведчанне пра хваробу маёй жонкі і пасведчанне Даглядчыка Ніжагародскай Духоўнай Вучэльні.*

*Пакорна прашу не пакінуць маёй просьбы без увагі.*

*Просьбіт Лаўрэнці Новік.*
*23 лістапада 1916 года.*

P.S. Мелі права пазбавіць пайка ўсю сям'ю, бо заробак галавы сям'і большы за 50 рублёў.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі Адмысловая нарада, якая існавала ўжо пры Часовым урадзе, пастановай ад 6 траўня 1917 г. зрабіла спробу чуць-чуць змякчыць цяжкае становішча перасеrange людзей: харчовы паёк павялічваўся да 7,5 руб., кватэрны да 3 рублёў.

Але, магчыма, самай галоўнай праблемай была страта сацыяльнага статусу. Бо да высялення большасць сялян і рамеснікаў была ўласнікамі. У Заходніх губернях сяляне мелі зямлю ў асабістай уласнасці, яны былі вальней за рускіх сялян. Выправаджаныя са сваёй тэрыторыі, аказаўшыся без зямлі, сваёй гаспадаркі, яны сталі нізкааплатнымі наёмнымі работнікамі, апынуліся на сацыяльным дне.

**Авось якое становішча бежанцаў у Томскай губерні.**

Ужо ў верасні 1915 г. там налічвалася 4936 бежанцаў з Гарадзенскай губерні, і толькі 316 - з Віцебскай, 291 - з Менскай, 2 - з Магілёўскай. У буйных паселішчах Томскай губерні арганізоўваліся мясцовыя камітэты па прыёме бежанцаў і пункты іх рэгістрацыі. Перад камітэтамі хутка ўстала праблема раўнамернага размеркавання бежанцаў па тэрыторыі губерні, паколькі іх абсалютная большасць "захрасае" ў Томску і Новамікалаеўску (Навасібірску, *рэд.*), дзе далёка не ўсе мелі магчымасць атрымаць неабходную дапамогу. Наогул жа, да канца верасня 1915 года праз Новамікалаеўскі рэгістрацыйны пункт праехала больш за сорак тысяч бежанцаў, а да канца кастрычніка гэты лік узрос да шасцідзесяці дзвюх тысяч. Праз Новамікалаеўск бежанцаў перапраўлялі далей ва Усходнюю Сібір, на Далёкі Усход і ў Сярэднюю Азію.

Дадатковай складанасцю ў размеркаванні гэтага кантынгенту па розных населеных пунктах было патрабаванне адпраўляць сялян у вёскі, гараджан - у гарады, каб забяспечыць новапрыбыўшых людзей працай, якая была ім ужо добра знаёмая.

Сур'ёзнай праблемай для Новамікалаеўскага камітэта стала аказанне перасяленцам медыцынскай дапамогі. У горадзе і да вайны не хапала ні месцаў у шпіталях, ні лекараў. У выніку камітэт быў вымушаны размяшчаць цяжка хворых людзей на прыватных кватэрах без медыцынскага нагляду. Сітуацыя пагражала эпідэміяй. Яшчэ адной сур'ёзнай праблемай стаў недахоп паліва для баракаў і прыватных кватэр, дзе жылі бежанцы.

У лютым 1916 года ў Новамікалаеўску адкрылася пякарня, дзе пяклі хлеб для бясплатных раздач перасяленцам. Аднак усе гэтыя меры не былі дастатковымі для вырашэння праблем бежанцаў, якія масава галадалі, хварэлі і гінулі перш за ўсё дзеці, што было звязана з эпідэміяй тыфу і халеры, і гэта выклікала страх заражэння мясцовага насельніцтва.

Калі пачалася Грамадзянская вайна, плыні бежанцаў ўзраслі, цяпер сюды сцякаліся праціўнікі бальшавікоў з губерняў, якія знаходзіліся пад іх кантролем.

У верасні 1918 года, выдадзеная ў горадзе антыбальшавіцкая газета "Народная Сібір", акцэнтуючы ўвагу на праблеме бежанцаў, апублікавала душашчыпальны верш пра маленькую дзяўчынку, якую падабралі на вуліцы:

*Красные, голые ручки от холода,*
*Ноженьки в рваных больших башмаках,*
*Личико бледно, худое от голода,*
*Слезы на глазках и кукла в руках.*

*Греет едва ли ребенка владелица*
*Детских наследий и куклы, и слез*
*Рубище ветхое, скрывшее тельце,*
*Как только Бог от могилы унес…*

Дадзены вобраз, несумненна, напісаны з натуры. Але ў ідэалагічных адносінахгэты верш, як і іншыя публікацыі газеты, служылі дыскрэдытацыяй бальшавікоў, якія ўскосна абвінавачваліся ў сацыяльных наступствах вайны.

Ужо ў верасні 1915 г. метрычныя кнігі цэркваў

пачалі фіксаваць шматлікія выпадкі смерцяў беханцаў, большасць з якіх былі выхадцамі з Гарадзенскай губерні. Толькі ў парафіі Васкрасенскай царквы ў перыяд з пачатку верасня да канца снежня 1915 года былі адпетымі больш за трыццаць беханцаў, якія памерлі ад інфекцыйных захворванняў. Сітуацыя заставалася цяжкай і ў наступным 1916 годзе. Найбольш уразлівымі сярод беханцаў былі дзеці, якія часцей за ўсё гінулі ад адзёру і шкарлятыны. Так сям'я Кажалаў з Гарадзенскай губерні страціла за месяц адразу дваіх малагадовых сыноў, якія памерлі ад адзёру. Гісторыя гэтай сям'і беханцаў асабліва драматычная, бо раней памёр і яе галава - Сямён Рыгоравіч Кажала. Асабліва цяжка даводзілася цяжарным жанчынам і пажылым людзям. З метрычных крыніц вядома пра смерць у Новамікалаеўску пры родах беханкі Праскоўі Максімаўны Свісток.




Існавалі таксама складанасці ў арганізацыі пахавання беханцаў. Паказальна тое, што далёка не заўсёды метрычныя кнігі фіксуюць даты смерці беханцаў. Відавочна і тое, што многіх хавалі не на трэці дзень пасля скону, як гэта прынята па праваслаўнай традыцыі, а спехам, на наступны дзень, а, мажліва, праз тыдзень і больш. У метрычнай кнізе 1916 г., складзенай святарамі Данілаўскай царквы, якая знаходзілася побач з вакзалам, маецца больш за шэсцьдзесят запісаў пра смерць беханцаў. Гэтыя людзі загінулі пераважна ў кастрычніку-лістападзе 1915 г., а запісы адносяцца да студзеня-лютага 1916 года. Магчыма, іх пахавалі ў брацкіх магілах, а адпелі завочна толькі праз два-тры месяцы. Верагодны і іншы варыянт: трупы людзей, якіх не мелі магчымасці пахаваць сваякі, маглі ўсю зіму праляжаць у ледніках. Па ўсёй бачнасці, пахаванне арганізавала служба санітарнага нагляду. Ёсць звесткі што памерлымі беханцамі з Гарадзенскай губерні былі: Сцяпан Іванавіч Казячы шасцідзесяці гадоў, Іосіф Ігнатавіч Лукашэвіч трыццаці чатырох гадоў, Варвара Іванаўна Васкойчава 47 год і многія, многія іншыя...

Успенскія (Новыя) гарадскія могілкі, дзе былі пахаваныя парэшткі перасяленцаў, знішчылі яшчэ ў савецкі час, таму дакладнае месца пахаванняў гарадзенскіх беханцаў ўстанавіць немагчыма.

Сёння нельга дакладна падлічыць, колькі беханцаў з Беларусі загінулі ў глыбіні Сібіры, і памяць пра іх практычна сцерлася.

З іншага боку, для многіх беханцаў з Беларусі Сібір стала другой Радзімай.

*"Гэтыя плыні пастунова набіралі сілу і садзейнічалі з'яўленню ў розных аддаленых месцах Расіі цэлых беларускіх сялянскіх паселішчаў - сёлаў, вёсак, хутароў, часта названых па мясцовасці, адкуль прыбылі пасяленцы. Усе яны захоўвалі цесную сувязь з радзімай і, што цікава для нас, вельмі доўгі час з'яўляліся для сваих землякоў у Беларусі інфарматарамі пра жыццё ў Расіі і пра рускіх."*

Пісьмовыя крыніцы дазваляюць прасачыць на працягу некалькіх наступных гадоў лёс сем'яў некаторых беларускіх беханцаў, якія аселі ў Томскай губерні. Да прыкладу, у самай блізкай да горада вёсцы Усць-Іня абасналіся гарадзенскія сем'і Мазуркевіч, Кулак і іншыя, якія займаліся аж да далучэння вёскі да горада ў 1928 г. земляробствам.

Гэта іфармацыя для тых, хто зацікавіцца і паспрабуе знайсці ў архівах звесткі пра сваіх родзічаў. Тут можна знайсці копіі архіўных дакументаў - прашэнні і скаргі беханцаў, якія адлюстроўваюць іхняе сапраўднае становішча.

**Распавядае Ражнова (Каханоўская) Ядвіга Міхайлаўна:**

"Добра памятаю аповед маёй маці Соф"і пра выселкі ў Расею.

*Потым пагрузіліся ў вагоны, цесната, брудната, мерзлі... Ехалі доўга і цяжка. На прыпынках выносілі маму на свежае паветра, шукалі ваду... Спачатку затрымаліся ў Самары, потым перавезлі ва Узбекістан, а адтуль - у Омскую губерню. Жылі ў некага, бацькі працавалі, насельніцтва адносілася добра са спачуваннем... За сялом - тайга: там многа грыбоў, ягад, нават чаромуха салодкая, якую дабаўлялі ў пірагі. Яда ў мясцовых у асноўным мучная, хлеб пяклі амаль кожны дзень, бульба на стале была рэдка. Здзіўляла: бульбу садзілі дзесьці далёка на выкарчоўках. Пасадзяць - і ніякага догляду. Восенню, калі накапаюць 2-3 мяхі, дык вялікая радасць.*

*Капусту на зіму квасілі ў бочках, разрэзаўшы на 4-ы часткі. Калі ж мы крышылі дробна па-беларуску, мясцовыя кабеты прыходзілі, дзівіліся, пераймалі...*

*...Цыбулі яны саджалі многа. Пер'е яшчэ зялёным зразалі, секлі, салілі ў кубельцах. Зімой елі з хлебам і запівалі чаем.*

*Жывёлу выганялі на пашу са званочкамі на шыі, без пастухоў. Вечарам сама прыходзіла на падворак. Хлявоў, як у нас, не было - нейкія паднавесы. Я добра і спрытна рабіла пруткамі для сваіх і сяму-таму вясковым за невялікія грошы. Мяне так і звалі "Соня-кружаўніца". Мясцовыя жылі заможна, мы таксама*

*мелі ўсялякай яды ўдастатак. Бацькі разважалі і думалі застацца на абжытым месцы, але я (Соня) нагнула вяртацца дахаты...”*

**А вось успаміны сялянкі з вёскі Залукі, што на Беласточчыне, М. Лісоўскай 1901 нараджэння:**

*“З Залук у бежанцтва падаліся ўсе. Наша сям'я абрала Самарскую губерню. Разам з намі паехала яшчэ пяць сем'яў. На месяца дабраліся аж на Пакровы. Высадзілі нас за Волгай, у сяле Кінель-Чаркасы. Па нас прыехалі сяляне на падводах. Адразу ж мы атрымалі жыллё. Жылі мы ў асобнай хаце, бо ў гаспадара, што нас прыняў, былі аж дзве хаты. Знайшлася і праца. Хто хацеў, ішоў працаваць у гаспадара.*

*Ах, якія там людзі былі добрыя! Такіх людзей, як рускія, дык і ўспамінаць прыемна. Як жа яны нас шкадавалі, як перажывалі з-за нашага гора: "А пакутны вы народ, а бежанцы вы няшчасныя!" паўтаралі яны ўвесь час. Ведаеце, як толькі мы ўвайшлі ў сяло, да нас падбеглі жанчыны з плачам. Адна маладзіца зняла з сябе дарагую хустку і накінула мне на плечы. Людзі пананосілі нам усяго, што толькі трэба для жыцця.*

*Багата там людзі жылі. Гаспадаркі яны мелі добрыя, зямля сама, без угнаенняў, радзіла. Там нават не жыта сеялі, а пшаніцу. Тры разы ў тыдзень пяклі пшанічныя булкі. Варылі ўвесь час рускі чай у самавары і пілі яго "ў прыкуску" - цукар асобна ў рот адкусвалі, гарбаткай горкай запівалі. Хто б у хату не ўвайшоў, таго заўсёды запрашалі: "Садзіцеся да нас гарбаткі папіць". Гарэлкі яны не пілі. Нідзе так не было, як зараз стала. Тады п'яных ніхто не бачыў. Тамтэйшыя людзі мелі багатыя гаспадаркі, а курэй і не злічыць. У кожнага гаспадара было збожжа ў запасе. Захоўвалі яго ў высокіх свіранах, бо зімою снег засыпаў усе платы і нізкія будынкі... У сяле былі 3 царквы, кірмаш, пажарнае дэпо, школа. Два мае браты хадзілі ў школу. Да старэйшага рускія прыходзілі па дапамогу ў навучанні. Кірмаш у нашым сяле быў вядомы на ўсю акругу. Купцы да нас прыязджалі аж за сорак кіламетраў. А ў нас было за што купіць, бо гаспадар за працу плаціў, а ежу даваў дарма. У сяле людзі паважалі рэлігію, народ быў вельмі набожны, царкоўны. Там, як ішлі да споведзі, то рыхтавацца трэба было пачынаць з серады. У пятніцу спавядаліся, у суботу прычасце. У нядзелю таксама трэба было быць у царкве...*

*Па-руску гаварыць мы не ўмелі. У нас у Залуках перад бежанцтвам вітаючыся казалі: "Нех бэндзе пахвалёны", а там у кожны час інакш віталіся. Але руская мова - не нямецкая, хутка мы ёй навучыліся. Нават, калі прыехалі на радзіму, то цяжка было прывыкаць да польскай мовы. Паміж сабой мы гаварылі па-нашаму".*

***Запіс беластоцкай журналісткі газеты "Ніва" Г. Кандрацюк, 1994 г.***

Праўда, так было не з усімі ... Як пісаў у сваёй рукапіснай аўтабіяграфіі Ціхан Трахімюк, які нарадзіўся ў вёсцы Клейнікі Гарадзенскай губерні ў 1899 г., яго, выпускніка мясцовага двухкласнага вучылішча, пасля пачатку вайны лёс закінуў разам з бацькамі ў стэпавае Заволжжа:

*"Працаваў я ў гаспадара два гады. Улетку на полі, а ўзімку ў стайні, не было ў мяне і аднаго вольнага дня. У святы моладзь выходзіла на вуліцу, грае гармонік, спяваюць вясёлыя песні, а мне з узыходам сонца выводзіць на рэчку коней, і я іх там пасу цэлы дзень. Узімку збіраюцца ў хатах і таксама гуляюць, танчаць, а я працую ў стайні. Моладзь там вельмі вясёлая. Яны і мяне запрашаюць, і мне хочацца пагуляць з імі, мне ўжо 18 гадоў. Гаспадар мой быў гадоў пад пяцьдзесят, здаровы, але быў суровы і нервовы. Часта прыходзіў узімку ў стайню і чапляўся да мяне: "Не бачу парадку, коні дрэнна вычышчаны". Два разы пабіў мяне нагайкай...".*

***Запіс А. Вярбіцкага, 2000 г.***

Зрэшты, такія выпадкі былі хутчэй рэдкім выключэннем.

Лютаўская рэвалюцыя істотна змяніла сітуацыю ў бежанскай справе: з аднаго боку, была паступова ліквідавана старая сістэма апекі аб бежанцах, з другога боку, бежанцы рабілі спробы самаарганізацыі па-за афіцыйных структур, пачалася іх актыўная "саветызацыя". Былі праведзены бежанскія з'езды нацыянальных групаў і агульнарасійскія з'езды.

А ўжо з вясны 1917 г. пачаліся працяглыя затрымкі высылкі сродкаў на выдачу пайкоў у паветах. Вось прыклад хадайніцтва ніжагародскаму губернскаму камісару ад 24 снежня 1917 года: *"Паўлаўскі ўчастковы*


ПАВЛОВСКІЙ
Участковой Комитетъ

№ 253

Нижегородскому Губернскому Комиссару

Председатель Комитета

*Камітэт па ўладкаванні бежанцаў мае гонар пакорна прасіць Вас зрабіць неадкладнае распараджэнне аб высылцы грошай бежанцам за тры месяцы - кастрычнік, лістапад, снежань у колькасці 14000 руб. Бежанцы знаходзяцца ў гаротным становішчы".*

Але і ў пачатку студзеня 1918 года крэдыт так і не быў адпушчаны! Такім чынам, можна сказаць, што на працягу 1915 - 1917 гг. памер дзяржаўнай дапамогі амаль не змяніўся, не гледзячы на імклівы рост цэнаў. З ліпеня 1914 г. па студзень 1917 цэны на асноўныя тавары падняліся ў 4 - 5 разоў, але ўжо ў другой палове 1917 па адносінах да пачатку 1914 індэкс таварных цэн вырас у 11,7 раза.

Пасля Другога Усерасійскага з'езду бежанцаў 19-27 лістапада 1917 г. пачалі выбірацца гарадскія і павятовыя бежанскія саветы, якія павінны былі займацца ўсімі мясцовымі справамі бежанцаў.

**З успамінаў бацькі, Кудлы Івана:**

*“Бацькі абмяркоўвалі магчымасць тут прыжыцца і застацца надалей.*

*У Расіі грукнула Лютаўская рэвалюцыя. Адносіны да перасяленцаў пагоршыліся і ад новай ўлады, і ад мясцовых: увялі падаткі, забіралі ўсё - і жыўнасць, і збожжа. Былі выпадкі нападу, разбою. Прыйшлося ўцякаць…*

*Бацькі з сумам пакідалі ўжо абжытае седлішча. Падаліся ў Серпухаў. Там былі мая бабуля Аляксандра Андрэеўна, цёця Соф'я Ісідараўна і сястра Вольга. Бабуля была пры хаце, рыхтавала яду, падрабляла прыбіральшчыцай у канторы, хварэла, а ў 1918 годзе памерла, і там каля Серпухава дзесці пакоіцца яе прах. Цёця Соня працавала настаўніцай. Сястра Вольга навучалася ў Навінкаўскай царкоўна-прыходскай школе і ў чэрвені 1917 закончыла яе, аб чым маецца пасведчанне аб заканчэнні школы”.*

Вясковыя жыхары пакінулі нямала ўспамінаў пра вучобу ў народных школах. Вось як апісвае такія школы ў сваіх нататках Нестар Пярэві (1887-1971), адзін з дзеячаў Беларускай народнай грамады ў Маскве, куды ён трапіў як бежанец: *"Вучыліся па чарзе ў хатах, дзе былі вучань або вучаніца. Не было тады ніякага прымусу да вучобы. Вучыліся пераважна хлопчыкі, а гэта таму, што лепш было ў арміі тым салдатам, якія хоць трохі былі пісьменныя ... Кніжкі былі толькі рускія. Буквары, азбукі, часам які-небудзь задачнік ... На сцяне развешаныя карты свету і асобная вялікая карта Расеі ".*


Свидѣтельство.

Серпуховское Уѣздное Отдѣленіе Московскаго Епархіальнаго Училищнаго Совѣта симъ удостовѣряетъ, что ученица ... вѣроисповѣданія Православнаго, родившаяся 1904 года, успѣшно окончила курсъ ученія въ Новинковской церковно-приходской школѣ.

Г. Серпуховъ. 1917 г. ... дня.

Предсѣдатель Отдѣленія

Члены

Дѣлопроизводитель

*Пасведчанне аб заканчэнні школы Вольгі Кудлы*

А вось як сялянскі пісьменнік-бежанец М. Красоўскі, па мянушцы Дзядзька Квас (1904-1985), даволі падрабязна апавядае аб школе:

*"На ўроку я даведаўся, што Гарадзенская губерня ..., дзе знаходзіцца наша вёска, заселеная, акрамя літоўцаў і габрэяў, беларусамі - рускім племем, мова якога адрозніваецца ад чыста рускай прымешкай польскіх слоў. Беларусамі яны называюцца таму, што маюць у большасці бел-русыя валасы і ўсе носяць белае адзенне, пачынаючы ад кашулі і канчаючы світкай.*

*Тады і ў нашай акрузе адзенне ва ўсіх сялян было белае. І тут мяне ахінула здагадка: а мы простыя людзі ці не з'яўляемся гэтымі самымі беларусамі? Хто ж растлумачыць мне гэта?*

*І я вырашыў звярнуцца да свайго бацькі. Мой бацька, маючы зусім мала зямлі і вялікую сям'ю, увесь час круціўся на заробках. Бывала, што і па некалькі тыдняў не начаваў дома. А як прыходзіў дадому, то спяшаўся як мага хутчэй зрабіць запушчаную працу па гаспадарцы. Ніколі не меў часу заняцца дзецьмі, усё ўрыўкамі абменьваўся з намі парамі слоў. Я, тым не менш, падпільнаваў яго ў свабодны момант:*

*- Тату, а мы, людзі простыя, не з'яўляемся часам беларусамі?*

*- Ясна - беларусамі, - кажа бацька. - І наша мова, яе завуць простай, і ёсць беларуская. Вось я служыў у салдатах аж у Магілёўскай губерні, то і там усе кажуць на гэтай жа простай мове, як і мы.*

*- А чаму нас, беларусаў, вучаць на рускай, а не на сваёй роднай мове?*

*- А гэта таму, што рускі цар-гасудар валодае намі.*

*- А ў беларусаў быў калі-небудзь свой цар беларускі, з беларусаў - беларус?*

*- Вось гэтага, сынок, я нідзе ні ад кога не чуў, каб цар быў беларускі ў беларусаў. Мне думаецца, што ў беларусаў не можа быць цара, бо наш беларускі народ ўвесь сялянскі. Бедны ён і цёмны, і невучоны... Цары ж і каралі заўсёды адбываюцца з багацеяў. Натурай наш брат-беларус не падыходзіць для гэтай вакансіі. Празмерна ён справядлівы, мяккасардэчны. А цар - тым ён і цар, што сэрца ў яго цвёрдае, як камень. Натура ў яго жорсткая, не спагадная на боль і слёзы людскія ...".*

А вось і паэтычнае настаўленне аднаго з беларускіх народных настаўнікаў таго часу Канстанціна Міцкевіча, будучага літаратурнага класіка Якуба Коласа, адрасаванае ім сялянскім дзецям. Ён улажыў яго ў вусны аднаго з бацькоў такіх дзяцей:

*Ну, Ігнат, глядзі, брат,*
*Не дурэй, вучыся!*
*Годзі жыць бяз дзела -*
*За буквар вазьміся.*
*Будзь старанным, сынку,*
*Станеш чалавекам,*
*Будзеш ты чытаць нам -*
*Цёмным няумекам.*
*Што там ў кнігах пішуць,*
*Што мы ў свеце значым,*
*Бо мы самі цёмны,*
*Света мы не ўбачым.*
*Гаварыць там будзе*
*Пра навуку, кнігі*
*І аб цёмным людзе.*
*А старанным будзеш,*
*Да навукі здатны,*
*Я прадам кароўку*
*І кажух астатні:*
*- Далей йдзі ў навуку,*
*Толькі, брат, вучыся.*
*... Дык глядзі, сыночак,*
*Шчыранька вазьміся!*
*На гульню пустую*
*Плюнь, махні рукою,*
*Каб і я, і маці*
*Цешылісь табою."*

**З успамінаў бацькі, Кудлы Івана:**

*"Жылі мы на ўскраіне Серпухава. Займалі палову дома. Помню яры, кусты, рэчку, дзе праводзілі вольны час… Я хадзіў у школу, пасябраваў з суседскімі хлопцамі па прозвішчы Жукавы. Тата ўладкаваўся працаць на сітца-набіўную фабрыку, былое таварыства Н.Н. Коншына, мама - у нейкага начальніка прыслугай. Заробкі былі малыя, у горадзе - мітынгі, беспрацоўе, усе часцей даходзілі чуткі пра Беларусь. Там усталявалася Народная Рэспубліка. Заканчвалася*



Т-во М-ръ Н.Н. Коншина въ Серпуховѣ

Ситце-набивная фабрика

Февраля 7-го дня 1919 г.

№ 75

Удостовѣреніе

Настоящимъ удостовѣряемъ, что Иванъ Егоровъ Кудло работалъ на Ситце-Набивной фабрикѣ Тов. М-ръ Н.Н. Коншина въ Серпуховѣ съ 21-го Апрѣля 1917 г. непрерывно по 7-е Февраля 1919 г. и уволился по своему желанію.

**Пасведчанне работніка сітца-набіўной фабрыкі**

*вайна. Бацька сустракаўся з такімі ж бежанцамі з Беларусі. Шмат гутарылі, шмат сеймікаваліся (раіліся, аўт. В.К.) - трэба вяртацца на радзіму…*

*З фабрыкі тата звольніўся 7 лютага 1919 года, адпрацаваўшы беспярапынна 2 гады з 21 красавіка 1917 г. Грошай на разлік не хапала: частку далі грашыма, часту сваёй прадукцыяй (палатном). Прышоў бацька і кажа: "Ну вось і усё - збірайце манаткі і шыбуем да хаткі".*

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

***Леанід Лаўрэш***

# Лідчына ў люстэрку прэсы, 1930-1935 гг.



## 1. Грамадскае жыццё.

### Палітычныя падзеі ў Польшчы

Вынікі выбараў 1928 г. не задаволілі прыхільнікаў Пілсудскага. "Беспартыйны блок працы разам з урадам" імкнуўся абмежаваць ролю парламента ў справах дзяржаўнай важнасці, паступова звужаў яго ўплыў як на ўрад, так і наогул у дзяржаве. Пачаўся перыяд так званага кіравання палкоўнікаў. У адказ на антыдэмакратычныя дзеянні ўладаў левацэнтрысцкія партыі - ад "Пясту" да ППС - утварылі так званы Цэнтралеў і распрацавалі сумесны план барацьбы з лагерам санацыі. Па краіне пракаціліся мітынгі і вулічныя дэманстрацыі пад лозунгамі абароны дэмакратыі. Адначасова актывізавалася моладзь нацыяналістычнай арыентацыі, для якой цэнтрам прыцягнення стала заснаваная ў 1926 г. Раманам Дмоўскім пазапарламенцкая арганізацыя "Лагер Вялікай Польшчы" (Oboz Wielkiej Polski, ЛВП).

Дзеянні апазіцыі ў парламенце прывялі да роспуску Сойма і Сената. Пасля чарговай масавай дэманстрацыі Централева ў Кракаве ў верасні 1930 г. улады вырашылі арыштаваць лідараў парламенцкай апазіцыі, якія да таго часу ўжо не былі абароненыя дэпутацкім імунітэтам. Былі затрыманы і звязаныя з Цэнтралевам палітыкі, дэпутаты ад нацыянальнай дэмакратыі і нацыянальных меншасцяў. Іх адправілі ў Берасцейскую цвердзь, дзе ўмовы ўтрымання былі вельмі цяжкімі. А тым часам адбыліся наступныя выбары, названыя ў сувязі з арыштамі "берасцейскімі", і якія дзякуючы шматлікім злоўжыванням кіраўнічага лагера, выйграў "Беспартыйны блок працы разам з урадам". Неўзабаве пачаўся суд над зняволенымі ў Берасцейскай цвердзі палітыкамі. За ходам працэсу ўважліва сачылі апазіцыйная прэса і значная частка грамадскасці. Абвінавачаныя былі прысуджаны да турэмнага зняволення на тэрмін ад 1,5 да 3 гадоў. У выніку, адна частка асуджаных абрала турму, а другая частка эмігравала.

Не гледзячы на жорсткую расправу як з парламенцкай, так і з пазапарламенцкай апазіцыяй (у 1933 г. ЛВП быў забаронены), рэжым санацыі карыстаўся даволі шырокай падтрымкай грамадства - відочным быў патрыятызм і бескарыслівасць маршала Пілсудскага, шмат хто ўхваляў узрослую ролю цэнтральнай улады ў палітычным жыцці краіны. Дзякуючы масавай прэсе неаслабнай папулярнасцю карысталіся некаторыя прадстаўнікі лагера санацыі, у тым ліку з вышэйшага кіраўнічага складу Войска Польскага. На добрую ацэнку дзейнасці ўрада ўплываў таксама някепскі эканамічны стан у краіне. Збоі ў эканоміцы пачаліся толькі на пачатку трыццатых гадоў у сувязі з сусветным крызісам, які пайшоў са Злучаных Штатаў у 1929 г. У Польшчы існавала незалежная судовая ўлада, і з большага існавала свабода друку, свабода аб'яднанняў у палітычныя партыі і асацыяцыі. У параўнанні з палітычным становішчам у суседніх дзяржавах (за выключэннем Чэхаславакіі, дзе сістэма парламенцкай дэмакратыі функцыянавала ўвесь час), санацыйны рэжым у Польшчы быў значна мякчэйшым.

На пачатку 1933 г. паведамлялася: *"Змена ўрада ў Нямеччыне і ў Францыі. ... у панядзелак 30 студзеня г.г. у Нямеччыне ўтварыўся новы ўрад на чале з Гітлерам ..."* [1].

У 1934 г. кіраўнічыя колы пачалі дамагацца зменаў у канстытуцыю. Новы асноўны закон павінен быў згуртаваць шэрагі прыхільнікаў Пілсудскага, якія разумелі, што маршал з-за цяжкай хваробы сыходзіць з палітычнай арэны. Санацыйныя колы вырашылі дзейнічаць і правялі новую канстытуцыю, тэкст якой прэзідэнт Масціцкі падпісаў 23 красавіка 1935 г.

Красавіцкая канстытуцыя абвяшчала ідэю вяршэнства дзяржавы, а не народа, як было запісана ў папярэдняй, сакавіцкай канстытуцыі. Вышэйшай уладай быў надзелены прэзідэнт, адказны толькі "перад Богам і нацыяй". Прэзідэнта шляхам усеагульнага галасавання абіралі на 7-гадовы тэрмін з ліку ўсяго толькі двух кандыдатаў, якіх фактычна высоўваў кіраўнічы лагер. Прэзідэнту былі нададзены важныя паўнамоцтвы: ён прызначаў і адклікаў прэм'ер-міністра і міністраў, склікаў і распускаў абедзве палаты парламента, усталёўваў тэрміны сесій, прызначаў старшыню Вышэйшай кантрольнай палаты - установы, пакліканай кантраляваць працу выканаўчай улады. Быў вярхоўным галоўнакамандуючым Узброеных сілаў і меў права прызначаць свайго пераемніка ў выпадку вайны. Сойм абіраўся шляхам усеагульнага галасавання. У Сенат 2/3 складу праходзіла шляхам выбараў, а 1/3 прызначалася прэзідэнтам. Па новай канстытуцыі роля Сената павялічылася.

Галоўнай прэрагатывай Сойма стала прыняцце законаў, у тым ліку закона пра бюджэт, а таксама кантроль за эканомікай краіны. Красавіцкая канстытуцыя абмежавала сферу грамадзянскіх правоў. І ў самой канстытуцыі і ў прапагандысцкай кампаніі ў прэсе, якая спадарожнічала прыняццю канстытуцыі, падкрэслівалася значэнне абавязкаў грамадзян у адносінах да дзяржавы як да агульнага здабытку. Тым самым кіраўнічы лагер хацеў, каб у свядомасці грамадзян дзяржава стала найвышэйшай каштоўнасцю. Такім чынам улады імкнуліся прывязаць да Другой Рэчы Паспалітай і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў, якім цяжка было знайсці сваё месца ў нацыянальнай традыцыі палякаў і згуртавацца вакол ідэі дзяржавы.

Праз некалькі тыдняў пасля прыняцця канстытуцыі, 12 траўня 1935 г., Юзаф Пілсудскі памёр: *"Таінства прычашчэння паміраючы прыняў з рук кс. Уладыслава Карніловіча. Хвароба Маршала развівалася ўжо нейкі час. Прыбыўшы з Вены самалётам праф. Вэнкебах і др. Антон Стэфаноўскі прызналі рак страўніка і печані. Раптоўнае пагаршэнне наступіла 11 траўня. Моцны крывацёк у страўніку выклікаў спярша аслабленне дзейнасьці сэрца, а пасля і смерць. ... Яшчэ некалькі гадоў таму Маршал Пілсудскі выказаў сваім блізкім апошнюю волю на выпадак смерці. Згодна з ёю мозг ... павінен быць адданы вучоным для даследвання, сэрца - гораду, з якім найбольш быў звязаны пры жыцці, г.зн. Вільні, і пахавана ў магіле яго маці, а цела - перавезена ў Кракаў і пахавана ў Вавелі"* [2].

Уладзіслаў Нарушэвіч у сваіх мемуарах пераказаў лідскую гарадскую легенду, якая нарадзілася пасля смерці Пілсудскага - быццам з-за скрухі, выкліканай ягонай смерцю, дзве лідскія вучаніцы кінуліся пад цягнік на станцыі Ліда і загінулі[3]. Але прэса 1935 г. пісала пра іншае: *"Трагічны выпадак здарыўся ўчора на станцыі Гаўя, дзе загінулі дзве 16-гадовыя вучаніцы. Калі цягнік Маладзечна-Ліда набліжаўся да станцыі Гаўя, пад колы паравоза, трымаючыся за рукі, кінуліся дзве дзяўчыны. Калі машыніст спыніў цягнік, парэшткі дзяўчат дасталі з-пад колаў. На месца прыбыла следча-лекарская камісія. У выніку дазнання стала вядома, што самазабойцамі былі Зоф'я Растоўская і Ірэна Паплаўская, вучаніцы Гандлёвай школы ў Лідзе. Прычына самазабойства - праблемы ў школе і небяспека застацца на другі год у тым жа класе"* [4]. "Проза" жыцця замест патрыятычнага адчаю.

Жалобная цырымонія праходзіла ў Варшаве, потым труна з целам маршала была дастаўлена адмысловым цягнікам у Кракаў і ўстаноўлена там побач з магільнымі склепамі польскіх каралёў у саборы на Вавелі. Сэрца маршала было пахавана на Віленскіх могілках Росы ў магіле яго маці ў адмысловым сасудзе, зробленым на гуце шкла "Нёман" пад Лідай. Вечарам 31 траўня 1936 г. цягнік, які вёз сэрца маршала ў Вільню, спыніўся каля Лідскага вакзала. Аркестр іграў жалобны марш Шапэна, пашыхтаваныя войскі Лідскага гарнізона тры разы салютавалі ў паветра, званілі званы ўсіх касцёлаў, на вакзале сабраўся вялікі натоўп лідзян[5].

Смерць Пілсудскага выклікала шырокі водгук за мяжой. Ліга нацый на адмысловым паседжанні ўшанавала памяць Маршала, які ў вачах Еўропы з'яўляўся героем вялікага чыну - пад яго кіраўніцтвам Польшча спыніла бальшавіцкае нашэсце ў 1920 г.

***Міхал Цітkoў*** *(1909-1979), мастак і прамысловы дызайнер гуты Нёман. Сын Івана Ціткова і Францішкі Рокас (Franciszka Rokoss), унучкі Яна Аўгустына Столе.*

*Яго выбар прафесіі быў не выпадковым - па традыцыі ўсе ўладальнікі гуты шкла Нёман займалі пэўныя пасады ў структуры завода, што, натуральным чынам, спрыяла кансалідацыі сямейнага прадпрыемства. Па чыстай выпадковасці Цітkoў не пачаў працаваць на вытворчасці, а патрапіў у аддзел дызайну. Пасля зыходу Сільвестра Васілеўскага, прафесійнага мастака і аўтара першых каталогаў кампаніі, патрэбен быў пераемнік. Цітkoў, які меў выдатныя мастацкія здольнасці, стаў лепшым кандыдатам. Ён добра ведаў тэхнічныя магчымасці гуты і з самавука хутка ператварыўся буйнога спецыяліста, шматграннага дызайнера, чые працы выклікаюць захапленне і зараз.*

*У 1931-34 гг. вучыўся на інжынерным факультэце Віленскага ўніверсітэта.*

*Нёманскія вырабы былі падобныя на чэшскае, французскае і бельгійскае шкло, але было і шмат выдатных мадэляў, якія не мелі аналагаў і з'яўляліся мясцовымі распрацоўкамі дызайнера Ціткова. Да 1939 г. ён лічыўся вядучым дызайнерам шкла ў Польшчы, і*

*сучасныя мастацтвазнаўцы не аспрэчваюць гэта.*

*Становішча гуты "Нёман" і яго ўладальнікаў змянілася ў верасні 1939 г. Тым не менш, выбітны, незаменны галоўны тэхнолаг гуты Герман Шаль заставаўся на сваёй пасадзе на працягу яшчэ многіх гадоў, а Міхал Ціткоў працягваў працаваць дызайнерам. Яго апошнім праектам была вялікая ваза падрыхтавацца да выставы ў Менску ў 1940 г. Хутка пасля гэтага ён, як "буржуй", быў арыштаваны і, адсядзеўшы некалькі месяцаў у турме, з пачаткам вайны 1941 г. адпушчаны ў армію генерала Андэрса, дзе ваяваў да канца вайны. У 1947 г. праз Англію прыехаў у Польшчу і пасяліўся ў Лодзі. Больш ніколі не вяртаўся да дызайну, але жывапіс заставаўся ягонай жарсцю і хобі.*

**Склад Лідскага павета**

Лідскі павет заставаўся адным з найвялікшых паветаў у Навагрудскім ваяводстве нават пасля выдзялення з яго Шчучынскага павета. Ён меў плошчу ў 4300 км$^2$ і налічваў 185 196 жыхароў. На Лідчыне мелася 240,7 км брукаваных дарог.

На пачатку 1930-х гг. горад Ліда займаў плошчу ў 3 000 га і меў 19 650 жыхароў. Вуліцы горада былі забрукаваны на 70%. У 1932 г. бургамістрам горада быў Юзаф Задурскі, віца-бургамістрам Марак Карчмар, лаўнікамі Вінцэнт Янушэўскі і Мойша Канопка. У склад Гарадской рады ўваходзілі: Гдалія Чарток, Абрам Дагуцкі, Каспер Філіпчык, Абрам Грыншпан, Абрам Ілютовіч, Вінцэнт Якубоўскі, Ян Капялюк, Ян Межва, Міхал Агушэвіч, Мечыслаў Міхнеўскі, Браніслаў Місан, Арон Мяснік, Андрэй Радзевіч, Вацлаў Сток-Стоцкі, Зыгмунт Стасевіч, Міхал Стасевіч, Вольф Сакалоўскі, Ізраіль Стукатар, Браніслаў Шаптуноўскі, Герзан Шмуйлевіч, Антон Вайцешак, Аўсей Вямонцкі[6].

Павет дзяліўся на 14 вясковых гмін і адну гарадскую гміну. Усе лічбы, пададзеныя ніжэй, датычаць 1931 г.

**Лідская гміна.** Займала каля 40 000 га, мела 15 790 чалавек насельніцтва і была падзелена на 25 вясковых грамад, якімі кіравалі солтысы. У 1928-30 гг. былі пабудаваны 60 км дарог і 19 мастоў, раней ужо былі адрамантаваны 35 мастоў. Забрукаваны 66 вёсак. Гміна мела 17 школ.

**Гміна Іўе**. Мела плошчу 24 223 га, на якой жыло 12 799 чалавек у 25 грамадах. На 1932 г. былі забрукаваны 36 вёсак. У 1929 г. Іўе амаль што цалкам згарэла, і таму на пачатку 1930-х гг. ішла адбудова мястэчка, будавалася школа коштам 150 000 злотых.

**Гміна Радунь**. Плошча гміны 35 000 га, насельніцтва 14 500 чалавек у 56 грамадах. Гміна мела 50 км дарог-"жвіровак" і 4 км брукаваных, таксама былі забрукаваны 60 вёсак. У 1928 г. за свой кошт гміна пабудавала 4-х класную драўляную школу ў Радуні.




***Урадоўцы Лідскай гміны, 1931 г. (фота з сямейнага архіву Віталя Бурака)***

**Гміна Эйшышкі.** Абшар гміны - 40 077 га. Насельніцтва 18 979 чалавек у 26 грамадах. Дарогі пачалі будавацца з 1927 г. На 1932 г. мелася 40,3 км адрамантаваных дарог, з якіх 3,5 км - забрукаваны. Таксама былі забрукаваны 39 вёсак, самі Эйшышкі забрукаваны на 85%.

**Гміна Воранава**. Мела плошчу 25485 га і 11 358 чалавек насельніцтва, складалася з 16 грамад. На пачатку 1930-х гг. моцна адставала ад іншых гмін па дарогах, бо мела толькі 5 км дарог-"жвіровак" і 30 забруканых вёсак.

**Гміна Ліпнішкі.** Займала плошчу ў 25 626 га, на якой жылі 13 794 чалавек у 15 грамадах. Гміна пабудавала 5 км брукаваных і 100 км дарог-"жвіровак", забрукавала 62 вёскі.

**Гміна Забалаць.** Абшар гміны 29 562 га, насельніцтва 7 942 чалавека. Гміна падзялялася на 36 грамад. Гміна адрамантавала 58 км грунтавых і забрукавала 3,5 км дарог, таксама былі забрукаваны 30 вёсак і пабудавана цалкам новая дарога цераз балота даўжынёй у 8 км.

**Гміна Ваверка.** Плошча гміны 18 163 га, насельніцтва 8 300 чалавек ў 23 грамадах. Гміна адрамантавала 30 км грунтавых дарог і забрукавала 44 вёскі.

**Гміна Белагруда.** Мела плошчу ў 21 500 га, на якой жылі 8 314 чалавек у 23 вясковых грамадах. Былі адрамантаваны 15 км

грунтавых дарог і забрукаваны 22 вёскі[7].

### Выбары

### *Выбары ў Сойм і Сенат*

1930 год быў на Лідчыне годам суцэльных выбараў.

Як я ўжо пісаў у частцы пра 1923-1929 гг., беларускі спіс № 18 на выбарах 1928 г. быў скасаваны. Таму *"беларусы на нязгоднае з законам рашэнне аб скасаванні спісу № 18 падалі скаргу ў Вышэйшы Суд, які разгледзеўшы гэтую справу 24 г.м. выбары ў Лідскай акрузе скасаваў. З прычыны гэтай страцілі пасольскія мандаты: ... Янка Станкевіч, Ф. Валынец і з ББ* ("Беспартыйны блок працы разам з урадам" - *Л.Л.*) *Акуліч, Б. Камінскі, Я. Шчэрба, Я. Лойка і эндэк Г. Гарневіч"* [8].

Новыя выбары па Лідскай акрузе былі прызначаны на 25 траўня 1930 г.

25 сакавіка адбылося першае паседжанне Акруговай выбарчай камісіі. Узначаліў камісію суддзя Шчасновіч, членамі камісіі сталі камісар Касы хворых у Лідзе Яўген Галембіёўскі (прызначаны ваяводам), Міхал Шымялевіч і Марак Карчмар (абраныя Лідскай Гарадской радай), Міхал Шыманскі і Юзаф Задурскі (абраныя соймікам Лідскага павета)[9].

У выбарах удзельнічалі наступныя выбарчыя спісы (даю каментары аб спісах з газеты беларускай хрысціянскай дэмакратыі "Беларуская Крыніца", рэдактар якой Ян Пазняк сам прысутнічаў у лідскім спісе № 18):

**Нумар 2.** Спіс Польскай партыі сацыялістычнай (ППС). Гэта польская рабочая партыя, *"якая апякуецца польскімі работнікамі і згаджаецца на асадніцтва і на калянізацыю беларускіх зямель. Гэта партыя не прызнае ўласнасьці на зямлю і да беларусаў адносіцца непрыхільна"*.

**Нумар 3.** "Вызваленне". *"Тое самае Вызваленьне, якое на выбарах 1922 г. ашукала нашае сялянства, узяўшы яго галасы, а за гэта прыслаўшы як падарунак асаднікаў"*.

**Нумар 4.** "Бунд". Яўрэйскі спіс. *"Па сваёй праграме падобны на ППС"*.

**Нумар 10.** *"Стронніцтво хлопске. Гэта партыя такая самая, як і Вызваленне. Гэта стронніцтва ведамае з таго, што вельмі моцна стаіць за асадніцтва на нашых землях і за польскую калянізацыю. Яго правадыр Ян Домбскі, слаўны яшчэ з таго, што ў Рызе ў 1921 годзе ... падзяліў Беларусь на дзьве часьці: адну* ***аддаў бальшавікам, а другую забраў пад Польшчу"***.

**Нумар 18.** Блок нацыянальных меншасцяў. Прытрымліваецца *"беларускага незалежніцкага кірунку, не ар'ентуецца ні на Маскву, ні на Варшаву, а на свае сілы"*.

**Нумар 20.** Расійскія арганізацыі *"манархістых, якія жадаюць мецъ цара"*.

**Нумар 25.** Польскія эндэкі. *"Адзначаюцца вялікай ненавісьцю да беларусаў..., за іх стаяць усе польскія ксяндзы, паны і падпанкі"*.

**Нумар 36.** Беларуская сялянская партыя працы. Першай у спісе стаіць *"Стэфка Глебавічанка. Чаму яна назвала свой сьпісак беларускім - згадаць трудна ... Але і на гэтых выбарах дастане столькі галасоў, колькі дастала іх на першых - гэта аж 37 галасоў!"*.

**Нумар 37.** *"Таксама нібы беларускі, сьпісак нейкага Івашкевіча Міхася. І ён выстаўлены, каб разбіваць беларускія галасы"*.

**Нумар 40**. *"Стронніцтво людовэ Одродзэньне. Гэты сьпісак слаўны ... тым, што яго тварэц і галоўны кандыдат Стэфан Міцкевіч ужо блізка як два гады спачывае ў магіле"*.

**Нумар 41.** Спісак эканома Германа Віктара з Маладзечанскага павета. *"Чаго гэты эканом хоча для беларускага народу - мы можам лёгка дагадацца"*.

**Нумар 45**. Спісак Янкі Станкевіча. *".. слаўны спадар Янка Станкевіч, які за верную ... службу патрапіў купіць 600 дзесяцін зямлі*

**Вынік галасаваньня ў дапаўняючых выбарах у Сойм 25.V.1930 г. у Лідзкім вокрузе**

паводле афіцыяльных падлічэньняў выбарнай камісіі.

| | Лідзкім | Шчучынскім | Валожынскім | Маладачанскім | Вялейскім | Ашмянскім | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лічба выбаршчыкаў у пав.: | **84763** | **42039** | **51791** | **38425** | **57669** | **44478** | **319235** |
| Галасавала | **30188** | **16.062** | **10 592** | **10.583** | **12.035** | **18.249** | **97659** |
| На сьпісак: | | | | | | | |
| № 2 (Польска Парт. Социяль.) | 1.966 | 106 | 116 | 371 | 161 | 315 | 3.035 |
| „ 3 (Польска Парт. „Вызваленьне" | 137 | 10 | 156 | 53 | 506 | 4.416 | 5.278 |
| „ 4 (Жыдоўская Партыя „Бунд" | 5 | 1 | 2 | 2 | 5 | 8 | 23 |
| „ 10 (Польскае Стронніцтво хлопскае) | 16.845 | 11.597 | 4 174 | 51 | 268 | 6.527 | 39.462 |
| „ 18 (**Блёк Нацыянальных Меншасьцяў у Польшчы**) | **1 391** | **207** | **100** | **654** | **2 525** | **677** | **5 554** |
| „ 20 (Спісак расейцаў) | 11 | 3 | 1 | 14 | 23 | 2 | 54 |
| „ 25 (польская эндэцыя-хадэцыя) | 7.530 | 1793 | 1 695 | 995 | 1.205 | 4.506 | 17.724 |
| „ 36 (Спіскі без выразнага палітычнага характару) | — | 1 | 1 | — | 4 | 3 | 9 |
| „ 37 (Спіскі без выразнага палітычнага характару) | — | — | 1 | 1 | — | — | 2 |
| „ 40 (Спіскі без выразнага палітычнага характару) | 1 | — | — | 3 | 2 | 3 | 9 |
| „ 43 (Спіскі без выразнага палітычнага характару) | — | 5 | 32 | 85 | 255 | 16 | 393 |
| „ 45 (Блёк Беларускіх сялян і работнікаў Янкі Станкевіча) | 98 | 42 | 414 | 441 | 145 | 125 | 1.265 |
| „ 46 (Беларускі Сял.-Раб. Пас. Клюб „Змаганьне") | 2.204 | 2.297 | 3.850 | 7.913 | 6.936 | 1.651 | 24.851 |

***Табліца вынікаў выбараў у Сойм 25.05.1930 па Лідскай акрузе ("Беларуская Крыніца" № 20, 15 чэрвеня 1930.)***

*(сам ён прызнаецца толькі пра 200)".*

**Нумар 46.** Беларускі Сялянска работніцкі клуб з былым паслом Валынцом на чале. *"Гэты сьпісак прыносе нашаму народу камісарскі прыгон, камуну і зьдзек над рэлігіяй. Сам Валынец слаўны тым, што як толькі бяда - дык уцякае за граніцу, пакідаючы сваіх прыхільнікаў у турмах"* [10].

На абвінавачванні "Беларускай Крыніцы" ў газеце "Наперад" адказаў Ян Станкевіч, ён давёў што ніколі раней у Сойме не галасаваў супраць беларускіх інтарэсаў, а зямлю купіў для беларускіх спраў, пазычыўшы для гэтага грошы ў сваякоў[11]. Праз некалькі нумароў тая ж газета паведаміла, што Станкевіч у час, калі быў паслом у Сойм, *"сваёй працай пазакладаў кнігарні ў Маладзечне, Лідзе і Валожыне і адчыніў беларускую прыватную школу ў в. Понізьзі каля Валожына"* [12].

У сваю чаргу газета "Наперад" пыталася ў прадстаўнікоў спісу №18: *"Цікаўна, што будзе з спіскам блёку нацыянальных меншасцяў, у якім з беларусаў ёсць адныя клерыкалы? Справа ў тым, што там на першым месцы стаіць Адам Більдзюкевіч, якога тыяж асобы, што яго туды выстаўлялі ... ганебна збілі па твары?"* [13].

Яшчэ на пачатку 1930 г. былога лідскага пасла ў Сойм ад Польскай народнай партыі Дуброўніка Акруговы суд у Вільні асудзіў на 6 год "папраўчага дому" за арганізацыю несанкцыянаванага мітынгу і непадпарадкаванне паліцыі[14]. Але, відочна, Дуброўнік не патрапіў ў турму, бо ўзначаліў спіс № 10[15] і 4 траўня правёў перадвыбарчы мітынг у Жырмунах. У той жа дзень ППС правяла ў Лідзе два свае перадвыбарчыя мітынгі (па вуліцах Вызвалення і Віленскай) і аб'явіла пра вялікі мітынг 11 траўня на Рынку[16].

У выніку выбараў спіс № 10 атрымаў 4 мандаты, спіс № 25 - 1, спіс № 46 - 2 мандаты. Спіс № 18 падтрымала толькі 5 546 выбаршчыкаў, і ён не здабыў ніводнага мандата. З 321 253 чалавек, якія мелі права галасаваць, у выбарах прынялі ўдзел толькі 99 109 чалавек, г.зн. каля 30% [17].

Пасламі ў Сойм сталі:

**Дуброўнік Адольф**, 35 гадоў, селянін з Дзітвы Шамятоўскай (Тарноўская гміна).

**Валынец Флягонт**, 51 год, настаўнік з мястэчка Вілейка.

**Мацецкі Нікадзім**, 32 гады, селянін з Ціўнавічаў (гміна Іўе).

**Гарневіч Іпаліт**, 30 гадоў, лекар з Ліды (вул. 17 Красавіка, 5).

**Макарчук Ян**, 30 гадоў, мястэчка Васілішкі.

**Верамей Мікола**, 31 год, інжынер, вёска Кавальцы (гміна Лебедзева Маладзечанскага павета).

**Станулевіч Віктар**, 32 года, селянін-слесар, мястэчка Баруны (Ашмянскага павета)[18].

Але ўжо 30 жніўня прэзідэнт Польшчы распусціў Сойм і Сенат і прызначыў новыя выбары ў Сойм на 16 лістапада, а ў Сенат на 23 лістапада 1930 г.[19].

Ужо ў верасні ў Лідзе пачаў працаваць выбарчы камітэт "Беспартыйнага блока працы разам з урадам". Камітэт узначаліў бургамістр Ардылоўскі, яго намеснікамі сталі Юзаф Задурскі і Галембіёўскі[20]. У кастрычніку шэраг лідскіх жаночых арганізацый заявіў аб падтрымцы Блока і стварыў жаночую філію выбарчага камітэта "Беспартыйнага блока", якую ўзначаліла Задурская, сярод сябраў жаночага камітэта была і жонка старасты Зоф'я Багаткоўская[21].

27 кастрычніка ў Лідзе быў арыштаваны кандыдат у Сойм ад Цэнтралева Ян Мацецкі, ён абвінавачваўся ў антыдзяржаўных выступах[22].

У лістападзе выбарчыя камітэты "Беспартыйнага блока" былі створаны ва ўсіх гмінах Лідчыны[23].

У выніку на выбарах у Сойм, якія адбыліся 16 лістапада, па Лідскай выбарчай акрузе за спісак №1 (Беспартыйны блок працы разам з урадам) прагаласавала 155 916 выбаршчыкаў, і гэты блок атрымаў усе 7 мандатаў [24].

Пасламі ад Лідчыны сталі:

**Вітольд Станевіч** (42 гады, міністр сельскагаспадарчых рэформаў, жыў у Варшаве),

**Браніслаў Жангаловіч** (60 гадоў, ксёндз, намеснік міністра веравызнанняў і адукацыі, жыў у Варшаве),

**Уладзіслаў Камінскі** (33 гады, селянін, вёска Мірамполь Воранаўскай гміны),

**Станіслаў Добаш** (29 гадоў, настаўнік, жыў у Вільні),

**Базыль Куць** (37 гадоў, селянін, вёска Кучкі, гміна Трабы),

**Рамуальд Талпыга** (34 гады, селянін, вёска Хацееўшчыны, гміна Орля),

**Станіслаў Сіцінскі** (33 гады, аграном, маёнтак Мялужын, гміна Ліда)[25].

У 1935 г. адбыліся чарговыя выбары ў Сойм Польшчы. На гэты раз прэса не шмат пісала аб выбарах, вынікі іх у значнай ступені, былі прадвызначаны. Старшынём выбарчай акругі № 50 (Лідскай) з'яўляўся суддзя Юльян Прыбытка[26]. У выніку выбараў, пасламі ў Сойм былі абраны **Юзаф Задурскі** (атрымаў 44 384 галасы) і **Чэслаў Дэмбіцкі** (51 495 галасоў)[27].

***Мясцовыя выбары***

Першапачаткова, выбары ў Гарадскую раду былі прызначаны на 19 чэрвеня 1930 г.[28]. Потым выбары былі перанесены на 27 ліпеня.

У выбарчую камісію было падана 9 выбарчых спісаў[29]. "Навагрудскае жыццё" паведамляла пра арганізацыйнае паседжанне выбарчага камітэта Хрысціянскага гаспадарчага аб'яднання ў Лідзе: *"У сувязі з выбарамі ў гарадскую раду 27 чэрвеня ў Дзяржаўнай гімназіі сабраліся 200 прадстаўнікоў розных груп хрысціянскай грамады горада, каб утварыць выбарчы блок. Перад прадстаўнікамі выступіў кс. Баярунец. Старшынём сходу абраны прафесар Казлоўскі. Пасля працяглай дыскусіі быў абраны камітэт, у які ўвайшлі Шымялевіч, Радзевіч, кс. Баярунец, Пеляк, Рашкоўскі, Казлоўскі, Мейлун, Баркоўская, Балевіч, Вярсоцкі, Пашук, Васілоўскі, Садоха, Ёдка, Селужынскі, Міх-*

*неўскі і Грэбава"* [30].

У выніку выбараў з 24 мандатаў, спіс № 2 (ППС) атрымаў 2 мандаты (**Вайцешак** і **Сток-Стоцкі**), спіс № 3, (спіс бургамістра Бергмана) - 3 мандаты (**Рудольф Бергман**, доктар **Сапоцька** і **Прыбытка**), спіс № 4 (Гаспадарчае аб'яднанне хрысціян г. Ліды) - 1 мандат (**Міхнеўскі**), спіс № 5 (Народна-хрысціянскае аб'яднанне) - 6 мандатаў (**Гарневіч, Стасевіч Зыгмунт, Межва, Радзевіч, Стасевіч Міхал, Філіпчук**), № 6 (Аб'яднанне працоўных і жыхароў прадмесцяў) - 1 мандат (**Макарэвіч**), № 8 (Аб'яднаны народны яўрэйскі блок) - 11 мандатаў (**Чарток, Канопка, Карчмар, Вісманцкі, Грышпан, Шмуйловіч, Гяршон, Ілютовіч, Стукатар, Сакалоўскі, Дагуцкі, Пупко**)[31].

На пачатку ліпеня 1932 г. у Лідзе адбыліся выбары ў яўрэйскую гміну (самакіраванне). Удзел прынялі 100% выбаршчыкаў. Найвялікшую колькасць галасоў і тым самым мандатаў атрымаў ліст № 2 (Рамеснікі) на чале з Шыманам Гуталеўскім, Якавам Пупко і Гдаліям Файнштэйнам. Другое месца было ў спіса № 1 (Дробныя купцы), на трэцім месцы спіс № 8 (Сіяністы). Падчас перадвыбарных мітынгаў адбываліся крывавыя бойкі, і *"найбольш агрэсіўнымі былі сіяністы"* [32].

У лютым 1934 г. былі анансаваныя гмінныя выбары ў Лідскім павеце: 26 лютага - у Лідскай, Белагрудскай і Ваверскай гмінах, 27 лютага - у Беняконскай і Воранаўскай, 28 лютага - у Радунскай і Суботніцкай гмінах, 1 сакавіка - у Жырмунскай, Беліцкай і Забалацкай гмінах, 2 сакавіка - у Іўеўскай і Ліпнішскай, 3 сакавіка - у Дакудаўскай гміне. Трэба заўважыць, што прэса практычна нічога не пісала пра гэтыя выбары. Палітыка санацыі давала вынікі - напал палітычнай барацьбы моцна знізіўся, і выбары такога ўзроўню страцілі цікавасць нават для рэгіянальнай прэсы[33].

### Палітыка і ўлады

#### *Маёмасныя праблемы*

У траўні 1930 г. Акруговы суд у Вільні адмовіўся вярнуць маёнтак Тарнова (2 500 га) унучцы паўстанца Канстанціна Кашыца - Ядвізе Янушкевіч. Тарнова засталося за графіняй Марыяй фон Эксэ[34] - старэйшай дачкой былога ўладальніка Тарнова, царскага генерала Дзмітрыя Маўраса. Да восені 1939-га Тарнова належала баронам Кехле (Koehle).

Працягваліся прыгоды француза Бартандзюка на Лідчыне. Пры канцы студзеня 1933 г. гарадскі суд разглядзеў справу ўладальніка маёнтка Сялец Юзафа Бартандзюка, *"які абвінавачваецца ў: 1) абразе каменданта пастарунка паліцыі ў Сяльцы; 2) паўторнай абразе каменданта пастарунка; 3) абразе адміністратыўных уладаў, а менавіта старасты. Суд прыгаварыў Бартандзюка да 1 месяца арышту і штрафу ў 20 злотых"* [35].

Але праблемы француза на гэтым не скончыліся. Маёнтак Сялец Бартандзюк атрымаў пасля разлікаў з кузінай цара княгіняй Трубяцкой. Але ў выніку гэтай трансакцыі Бартандзюк застаўся вінен удаве па князі Трубяцкім Караліне Трубяцкой (з дому графіні Флары ды Серамежано) каля 180 000 італьянскіх лір. У якасці забеспячэння доўгу француз падпісаў вексель. Паколькі вексель не быў своечасова аплачаны, княгіня Трубяцкая падала ў суд. Пасля правядзення зямельнай рэформы на рахунак Бартандзюка Сельскагаспадарчы банк пералічыў некалькі дзясяткаў тысяч злотых, і таму княгіня патрабавала гэтыя грошы сабе, таксама яна патрабавала сабе грошы, якія Бартандзюк меў у іншых банках. Суд падтрымаў Трубяцкую - судовы каморнік у Лідзе ўручыў французу вырак суда і адначасова разаслаў выракі ва ўсе банкі, дзе захоўваліся грошы Бартандзюка. Але француз адразу выехаў у Варшаву і тут звярнуўся да студэнта праваслаўнай тэалогіі Шастакоўскага. Студэнту ён давёў, што сам не мае часу і таму юрыдычна даручае яму зняць усе грошы ва ўсіх банках з усіх сваіх рахункаў. Банкі выдалі грошы і толькі пасля гэтага атрымалі судовыя выракі пра іх арышт. Княгіня Трубяцкая звярнулася ў Лідзе да пракурора, і той перадаў справу ў Варшаўскую следчую ўправу. Таксама княгіня падала позву ў суд на студэнта Шастакоўскага[36]. Чым скончылася гэтая справа - газеты не паведамлялі.

У кастрычніку 1930 г. Міністэрства Справядлівасці вырашыла адкрыць ў Лідзе аддзел Акруговага суда ў складзе васьмі суддзяў. Аддзел павінен быў пачаць працу з 2 студзеня 1931 г.[37].

Для Акруговага суда першапачаткова выдзяляліся два аднапавярховыя будынкі (вул. Камерцыйная, 14) коштам 54 000 злотых[38]. Але потым распачалася гісторыя, у якой прымае ўдзел генерал фон Гротэ дэ Буко, і мы даведваемся пра лёс найцікавейшага будынка нашага горада - будынка былой гімназіі Навіцкай (тады, 3-га Мая, 14).

На пачатку лістапада 1930 г. на паседжанні Гарадской рады быў зачытаны праект дамовы з панам Слаўцілам, адвакатам і ўладальнікам нерухомасці (д. 14 па вул. 3-га Мая), аб размяшчэнні тут аддзела Акруговага Віленскага суда ў Лідзе. Рада адмовілася ад гэтага праекту з-за *"спробы ўзбагаціцца за кошт дзяржаўнага скарбу"*.

Уладальнікам гэтага дома была Марыя Канстанцінаўна Навіцкая. Пасля яе смерці ў 1907 г., дом перайшоў у пажыццёвую ўласнасць яе мужу і, верагодна, Навіцкі не меў права прадаць ці здаць у арэнду гэтую маёмасць. Адразу, пасля ўсталявання польскай улады, у гэтым доме пачала працаваць гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча. Пасля 1920 г. маёмасць часова не мела ўладальніка і курыравалася дзяржавай - над ёй была прызначана апека ў асобе дырэктара гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча пана Хмеля, а потым пана Паслаўскага.

Былы лідскі спраўнік фон Гротэ дэ Буко, які ў 1930 г. жыў у Вільні, стаў пасярэднікам паміж панамі Слаўцілам і мужам сп. Навіцкай, які жыў ў Маскве. Навіцкі ўпаўнаважыў фон Гротэ дэ Буко прадаць гэты дом. Быў вызначаны кошт 3 - 4 тысячы долараў. 3 000 прапанаваў Слаўціла, а 4 000 - нехта з лідскіх яўрэяў.

З Масквы прыйшла тэлеграма: *"Калі Слаўціла дае 3000, а яўрэі 4 000 - прадаю Слаўцілу"*. Так у 1927 г. уладальнікам гэтага будынка разам з вялікім пляцам у цэнтры горада стаў віленскі адвакат Слаўціла.

Тады ў газеце "Наваградскае жыццё" з'явіўся выкрывальніцкі артыкул, па меркаванні аўтара гэтага артыкула ўся справа ў Лідзе знаходзілася ў руках "прыяцеляў", "калег" і "крэўных" Навіцкага і Слаўцілы. Акт куплі-продажу быў пацверджаны Віленскім акруговым судом, і магістрат Ліды за 3 гады арэнды гмаха для гімназіі выплаціў 30 000 злотых - больш за кошт яго продажу. Таму газета "Наваградскае жыццё" падняла скандал і паведаміла, што, каб не незаконны, па яе меркаванні, продаж гмаха, дык гэтая маёмасць без уладальніка аўтаматычна сталася б дзяржаўнай з 1 студзеня 1931 г. Трэба адзначыць, што ў так званую "лідскую сям'ю", якая арганізавала справу продажу гмаха, як быццам уваходзіў і пасол у Сойм доктар Гарневіч[39], які не пераабраўся ў 1930 г. у Сойм, але абраўся ў Гарадскую раду, і таму гэты скандал у значнай ступені быў часткай прадвыбарнага працэсу[40].

Аднак, праз некалькі дзён Гарадская рада разгледзела пытанне закупу мэблі для новых школ, зацвердзіла звальненне магістратам работнікаў гарадской электроўні і прыняла да ведама рэкамендацыю Магістрата арандаваць для аддзела Акруговага суда дом Слаўцілы, такім чынам паставіўшы кропку ў справе[41].

16 сакавіка 1931 г. у Ліду з Вільні, для кантролю рамонту ў будынках, дзе меў размясціцца суд, прыехаў віца-пракурор Акруговага суда. Ён агледзеў гмахі на вуліцах Камерцыйнай, 14 і 3-га Мая, 14 - *"будынак па-гімназійны"* [42]. У чэрвені стала вядома, што суддзямі Лідскага аддзела Акруговага Віленскага суда будуць: Ян Барысаўскі, Станіслаў Мяноўскі, Юльян Прыбытка і Мечыслаў Чайкоўскі[43]. На пачатку кастрычніка прэзідэнт Віленскага Акруговага суда Кадушкевіч наведаў Ліду і прыняў удзел у асвячэнні будынкаў лідскай філіі[44].

Але гісторыя з продажам будынка былой гімназіі так проста не закончылася. З-за артыкула ў "Наваградскім жыцці", у якім абвінавачваліся асобы, датычныя да продажу будынка, адбылося некалькі судоў. Аўтарам выкрывальніцкага артыкула быў суддзя Акруговага суда ў Наваградку Яўген Ловіч-Баранскі. У выніку, па выраку Апеляцыйнага суда ў Вільні, рэдактар газеты Здановіч быў прысуджаны да 6 месяцаў турмы (пасля чаго газета спыніла сваё існаванне)[45], а суддзя Ловіч-Баранскі праз газету "Слова" прасіў прабачэння ў *"адваката Слаўцілы і даверанай асобы Фёдара Навіцкага Яўгена фон Гротэ дэ Буко"* [46].

### *КПЗБ*

Як і ў папярэднія гады, адбываліся суды над камуністамі. Чарговы раз, 7 лютага 1930 г. у Лідзе пачаўся суд над жыхаром г. Ліды Лейбам Беліцкім, якога абвінавачвалі ў членстве ў КПЗБ, *"якая мае за мэту зруйнаваць дзяржаўны лад РП і пасягае на тэрытарыяльную цэласнасць дзяржавы праз адрыванне ўсходніх ваяводстваў і далучэнне іх да Савецкай Расіі"*. Лейба Беліцкі атрымаў 4 гады турмы ўзмоцненага рэжыму[47]. У сакавіку таго ж года газета "Наваградскае жыццё" паведаміла аб ліквідацыі ЦК КПЗБ - *"у ЦК не было ніводнага беларуса"* [48].

29 траўня 1931 г. у Лідзе пачаўся суд над 9-цю камуністамі - членамі мясцовага камітэта КПЗБ. На лаве падсудных знаходзіліся Кратко Зэлман Гірш, Васілеўскі Людвік, Місялевіч Зішаль, Кель Уладзіслаў, Гельман Абрам, Аржахоўскі Мардух, Дубчэўскі Гірш і Рыбак Ян. Адзін з гэтай васьмёркі, нейкі Дабчэўскі, не быў арыштаваны і меў вольны доступ у суд. Пад канец працэсу, ён зразумеў, што наперадзе турма, выйшаў з залы і знік. Дабчэўскі (завочна) і яшчэ адзін камуніст атрымалі па 6 гадоў турмы, два лідары Лідскага камітэта - па 8 год турмы (адзін з іх - Кратко Зэлман). Ян Рыбак быў апраўданы[49].

У сярэдзіне кастрычніка таго ж года пачаўся *"працэс маладых камуністаў. Учора Акруговы суд у Лідзе распачаў разгляд справы маладых камуністаў Міхала Ката, Сямёна Варанка, Яна Гардзейчыка і Паўла Хільмановіча ... . Разгляд працягваўся некалькі гадзін. У якасці доказаў віны паліцэйскія ўлады прапанавалі суду вялікую колькасць улётак і асабістую карэспандэнцыю. Некаторыя лісты дасылаліся з Францыі. Суд прыгаварыў Ката і Варанка да 6 месяцаў турмы, а астатніх падсудных апраўдаў, пакінуўшы іх пад наглядам паліцыі"* [50].

Пры канцы лютага 1933 г. Лідскі Акруговы суд прыгаварыў камуністаў - жыхароў Іўя - Мойшу Шмуйловіча (узрост 19 галоў) да 4 гадоў турмы і пазбаўлення грамадзянскіх правоў на 4 гады, Ёселя Рогава (узрост 18 гадоў) і Янкеля Беранштайна (узрост 18 гадоў) да 2 гадоў турмы і пазбаўлення грамадзянскіх правоў на 4 гады, Жынеля Бакшта (узрост 18 гадоў) да 2 гадоў турмы і пазбаўлення грамадзянскіх правоў на 2 гады, Вольфа Янкелевіча (узрост 21 год), Лейзара Шмуклера (узрост 17 гадоў) і Хаіма Лібермана (узрост 17 гадоў) да 2 гадоў папраўчага дома[51].

### *Іншае*

Пры канцы 1931 г. чарговыя група беларусаў вырашыла шукаць шчасце за мяжой. Некалькі жыхароў Дакудаўскай і Беліцкай гмін - Казёл Міхал, Радзецкі Ціхан, Сідар Ігнат вырашылі сысці ў СССР. Вось што распавёў Сідар: *"10 лістапада выйшаў з дому маючы намер перайсці граніцу Савецкай Расіі. Падгаварыў мяне на гэта падхарунжы Высоцкі Ян, які, як быццам, служыў у Валожыне. Ён сабраў з нас па 25 злотых за пераход мяжы ... . Мы ішлі ноччу разам з Высоцкім і іншымі ажно да вёскі Дварчыны ці Доўнары гміны Бакшты. Там заначавалі ў уладальніка крамы. Тут Высоцкі знік, а крамнік сказаў нам, што Высоцкі - толькі літоўскі агент, а праз мяжу нас павядзе нехта Свірскі, які жыве ў Бакштах. Да яго мы і пайшлі, але па дарозе даведаліся, што ён арыштаваны, і таму я вярнуўся дахаты. Што сталася з іншымі, не ведаю"* [52].

У сярэдзіне лістапада 1931 г. газета "Слова"

пісала: *"Антысеміцкія эксцэсы, якія мелі месца ва ўніверсітэцкіх гарадах, прыйшлі і ў правінцыю. Пра гэта кажа ўчарашні дзень у Лідзе, дзе былі выбіты дзве шыбы ў яўрэйскіх крамах: на складзе тавараў для пісьма па вуліцы 3-га Мая Дварэцкага і ў самай вялікай і якаснай краме спажывецкіх тавараў Вінаградава па вуліцы Сувальскай. Гэта адбылося ў 18-45, за некалькі хвілін да закрыцця, калі на вуліцах панаваў моцны рух людзей і транспарту. Як і ў першым, так і другім выпадку шыбы былі выбіты каменем, кінутым з вялікай адлегласці. Пасля гэтага ў горадзе пануе напружаная атмасфера, зачынена шмат крам. Усю ноч па горадзе хадзілі ўзмоцненыя патрулі паліцыі. Як падазроны, быў затрыманы 18-ці гадовы вучань 5-га класа Гарадской гімназіі Усевалад Малеўскі. На наступны дзень яго адлічылі з гімназіі. Ягоным паплечнікам у гэтай справе быў 15-ці гадовы Ежы Ромер. Зараз у горадзе спакойна. Горад патрулюе паліцыя разам з грамадзянамі-сябрамі Звязу Стральцоў"* [53].

"Кур'ер Навагрудскі" паведамляў, што *"ў гуце "Нёман" не было ніводнага яўрэя, покуль яўрэй Астроўскі не адкрыў тут краму. У ноч з 26 на 27 лістапада па пасёлку былі расклеены ўлёткі з патрабаваннямі, каб Астроўскі з'ехаў адсюль да 1 снежня. Паліцыя пачала следства"* [54].

Каб спыніць хвалю антысемітызму, якая імкліва ўздымалася, Кола студэнтаў-лідзян (куды ўваходзілі студэнты, які вучыліся не толькі ў Польшчы, але і за мяжой), правяло канферэнцыю з вучнямі лідскіх школ і гімназій, на якой тлумачыла вучням неабходнасць устрымліваецца ад удзелу ў такіх акцыях, як вулічныя пагромы, біццё шыбаў *"і іншых антысеміцкіх выбрыках"* [55].

У красавіку 1932 г. "Навагрудскі Кур'ер" пісаў пра арышты сярод *"звыродлівых жывёл, якія падрыхтаваліся да серыі антыдзяржаўных выступаў на 1 траўня ў Лідзе і павеце. Арыштаваныя знаходзяцца ў Лідскай турме"* [56].

Пры канцы 1933 г. прэса пісала: *"Пагалоскі, якія хадзілі па Лідзе, пра перамяшчэнне старасты Генрыка Багаткоўскага ў іншае месца аказаліся праўдзівымі. Староста Багаткоўскі сыходзіць. У яго асобе Ліда траціць чалавека, які мае перад горадам і паветам вялікія заслугі"*[57]. Староста Багаткоўскі быў пераведзены на раўнацэннае месца ў Беражаны Цярнопальскага ваяводства[58].

У сакавіку 1934 г. прэса ўзгадвае новага лідскага старасту Генрыка Бянкевіча[59]. Бянкевіч нарадзіўся ў 1882 г. на Сувальшчыне. Адукацыю атрымаў у Харкаўскім тэхналагічным інстытуце, служыў у расійскім, а потым у польскім войску, меў чын маёра. У ліпені 1935 г. пакінуў пасаду лідскага старасты і быў абраны бургамістрам Слоніма[60]. З другой паловы 1935 г. пасаду лідскага старасты займаў Чушкевіч[61].

У ліпені 1934 г. "Кур'ер Віленскі" надрукаваў цікавую інфармацыю аб асадніцтве на Лідчыне. У той час у Лідскім павеце былі 44 гаспадаркі асаднікаў: у Беліцы - 1 гаспадарка, у Няцечы - 20, у Бабрах - 5, у Андрушках - 6, у Караліне - 11 і ў Жуках - 8. 7 надзелаў мелі афіцэры, але толькі 2 з іх самастойна працавалі на раллі. Адзін афіцэр меў гаспадарку ў Няцечы і лічыўся вельмі энергічным і эфектыўным гаспадаром, быў актыўным грамадскім дзеячам. Другі ж афіцэр жыў у Бабрах, не вылучаўся сярод беларускага сялянства моцнай гаспадаркай і грамадскім жыццём не цікавіўся. Астатнія афіцэры на зямлі не працавалі і, верагодна, зямлю здавалі ў арэнду. Наогул, з 44 гаспадарак асаднікаў у вельмі добрым стане знаходзіліся 11 асад, у здавальняльным стане - 24 асады, у дрэнным стане - 9 асад[62].

**2. Паўсядзённае жыццё**

На пачатку 1930 г. у Лідзе па адрасе: Шаптыцкага, 2 пачаў працаваць рэнтгенаўскі апарат. Пад час сваёй працы апарат выпраменьваў радыёшумы, і на адлегласці да 1 000 м ад яго людзі не маглі слухаць радыё. Акрамя таго, праца апарата прыводзіла на паніжэння напружання ў электрычных сетках, бо апарат спажываў ток у 60 А, што для размеркавальных сетак таго часу, бясспрэчна, зашмат. Распараджэннем Лідскага старасты быў вызначаны час працы рэнтгенаўскага апарата, але медыкі працавалі з рання да позняй ночы, псуючы радыёпрыём і напружанне ў сетках[63]. Праз некалькі дзён персанал рэнтгенаўскага кабінета, праз прэсу аспрэчыў гэтую інфармацыю аб шкодзе для сваіх суседзяў па вуліцы Шаптыцкага[64]. Як вырашылася гэтае пытанне, невядома.

28 верасня 1930 г. у Лідзе шырока святкавалася 10-ці годдзе вызвалення Ліды ад бальшавікоў. Як заўжды адбыліся святочныя набажэнствы ў касцёлах і ў царкве, шэсце лідзян на гарадскія могілкі для ўшанавання памяці загінуўшых, дэфіляда (парад) войскаў і добраахвотнага Звязу Стральцоў. Урачыстасці закончыліся паседжаннем у зале кінатэатра "Нірвана"[65]. Да пачатку святкавання Гарадская рада пераназвала Палескую вуліцу ў вуліцу імя капітана Мяніцкага. Капітан Мяніцкі быў камандзірам 2-й роты Лідскага палка (у 1920-30-х гг. гэты полк стаяў у Гародні), ён загінуў у баях з бальшавікамі[66].

На пачатку 1931 г. была заліта гарадская коўзанка пры збегу вуліц Пілсудскага і 17-га Красавіка. Коўзанка працавала кожны дзень з 12 да 22 вечара, меўся гардэроб, а ўвечары электрычнае асвятленне[67].

На пачатку верасня 1931 г. у замку Гедзіміна адбылося выступленне вершнікаў 3-га кавалерыйскага палка.

У кастрычніку таго ж года "Навагрудскі Кур'ер" пісаў: *"На аўтобуснай станцыі ў Лідзе няма не толькі хоць нейкай будкі, але і нават і добрай шыльды. А рух тут немалы, бывае і да 5 аўтобусаў у гадзіну"* [68].

Чытаючы старую прэсу, цікава назіраць спаборніцтва праз рэкламу паміж лідскімі цукернямі таго часу. У кастрычніку 1931 г. прэса пісала: *"Учора, па адрасе: Сувальская, 18, была адчынена новая цукерня, якая мае назву "Цукерня Цукерніка". Цукерня абяцае перацягнуць да сябе частку гарадской эліты з "Амерыканкі"*[69]. У супрацьвагу і ў якасці схаванай рэкламы ў верасні 1932 г. газета "Слова" пісала, што, не гледзячы на крызіс, *"Ліда еўрапеізуецца. Нараканні лідзян*

ROZKŁAD JAZDY AUTOBUSÓW
kursujących na linjach
WILNO-GRODNO oraz WILNO-LIDA

WILNO-GRODNO

| Odjazd z Wilna do Grodna $17^{00}$ | | Odjazd z Grodna do Wilna | |
|---|---|---|---|
| w Ejszyszki | $19^{00}$ | z Grodna | $6^{00}$ |
| w Raduń | $19^{30}$ | w Jeziory | $6^{50}$ |
| w Zabłocie | $20^{00}$ | w Ostrynę | $7^{30}$ |
| w N. Dwór | $20^{30}$ | w N. Dwór | $8^{00}$ |
| w Ostrynę | $21^{00}$ | w Zabłocie | $8^{30}$ |
| w Jeziory | $21^{30}$ | w Raduń | $9^{00}$ |
| w Grodno | $22^{30}$ | w Ejszyszki | $9^{30}$ |
| Przyjazd do Grodna | | Przyjazd do Wilna | $11^{30}$ |

WILNO-LIDA

| Odjazd z Wilna do Lidy | I | II | Odjazd z Lidy do Wilna | I | II |
|---|---|---|---|---|---|
| | $11^{30}$ | $16^{00}$ | | $15^{45}$ | $7^{15}$ |
| w Ejszyszki | $13^{00}$ | $18^{00}$ | w Zyrmun. | $16^{00}$ | $7^{30}$ |
| w Raduń | $13^{30}$ | $18^{30}$ | w Raduń | $6^{00}$ | $8^{00}$ |
| w Zyrmun. | $14^{00}$ | $19^{00}$ | w Ejszyski | $6^{30}$ | $9^{30}$ |
| w Lidzie | $14^{15}$ | $19^{15}$ | w Wilnie | $8^{30}$ | $10^{30}$ |
| Przyjazd do Lidy | | | Przyjazd do Wilna | | |

Autobusy kursujące do Lidy mają połączenie we wszystkich kierunkach odchodzących z Lidy.
Autobus kursujący do Grodna ma połączenie z Białymstokiem i Warszawą.

***Расклад руху аўтобусаў, 1930 г.***

*на тое, што няма дзе правесці доўгія вечары ўжо не маюць пастаў, бо 3 верасня ў павялічаным памяшканні цукерні "Амерыка" пачаў выступаць джаз-банд 77 п.п. Гэты знаны джазавы калектыў прыцягвае эліту горада. Таксама трэба заўважыць, што ў нашы крызісныя часы закускі і напоі маюць вельмі лагодны кошт, і таму лідзяне слушна задаволеныя гэтай пляцоўкай для адпачынку"* [70].

Пры канцы ліпеня 1932 г. адбыўся рэйд матацыклістаў па маршруце Вільня - Ліда - Вільня. Рэйд арганізаваў Віленскі клуб матацыклістаў і равараыстаў[71].

Газета "Слова" на пачатку лістапада 1932 г. надрукавала аб'яву пра смерць былога міністра абароны БНР Кіпрыяна Кандратовіча: *"Генерал ад інфатэры рускай арміі, кавалер ордэна Св. Георгія і Ганаровага легіёна, пасля доўгай і цяжкай хваробы ціха заснуў з Богам 31 кастрычніка гэтага года ў сваім маёнтку Гародна. Быў пахаваны на праваслаўных могілках у Лідзе. Аб чым з глыбокім смуткам паведамляюць жонка і дачка"* [72].


ś. p.
Cyprjan Kondratowicz
Generał broni b. armji rosyjskiej, kawaler Orderu św. Jerzego i Wielkiej wstęgi Legji Honorowej
po długiej i ciężkiej chorobie cicho zasnął w Bogu w dniu 31 października r. b. w swoim majątku Horodno. Pochowany został na cmentarzu prawosławnym w Lidzie.
O czem pogrążeni w głębokim smutku zawiadamiają
Żona i córka.

У лістападзе 1932 г. "Слова" надрукавала артыкул "Брава, пан Задурскі", у якім дзякавала лідскаму бургамістру за новыя каменныя ходнікі па вуліцы Фалькоўскага, *"бо школьная дзятва і жыхары вуліцы зараз ужо не тонуць у балоце па калена. Таксама быў пабудаваны масток пры канцы вуліцы Школьнай. І зусім добра, што пасля нашай скаргі, для маладых дрэў у калоніі дзяржаўных дамоў зрабілі належныя падпоркі. ... добра было б каб яшчэ бургамістр парупіўся аб нейкім асвятленні калоніі дзяржаўных дамоў, бо там пануе такая егіпецкая цемра, што ўвечары цяжка патрапіць дахаты не ўлезшы па калена ў балота альбо не праваліўшыся ў "воўчую яму". Калі не памыляюся, асвятленне тут з'яўлялася толькі тады, калі прыязджаў у Ліду міністр асветы і веравызнанняў на асвячэнне агульнаадукацыйнай школы, але ж ужо назаўтра ліхтары знялі"* [73]. Хутка, з гэтай егіпецкай цемры, нехта праз шыбу стрэліў у начальніка (каменданта) павятовай паліцыі Баляслава Кабенскага, які як раз і жыў у калоніі дзяржаўных дамоў. Куля прабіла шкло і патрапіла ў сцяну нікога не параніўшы[74]. Праз тыдзень тая ж газета пісала: *"Некалькі дзён таму мы пісалі пра неадпаведнае асвятленне калоніі дзяржаўных дамоў - тады свяціла толькі адна лямпачка, і з-за цемры жыхары калоніі неаднаразова прымалі "балотныя ванны", не кажучы ўжо пра разбітыя насы, калені ці іншыя часткі цела. Каб пазбегнуць такіх прыгод, шмат хто з нас закупіў сабе паходні. Пасля артыкула чакалі, што пан бургамістр палепшыць асвятленне, але дзе ж там! Адбылося найгоршае: два дні таму перастала свяціць апошняя лямпа"* [75].

Трэба адзначыць, што гэты раён горада лічыўся самым фешэнебельным, і ў калоніі дзяржаўных дамоў жыло толькі кіраўніцтва павета, праўда, сам бургамістр Задурскі жыў у сваёй хаце па вуліцы Каменскай.

На пачатку снежня таго ж года нехта з лідзян пісаў: *"Як ў даўнія часы. Калі верыць пагалоскам, у Ліду хутка мае завітаць нейкі дыгнітар* (саноўнік, *рэд.) у рангу міністра, і таму такія галоўныя вуліцы як Сувальская і Пілсудскага грунтоўна адрамантаваны. Той, хто бачыў іх яшчэ тыдзень таму - не пазнаў бы. Адрамантаваны брук, выбелены сцёкавыя каналы, зроблены масткі цераз канаўкі і г.д. Шкада, што нячаста ў Ліду завітваюць такога кшталту дыгнітары, бо тады мелі б мы добры парадак"* [76].

На працягу ўсяго 1933 г. шырока святкаваўся юбілей паўстання 1863 г.

У той час яшчэ дзейнічала таварыства Ветэранаў паўстання 1863 г., у якім ад гістарычнай Віленшчыны прымалі ўдзел 8 чалавек. Старшынём таварыства быў Станіслаў Ёдка, які жыў у той час у Вільні (вуліца Серакоўскага, 25).

*Станіслаў Ёдка нарадзіўся ў 1847 г. у фальварку Петрашунцы Лідскага павета. У паўстанцкі атрад пайшоў з школьнай лавы разам з сябрамі-вучням Лідскага павятовага вучылішча. Паўстанцам быў і ягоны бацька - таму пасля паразы паўстання фальварак Петрашунцы быў канфіскаваны, а бацька сасланы ў Сібір.* Акрамя Ёдкі ўдзельнікамі паўстання

1863 г. з Лідчыны былі Мацей Знамяроўскі з Бастуноў[77] і Валерыя Цехановіч з Ліды.

Валерыя Цехановіч (з Цыбульскіх) - удзельніца паўстання 1863 г. Памерла ў Лідзе 23 студзеня 1933 г. ва ўзросце 93 гадоў. Труна з целам паўстанкі была перанесена з Дома жалобы (вул. Лідская, 38) у Фарны касцёл 24 студзеня ў 18-00. Жалобнае набажэнства і пахаванне адбылося 25 студзеня ў 10-00. "Навагрдскі Кур'ер" пісаў: *"Вялікая колькасць людзей на пахаванні ветэрана паўстання 1863 г. 25 студзеня ў Лідзе адбылося пахавання Валерыі Цехановіч (з Цыбульскіх), якая памерла 23 снежня, у гадавіну паўстання. С.п. Цехановіч нарадзілася ў Менску 1 снежня 1840 г. і ва ўзросце 23 гады ўзяла ўдзел у паўстанні"* [79].



Ś. P. z Cybulskich Walerja Ciechanowiczowa

**wdowa, uczestniczka Powstania Styczniowego 1863 roku,**

po dłuższej chorobie opatrzona Św. Sakramentami zmarła w Lidzie dnia 23 stycznia 1933 roku, przeżywszy lat 93.

Wyprowadzenie zwłok z domu żałoby przy ul. Lidzkiej 38 do kościoła parafjalnego nastąpi w dniu 24 b. m. o godz. 18 ej.

Nabożeństwo żałobne i pogrzeb odbędzie się dnia 25 stycznia 1933 roku o godz. 10-ej rano, o czem zawiadamia pogrążona w smutku

**RODZINA**

***Валерыя Цехановіч з Цыбульскіх** (1841-1933). Нарадзілася 28 красавіка 1841 г. у Менску. Была дачкой суддзі. Закончыла менскую гімназію, з хатнімі настаўнікамі паглыблена вывучала музыку. Перад 1863 г. разам з іншымі менчанкамі ўдзельнічала ў патрыятычных маніфестацыях. За ігру на аргане і спевы патрыятычнай песні была збіта казакамі.*

*Выйшла замуж за Гераніма Канстанты Цехановіча (1844-1898), які нарадзіўся ў Мураванай Ашмянцы, і мела з ім дзевяцёра дзяцей: Людвіку Марыю, Вацлава Міхала, Люцыяна Пятра, Багуслава, Валяр'яна, Ядвігу, Юзафа, Станіслава, Антона Стэфана.*

*Перад выбухам паўстання 1863 г., маладыя сужэнцы пераязджаюць у Плоцк, галава сям'і працуе ў скарбовай управе. Геранім і Валерыя Цехановічы прынялі чынны ўдзел у паўстанні 1863 г. Геранім ваяваў у паўстанцкім аддзеле, а Валерыя хавала параненых, збірала прыпасы і падтрымлівала сувязь з паўстанцамі.*

*У другой палове жыцця Гераніма спаралізавала, і да канца жыцця ён не мог самастойна рухацца. Пасля смерці мужа, каля 1900 г. Валерыя пераехала ў Пултуск, а потым у Насельск, дзе жыла да пачатку 1920-х гг. Потым пераехала да сваёй дачкі Станіславы ў Гародню. Няшчасны выпадак ў гарадзенскім касцёле прывёў да калецтва Валерыі, яна перастала хадзіць і да канца жыцця была прыкута да ложка ці інваліднага вазка. Як ветэран паўстання атрымлівала пенсію ў 110 злотых.*

*Адзін з яе сыноў - Люцыян - быў выкладчыкам Маскоўскага ўніверсітэта, расстраляны ў 1937 г.*

*З Лідай Валерыю Цехановіч лучаць два апошнія гады жыцця. Сюды яна пераехала да свайго сына Антона, начальніка ўправы скарбовага кантролю. У Антона Цехановіча ў Лідзе, у 1930 г. нарадзіўся адзіны сын - Лех Цехановіч, інжынер-магістр хіміі, аўтар некалькіх кніг і шматлікіх публікацый па прафесіі. Ён таксама з'яўляецца сталым аўтар "Ziemi Lidzkaj" ,дзе надрукаваў шэраг базавых артыкулаў з гісторыі Лідчыны. Лех Цехановіч ласкава дапамагаў з рэдагаваннем маёй першай кнігі і ўнёс у яе шэраг найкаштоўнейшых заўваг.*

18 лютага 1933 г. у Бастунах адбылося ганаровае ўзнагароджанне паўстанца 1863 г. Мацея Знамяроўскага. Калі пачалося паўстанне, Знамяроўскі меў 18 гадоў і вучыўся ў Віленскай гімназіі. Адразу ўступіў у атрад Людвіка Нарбута і браў у ім чынны удзел. Каб узнагародзіць ветэрана, у Бастуны адмыслова прыехаў староста Багаткоўскі, маёр 77 п.п. Казлоўскі і старшыня лідскага Звязу Стральцоў Бажок[80].

На пачатку траўня ў Дубічах быў ганарова адкрыты помнік Людвіку Нарбуту. На свяце прысутнічаў навагрдскі ваявода Свідэрскі, віленскі віца-ваявода Янкоўскі, генерал Літвіновіч і дэлегацыі ад гмін Лідчыны[81].

Пры канцы траўня прэса паведаміла, што *"старшыня Таварыства Ветэранаў 1863 г., кавалер Крыжа Незалежнасці і Крыжа паўстанцаў 1863 г., былы жыхар Лідскага павета Станіслаў Ёдка памёр у Вільні 20 траўня ва ўзросце 86 гадоў"* [82].

На пачатку жніўня 1933 г. быў адкрыты помнік загінуўшым паўстанцам у Дубічах, прэса шмат пісала пра паўстанне і Людвіка Нарбута[83].

Для выхаду з крызісу дзяржава выпусціла ўнутраныя аблігацыі, якія распаўсюджваліся сярод насельніцтва, прычым, як бачна з газетных тэкстаў, пакупка такіх пазыковых аблігацый разглядалася як патрыятычны абавязак. У верасні 1933 г. паведамлялася, што сума аблігацый агульнапольскай пазыкі - 192 000 000 злотых. У першы ж дзень у Лідзе 1125 грамадзян купілі аблігацый на 186 700 злотых, у тым ліку вучні школы № 5 сплацілі 50 злотых[84]. Ужо праз тыдзень Ліда купіла аблігацый на суму 387 230 злотых[85].

У лістападзе 1933 г. на пасаду павятовага лекара, замест Сапоцькі, быў прызначаны доктар Ямялкоўскі з Баранавіч[86]. У жніўні 1935 г. на пасаду лідскага павятовага лекара з Маладзечна перавялі доктара Стасевіча, які выконваў свае абавязкі да 1939 г.[87]

Газета "Слова" на пачатку 1934 г. абсалютна сур'ёзна паведамляла, што жыхар Лідскага павета Мікалай Каравайчык *"ужо некалькі гадоў працуе над машынай, канструкцыю якой трымае ў таямніцы. Але на мінулым тыдні закончыў сваю працу над машынай, якая будзе мець рэвалюцыйнае значэнне. Ён вынайшаў нешта накшталт perpetuit mobile (*вечнага рухавіка - Л.Л.*), які бесперапынна рухаецца з дапамогай нескладанага механізма. Вынаходніцтвам Каравайчыка зацікавіліся два інжынеры, якія вывучыўшы прыбор, пацвердзілі магчымасць яго ўжывання ў тэхніцы. ... Каравайчык едзе ў Варшаву каб запатэнтаваць сваю машыну"* [88]. Інфармацыі аб гэтым чалавеку больш няма, і можна толькі спадзявацца, што *"два інжынеры"* злосна пажартавалі над *"вынаходнікам"*, бо кожны інжынер павінен ведаць тое, што вечны рухавік немагчымы ў прынцыпе і, напрыклад, французская акадэмія ўжо з XVIII ст. адмовілася разглядаць любыя праекты "perpetuum mobile".

### 3. Эканоміка.

#### Развіццё павета

На пачатку 1930 г. "Кур'ер Віленскі" пісаў, што Ліда досыць інтэнсіўна развіваецца: *"Ужо існуюць і павінны яшчэ з'явіцца фабрыкі, якія даюць працу каля 1 000 чалавек, напрыклад фабрыка галёшаў "Ардаль". Магістратам зроблены бетонныя ходнікі па ўсіх цэнтральных вуліцах, і галоўныя вуліцы з вялікім рухам расшыраны, пабудаваны гмах на дзве агульнаадукацыйныя школы і гарадская электроўня па самых сучасных тэхналогіях. Кошт пабудовы электроўні з высакавольтнымі сеткамі каля 1 000 000 злотых, школьны гмах каштуе 740 000 злотых ... . З 1921 па 1930 гг. пабудавана 77 мураваных і 475 драўляных дамоў"* [89].

У верасні 1935 г. газета "Слова" паведаміла, што Ліда - адзін з гарадоў паўночна-ўсходняй часткі Польшчы, якія найбольш дынамічна развіваюцца: *"У 1920 г. Ліда мела 1300 жылых будынкаў. З гэтага года горад імкліва разбудоўваўся: 1921 г. - пабудаваны 1 жылы дом, 1922 г. - 5, 1923 - 23, 1924 - 24, 1925 - 60, 1927 - 67, 1928 - 74, 1929 - 74, 1930 - 109, 1931 - 114, 1932 - 99, 1933 - 105, 1934 - 112 і ў 1935 г. будзе пабудавана не менш за 110 жылых дамоў. Зараз Ліда мае 95 вуліц і каля 25 000 жыхароў"* [90].

У сакавіку 1930 г. заканчваліся работы па будаўніцтве моста цераз Нёман каля Агароднікаў. 14 сакавіка камісія ў складзе дырэктара публічных работ ваяводства Зубялевіча, інжынера Убыша і кіраўніка дарожнай управы з Ліды Ардоцкага вывучыла стан новага моста і прыняла рашэнне пра допуск да эксплуатацыі[91].

Не гледзячы на крызіс, улады ўсё яшчэ спадзяваліся пабудаваць новы стадыён у Лідзе. Менавіта тады, у красавіку 1931 г. пасля вывучэння розных пляцовак, было вырашана будаваць стадыён па вуліцы Школьнай, *"насупраць гімназіі і школаў № 1 і 2"* [92] - там, дзе ён знаходзіцца і зараз.

У траўні таго ж года пачала працаваць першая механічная пякарня ў Лідзе. Яе арганізавала суполка *"з 10-ці пекараў на чале з А. Пупко, пякарня атрымала назву "Узорная механічная пякарня" і знаходзіцца па вуліцы Камерцыйнай, 14. Выпякаецца хлеб усіх гатункаў, а таксама рознае печыва і нават цукеркі. Працуе 50 чалавек"* [93].

На пачатку восені 1930 г. ваявода Бачковіч наведаў Ліду і разам з старастам Багаткоўскім і віца-бургамістрам Пупком наведаў новую электроўню, фабрыкі "Ардаль" і "Дротындустыя" [94].

У кастрычніку 1931 г. "Наваградскі Кур'ер" пісаў: *"За апошнія 10 гадоў у Лідзе пабудавана 74 мураваныя і 25 драўляных будынкаў. Чыгуначная станцыя штодзённа разгружае і загружае 10 вагонаў розных тавараў. Маецца дзве гімназіі - гарадская і дзяржаўная, дзяржаўная рамесная школа, сярэдняя гандлёвая школа піяраў, вячэрняя школа, розныя курсы, 4 агульнаадукацыйныя 7-мі класныя школы, некалькі яўрэйскіх школ і г.д."* [95].

На паседжанні Гарадской рады пры канцы траўня 1933 г. была ўхвалена пастанова аб выдзяленні Лідскаму аддзелу "Звязу настаўнікаў" і яўрэйскаму культурна-асветнаму таварыству "Тарбут" пляцаў для будаўніцтва дома "Звязу настаўнікаў" і 7-мі гадовай яўрэйскай агульнаадукацыйнай школы. Таксама на гэтым паседжанні было выдзелена 9 гектараў зямлі ў Слабодцы для будаўніцтва касцёла, школы і пастарунка, а таксама абшар пад плошчу, сад і сквер агульнага карыстання. Тады ж Рада вырашыла звярнуцца да Міністэрства ўнутраных спраў з просьбай зацвердзіць гарадскі герб 1590 г. з львом і ключамі на тарчы.[96]

У сакавіку 1933 г. Рада міністраў Польшчы выдзеліла на падтрымку дробнага будаўніцтва 15 мільёнаў злотых. З гэтай сумы наш горад атрымаў 60 тысяч [97].

У 1935 дзякуючы дапамозе Фонду Працы, якую атрымала гарадское самакіраванне, *"у горадзе пачаліся важныя работы, якія маюць першараднае значэнне для гаспадарчага і культурнага жыцця горада. Між іншым пачалася грунтоўная перабудова вуліцы Школьнай. Перабудова надасць вуліцы еўрапейскі выгляд і праз нівеляванне і перабрукоўку ездні, агароджу брусам, забрукоўку чатырохграннай пліткай ходнікаў і залажэнне траўнікаў зробіць з яе галоўную вуліцу горада. У бліжэйшы час па абодвух баках ходнікаў тут будуць пасаджаны два рады дрэваў. Таксама была перабрукавана вуліца 3-га Мая і пабудаваны ходнікі. Праводзяцца работы на іншых вуліцах і на Рынкавай плошчы горада. Бургамістр Задурскі абяцаў перабудаваць усе вуліцы горада"* [98].

Эканамічнае развіццё ў значнай ступені прыпыніў Сусветны эканамічны крызіс.

**Сусветны эканамічны крызіс і наш край**

На пачатку трыццатых гадоў пачаўся адток з Польшчы замежнага капіталу. Буйныя польскія прадпрымальнікі для абароны ўласных інтарэсаў пачалі аб'ядноўвацца ў звязы - так званыя галіновыя картэлі. Дзякуючы гэтаму, ім лягчэй было ўводзіць дэмпінгавыя кошты на экспартныя тавары, што рабіла іх канкурэнтаздольнымі на вонкавых рынках. Разам з тым тыя ж самыя тавары на ўнутраным рынку прадаваліся па завышаных коштах. Гэта вяло да падзення попыту і тым самым да абмежавання выпуску прадукцыі і фінансавых асігнаванняў у новыя капіталаўкладанні. У выніку расло беспрацоўе, а на рынку бракавала наяўных грошай. Польская прэса прыводзіла словы аднаго з варшаўскіх рабочых-будаўнікоў, які пасля таго як страціў працу, не мог плаціць за кватэру і вырашыў выдаткоўваць на жыццё не больш за палову злотага ў дзень. Але, нажаль, праз некалькі месяцаў не стала і гэтых грошай, і ён не мог ужо купіць і ежы. У продажы харчы, вядома ж, былі, але бракавала грошай, каб іх купіць, крамы ж па-ранейшаму былі перапоўненыя ўсялякімі таварамі. А працу ён знайсці не мог.

У верасні 1930 г. газета "Беларуская Крыніца" паведаміла: *"Крызыс ... ужо вельмі моцна гне ў дугу ня толькі Польшчу, але і так абяднеўшае беларускае сялянства Зах. Беларусі"* [99].

На пачатку 1931 г. "Беларуская Крыніца" пісала: *"Агульнай адзнакай гаспадарчага жыцця ... Зах. Беларусі ў мінулым годзе быў крызыс: агульны спад цэнаў, крызыс земляробскі - як вынік несумяшчальнасьці паміж цэнамі земляробскай і прамысловай вытворчасці, агульная надпрадукцыя і празмерны запас тавараў, недахоп грошаў, безработцье, корчанне гандлю, затрыманне доўгасрочных крэдытаў"* [100].

Толькі пасля 1933 г. пачало паляпшацца становішча на ўнутраным рынку. З аднаго боку, павялічыліся сусветныя цэны на сельскагаспадарчую сыравіну, з другога, дзякуючы рэжыму эканоміі, урад атрымаў сродкі з дзяржбюджэту на арганізацыю грамадскіх работ для беспрацоўных. Большасць новых працоўных месцаў з'явілася дзякуючы рэалізацыі праграмы будаўніцтва чгуначных і шашэйных дарог, вадаправодаў і электрыфікацыі, рамонту вуліц і г.д. Гэта спрыяльна адбілася на развіцці бяднейшых раёнаў Польшчы, да якіх адносілася Заходняя Беларусь і прывяло да павелічэння на рынку рэальнай грашовай масы. Павялічыўся попыт на прамысловыя тавары, і гэта ў сваю чаргу пачало стымуляваць развіццё прамысловасці.

**Беспрацоўе**

Увосень 1930 г. у прэсе з'яўляецца інфармацыя аб росце беспрацоўя ў нашым горадзе, і таму Лідскае староства пачынае запісваць беспрацоўных у чаргу для працы ў Францыі[101]. Але ўжо ў сакавіку таго ж года газета "Слова" паведамляла, што *"жыхарка Ліды Марыя Стацкевіч атруцілася эсэнсіяй. Нагодай гэтага кроку было тое, што яе муж выехаў на работу ў Францыю і не даваў аб сябе знаць"* [102].

На пачатку 1931 г. у Лідзе адкрыўся аддзел Віленскага Фонду беспрацоўных[103]. У верасні прэса паведамляла, што павятовы Камітэт барацьбы з беспрацоўем пачаў збор грошай: першая грашовая ахвяра для беспрацоўных паступіла ад работнікаў тэхнічнага парку 5 лётнага палка, якія сабралі 106 злотых 50 грошаў[104]. Уладальнік буфета на Лідскім вакзале Уладзіслаў Бжэзінскі ахвяраваў у фонд Камітэта па барацьбе з беспрацоўем 20 злотых[105]. Сярод дзясяткаў іншых гараджан 2 злотыя на дапамогу беспрацоўным ахвяраваў і гісторык Міхал Шымялевіч[106].

Праз газеты Павятовы камітэт дапамогі беспрацоўным прапанаваў, каб кожны, хто мае працу, штомесячна адлічваў нейкую квоту ў фонд дапамогі, *"на гэта ўжо згадзіліся чыгуначнікі, настаўнікі, працоўныя каапператываў, чыноўнікі староства і павятовага аддзела, камунальнай ашчаднай касы і дарожнай управы"* [107].

Падобна на тое, што Лідскі камітэт барацьбы з беспрацоўем рэальна збіраў вялікія сумы грошай, бо нават падтрымліваў беспрацоўных у этнічнай Польшчы: *"Павятовы камітэт дапамогі беспрацоўным ўжо выслаў 4 вагоны з бульбай у г. Олькуш (Келецкае ваяводства) для дапамогі галадаючым"* [108].

Для змякчэння беспрацоўя ўлады падтрымлівалі дробны бізнес і саматужнікаў. Пры канцы лютага 1931 г. *"Камітэт павятовай выставы саматужнага промыслу пад пратэктаратам пані старасціны Зоф'і Багаткоўскай звяртаецца з просьбай да ўсіх, хто хоча каб нашы людзі жылі ў дабрабыце і развіваліся саматужныя рамёствы..., дапамагчы стварыць такую выставу"* [109]. Праз некалькі дзён гэты камітэт сабраўся. *"На паседжанні ... прысутнічала больш за 30 чалавек, у тым ліку старасціна і стараста. Пасля паседжання адзін з прысутных, саматужнік Фларыян Залескі, павёў усіх да сябе ў хату і прадэманстраваў піяніна, якое ён сам сканструяваў і вырабіў"* [110].

Беспрацоўным давалася магчымасць зарабіць на сезонных муніцыпальных работах. *"Два дні таму пачалася расчыстка вуліц горада ад лёду і снегу беспрацоўнымі. Аб гэтым самі беспрацоўныя прасілі старасту"* [111]. Тым не менш беспрацоўе станавілася ўсё большай праблемай. У студзені 1932 г. каля 150 беспрацоўных учынілі скандал ў Лідскім магістраце. Выкліканая паліцыя затрымала некалькі актывістаў[112].

У верасні 1932 г. паведамлялася пра невялікае памяншэнне беспрацоўя ў горадзе, выкліканае наборам рабочых на фабрыку "Ардаль" [113].

Пры канцы 1933 г. "Кур'ер Віленскі" паведамляў, што ўзімку беспрацоўе ў Лідзе даходзіла да 2 500 чалавек на 22 000 жыхароў горада. А ў цёплую пару года з-за сезонных будаўнічых работ, большая частка з якіх была адмыслова арганізавана для беспрацоўных, іх колькасць скарацілася да 250 чалавек[114].

**Крызіс гарадской улады і гаспадаркі**

На пачатку верасня 1930 г. замест Бергмана бургамістрам быў абраны палкоўнік, лекар Шчэпан Ардылоўскі[115]. Новы бургамістр Ліды Шчэпан Ардылоў-

скі - былы галоўны лекар Віленскага гарнізона, нарадзіўся на Ковеншчыне, на Лідчыне жыў асаднікам у Шчытніках каля Белагруды[116].

Праз 10 дзён газета "Слова" пісала: *"Трэці раз было склікана паседжанне Гарадской рады, і зноў яно не мела вынікаў. Паседжанне пачаў новаабраны бургамістр Ардылоўскі, які ў сваёй кароткай прамове адзначыў, што прыняў пасаду, каб працаваць для горада. Па прапанове раднага д-ра Сапоцькі быў зменены распарадак дня, у выніку чаго выбары лаўнікаў і віца-бургамістра перасунуты на канец паседжання. ... Увечары былі абраны два лаўнікі ў асобах Антона Прыбыткі і Марака Карчмара, якія былі лаўнікамі і да гэтага часу ... Віца-бургамістр не быў абраны"* [117].

У цяжкім крызісе апынулася эканоміка горада, што прывяло да крызісу самакіравання. Першай ластаўкай праблем стала звальненне за недахопы ў працы бухгалтара магістрата Антона Салмановіча[118], які працаваў пры папярэднім бургамістры Бергмане. Улетку паведамлялася: *"20 ліпеня ўправа магістрата ў асобах бургамістра Шчэпана Ардылоўскага, намесніка бургамістра Мейлаха Пупко і лаўнікаў Прыбыткі Антона і Карчмара Марэка, на бліжэйшым паседжанні, якое адбудзецца 25 ліпеня, фактычна вырашыла падаць у адстаўку.*

*21 ліпеня бургамістр у Павятовым аддзеле дакладваў пра немагчымасць палепшыць фінансавы стан горада і немагчымасць супольнай працы з Гарадской радай. Павятовы аддзел вырашыў звярнуцца да ваяводы з просьбай распусціць Гарадскую раду і прызначыць камісара для часовага кіравання горадам. Фінансавы стан горада падкасіла будаўніцтва ў 1928-30 гг. двух аб'ектаў, якія каштавалі каля 2 000 000 злотых, з гэтай сумы толькі каля 800 000 злотых у выглядзе доўгатэрміновых крэдытаў дала ўправа Віленскай вучэбнай акругі, а рэшту грошай Магістрат атрымаў праз кароткатэрміновыя крэдыты ў прыватных асоб і банкаў, якія зараз патрабуюць аплаты. У выніку, розныя суды наклалі арышт на гарадскую нерухомасць коштам у 500 000 злотых. Гэта вынік будоўлі гарадской электроўні і агульнаадукацыйнай школы. Магістрат прасіў доўгатэрміновы крэдыт ў 500 000 злотых і адтэрміноўку па выплатах крэдытаў"* [119].

У кастрычніку паведамлялася, што горад меў дэфіцыт бюджэту ў 1 149 410 злотых, а крэдыт ў 500000 злотых і адтэрміноўку выплат па старых крэдытах яшчэ не атрымаў: *"Над горадам павіс злы фатум... Бургамістр Ардылоўскі падаў у адстаўку і яго месца часова заняў вядомы педант, былы сакратар Павятовага аддзела Юзаф Задурскі, які павёў справу цвёрдай рукой, супакоіўшы сваркі радных"* [120]. Бургамістр Юзаф Задурскі часова выконваў свае абавязкі.

У лістападзе Гарадской радай быў абраны Магістрат і прыняты бюджэт на 1931-32 гг. Гораду было неабходна выплаціць для пагашэння пазыкаў 233 139 злотых на працягу года. Акрамя гэтага, трэба было плаціць адсоткі: па доўгатэрміновых крэдытах 61 256 злотых і 126 683 па кароткатэрміновых - разам 187939 злотых, ці 515 злотых штодзённа. Радныя адзначылі, што нармальнае функцыянаванне гарадской гаспадаркі ў такіх умовах амаль што немагчыма і трэба працаваць над рэструктарызацыяй даўгоў. На паседжанні адзначаліся фінансавыя злоўжыванні пры бургамістры Бергмане[121].

3 жніўня 1932 г. Гарадская рада[122] ўхваліла рашэнне звярнуцца ў Куратрыюм Віленскай школьнай акругі з прапановай адтэрміноўкі да 1936 г. выплаты пазык на суму 142 500 злотых за будоўлю школы[123].

Тым не менш, у сакавіку 1932 г. "Наваградскі кур'ер" аптымістычна пісаў: *"Можа дзе і ёсць крызіс, але ў нас, у Лідзе - няма. Аб гэтым кажуць новыя прадпрыемствы, рэстараны, вялікія крамы ў еўрапейскім стылі і з'яўленне гуку ў кіно. Не хачу быць галаслоўным і прыводжу факты. А менавіта: пачала працаваць алярня Голдберга, інвалід Юзаф Пеляк праз некалькі дзён адкрывае па-еўрапейску абсталяваны рэстаран па вуліцы 3-га Мая (пад гатэлем "Варшава"), Б. Ковенскі адкрыў па-еўрапейску абсталяваную краму тканін па вуліцы Сувальскай (насупраць цукерні "Амерыка"), Яблонскі і Левін пераабсталявалі свае кінатэатры ў гукавыя"* [124].

Kino Dźwiękowe
Maleńkie
w LIDZIE,
Suwalska 74

Pierwszy film o djalogach polskich, francuskich i niemieckich. Tragedję tysięcy górników wydobywających czarne djamenty, rozpacz i łzy matek, żon, ojców, mężów, sióstr i braci da arcydzieło dźwiękowe, owoc syzyfowej pracy genjalnego umysłu, reelizatora **G. W. Pabsta** p. t.

**Braterstwo Ludów**

Kino Dźwiękowe
EDISON
w LIDZIE

Dziś i w dnie następne

**SERCA NA ROZDROŻU**
**NIE ZABIJAJ**

Jest to tragedja dwojga kochanków, rozdzielonych jednem słowem „WOJNA". Obraz wstrząsa sumieniem każdego widza W rolach głównych: **Charles Farel i Magde Ewans.**
Dla dzieci i młodzieży wzbroniony.

***Рэклама лідскіх кінатэатраў***

Праблемы горада не скончыліся, і 14 чэрвеня 1933 г. Гарадская рада замест Юзафа Задурскага 8 галасамі "за" пры 5 "устрымаўшыхся" абрала бургамістрам горада суддзю на пенсіі Войцаха Шчасновіча[125]. Але ўзніклі праблемы з яго зацвярджэннем, і ў выніку *"новаабраны бургамістр Ліды Шчасновіч падаў у адстаўку, сход радных для абрання іншага бурмістра не прынёс вынікаў"* [126]. Таму павятовы староста сваім рашэннем прызначыў бургамістрам горада Міхала Клаўдзія Бараноўскага з Наваградка[127].

На пачатку 1934 г. Гарадская рада не змагла ухваліць бюджэт горада, бо вялікая група радных адмыслова адмовіліся прыйсці на два паседжанні рады. Адміністрацыйныя ўлады налажылі на гэтых радных грашовы штраф.[128]

Заканчэннем крызісу гарадской улады можна лічыць вяртанне пры канцы жніўня 1934 г. на пасаду бургамістра Юзафа Задурскага, за якога аднагалосна прагаласавалі ўсе радныя.[129] Задурскі заставаўся на гэтай пасадзе да верасня 1939 г.

**Рэгуляванне цэн**

Эканамічная сітуацыя самым згубным чынам адбівалася на становішча вёскі. Сяляне, не знаходзячы пакупнікоў, змяншалі цэны на свае тавары. Узнікалі так званыя нажніцы цэнаў, гэта значыць усё больш станавіўся разрыў паміж цэнамі на прамысловыя тавары і сельскагаспадарчую прадукцыю. Напрыклад, да 1935 г. у параўнанні з 1928 г. цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю, усярэднім, панізіліся на 65% - гэта значыць, каб атрымаць за свае вырабы тыя ж грошы, як ў 1928 г., селянін павінен быў прадаць іх у тры разы больш у фізічным вымярэнні! А селянін не мог не прадаваць свае вырабы, бо павінен быў плаціць падаткі і купляць неабходныя яму для жыцця прамысловыя вырабы. Таму селяніну не па кішэні сталі неабходныя яму тавары - запалкі, свечкі, адзежа і да т.п. На нажніцах цэнаў нажываўся пасярэднік (гандляр), які скупляў сельскагаспадарчыя прадукты па нізкіх цэнах з наступным перапродажам іх на гарадскіх рынках.

Урад, імкнучыся змякчыць найболей хваравітыя наступствы крызісу, вырашыў абмежаваць самаўпраўнасць прыватных прадпрымальнікаў і пачаў кантраляваць цэны. Зрэшты, так рэагаваў на эканамічны крызіс увесь капіталістычны сусвет. Прэса стала друкуе табліцы з адміністрацыйна дазволеным паніжэннем цэнаў на харчовыя тавары і з адміністрацыйна вызначанымі цэнамі: *"Камісія па вывучэнні цэнаў пры Лідскім старостве прызначыла новыя цэны на мясныя вырабы, сала і мяса: сала сухое 1 гатунку 2,1 зл. за 1 кг., тое самае 2 гатунку 2 зл., сала свежае, несалёнае 1,80 зл., шынка вэнджаная 3,8 зл., паляндвіца 4 зл., сардэлькі 3 зл., сасіскі 3,4 зл., каўбаса літоўская 4 зл., кракаўская сухая 3,4 зл., бачок вэнджаны 2,6 зл., свежы 1,5 зл. мяса свініна 1,3 зл."* [130].

Пры канцы жніўня 1932 г. камісія Гарадской рады вырашыла зменшыць цану на электрычную энергію, якая выкарыстоўваецца для прамысловых мэтаў, а таксама для дзяржаўных устаноў і на гаспадарчыя мэты ў побыце (электрычныя пліты, чайнікі і г.д.). Тады ж магістрат змог выплаціць заробкі працоўным гарадской электроўні за чэрвень[131]. Але ў лістападзе "Наваградскі кур'ер" пісаў: *"Кошт электрычнасці ў Лідзе занадта вялікі. Кілават-гадзіна каштуе 1 злоты, калі ў іншых гарадах - ад 0,5 да 0,6 злотага"* [132].

**Штрайкі**

Нават у цяжкія часы эканамічнага крызісу адбываліся штрайкі, і працоўныя баранілі свае правы.

Зімой 1932 г. з-за зніжэння заробкаў успыхнуў штрайк на "Ардалі". Адміністрацыя планавала знізіць заробкі на 7 - 50 %. Гэта было б ужо чацвёртае паніжэнне заробкаў, пачынаючы з кастрычніка 1931 г. У першы дзень штрайкавалі 130 жанчын і 45 мужчын[133]. Праз два тыдні "Ардаль" *"аднавіў працу пасля штрайку, удалося дабіцца паніжэння расцэнак толькі на 5 - 10 %"* [134].

У ліпені 1932 г. заштрайкавалі ўсе 40 працоўных тартака ў Нёмане (Бярозаўка) які належаў Палячаку і Шмуйловічу. Прычына штрайку - рабочым не плацілі заробак на працягу 3 тыдняў[135]. Праз 3 дні штрайк закончыўся, рабочыя атрымалі свае заробкі[136].

У сакавіку 1933 г. на канферэнцыі паміж дырэкцыяй і рабочымі фабрыкі "Дротындустрыя" быў спынены штрайк, і рабочыя добраахвотна прыступілі да працы. Дырэкцыя абавязалася не паніжаць самыя малыя заробкі. Але адразу пасля спынення штрайку на 10% былі паніжаны ўсе заробкі - і вялікія і малыя[137].

25 ліпеня 1933 г. закончыўся штрайк на цагельнях у Шайбаках і Перапечыцы. Уладальнікі цагельняў згадзіліся плаціць работнікам па 2 злотыя за выраб 1000 цаглінаў[138].

11 верасні 1935 г. заштрайкавалі лідскія ліцейні "Полянд" і "Бэнлянд". Да штрайку рабочыя мелі тут заробак у 2 - 2,5 злотыя ў дзень, штрайкоўцы патрабавалі ўзняць штодзённы заробак на 60 - 70 грошаў. Прэса адзначала, што за шмат гадоў гэта першы штрайк на гэтых фабрыках[139]. 28 верасня прэса паведаміла, што штрайк працягваецца[140].

**4. Чыгунка**

З 1924 г. на чыгуначнай станцыі Сялец існаваў буфет, якім валодала Каміла Дашкевіч, у 1930 г. гэты бізнес прайшоў перарэгістрацыю[141].

Пры самым канцы 1930 г. чыгуначныя ўлады паведамілі пра

**Obniżenie cen na wyroby masarskie, mięso wołowe i chleb w pow. lidzkim**

LIDA (kor. wł.) Komisja do badania cen przy Starostwie Lidzkiem, ustaliła na ostatniem posiedzeniu następujące ceny na chleb, mięso wołowe i wyroby masarskie:

| | |
|---|---|
| chleb razowy | 0,22 zł. |
| chleb. stołowy | 0,25 „ |
| chleb 65% | 0,32 „ |
| Mięso wołowe I gat. | 1,50 „ |
| „ „ II gat. | 1,35 „ |
| „ cielęce | 1,10 „ |
| słonina słona sucha I gat. | 2,40 „ |
| sadło wieprzowe | 3,20 „ |
| smalec biały | 3,40 „ |
| „ szary | 2,00 „ |
| szynka gotowana | 4.50 „ |
| szynka wędzona | 2,00 „ |
| karkowina wędzona I gat. | 4,50 „ |
| salceson | 3,40 „ |
| polędwica | 4,50 „ |
| mięszanina (rozmaitości) | 4,00 „ |
| martadel | 3,60 „ |
| serdelki | 3.50 „ |
| parówki | 3,80 „ |
| myśliwskie | 4.00 „ |
| kiełbasa litewska | 4,50 „ |
| krakowska sucha | 4.00 „ |
| kiełbasa serdelowa | 3,60 zł |
| „ surowa | 2,60 „ |
| kiszka pasztetowa | 3,60 „ |
| „ wątrobiana | 1,00 „ |
| „ kaszana | 1,00 „ |
| boczek wędzony | 3,40 „ |
| „ gotowany | 3,40 „ |
| schab kotletowy | 2,40 „ |
| mięso wieprzowe | 1,60 „ |
| żeberka z mięsem | 1,00 „ |
| żeberka nieoberznięte | 1,00 „ |
| głowizna | 1,00 „ |
| nogi wieprzowe | 1,00 „ |
| okorki surowe | 1,40 „ |
| boczek świeży | 2,00 „ |
| szynka surowa | 1,60 „ |

za 1 kg. przy sprzedaży w detalu.

Powyższy cennik ustalony został w porozumieniu z cechami piekarzy rzeźników i wędliniarzy w Lidzie, który obowiązuje od dnia 17 stycznia 1931 roku. Ceny powyżej uwidocznione winne być umieszczone i wywieszone w sklepach i straganach sprzedaży pieczywa, mięsa i wyrobów masarskich.

***Табліца з адміністратыўна паніжанымі цэнамі на харчаванне (Zycie Nowogrodzkie №22 (1045) 28 stycznia 1931.)***

намер пусціць маторныя вагоны (продкі сучасных дызель-цягнікоў) па маршруце Ваўкавыск - Слонім - Баранавічы і Ваўкавыск - Ліда[142]. Такія вагоны з'явіліся толькі ўлетку 1935 г., калі Віленская дырэкцыя чыгункі атрымала 5 двухвосевых вагонаў з рухавікамі ў 100 к.с. для абслугоўвання ліній ад Вільні да Ліды, Гародні і Нова-Вілейкі, *"гэтыя вагоны зменяць сучасныя цягнікі з паравозамі"* [143].

Прэса неаднаразова пісала пра неабходнасць будаўніцтва віядука над чыгункай каб злучыць раёны горада Слабодку і Пяскі з цэнтрам. Адсутнасць віядука прыводзіла на няшчасных выпадкаў, бо толькі адзіны пешы пераход злучаў раён горада Ферма з Слабодкай, пры тым, што дзеці з горада хадзілі ў чыгуначную школу, якая ў той час месцілася каля сучаснай школы №10 [144].

У 1932 г. заканчвалася аднаўленне чыгуначнага моста цераз Нёман каля вёскі Сялец. 13 студзеня на гэтай будоўлі здарыўся няшчасны выпадак: рабочы з-пад Нясвіжа Акрынскі Антон, знаходзячыся на рыштаваннях, упаў з вялікай вышыні на зямлю. З цяжкімі пашкоджаннямі яго прывезлі ў Лідскі шпіталь[145]. 6 верасня адбыліся агульныя інжынерныя выпрабаванні канструкцый гэтага моста агульнай даўжынёй у 200 м. *"Мост будзе перададзены для ўжытку пры канцы бягучага года ... кошт будоўлі склаў 1 мільён злотых"*[146]. 23 лістапада быў устаноўлены на месца першы пралёт новапабудаванага моста ў Сяльцы цераз Нёман. *"Астатнія тры пралёты будуць устаноўлены на сваіх месцах у бліжэйшы час. Новы мост цераз Нёман будзе складацца з чатырох пралётаў і мець даўжыню ў 200 метраў. ... Нагляд над работамі ажыццяўлялі начальнік дарожнага аддзела ў Лідзе інжынер Мярвінскі, рэвізор руху Катовіч, гандлёвы кантралёр Асецкі. Да гэтага часу цягнікі як з Ліды, так і з Баранавіч даходзілі толькі да моста, а пасажыры і грузы перавозіліся на другі бераг па часовым мосце"* [147].

На пачатку 1935 г. Лідскі вакзал атрымаў табліцы, якія арыентавалі пасажыраў ў часе прыбыцця і адпраўкі пасажырскіх цягнікоў. *"Такія таблiцы будуць забяспечаны гадзіннікамі, якія будуць паказваць час адпраўкі дадзенага цягніка. Гэтая інавацыя ўжо працуе на Віленскім вакзале"* [148].

### Чыгуначныя здарэнні

9 ліпеня 1930 г. Аляксандра Брэйва, вяртаючыся ад сваякоў, якія жылі каля казармаў 77-палка, пад віядукам за шпіталем трапіла пад цягнік № 323 з Вільні. Будучы глухой, яна не чула набліжэнне цягніка. На нябожчыцы знойдзена торбачка з 11 царскімі залатымі дзесяцірублёвымі манетамі, якую яна, верагодна, заўжды насіла ў сябе на грудзях[149].

У лютым 1931 г. цягнік на перагоне Ліда - Скрыбаўцы на пераездзе ў Парачанах наехаў на фурманку, у выніку чаго конь быў забіты, а ўласнік фурманкі Ян Гайда цяжка паранены[150].

Пры канцы сакавіка 1931 г. стрэлачнік Леанард Каханоўскі (жыў у вёсцы Гарні) патрапіў пад цягнік і загінуў[151].

15 траўня 1931 г. машыніст цягніка, які ішоў з Ліды да Баранавіч, у момант, калі цягнік мінаў станцыю Дварэц, заўважыў, што мост, па якім ён павінен быў ехаць гарыць. Верагодна, гэта быў яшчэ часовы драўляны мост, які застаўся пасля Першай сусветнай вайны. Машыніст спыніў цягнік і разам з чыгуначнікамі, якія прыбеглі са станцыі, патушыў мост. Паліцыя выявіла, што гэта быў падпал[152].

16 студзеня 1934 г. у 9-20 на чыгуначнай станцыі Ліда, паравоз, які выязджаў з дэпо па пабочнай каляі, сутыкнуўся з пасажырскім цягніком Ліда - Баранавічы. У выніку паравоз пасажырскага цягніка перакуліўся. Параненых не было. Усё здарэнне праходзіла на вачах у вялікай колькасці людзей, бо на станцыі ў гэты момант спыніліся яшчэ і варшаўскі, і віленскі цягнікі. Пачалося следства, абодва машыністы былі затрыманы[153].

## 5. Адукацыя, культура, рэлігія

### Адукацыя

#### *Дзяржаўная гімназія*

У красавіку 1930 г. Дырэкцыя публічных работ пры Навагрудскай ваяводскай управе аб'явіла гандлі на мантаж цэнтральнага ацяплення, водаправода і каналізацыі ў гмаху Дзяржаўнай гімназіі, будаўніцтва якой падыходзіла да канца[154].

З 26 па 30 траўня 1930 г. у Дзяржаўнай гімназіі праходзілі экзамены выпускнікоў. Экзаменамі кіравалі начальнік II аддзела Кураторыюма адукацыі Ян Бобка і дырэктар гімназіі Вацлаў Белакоз. У той год гімназію паспяхова скончылі Плунгус Генрык, Вадэйка Станіслаў, Петрашкевіч Ідалія, Ліпінская Марыя, Вільтас Рычард, Курчэўская Ванда, Дрозд Каэтан, Жукоўская Рэгіна, Макарэвіч Зміцер, Капалюк Станіслаў, Запаснік Аляксандр, Залкінд Маша, Філіпчук Міхал, Сянкевіч, Рабіновіч Фрадэль, Вітажэнец Гелена, Малевіч Марыя, Любчанскі Мойша, Стукатар Рахель, Ліпшыц Рыва, Вінаградава Соня, Бенеш-Крывец Юзаф, Давідовіч Беньямін, Грабоўскі Ян, Дэлімала Баляслаў, Сянкевіч Уладзіслаў, Ігнатовіч Паўлін. Урачыстае уручэнне пасведчанняў аб адукацыі адбылося 15 чэрвеня[155].

Ганаровае адкрыццё і асвячэнне новага будынка гімназіі адбылося ў адзін дзень з адкрыццём помніка на плошчы Славы - 12 лістапада 1930 г., у дзень Незалежнасці[156], прэса паведамляла, што новы гмах гімназіі быў пабудаваны *"з ініцыятывы Маршала Пілсудскага"* [157].

Пры канцы 1931 г. у Лідзе на 10 старонках выйшаў першы нумар часопіса гімназічнай моладзі "Малады лес". Часопіс змяшчаў два артыкулы "І зноў да працы" і "Шанаванне Эдысона", два вершы, хроніку, з якой чытач мог даведацца, што ў гімназіі ёсць аб'яднанні "Братняя дапамога", "Кола паланістыкі" і "Кола дакладных навук імя Ньютана". Часопіс заканчваўся раздзелам вучнёўскага гумару. Рэдактар прафесар гімназіі Мар’ян Ганус, а таксама вучні С. Шалюбскі і



***Помнік на плошчы Славы (на другім плане - будынак магістрата, які захаваўся да нашага часу)***

М. Ілютовіч. Часопіс добра прыняла гарадская інтэлігенцыя[158].

На пачатку 1932 г. у гімназіі прафесар Канстанты Малыніч з Наваградскага звязу аматараў радыё прачытаў лекцыю пра радыёвяшчанне, як форму культуры. На лекцыі прысутнічала каля 200 чалавек[159].

Летам 1932 г. святкавалася дзесяцігоддзе дзяржаўнай гімназіі: *"11 і 12 чэрвеня дзяржаўная гімназія ў Лідзе будзе адзначаць дзесяцігоддзе. Ва ўрачыстасцях будуць удзельнічаць куратар вучэбнай акругі Шалангоўскі, ваявода Костка-Бярнацкі, генерал Літвіновіч. У першы дзень пройдзе набажэнства за памёрлых выкладчыкаў і вучняў, а таксама спартовыя спаборніцтвы. На другі дзень пасля набажэнства адбудзецца адкрыццё памятнай шыльды, святочная акадэмія і сустрэча з выпускнікамі, на заканчэнне - баль. У сувязі з 10-ці годдзем гімназіі будзе выдадзена багатая манаграфія пра гімназію на тле гісторыі горада"* [160] .

15 кастрычніка 1932 г. у Дзяржаўнай гімназіі ў межах "Дня Шапэна" прайшоў музычна-вакальны вечар: *"Пра вялікага музыканта расказала прафесар гімназіі А. Калокша. Пасля чаго камерны ансамбль гімназіі выканаў прэлюдыю. Вучань Жукоўскі прадэкламаваў "Тастамант" Славацкага, жаночы квартэт пад акампанемент камернага ансамбля выканаў "Зычэнне" і "Мары". Мужчынскі хор спеў кантату, вучань Якуціс спеў "Жаль". Вучань Драмовіч выступіў у жанры меладэкламацыі, вучань Пупко сыграў на скрыпцы "Накцюрн". Пры канцы, змешаны хор разам з сімфанічным аркестрам 77-га палка выканаў A-dur"* [161].

***Агульнаадукацыйнай школа № 1 і 2***

На пачатку красавіка 1930 г. школьны гмах імя прэзідэнта Нарутовіча быў прыняты адмысловай камісіяй, якая прызнала, што будынак якасна пабудаваны і цалкам адпавядае свайму прызначэнню. Было вырашана зрабіць яшчэ агароджу і школьны стадыён. 10 красавіка 1930 г. у гэтай школе адбыліся першыя ўрокі[162]. Гэты дзень можна святкаваць як дзень нараджэння сучаснай школы № 1 г. Ліды.

Газета "Наваградскае жыццё" пісала: *"Адкрылася агульнаадукацыйная школа. ... гмах памерам 13300 м$^3$ пабудаваны за 801 000 злотых згодна з найноўшымі патрабаваннямі і складаецца з дзвюх школ-блізнятаў, мае 7 класных пакояў для агульнага выкладання, 1 залу прыродазнаўства, 1 залу ручной працы і 1 гімнастычную залу"* [163].

На пачатку сакавіка ў Забалацкай гміне знойдзена 2 малаткі з чэсанага каменю, якія праз нейкі час былі перададзены ў Ліду ў школьны музей школы №1 і 2 [164].

У траўні 1930 г. жаночая школа № 1 была перанесена ў новы гмах імя прэзідэнта Нарутовіча па вуліцы Школьнай: *"Зараз школьная моладзь зможа карыстацца самым новым абсталяваннем школы, і мы не памылімся, калі скажам, што вучні будуць мець усё самае лепшае. Школа мае вялікія класы, дасканалую вентыляцыю, шырокія вокны, замест былых лавак - столікі з пюпітрамі, і для кожнага вучня - зручнае крэсла. Таксама ёсць адмысловая гімнастычная зала і майстэрні"*[165]. А з "Наваградскага жыцця" дазнаёмся, што *"з вуліцы Замкавай ў новы школьны гмах на Выгане перанесена жаночая школа"* [166].

***Іншае***

Пры канцы траўня 1930 г. камітэт па арганізацыі дзіцячых летніх лагераў узначаліла Зоф'я Багаткоўская, дачка гісторыка Міхала Шымялевіча і жонка лідскага старасты Генрыка Багаткоўскага. На летні адпачынак выдзялялася з бюджэту горада 6 000 злотых - планавалася стварыць 3 лагеры агулам на 160 месцаў[167].

Пры канцы жніўня таго ж года газета "Наваградскае жыццё" пісала: *"Гімназія магістрата г. Ліды была перанесена ў грунтоўна адрамантаваны гмах п. Янушкевіч па вул. Замкавай, 25. У гмаху маецца 8 лекцыйных пакояў, вялікая гімнастычная зала, кабінеты прыродазнаўства і фізікі. Фізіку будзе выкладаць сам дырэктар гімназіі Пякарскі па навейшай методыцы, з вялікай колькасцю практычных заняткаў. Новае памяшканне значна лепшае за ранейшае па вуліцы Пілсудскага"* [168]. У тым жа нумары надрукавана аб'ява наступнага зместу: *"Гімназія магістрата г. Ліды з правамі дзяржаўных школ. Дырэкцыя гімназіі паведамляе, што школьны год пачнецца з 2 верасня. Збор вучняў у 9-00 на набажэнства ў новым памяшканні гімназіі. Уступныя экзамены для усіх класаў адбудуцца 1, 2, 3 і 4 верасня ў 16-00. Бацькі павінны заплаціць за навучанне да 30 жніўня ... З пачаткам заняткаў усе*

*вучні абавязаны насіць форму гімназіі"*[169].

15 верасня ў прысутнасці ваяводы Бачковіча, старасты Багаткоўскага, візітатара піяраў Курчэўскага, камандзіра 5-га лётнага палка падпалкоўніка Івашкевіча пры вялікай колькасці жыхароў горада была асвечана Гандлёвая школа ў Лідзе[170].

У снежні 1930 г. вялікая колькасць вучняў на Лідчыне захварэла на грып і не хадзіла ў школу. Хварэлі і выкладчыкі: *"У самой Лідзе ў Дзяржаўнай гімназіі захварэла палова выкладчыкаў і шмат вучняў, ёсць намер спыніць заняткі"* [171].

1931 г. пачаўся з святкавання 25-ці годдзя барацьбы за польскую школу. У Лідзе быў створаны камітэт святкавання, у які ўвайшлі дырэктары гімназій Белакоз і Пякарскі, настаўнікі Оркуш і Барбурскі[172].

На пачатку 1934 г. прэса паведамляла: *"Стараннямі ўправы гуртка планерыстаў у Лідзе і дзякуючы дырэкцыі і вучням Дзяржаўнай рамеснай школы ў варштатах школы пабудаваны два планёры "Варона". Урачыстае асвячэнне планёраў адбудзецца 30 студзеня ў 13-30 на плошчы Збаўцы ў Лідзе"* [173]. Лідскія планёры былі першымі лятальнымі апаратамі пабудаванымі ў Заходняй Беларусі. Абодва планёры прайшлі сертыфікацыяю і былі прыняты ў эксплуатацыю міжнародным бюро "Верытас" і прызнаныя прыдатнымі для палётаў.



***Планёр "Ліда"***

Дзяржава падтрымлівала развіццё краязнаўства: *"Віленскі школьны інспектар даручыў лідскім настаўнікам агульнаадукацыйных школ (і не толькі лідскім) збіраць матэрыял і рыхтаваць да друку манаграфіі пра мясцовасці, дзе знаходзяцца гэтыя школы. Падобна, не гістарычныя манаграфіі, якія рэканструююць агульныя падзеі нашага краю, а менавіта такія працы маглі бы стаць ... падмуркамі рэгіяналізму"* [174].

***Беларускае школьніцтва***

"Беларуская Крыніца" пісала пра адносную стабілізацыю беларускай пачатковай адукацыі ў Заходняй Беларусі ў 1930-31 навучальным годзе. У 1929-30 навучальным годзе на ўсёй Заходняй Беларусі былі 21 беларуская і 44 утраквістычныя (двухмоўныя - *Л.Л.*) школы, разам 65. У 1930-31 навучальным годзе колькасць паменшылася на 3 школы.

*"Агулам беларускае школьніцтва пад Польшчай цяпер выглядае так:*

*Урадавых школ пачатковых школ з невыразным воблікам, нібы ўтраквістычных, нібы беларускіх - 62 і адна вучыцельская семінарыя ў Вільні.*

*Прыватных: 4 школы пачатковыя і 2 гімназіі: у Вільні і Наваградку (Клецкай беларускай гімназіі, як ведаем, пагражае закрыццё).*

*Каб трохі ўзбагаціць гэтую ўбогую статыстыку ... , трэба сюды дадаць і лектарат беларускай мовы на Віленскім унівэрсытэце"* [175].

У сярэдзіне 1933 г. народныя карэспандэнты пісалі:

**З Беліцы:** *"Каля нас беларускай школы не чуваць. Вучаць усюду ў школах беларускіх дзяцей папольску. Рэлігіі праваслаўных дзяцей вучаць па-расейску, а каталіцкіх па-польску. Дзеці, кончыўшы польскую школу, астаюцца проста невукамі. Польская школа нашай моладзі не споленізуе. Моладзь ахвотна чытае беларускія кніжкі. Трэба наладзіць саманавучаньне хатняе і даць моладзі адпаведных кніжак. Гэта ў пэўнай ступені заменіць родную школу"* [176].

**З Сяльца:** *"У нашай вёсцы, як і ва ўсёй ваколіцы, беларускіх ані польска-беларускіх школ няма. Усе школы толькі польскія. ... Некалькі гадоў таму нашы сяляне дамагаліся беларускай школы - падавалі дэкларацыі, але беларускай школы не адчынілі. Нам, беларусам, трэба дамагацца роднай школы, бо яна неабходная, але трэба і вучыць дзяцей дома. Адна бяда - няма адпаведных падручнікаў"* [177].

***Летувіскае школьніцтва***

31 снежня 1932 г. Куратар Віленскай школьнай акругі закрыў 10 літоўскіх пачатковых школ, якія ўтрымлівала Літоўскае культурна-асветная таварыства "Рытас". Сярод іншых, школы былі закрыты ў вёсках Пелясе, Дубічах і Павалоцы Лідскага павета[178]. Газета "Беларуская Крыніца" пісала з гэтай нагоды: *"З прычыны такога цяжкага ўдару па літоўскай школе, мы, беларусы, якія самі перажываем школьную трагедыю, літоўскаму грамадству і народу выражаем наш шчыры спагад ..."* [179].

Пасля страты сваіх школ, летувісы пачалі вучыцца па хатах. І праз паўгода Акруговы суд у Лідзе пачаў разгляд справы *"нелегальных летувіскіх настаўніц з вёскі Нявошы Воранаўскай гміны Веранікі Місень і Станіславы Рахаль, абвінавачаных у падрыўной дзейнасці на карысць летувіскай дзяржавы. ... суд прыгаварыў абвінавачаных на 6 месяцаў турмы"*[180].

Тым не менш, ужо ўвесну 1934 г. у Лідскім паве-

це зноў з'явіліся школы з летувіскай мовай навучання. Гэтыя школы працавалі ў населеных пунктах Радунскай гміны: Бялюнцы (68 вучняў), Паддуб'е (27 вучняў), Павалока (68 вучняў). Летувіская мова вывучалася ў Новым Двары (Эйшышская гміна, 83 вучні), Свяцкевічах (Эйшышская гміна, 57 вучняў), Дубінцах (Радунская гміна, 68 вучняў), Падзітве (Радунская гміна, 43 вучні), Віганцах (Радунская гміна, 36 вучняў), Дубічах (Забалацкая гміна, 89 вучняў), Рамашканцах (Воранаўская гміна, 72 вучні)[181].

**Культура**

Як і ў папярэднія гады, Ліду рэгулярна наведвалі розныя творчыя калектывы. Не мае сэнсу пералічваць усе гастролі, але, напрыклад, 14 і 15 студзеня 1930 г. ў Лідзе гастралявала Варшаўская опера. На сцэне кінатэатра "Нірвана" былі паказаны два спектаклі "Галька" і "Кармэн" [182], а пры канцы чэрвеня 1934 г. у Лідзе гастраляваў цырк Зрулоўскага, *"які разбіў свае намёты ў парку пры вуліцы 3-га Мая"* [183].

У Лідзе з канца 1920-х гг. існаваў тэатральны гурток, якім кіраваў Караль Юрага. На пачатку 1930 г. паведамлялася, што гурток паставіў п'есу "Чары мундзіра" і паказваў яе на сцэне Дома культуры (Ogniska) чыгуначнікаў, і кінатэатра "Нірвана", і нават ў Лідскай турме[184].

У 1928 г. па ініцыятыве дырэктара школы ў Нёмане "А" (Бярозаўка) Е. Кісялеўскага пры вячэрнім аддзеле школы таксама быў арганізаваны тэатральны гурток. Гурток паставіў некалькі п'ес і нават зарабіў 194 злотыя, з якіх 48 злотых перадаў у касу ўзаемнай дапамогі, 50 злотых - школе і на 27 злотых закупіў рэчы для тэатра. На пачатку 1930 г. гурток рыхтаваў да паказу адразу дзве пастаноўкі[185].

29 чэрвеня 1930 г. быў асвечаны кутні камень і пачата ганаровае будаўніцтва помніка Незалежнасці на плошчы Славы. Будаўніцтва асвяціў ксёндз-дэкан Баярунец у прысутнасці прадстаўнікоў уладаў, войска, вучняў школ, сяброў розных арганізацый і насельніцтва горада. У фундамент была ўмуравана цынкавая скрынка з дакументам на пергаменце наступнага зместу: *"Справа зроблена 29 чэрвеня 1930 г. у старым горадзе Гедзіміна Лідзе, у часы Прэзідэнта, прафесара, д-ра Ігнацыя Масціцкага, калі Маршалам Польшчы і Духоўным Правадыром народа быў Юзаф Пілсудскі, Прэм'ерам Урада - палкоўнік Валеры Славэк, а дырэктарам Дзяржаўнай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча ў Лідзе - Вацлаў Белакоз, у прысутнасці Старасты Генрыка Багаткоўскага, прадстаўнікоў Войска, Грамадскасці, Улад, арганізацый дапрызыўнай падрыхтоўкі, а таксама розных дэлегацый, склалі гэты Ганаровы акт пабудовы "Помніка Незалежнасці". Гэты помнік, фундаваны школьнай моладдзю Дзяржаўнай гімназіі імя Караля Хадкевіча ў Лідзе і добраахвотнымі складкамі, быў высвечаны ў памяць усіх тых, хто сваёю цяжкай працай і ахвярнай крывёй прычыніўся да нашай Свабоды. Мы, ніжэй падпісаныя, у доказ гарачай любові да Айчыны, робім гэта на вечныя часы, для прыкладу нашчадкам і для ўласных сэрцаў".* Пасля выступу ксендза-дэкана Баярунца аркестр пажарнай аховы граў гімн, і потым усе разам спявалі "Божа, што ж Польшча". Ідэю ўсталявання помніка высунулі ў 1928 г. вучні гімназіі. Першы праект помніка не знайшоў падтрымкі адмыслоўцаў. Аднак, праз нейкі час быў зацверджаны праект студэнта-архітэктара Браніслава Кліцкага. Гранітны помнік выканаў скульптар Трапіла-Бароўскі з Навагрудка па цане 4 500 злотых[186]. Ужо пасля ганаровай закладкі помніка газета "Слова" пісала: *"Праект помніка, распрацаваны студэнтам архітэктуры Варшаўскай палітэхнікі Браніславам Кліцкім, ужо зацверджаны. Ён цалкам вытрыманы ў мадэрнісцкім стылі і будзе выкананы з граніту ў трох колерах. На пярэдняй сцяне будзе табліца з надпісам: "У дзесяцігадовыя ўгодкі Незалежнасці, Тым усім, хто ахвяраваў жыццё, цярпенне, працу і гэтым прычыніўся да нашай Свабоды, на памяць будучым пакаленням, удзячная моладзь Дзяржаўнай гімназіі імя Гетмана Караля Хадкевіча ў Лідзе паставіла гэты помнік"* [187].

Помнік быў адкрыты 12 лістапада - у дзень Незалежнасці Польшчы ў прысутнасці міністра сельскагаспадарчых рэформ Станевіча, ваяводы Рачкевіча, Прэзідэнта Акруговага земскага суда Вушацкага, дырэктара Сельскагаспадарчага банка Мацулевіча.

27 сакавіка 1931 г. *"на агульны сход сяброў Таварыства аматараў навукі ў старостве сабраліся толькі 4 чалавекі з 40 сяброў таварыства. Гэта два сябры ўправы таварыства - дырэктар гімназіі Пякарскі, Клышэйка і два шараговыя сябры - Людоўскі Вацлаў і Прыбытка Антон"* [188].

11 верасня 1932 г. адбыліся *"Першыя ўрачыстыя Дажынкі ў Бердаўцы з удзелам старасты Багаткоўскага. Багатая праграма ўрачыстасцяў заахвоціла да ўдзелу ў свяце шмат удзельнікаў"* [189].

У 1932 г. сярод уладальнікаў кінатэатраў у Лідзе пачаліся "гонкі" - хто першы адкрые ў Лідзе гукавое кіно. Першым імкнуўся стаць уладальнік кіно "Нірвана": *"Нарэшце ў Лідзе будзе кіно з гукам. Уладальнік кінатэатра "Нірвана" Яблонскі сказаў, што праз некалькі дзён пачне паказваць у сябе кіно з гукам. Першым гукавым фільмам будзе сусветна вядомы баявік "Парада кахання". ... Гэта будзе сенсацыяй у Лідзе"* [190].

Аднак першым гукавым кінатэатрам у горадзе стаў "Эдысон": *"У пятніцу з гукам пачаў працаваць кінатэатар "Эдысон" - уладальнік Левін. Першы гукавы фільм "X 27", "Нірвана" з гукам пачне працаваць праз некалькі дзён"*[191]. *"Не гледзячы на наяўнасць гуку, у кінатэатры "Эдысон" паўсюдна "заляжалы бруд, як у чакальні, так і ў глядзельнай зале, нават у буфеце смецце ляжыць кучай каля сцяны"* [192].

Пры канцы 1932 г. віленскія газеты паведамілі: *"Уладальнік "Нірваны", якая, як вядома згарэла 13 ліпеня, п. Яблонскі, хутка адкрые новае кіно па вуліцы Сувальскай ў доме Віленчыка (у былых варштатах Дзяржаўнай рамеснай школы). Кінатэатр будзе мець*

*гукавую апаратуру, тэатральную сцэну і іншае сучаснае абсталяванне"* [193].

Працаваў у Лідзе і літаратурны клуб. Прэса паведамляла: *"У Лідзе ў рэстаране "Кола полек" пачнуць рэгулярна збірацца "Літаратурныя чацвяргі". Першы такі сход адбудзецца 25 лютага, у гэты дзень выступяць два аўтары з Вільні і Навагрудка"* [194]. У першым "Літаратурным чацвяргу" прынялі ўдзел стараста Багаткоўскі з жонкай, школьны інспектар Станіслаў Рагоўскі, дырэктар дзяржаўнай гімназіі Белакоз з жонкай, бургамістр Задурскі з жонкай. Адкрыў вечар настаўнік і журналіст з Ліды Бажок, наступным выступіў Багаткоўскі, пасля яго старшыня "Звязу журналістаў і літаратараў" Навагрудскага ваяводства Гашчэцкі. А літаратар Яцак Райскі выступіў з дакладам "Наваградчына ў літаратуры" [195].

Увесну 1932 г. цыкл лекцый з лідскай гісторыі прачытаў яе лепшы знаўца Міхал Шымялевіч, прэса абвясціла: *"У суботу 23 красавіка, а 18-й гадзіне ў зале Лідскага староства Міхал Шымялевіч прачытае працяг свайго даклада "З гісторыі Ліды". Даклад будзе вельмі цікавы"*. Аб'явы пра пачатак цыклу лекцый я не знайшоў, але з тэксту зразумела, што гісторык рабіў некалькі дакладаў.

Да сярэдзіны 1932 г. у павеце ўжо працавала разгалінаваная бібліятэчная сетка Аднак у вёсках адчуваўся кніжны голад. У 1932 г. усе 11 гмін асігнавалі на закуп кніг у свае бібліятэкі дастаткова вялікія сумы грошай - да 500 злотых (у кожнай гміне працуе гмінная бібліятэка). Міністэрства адукацыі і веравызнанняў таксама дало 3450 злотых на закуп кніг, з іх 2 000 злотых для Цэнтральнай павятовай бібліятэкі.

У павеце меліся наступныя кнігазборы:

- у павятовай перасоўнай бібліятэцы 25 бібліятэчных камплектаў, 2295 тамоў.
- настаўніцкі клуб меў 857 кніг,
- яўрэйская бібліятэка - 1962 кнігі,
- публічная гмінная бібліятэка - 1393 кнігі,
- Кола "Усяпольскай моладзі" (Kola M.W.) - 1310 кніг,
- розныя сельскагаспадарчыя арганізацыі - 367 кніг,
- таварыства культуры паліцыі - 250 кніг,
- парафіяльныя бібліятэкі - 168 кніг,
- бібліятэка паліцыі - 2011 кніг,
- публічная гарадская бібліятэка - 8459 кніг,
- чыгуначная - 1650 кніг,
- публічная бібліятэка "Польскай школьнай дапамогі" - 1640 кніг,
- публічная бібліятэка гуты шкла "Нёман" - 1000 кніг,
- іншыя арганізацыі мелі 496 кніг.

**Разам 24 011 кніг.**

Калі дадаць да гэтай лічбы 17 849 кніг, якія знаходзіліся ў школьных бібліятэках павета, дык агульная колькасць дасягала 41 859 кніг у публічным ужытку[197].

Пры канцы 1933 г. у Лідзе на Выгане падчас земляных работ на зямлі, якая належала настаўніку М. Міхальчыку, была знойдзена вялікая колькасць чарапкоў ад чыгункоў, раскіданых на значанай тэрыторыі. Таўшчыня чарапкоў была характэрнай для вырабаў з керамікі старадаўніх часоў. Інжынер, які кіраваў работамі пераслаў чарапкі ва Управу па рэстаўрацыі ў Вільню і прыпыніў работы. Чарапкі таксама былі знойдзены ў іншай частцы Выгана. Абодва месцы знаходзіліся па краях гэтага ўчастка. Была высунута ідэя, што на гэтым месцы былі старадаўнія могілкі альбо нават гарадзішча ці паселішча. Хутка лідскі стараста Багаткоўскі выклікаў у Ліду асістэнтку кафедры археалогіі Віленскага ўніверсітэта др. Хелену Цэгак[198].



***Хелена Цэгак-Галубовіч***

З прыездам археолага плошча раскопак была пашырана, і знойдзены новыя керамічныя чарапкі. Д-р Цэгак[199] выказала здагадку, што з XI па XIII стагоддзе тут магло існаваць славянскае паселішча, сляды якога потым былі амаль што цалкам знішчаны. Чарапкі мелі *"славянскі пасьмавы* (стужкавы, рэд.) *арнамент які адносілі да племянных груп, што ішлі з усходу. ... На археалагічнай карце ... з'явіцца новы знак, які будзе абазначаць, сляды побыту славян на лідскім Выгане"*[200].

***Міхал Шымялевіч*** *(18.X.1879 - 11.01.1969). Лепшы лідскі гісторык XX ст. Нарадзіўся з вёсцы Пеляса, адукацыю пачаў у Лідскай павятовай вучэльні. У 1901 г. малады Шымялевіч працаваў у Лідскай судова-міравой акрузе, канцылярыі з'езду міравых суддзяў, памочнікам сакратара.*

*Верагодна, першай надрукаванай працай Шымялевіча была кніга "Горад Ліда і Лідскі замак", 1905. Далей выдаў кнігі: "Szymielewicz Michal. Szkice etnograficzne o Tatarach litewskich", 1906 (Шымелевич*



***Міхал Шымялевіч***

*М. Литовские татары. Вильно, 1906) і "Szymielewicz Michal. O tatarach w powiecie lidzkim. Lida. 1914." (верагодна, усе кнігі на рускай мове).*

*З 1905 па 1908 г. прозвішча чыноўніка Шымялевіча знікае з даведнікаў Віленскай губерні, вядома, што малады гісторык-аматар атрымаў грант ад гістарычнага таварыства для вучобы ў Кракаве, верагодна, у знакамітым Ягелонскім універсітэце. Атрымаўшы вышэйшую гістарычную адукацыю ў еўрапейскім універсітэце, даследчык вярнуўся ў Ліду.*

*Здаў дадатковыя экзамены і з 1910 г. па 1939 г. зарабляў на жыццё прыватнай юрыдычнай практыкай. Вёў справы большасці маёнткаў вакол Ліды і меў вялікія магчымасці вывучаць гістарычныя архівы многіх сем'яў.*

*У 1914 г. пачалася Першая Сусветная вайна, і ў 1915 г. Шымялевіч пакінуў родны горад, стаў бежанцам. Пасля 1918 г. вярнуўся ў Ліду і перажыў усе навальніцы, якія прайшлі праз наш горад.*

*9 лістапада 1922 г. было абрана першае польскае Лідскае Павятовае самакіраванне ў складзе Павятовага аддзела і Павятовага сойміка. Сярод 6 членаў Павятовага аддзела быў і Міхал Шымялевіч. Гэта значыць, што гісторык адразу патрапіў у "вярхі" польскай павятовай улады. Але пасля стварэння ў кастрычніку 1926 г. у Лідзе гуртка "Таварыства беларускай школы" Міхал Шымялевіч стаў сябрам гэтай арганізацыі. У 1927 г. сябар ТБШ Міхал Шымялевіч выбіраецца ў Гарадскую раду.*

*У 1936-39 гг. Шымялевіч быў сябрам рэдакцыйна-выдавецкага камітэта часопіса "Лідская зямля" ("Ziemia Lidzka"), дзе ён апублікаваў каля 30-ці бліскучых краязнаўчых артыкулаў, яго матэрыялы друкаваліся ў кожным нумары. Тэксты Міхала Шымялевіча атрымалі агульнае прызнанне. Віленская прэса пры канцы 1930-х гг. адназначна вылучала Шымялевіча сярод усіх аўтараў "Лідскай Зямлі" і называла "лепшым знаўцам лідскай гісторыі і нястомным збіральнікам мясцовых народных звычаяў"* [201].

*У 1940 г. Міхал Шымялевіч быў вывезены ў Казахстан, ягоны дом плошчай 71,41 м*$^2$ *у Лідзе канфіскаваны. Найвялікшую каштоўнасць меў велізарны архіў гісторыка, і таму адмыслова дасланыя ў Ліду выкладчыкі БДУ з Менска пачалі займацца апрацоўкай архіваў Шымялевіча. Аднак архіў згарэў разам з цэнтрам горада ў 1941 г.*

*Цудам выжыў. Пасля 1948 г. жыў у Сопаце. Напісаў некалькі найкаштоўнейшых прац, якія былі дэпанаваны ў Бібліятэцы імя Асалінскіх ва Уроцлаве, у горадзе, дзе жыла яго дачка.*

*Міхал Шымялевіч - сапраўдны культурны герой Лідчыны. Ягоным імем трэба было б назваць адну з вуліц нашага горада, а магчыма і адну з установаў культуры ці асветы - напрыклад музей, гарадскую бібліятэку, гімназію ці ліцэй. Справай нашага гонару, з'ўляецца выданне зборніка яго асноўных прац па гісторыі Ліды.*

***Антоні Грымайла-Прыбытка**, сын генерал-маёра рускай арміі Аляксандра Прыбыткі. У 1920-30-х гг. неаднаразова выбіраўся ў Лідскую гарадскую*



***Антоні Грымайла-Прыбытка***

*раду, быў лаўнікам Лідскага магістрата і выдатным лідскім краязнаўцам, старшынём Лідскага краязнаўчага таварыства. Аўтар шэрагу артыкулаў і кнігі "Кароткі турыстычны даведнік па Лідскім і Шчучынскім паветах" (1936 г.). Пры канцы 1930-х гг. працаваў над вялікай манаграфіяй аб Лідскім і Шчучынскім паветах. 20 чэрвеня 1941 г. вывезены ў Мінусінскі край. Далейшы лёс невядомы.*

### *Замак*

У студзені 1930 г. Лідскае староства атрымала загад прыбраць з замка Гедзіміна стрэльбішча. Мясцовае грамадства спаткала гэтую навіну з незадавальненнем, і стараста вырашыў хадайнічаць аб адмене гэтага загаду[202]. У тым жа месяцы Павятовы аддзел зрабіў у замку Гедзіміна коўзанку: *"Для моладзі горада яна стала сапраўдным месцам сустрэч і адпачынку. Каля коўзанкі пабудавана пачакальня"* [203].

У наступным месяцы на паседжанні чальцоў "Літаратурнай серады" ў Вільні, рэстаўратар і кансерватар, др. Лорэнц (Lorentz) выступіў з дакладам аб кансервацыі сярэднявечных замкаў. Пра кансервацыю Лідскага замка, Лорэнц сказаў: *"Стан кансервацыі Лідскага замка нездавальняльны. Цалкам дрэнна, што муры замка па-новаму пакрылі бетонам, калі найлепшым метадам кансервацыі ёсць нанясенне новага пакрыцця толькі пасля зняцця старога. З замка прыбралі часовую драўляную браму, і хутка павінна быць прыбрана драўлянае стрэльбішча"* [204].

22 сакавіка Лорэнц прыехаў у Ліду, каб яшчэ раз агледзець замак Гедзіміна. Ён пагадзіўся, каб стрэльбішча знаходзілася ў замку да канца верасня 1930 г., але паведаміў лідскім уладам, што калі працы ў вежы замка пачнуцца раней, дык стрэльбішча прыйдзецца таксама зачыніць раней. Вывучыўшы замак, д-р Лорэнц зразумеў, што фундаменты яго моцна аслаблены падкопамі зямлі з боку суседняга да замка ўчастка, якім валодаў нейкі Чарняўскі, прычым абвал муроў замка якраз і пагражаў маёмасці самога Чарняўскага. Кансерватар патрабаваў ад уладаў гарантаваць замак ад далейшых падкопаў наіўных суседзяў. Далей ў артыкуле паведамляецца, што 14 красавіка павінна было пачацца першаснае вывучэнне гарадзішча каля Радуні (так званы замак каралевы Боны)[205].

А 28 траўня 1930 г. Звяз Стральцоў не закрыў, а адкрыў у замку стрэльбішча, але для малакаліберней зброі[206].

У кастрычніку 1933 г. стараста Багаткоўскі паведаміў археолагу Віленскага ўніверсітэта доктару Хелене Цэгак, што ніякай пагрозы для замка няма, малыя шчыліны замазаны, а *"зараз, на невялікім участку сцяны ўзмацняецца фундамент"* [207]. На пытанне пра легенды аб лёхах пад Лідскім замкам, стараста адказаў, што гэта - часткова легенды, а часткова факт: *"Расказваў мне 80-ці гадовы стары, 65 гадоў таму, будучы хлопцам, ён хадзіў па падзямеллях. Тады адкрыўся ўваход у гэтыя падзямеллі. І цягнуліся яны далёка, як мовілі, ажно да Трок. Так далёка стары не хадзіў, бо яго лучыны не хапіла. Той стары, можа, часткова і мае рацыю. Падзямеллі могуць існаваць"* [208]. Цікава, што аналагічныя расповяды я чуў у 1970-я гады, у сваім дзяцінстве, часткай якога быў наш замак. Замак тады ніколі не зачыняўся, і я праводзіў у ім шмат часу.

У тыя гады ў Лідскім замку праведзена кансервацыя сцен і ўпарадкавана тэрыторыя звонку і ва ўнутраным двары. У 1933 г. паўднёвая сцяна замка была ўзмоцнена праз пабудову фундамента вакол шчыліны і падсыпку зямлёй звонку. На кастрычнік 1935 г., згодна справаздачы Лідскага павятовага старасты, руіны замка *"не былі ў пагрозлівым стане"*, і на іх паднаўленне было выдзелена 350 злотых[209].

Улетку 1935 г. падчас земляных работ па рэгуляцыі ракі Лідзейкі каля замка Гедзіміна былі знойдзены *"масіўныя валы, якія згодна з тлумачэннямі знаўцы гісторыі адваката Шымялевіча, праўдападобна, з'яўляюцца рэшткамі гістарычнай дамбы, якая служыла для ўтрымання ці пуску вады ў равы вакол замка"* [210]. Дадам, што ў выніку гэтых работ узровень грунтовых вод у горадзе быў паніжаны на 1,1 м.[211]

### ***Беларускія і летувіскія культурныя таварыствы***

Інфармацыі аб дзейнасці беларускіх культурных таварыстваў на Лідчыне таго часу мала.

Беларуская прэса паведамляла: *"У в. Дакудава Лідзкага пав. Нядаўна закладзена Таварыства Беларускага гаспадарчага Зьвязу. За сакратара Т-ва абраны солтыс в. Дакудава Янка Рыбак. Вось-жа камэндант пастарунку паліцыі ў Дакудаве пазваў да сябе грам. Я. Рыбака і ўмаўляў яму адмовіцца ад Т-ва. Я. Рыбак не згадзіўся ... кажучы ..., што Зьвяз ёсць арганізацыяй культурна-гаспадарчай, а не палітычнай. ... пасля гэтага ўмаўлялі ... адмовіцца ... войт і валасны пісар, але нічога не памагло"* [212].

Пры канцы ліпеня 1932 г. ў вёсцы Бялюнцы Радунскай гміны адбыўся сход сяброў Літоўскага культурнага таварыства Св. Казіміра, на якім была абрана ўправа таварыства[213].

### ***Яўрэйскае жыццё***

Інфармацыі пра яўрэйскае культурнае жыццё ў польскай прэсе таго часу няшмат.

Яўрэйская свецкая школа ў горадзе стала выконвала ролю культурнага цэнтра. Пры канцы кастрычніка 1931 г. у *"яўрэйскай школе "Тарбут" па вуліцы Садовай лектарам з Вільні быў зачытаны рэферат на тэму гісторыі сіянізму за апошнія 50 гадоў. Падчас дыскусіі абмяркоўваліся яўрэйска-арабскія стасункі ў Палестыне і справы каланізацыі. Прысутнічалі 60 чалавек - у большасці яўрэйская моладзь з сіяніцкіх арганізацый"* [214].

Праз некалькі дзён, *"25 кастрычніка адбыўся першы выступ яўрэйскага драматычнага гуртка ў кінатэатры "Нірвана", рэжысёр тэатра Бузган"* [215]. Пры канцы 1931 г. *"інжынер Любес з Палестыны ў кінатэатры "Нірвана" распавёў яўрэям Ліды пра жыццё ў Палестыне. Сабралася каля 200 чалавек"* [216].

26 ліпеня 1932 г. у зале школы "Тарбут" (вуліца

Садовая, 11) адбыўся сход навуковага яўрэйскага таварыства г. Ліды. Была абрана новая ўправа таварыства ў складзе: Гірша Палячака, Абрама Гурвіча, Адольфа Левінсона, Гірша Альпяровіча і Ільі Зайгера і рэвізійнай камісія[217].

24 чэрвеня 1932 г. памёр чалавек, які пакінуў свой след ў гісторыі нашага горада: *"Сёння, а 13-й гадзіне, уласнік адной з друкарань Ліды Зяльдовіч, пасля таго, як выйшаў са свайго дома, памёр ад сардэчнага прыступу. Нябожчык карыстаўся вялікай павагай грамадства"*[218]. У прэсе тых часоў неаднаразова з'яўлялася рэклама друкарні Зяльдовіча (Сувальская, 70). Шымон Зяльдовіч меў друкарню, майстэрню штэмпеляў і пераплётаў. Тут друкаваліся "Лідскія ведамасці", "Лідская зямля", "Вясковы лірнік", "Кароткі турыстычны праваднік па Лідскім і Шчучынскім паветах" А. Грымайлы-Прыбыткі, "Прыпавесці" лідскага паэта І. Альбірта і часопісы на мове ідыш[219].

На паседжанні Гарадской рады пры канцы траўня 1933 г. была ўхвалена пастанова аб выдзяленні яўрэйскаму культурна-асветнаму таварыству "Тарбут" пляца для будаўніцтва 7-мі гадовай яўрэйскай агульнаадукацыйнай школы і "Звязу настаўнікаў" для будаўніцтва свайго дома. *"Як стала вядома "Тарбут" набудзе пляц пры вуліцы Касцюшкі па ільготным кошце ў 50 гр."*. Але будаўніцтва гэтай школы пачнецца толькі ў 1939 г.[220].

16 верасня 1933 г. у 07-15 ад запалення лёгкіх ва ўзросце 95 гадоў у Радуні памёр знаны рабін, цадзік Ізраіль Каган (Хафец-Хаім)[221]. У пахаванні прынялі ўдзел 5 000 чалавек з Польшчы і з замежжа. На пахаванне радунскага цадзіка на самалёце прыбыў галоўны лонданскі рабін Васерман, вучань Хафец-Хаіма. Таксама ў Радунь прыехаў галоўны рабін Берліна Мідлсчэрнер.

У Радунь прыехаў лідскі стараста з аддзелам паліцыі для падтрымання парадку. *"Шаша на Радунь перапоўнена аўтобусамі і легкавікамі. З Вільні акрамя рабіната, выехала дэлегацыя яўрэйскага самакіравання на чале з старшынём Крукам. Учора адбылося ўрачыстае пахаванне памёрлага. У пахаванні прынялі ўдзел шматтысячныя тлумы яўрэйскага насельніцтва. ... Перад трунoй цадзіка неслі каля 30 ягоных кніг. Над магілай сказана 15 прамоў. Малітвы над трунoй нябожчыка чытаў ягоны 70-ці гадовы сын. Цадзіка Кагана пахавалі разам з лавачкай, перад якой ён усё жыццё маліўся"* [222].

*Ісраэль Меір Каэн (Акаэн) (Хафец-Хаім; сапраўднае прозвішча Пупко; 1839-1933) - рабін, галахіст і мараліст.*

*Нарадзіўся ў Дзятлаве ў 1839 г. Пачынаючы з 10 гадоў вучыўся ў віленскай Бейт мідрашэ Хаіма Нахмана Парнаса, а потым заняўся самаадукацыяй. У 11 гадоў страціў бацьку. Маці яшчэ раз выйшла замуж. Ужо ў маладосці праславіўся шырокай эрудыцыяй і багабаязнасцю. Згодна са звычаем ажаніўся ў 16 гадоў і ў 1855 г. асеў у Радуні, дзе жонка мела гандаль. Жыў на сродкі небагатага цесця і працягваў вывучаць Талмуд і равіністычную літаратуру. У 1868 г. узначальваў іешыву ў Васілішках, але ў 1869 г. вярнуўся ў Радунь, куды да яго пачалі сцякацца шматлікія вучні, і дзе ў тым жа годзе адкрылася іешыва, якая вырасла ў адну з найбуйнейшых у акрузе і стала вядомая пад назвай Радунская, ці іешыва "Хафец-Хаім". Праз некалькі гадоў пасля жаніцьбы пачаў пісаць свае кнігі, першапачаткова ананімна, і выдаваць навуковыя працы, якія і прынеслі яму славу сярод яўрэйскіх вернікаў. Стаў вядомы ў свеце па назве саваёй самай папулярнай кнігі, прысвечанай законам пра забарону зласлоўя - "Хафец Хаім" (“Які прагне жыцця”).*

*Кіраваў іешывай у Радуні каля 70 гадоў, прычым да Першай сусветнай вайны ўтрымоўваў яе з даходаў ад продажу сваіх кніг. Падчас гэтай вайны разам з вучнямі ратаваўся ў Расіі і, з цяжкасцю перажыўшы рэвалюцыю, вярнуўся ў Радунь у 1921 г.*

*Большасць кніг Хафеца Хаіма (а іх каля 30) разглядалі пытанні галахі і датычыліся штодзённага жыцця яўрэя-верніка, кранaлі пытанні адносін чалавека да чалавека, вызначалі нормы паводзін згодна з рэлігійнымі дагматамі. Усе кнігі Хафеца Хаіма атрымалі шырокі распаўсюд ва ўсіх яўрэйскіх грамадах. Яны сотні разоў перавыдаваліся ў розным фармаце, былі падзелены на гадавыя цыклы вывучэння па днях тыдня, да іх напісаны новыя каментары.*

*Усё жыццё быў надзвычай сціплым чалавекам, жыў у беднай хатцы, хаваўся ад публічнасці. Праз яго рукі праходзілі дзясяткі тысяч долараў ахвяраванняў на ўтрыманне іешывы і філантрапічныя мэты - сам ён ніколі не ўзяў сабе ні цэнта з тых ахвяраванняў, з-за чаго меў найвялікшую павагу не толькі ў сваіх аднаверцаў, але нават і ў яўрэйскіх радыкалаў, якія бачылі ў радунскім рабіне апору рэакцыі і клерыкалізму.*

*Найлепш пра яго могуць расказаць кароткія павучальныя гісторыі з жыцця радунскага рабіна. Радунскі войт расказваў такую гісторыю: “Войт ішоў разам з радунскім рабінам адной дарогай. У адным месцы над ровам была пакладзена новая кладка. Войт перайшоў кладкай, а рабін Хафец Хаім збочыў з дарогі і перайшоў цераз роў. На пытанне войта, адказаў: "Я не ўпэўнены ў тым, што дошкі гэтай кладкі не скрадзеныя".*

*Радунскі рабін быў найвялікшым аўтарытэтам яўрэяў усяго свету. Дом Хафеца Хаіма ў Радуні ў 2001-2002 гг. быў разабраны і як святыня вывезены ў ЗША.*

**Рэлігія**

***Рыма-каталікі***

У студзені 1930 г. у Жырмунскім касцёле браў шлюб настаўнік летувіскай віленскай гімназіі. Ксёндз-пробашч Няміра пачаў прамаўляць па-летувіску, што выклікала незадаволенасць прысутных тут ваколічных вернікаў, і ксёндз тактоўна перайшоў на польскую мову[223].

Прэса паведамляла пра пачатак будаўніцтва ўвесну 1930 г. касцёла ў Нёмане "А" (сучасная Бярозаўка), *"трэба адзначыць, што Нёман не мае касцёла,*

*а мае толькі цесную і неадпаведную капліцу ў канторы гуты"* [224]. У красавіку 1932 г. будаўніцтва драўлянага касцёла ў гуце "Нёман" было закончана[225].

У 1930 г. была створана новая парафія і пачалося будаўіцтва касцёла ў Валдацішках: *"Пасля заснавання летувіскай парафіі ў Пелясе Радунскай гміны, па ініцыятыве Браніслава, Людвіка і Уладзіслава Геншаляў, якія ахвяравалі прыгожы пляц пад будову новага касцёла і плябані, заснавана Валдацішская парафія. Досыць хутка сабралі патрэбны матэрыял і грошы на часовую капліцу і парафіяльны дом для новага пробашча і пабудавалі іх. Быў абраны камітэт будаўніцтва касцёла на чале якога стаў Бранілаў Геншаль з Валдацішак і Аляксандр Калышка з Віткевічаў. 8 чэрвеня пры зборы ўсёй парафіі новую капліцу высвяціў ксёндз-пралат з Вільні Караль Любянец. Прысутнічалі таксама ксёндз-пробашч з Крупава Сабалеўскі, ксёндз-дэкан з Эйшышак Мачулевіч і лідскі стараста Багаткоўскі з жонкай. Парафія пачынае будаваць новы мураваны касцёл. Такім чынам мясцовыя людзі не будуць больш наведваць касцёл у Пелясе, дзе да іх звяртаюцца па-летувіску"* [226]. Недабудаваны касцёл у Валдацішках стаіць і цяпер.

На пачатку верасня 1930 г. газета "Наваградскае жыццё" як крымінал падала працу ксяндзоў-летувісаў у падтрымку сваёй, летувіскай, адукацыі: *"Ужо некалькі гадоў, як вёскі парафіі касцёла ў Асаве абходзяць невядомыя людзі і ўгаворваюць сялян аддаць сваіх дзяцей вучыцца ў Віленскаю літоўскую гімназію. І калі ў папярэднія гады гэтых агентаў можна было палічыць па пальцах, дык апошнім часам кожная вёска мае свайго агента. Агентам дапамагае мясцовы ксёндз-пробашч Ю. Шымкунас ... Для агітацыі сялян, агенты прыходзілі ў вёску нават з гарэлкай, бралі ўдзел у вечарынках і пры кілішку дабіваліся свайго. Гэтым летам сем'і Гайдулёў і Дайлідак аддалі сваіх дзяцей вучыцца ў летувіскую гімназію. Сярод агітатараў быў і ксёндз-др. Райстуціс з Вільні, які агітаваў не праз кілішак, а каля касцёла ў Асаве праводзіў гутаркі з сялянамі аб неабходнасці летувіскай адукацыі"* [227]. Можна толькі па-добраму пазайздросціць летувісам.

Газета "Слова" паведамляла, што на пачатку 1930 г., Віленскага рыма-каталіцкая курыя пачала судовыя працэсы пра вяртанне шэрагу былых рыма-каталіцкіх касцёлаў і ўніяцкіх цэркваў. У Лідскім павеце ў гэты спіс патрапілі цэрквы ў Бабрах, Дакудаве, Дзікушках, Глыбокім, Ганчарах, Мыто, Орлі, Радзівонішках, Ракавічах, Сабакінцах[228]. Не можа не здзіўляць наяўнасць ў гэтым спісе вялікай колькасці так званых "мураўёвак" - цэркваў, пабудаваных пасля 1863 г. па тыповым расейскім праекце. Старажытнымі, уніяцкімі тут з'яўляліся толькі цэрквы ў Бабрах, Ганчарах і Дзікушках. Але ў той час усе вернікі ўсіх гэтых цэркваў былі праваслаўнымі, і прэтэндаваць на іх цэрквы было неяк не па-людску. Таму добра, што суд адхіліў гэтую позву, якая магла прынесці толькі вельмі вялікую шкоду і крыўду.

Пэўна ж, тут не ішла рэч пра унію, а планавалася неяк заахвоціць перавод праваслаўных вернікаў у рыма-каталіцтва. Віленская рыма-каталіцкая курыя ў тыя гады цалкам не прымала ідэю уніі, аб гэтым пісала "Беларуская Крыніца": *"Мінойты - гэта не які новы палітычны вынаход біскупаў і канонікаў, але звычайны польскі двор з капліцай у Лідскім павеце, якіх на нашых землях ёсць нямала, і ў якім, пэўна-ж не бяз ведама віленскага арцыбіскупа Ялбжыкоўскага, асеў кс. канонік К. Лубянец, і які ўзяўся наварочваць мясцовых праваслаўных беларусаў на каталіцтва ў лацінскі абрад, у якім яны ўжо ня будуць патрабаваць роднай мовы, бо праз гэты абрад ляхчэй іх спольшчыць ... . Апрача гэтага, той жа кс. канонік К. Л. пазытыўна змагаецца з уніяй, выдаючы ўлёткі і брашуры проціўунійнага зместу ..."* [229].

Увосень 1932 г. пайшлі пагалоскі пра цуды, цудоўныя выздараўленні і з'яўленне постаці Хрыста каля крыжа на раздарожжы ў вёсцы Цвермы: *"Пагалоскі бліскавіцай абеглі ўсю гміну і значную частку павета. Таму нядзіўна, што з блізкіх і далёкіх ваколіц сюды прыходзяць тлумы вернікаў. У нядзелю народ пешшу і на фурманках прыехаў з самых далёкіх ваколіц - сабралася некалькі тысяч вернікаў, таксама, як гэта было ў свой час у Яшунах. ... тутэйшыя людзі кажуць, што бачылі з'яўленне Хрыста тут, каля крыжа. Тутэйшыя сяляне расказалі гісторыю крыжа: падчас апошняй вайны з бальшавікамі, тут праязджаў конны аддзел чырвонай кавалерыі, адзін з бальшавікоў дастаў шаблю і секануў ёю статую Хрыста, і атрад паехаў далей.*

*16 (кастрычніка) каля крыжа сабралася найбольшая колькасць людзей. Прыбыў таксама ксёндз-пробашч, лідскі дэкан Баярунец, які справіў перад крыжам публічную малітву. Шматтысячны тлум потым распавядаў пра цуды: некалькі цяжкахворых вылечыліся. Толькі што мы атрымалі інфармацыю, што адбыўся відавочны цуд - вылечылася паралізаванае дзіця, ад якога адракліся лекары.*

*У гэтай справе мы звярнуліся да Віленскай Курыі ... і даведаліся, што ані Курыя ... ані арцыбіскуп Ялбжыкоўскі не маюць канкрэтнай рэляцыі з Ліды. ... лідскі стараста паведаміў, што людзі ў Цвермах збіраюцца ўжо працяглы час... тлум паводзіць сябе спакойна ... інцыдэнтаў не было ... Паліцыя не чыніць ніякіх перашкод"* [230].

На наступны дзень "Слова" надрукавала вялікі артыкул "Як гэта было ў вёсцы Цвермы пад Лідай", у якім пераказала тутэйшыя легенды і паданні. На пачатку артыкула, адмыслова дасланы з Вільні ў Ліду карэспандэнт паведамляе, што ксёндз Баярунец не падпісваў ніякіх пратаколаў пра цудоўныя выздараўленні. Далей карэспандэнт піша, што вёска Цвермы мае трынаццаць ці пятнаццаць гаспадарстваў - *"звычайная вёска"*. З кіламетр ад вёскі разыходзяцца дзве дарогі. На ростані расце вялікая адвечная сасна. Да сасны прывязаны тоўстым дротам крыж, а да крыжа дротам прывязана фігура Хрыста, выразаная з дрэва. Колькі гадоў крыжу на ростанях і фігуры Хрыста - дакладна ніхто не ведае. Але ў васямнаццатым стагоддзі на гэтай самотнай раўніне крыж ужо стаяў, хоць і не той, што стаіць зараз. Але Хрыстос ужо быў, толькі выглядаў інакш. Верагодна, абедзве яго рукі быў прыбітыя да крыжа. Зараз рукі адламаныя, фігура прыкручана дро-

там, і аблічча твару ўжо не разрозніваецца. Ці сапраўды савецкі жаўнер ў 1920 г. секануў шабляй фігуру Хрыста, ці ад старасці драўляная фігура парэпалася сама - зараз ужо дакладна невядома. Ад бёдраў да стоп фігура спавіта дзіўнымі фартушкамі, на якіх вышыты альбо нашыты каляровыя крыжыкі. Легенда не дазваляе залазіць на сасну, да якой прыслонены крыж - быццам вясковыя хлопцы, якія лазілі, падалі і калечыліся. Бо сасна - святая, яна ўзяла крыж пад апеку.

**Легенда пра крыж**. Карэспандэнт "Слова" распавёў з слоў сялян, што ў 1787 г. памёр у Цвермах стары селянін Сцяпан Валяль. Няма ўжо сялян з такім прозвішчам у ваколіцах. За некалькі гадоў да ягонай смерці бура паваліла крыж. Валяль падняў з зямлі крыж з фігурай Хрыста, прынёс дахаты і палажыў дзесьці пад страху. Зрабіў гэта і аслеп. І ягоная старая жонка таксама аслепла. І не ведалі, чаму. Але праз нейкі час стары меў сон, Хрыстос, які ляжаў пад страхой загадаў яму, каб той вярнуў крыж на месца. У той жа дзень Валяль пры дапамозе суседзяў прынёс святы крыж пад сасну, і Хрыстос зняў слепату з яго і ягонай жонкі. Вось так адбыўся першы цуд. Валяль да смерці святкаваў гэты дзень: рэзаў цяля, купляў піва і зваў усю вёску. Таму Цвермы і памяталі пра Валяля.

Так пачалася цудоўная слава крыжа каля ростані дарог. Ад таго дня палатняныя фартушкі спавівалі фігуру. І людзі маліліся перад ёй. Каталік ці уніят, а потым праваслаўны - усе роўна. Усе, нават з далёкіх вёсак, прыходзілі сюды і ўшаноўвалі крыж. Праз дваццаць год памяталі ў вёсцы і пра тую багатую пані, якая перад 1914 г. прыехала на фаэтоне з Вільні, каб памаліцца, і пакінула тут вялікую ахвяру ў срэбных рублях. А нехта з Ліды, хто меў ад гэтай святыні ласку Панскую, тады ж агарадзіў крыж і зрабіў над ім драўляны наддашак[231].

21 траўня 1933 г. пробашч Лідскай парафіі з некалькімі тысячамі вернікаў прайшоў 12 км ад Ліды да ваколіц Цвермаў - да слыннага крыжа. Каля крыжа адбылося набажэнства, і была асвечана пабудаваная мясцовымі сялянамі каплічка. *"Згодна з легендай крыж тут быў усталяваны 200 гадоў таму як ахвяра за добры ўраджай. Першае цуда адбылося 150 гадоў таму, калі Стэфану Валялю вярнуўся зрок. Хутка тут пачнецца будаўніцтва малога касцёла, а каля каплічкі будзе адбывацца 3 набажэнствы на тыдзень"* [232]. *"Малы касцёл"* пабудавалі ў закапанскім стылі.

8 верасня 1933 г. у Радуні быў асвечаны нова-пабудаваны касцёл. На асвячэння сабраліся вернікі з сваімі святарамі з усяго павета. У 10 гадзін раніцы, аўтамабілем з Вільні прыбыў арцыбіскуп мітрапаліт Рамуальд Ялбжыкоўскі. *"Мураваны касцёл пабудаваны з палявога каменю і цэглы стараннямі мясцовага пробашча ксяндза Станіслава Шчамірскага і парафіянаў..., якія не шкадавалі сваёй працы і грошай... . Пабудаваны касцёл годна ўвянчаў традыцыі Радунскай парафіі ... . Замест першага касцёла ў 1838 г. быў пабудаваны наступны, драўляны касцёл, які і змяніла новая мураваная святыня"* [233].

На пачатку лістапада 1934 г. па ініцыятыве Звязу Стральцоў у Ваверцы ўтварыўся камітэт будаўніцтва помніка палеглым у 1920 г. каля Паперні жаўнерам. *"Камітэт, на чале якога стаіць стараста Бянкевіч, камандзір 77 п.п. падпалкоўнік Наспінскі і камандзір 5 лётнага палка, пастанавіў пабудаваць помнік-капліцу, дзе будуць пахаваны парэшткі 16 жаўнераў з трох віленскіх палкоў - 76, 85, 86"* [234].

### *Іншыя канфесіі*

Інфармацыі пра іншыя канфесіі ў газетах тых часоў зусім няшмат.

У верасні 1931 г. царкоўным старастам прыходу царквы ў Зблянах абралі Кельніка Алексу, а ягоным намеснікам Паўла Івашкевіча з Панямонцаў[235].

Пры канцы 1933 г. у Лідзе адбыўся з'езд праваслаўнага святарства і царкоўных старастаў. Узначальваў з'езд святар Міхал Нарушэвіч[236].

Газета "Слова" ў 1935 г. паведаміла, што праваслаўны люд Лідчыны паважае памяць маршала Пілудскага: *"Падчас праваслаўных одпустаў у вёсках Нагародавічы і Збляны (так званыя Пакровы), на якія сабраліся каля 2 000 чалавек, пасля заканчэння набажэнства, праваслаўны люд разам з святарамі прайшоў працэсіяй на могілкі да крыжа, пастаўленага ў памяць маршала, дзе на каленях адпраўлена ўрачыстае набажэнства за спакой душы маршала Пілсудскага"* [237].

Прэса стала друкавала тэксты падобнага кшталту з Нагародавічаў: *"Памерла ў нас адна бедная, бедная кабета, якая жыла амаль выключна з жабрацтва. Дачка яе, Волька, ня маючы нічога за душой, хацела пахаваць сваю матку з удзелам мясцовага сьвяшчэнніка А. Сярпова. Пайшла яго маліць, кажучы, што заплаціць яна ня можа, бо не мае за што купіць нават кавалка хлеба. Бацюшка сказаў, што ў такім выпадку ён можа ўзяць кусок палатна. А дзяўчына і гэтага не мела. Тады бацюшка і дзіякан сказалі, што няма чаго прасіць, бо задарма не паедзем, а матушка сказала, што можна і так закопваць - не вылезе"* [238].

27 ліпеня 1932 г. у памяшканні, якое знаходзілася ў доме № 37 па вуліцы Замкавай, адбылося набажэнства баптыстаў, у якім удзельнічала 10 вернікаў і прапаведнік Ян Пацэвіч[239]. Увогуле адносіны прэсы і, падобна, насельніцтва ў нашым рэгіёне да гэтай дэнамінацыі было адмоўным. Напрыклад, паведамлялася, што падчас *"гандлю ў Беліцы, член секты баптыстаў з Ліды Ян Пацэвіч прадаваў сектанцкія кніжкі. У пэўны момант людзі кінуліся на яго столік з кнігамі і аблілі яго газай. Справа дайшла б да дрэннага, каб не хуткае ўмяшанне паліцыі, якая супакоіла народ"* [240].

## 6. Лідскі авіяцыйны полк

Практычна ўся інфармацыя пра жыццё 5-га лётнага палка ў прэсе - пра катастрофы. Прэса не хавала інфармацыю пра аварыі, але мала пісала пра штодзённае жыццё авіятараў. І насамрэч, пакуль Лідскі полк да сярэдзіны 1930-х гг. не перайшоў на новыя

самалёты, а лятаў на старых, практычна з часоў Першай сусветнай вайны, французскіх машынах, аварый было вельмі шмат. Загінуўшыя пілоты пахаваны на вайсковай частцы старых гарадскіх могілак - там мы чытаем на помніках знаёмыя па газетных публікацыях прозвішчы.

4 чэрвеня 1930 г. Атруціліся 70 жаўнераў 5 лётнага палка. Аналізы харчавання і вады нічога не далі. Следства вяла жандармерыя[241].

24 чэрвеня 1930 г. на полі каля Эйшышак, пасля паломкі рухавіка, зрабіў змушаную пасадку самалёт Лідскага палка[242].

29 жніўня 1930 г. з-за абрыву расцяжкі паміж крыламі самалёта-біплана ён разбіўся каля вёскі Пяскі, а лётчыкі, паручнікі Шкундар і Філіповіч уратаваліся на парашутах[243]. Праз некалькі тыдняў, 6 верасня самалёт разбіўся каля Ліды з-за няспраўнасці рухавіка, экіпаж таксама ўратаваўся[244].

*"Ліда, 25.09. Гэтай ноччу, падчас начных вучэнняў самалёт тыпу Брэгет, пілатаваны ст. сяржантам Генрыкам Маждзеняй і назіральнікам капралам Вайнаровічам, разбіўся пры пасадцы. Пілот цяжка паранены, назіральнік - не ..."* [245].

15 кастрычніка самалёт маркі "Potez", пілатаваны паручнікам Петрашкевічам, з-за дэфекту матора разбіўся паблізу ад Ліды. Назіральнік паручнік Гейштаўт быў моцна паранены, але пілот застаўся цэлы[246].

19 лютага 1931 г. самалёт, пілатаваны паручнікам Далінскім, з-за дэфекту матора ўпаў каля Ражанкі. Пілот і назіральнік Гукшанец былі паранены. На наступны дзень, 20 лютага, у густым тумане разбіўся самалёт "Potez". Пілот, паручнік Завадскі, быў паранены, а назіральнік, падпаручнік Пашкевіч, загінуў[247]. Праз некалькі дзён падчас вучэбных палётаў над Лідай упаў самалёт 5-га лётнага палка. Пілот паручнік Петрашкевіч і назіральнік падпаручнік Кузьміцкі былі цяжка паранены[248].

У чэрвені 1930 г. Лідскі авіяцыйны полк разам з шэфам польскай авіяцыі палкоўнікам Райскім наведаў інспектар французскай авіяцыі генерал Хергалт (Hergault)[249].

11 верасня 1931 г. самалёт, пілатаваны капралам Паўлоўскім і сяржантам-механікам Новакам, з-за дэфекту рухавіка ўпаў каля Нёмана. Лётчыкі не загінулі[250]. Тады ж, увечар, падпаручнік 5 лётнага палка Казімір Кузьніцкі вяртаўся з Раслякоў у свой полк і быў цяжка паранены некалькімі кулямі з рэвальвера. Прэса пісала, што верагодна гэта была асабістая помста падпаручніку[251], як кажуць: "cherchez la femme..."

Пры канцы жніўня 1932 г. лідскі самалёт разбіўся пры пасадцы на аэрадроме Каралін пад Гародні, лётчыкі былі паранены[252]. Праз некалькі дзён, 7 верасня, самалёт "Potez-15", пілатаваны паручнікам Міліноўскім і назіральнікам Карпінскім, разбіўся пры пасадцы каля вёскі Агароднікі[253].

Хутка прэса паведаміла пра самазабойства падпаручніка-назіральніка 5 палка Ежы Аляшкевіча стрэлам у скронь у сваёй кватэры па вуліцы Камерцыйнай[254].

1 лютага 1933 г. Лідскі полк меў адразу два здарэнні. У сярэдзіне дня пры пасадцы адбылася авіяцыйная катастрофа з самалётам паручніка-пілота Грыневіча і назіральніка Грабкевіча (пілот быў паранены). І таксама з-за адмовы рухавіка здзейсніў аварыйную пасадку каля Радуні самалёт сяржанта-пілота Снацкага і назіральніка падпаручніка Роўбы, экіпаж пашкоджанняў не меў[255].

У сярэдзіне кастрычніка 1933 г. лідскі самалёт разбіўся каля Варнян, лётчыкі былі паранены[256].

4 траўня 1934 г. у 10-00 ваенны самалёт над Лідскім аэрадромам упаў у штопар і разбіўся. Капрал-пілот Белавус загінуў, а сяржант-механік Граблеўскі атрымаў цяжкія раненні[257]. 20 чэрвеня таго ж года ў 20-00 у авіяпарку 5-га палка выбухнуў пажар. У тушэнні пажару прымала ўдзел добраахвотная пажарная дружына горада[258]. У жніўні таго ж года, пры пасадцы, з-за мокрага аэрадрома, самалёт перакуліўся. На шчасце, пілоты капітан Альшэўскі і капрал Вольскі не былі паранены[259].

***Стэфан Вітажэнец*** *(15.01.1908-30.12.1994) скончыў Лідскую дзяржаўную гімназію імя гетмана Хадкевіча ў 1929 г., потым вучыўся ў школе падха-*



***Камандзір эскадрыллі маёр Стэфан Вітажэнец (у цэнтры), Вялікабрытанія, кастрычнік 1940 г.***

*рунжых лётнага рэзерву (1930 г.), у Цэнтры падрыхтоўкі афіцэраў авіяцыі ў Дэмбліне (1932 г.), на курсах вышэйшага пілатажу пры Лётнай школе ў Грудзензе (1933 г.). Да 1939 г. служыў інструктарам у Лётнай школе.*

*Удзельнік Другой Сусветнай вайны. Здзейсніў 208 баявых вылетаў. За два месяцы паветранай бітвы над Вялікабрытаніяй збіў 5 нямецкіх самалётаў, адным з іх кіраваў нямецкі ас Хорст Тэтзен. Камандаваў эскадрылляй, дывізіёнам, знішчальным крылом. Скончыў вайну падпалкоўнікам.*

*У 1945 г. быў камендантам Школы пачатковага пілатажу, затым два гады да расфарміравання камандаваў Другім польскім знішчальным крылом. У 1948 г. вярнуўся ў Польшчу, пасяліўся з бацькамі ў Лодзі. У 1957 г. ізноў быў прызваны ў Польскае Войска. Служыў у апараце камандавання Паветраных Сілаў, 9 гадоў быў камендантам Цэнтра падрыхтоўкі лётчыкаў у Модліне. Узнагароджаны ордэнам Віртуці Мілітары, Ганаровым Лётным Крыжам Вялікабрытаніі, Срэбным Крыжам Ордэна Віртуці Мілітары, трохразова Крыжам за доблесць, Крыжам Баявых Дзеянняў на Захадзе.*

*У 1968 г. у званні палкоўніка выйшаў на пенсію. Доўгія гады ўзначальваў Саюз польскіх лётчыкаў. Памёр 30 снежня 1994 г. Пахаваны ў Варшаве на могілках у Павонзках сярод вайсковых лётчыкаў. Пасмяротна ўзнагароджаны Камандорскім крыжам з Зоркай Ордэна Адраджэння Польшчы. Правёў у паветры 4 238 гадзін, лётаў на 31 тыпе самалётаў. Адзіны з лётчыкаў чалец Капітулы Ордэра Віртуці Мілітары.*

*Трэба дадаць, што з двух дамоў па вуліцы Сувальскай (Савецкай, 32, 34), пабудаваных у стылі функцыяналізму напрыканцы 1930-х гадоў, дом Сувальская, 92 (Савецкай, 32) належаў Малеўскім*[260]*, а дом па адрасе: Сувальская, 94 (Совецкая, 34) пабудаваў лідскі радны і землеўладальнік Баляслаў Вітажэнец*[261]*, бацька Стэфана Вітажэнца. Гэтыя дамы існуюць і зараз.*

**7. Злачынствы**

На пачатку 1930 г. за спробу ўцячы судзілі вязняў Лідскай турмы Іпатава, Казакоўскага і Груздоўскага. Уцекачы прабілі ход з сваёй камеры на другім паверсе ў памяшканне, якое знаходзілася пад імі - у кухню. Тут на іх натрапіў турэмны наглядчык Шмігін. Вязні ўтрох кінуліся на наглядчыка, прычым Казакоўскі пры гэтым ухапіў кухонны нож. Але на шум прыбеглі іншыя наглядчыкі турмы, і ўсе трое зноў апынуліся за кратамі. Акруговы суд у Вільні прысудзіў Казакоўскаму 10, а астатнім па 9 гадоў турмы. Апеляцыйны суд у два разы паменшыў тэрміны, а Вышэйшы суд у Варшавае пакінуў вырак Апеляцыйнага суда[262].

Нейкі Заскалік у Лідзе славіўся тым, што любіў выпіць пасля працы некалькі куфляў піва ў буфеце чыгуначнага вакзала. Ягоная жонка неаднаразова ўчыняла вэрхал у гэтым буфеце і нават забараніла буфетчыку наліваць піва свайму мужу. Справа скончылася тым, што ў чарговы раз фурыя выбіла з рук мужа куфель з півам і разбіла вялікую шыбу ў чакальнай зале вакзала. Справу разглядаў гарадскі суд[263].

На пачатку жніўня 1930 г. сялянка з вёскі Папіраўцы прыехала на рынак у Беліцу купіць дойную карову. Але на рынку яна сустрэла жанчыну, з якой амаль што адразу пасябравала. Новая сяброўка, прапанавала купіць новы залаты гадзіннік "за паўцаны" - за 105 злотых. Сялянка згадзілася і, ухапіўшы гадзіннік, кінулася да іншых сяброваk хваліцца каштоўнасцю. Сяброўкі, тут жа, на рынку адвялі яе да майстра, і стары гадзіннікавы майстар патлумачыў, што гэты гадзіннік не залаты і каштуе меней за 10 злотых. Наступным месцам, куды кінулася жанчына, быў пастарунак паліцыі, але ашуканкі на рынку, канешне ж, ужо не было[264].

Наведвалі нас і ашуканцы найвышэйшага гатунку.

У 1929 г. у Лідзе з'явіўся граф Генрык Грабоўскі, *"палкоўнік у рэзерве, уладальнік маёнткаў па ўсёй Польшчы"* і г.д. Такі саноўны чалавек адразу трапіў ў "вяршкі" лідскага грамадства, апынуўся ў коле сяброў і прыхільніц, *"грошы самі ішлі ў рукі пана Грабоўскага, і ніхто гэтаму не дзівіўся, бо трансакцыі, якія ён праводзіў, давалі яму сталы і значны прыбытак"* [265]. Галоўным бізнесам, ці як зараз бы сказалі "стартапам" графа, была арганізацыя аўтобусных ліній па тэрыторыі ўсёй Польшчы. Пад гэтую ідэю, якая як быццам ужо давала і павінна была даць яшчэ большы даход, "уплывовая асоба" збірала вялікія грошы з прыватных асоб і фірм пад гарантыі высокіх адсоткаў. Сабраўшы вялікія грошы, Грабоўскі аб'явіў пра адкрыццё новай аўтобуснай лініі і адначасова, як блізкаму сябру, прадаў свой элегантны аўтамабіль кельнеру рэстарана пры "Коле Полек" Казіміру Гушчу за 3 000 злотых. На наступны дзень граф знік, затое прыехаў адвакат князя Палубінскага з Слоніма, які грунтуючыся на маёмасныя дакументы, адабраў аўтамабіль у кельнера - спрытны аферыст не купіў, а пазычыў яго ў свайго папярэдняга сябра - князя Палубінскага на нейкі тэрмін. Паліцыя пачала росшукі Грабоўскага, і ён быў арыштаваны ў Роўне, але да арышту паспеў праявярнуць яшчэ некалькі афёраў[266].

У ноч з 26 на 27 кастрычніка 1930 г. невядомыя злачынцы абрабавалі дом доктара Казубоўскага па вуліцы Школьнай. Былі выняты дзве шыбы верхняй паловы дзвярэй, якія вялі ў сад, і скрадзены восеньскі плашч, гумовая палярына і 400 злотых. Акрамя таго, была скрадзена вопратка дамашняй работніцы Казубоўскіх на 300 злотых[267].

10 снежня 1930 г. 27-мі гадовы чыгуначнік Сямён Андрушка застрэліў сваю 60-ці гадовую каханку Вольгу Высоцкую, а потым застрэліўся сам. Высоцкая валодала домам ў Лідзе і жыла з маладым каханкам 6 гадоў. Верагодная прычына трагедыі - спрэчка з-за грошай, бо перад смерцю Высоцкая прадала зямлю ў горадзе, і каханак патрабаваў ад яе гэтыя грошы[268].

Злачынцы не спыняліся нават перад рабункамі рэлігійных арганізацый. У красавіку 1930 г. была абкрадзены праваслаўная царква ў Лідзе. Зладзеі ўлезлі ў царкву цераз акно, разбіўшы шыбу, і скралі каштоўныя рэчы: 3 бронзавыя крыжы, пакрытыя нікелем,

срэбны пазалочаны келіх, медную талерку, срэбную звездзіцу і іншае - агульным коштам каля 1 000 злотых[269]. А ў ліпені невядомыя злачынцы пракраліся ў Лідскую сінагогу і, выламаўшы замкі ў шафах, выкралі розныя рэчы і грошы з скарбонак[270].

9 лютага 1931 г. чыноўнік Лідскай пошты Міхал Лісіцкі знік з сумай у 10 200 злотых. У той жа дзень паліцыя на станцыі Ліда зняла яго з цягніка, але пры сабе злодзей меў толькі 7 000 злотых, 3 200 ён паспеў неяк растраціць ў Лідзе за некалькі гадзін[271].

Гаспадары дома № 70 па вуліцы Школьнай Альбертына і Аляксандр Лычковы паспрачаліся з *"іх кватарантам, знаным тутэйшым авантурыстам і панажоўшчыкам Леанам Рубашуком (узрост 26 гадоў) і ягонай каханкай, прастытуткай Соней Флінкель. Каб супакоіць бойку, па выкліку суседзяў на месца прыбыў паліцыянт Ян Пякарскі, узброены карабіным з багнетам. Паліцыянт вырашыў адправіць Лычкава ў шпіталь, а Рубашука забраць у пастарунак. Але Рубашук усчаў бойку з паліцыянтам, а Соня Флінкель перадала яму кухонны нож. Тады паліцыянт ударыў авантурыста багнетам у левую частку грудной клеткі. ... Рубашук памёр у шпіталі ... . Флінкель была арыштавана, а гаспадар дома Лычкоў ў непрытомным стане перавезены ў шпіталь"* [272]. Праз некалькі дзён у шпіталі, не прыходзячы ў прытомнасць, Аляксандр Лычкоў памёр[273].

На пачатку траўня 1931 г. сярод "белага дня" тры невядомыя ўзброеныя бандыты напалі на фальварак Гута Адольфа Пашкеіча, што каля Ліды. Рабаўнікі выбралі час, калі ў доме не было нікога з мужчын і затэрарызаваўшы прыслугу, забралі ўсе упрыгожванні, долары, золата і срэбныя рублі ды ўцяклі ў лес[274].

Пры канцы траўня 1931 г. аддзел Віленскага акруговага суда ў Лідзе пачаў судзіць членаў банды Яманта, якая на працягу двух гадоў тэрарызавала Лідскі павет. На пачатку 1929 г. з турмы выйшлі на волю Сільверст Ямант і Баляслаў Лучко, абодва - жыхары Ліды. Да іх далучыліся былыя крымінальнікі Антон Кузьміч і Адольф Пятрусевіч. І банда пачала рабаваць. Пры адным з нападаў, яны забілі паліцыянта Шалавінскага. Пры арышце Ямант быў застрэлены, а астатнія паўсталі перад судом. У выніку Лучко атрымаў 10 гадоў турмы, а Кузьміч і Пятрусевіч - па 8 гадоў[275].

*"23 верасня каля 15-30 ад будынка пошты і тэлеграфу ў Лідзе скрадзены ровар службоўца пошты Вінцэнта Русіновіча маркі "Нёман" № 02682 вартасцю 280 злотых"* [276].

Дзяржава падтрымлівала акцызную манаполію на алкагольныя вырабы і актыўна змагалася з самагоншчыкамі. Для гэтых мэт была нават адмысловая брыгада скарбовага кантролю, якая, дарэчы, займалася і перамытніцтвам. Самагоншчыкі караліся надзвычай строга. У кастрычніку "Навагрудскі Кур'ер" пісаў: *"У самым цэнтры горада, па вуліцы Завальнай, 30 у Зуселя Ілютовіча знойдзены самагонны апарат. Апарат меў вельмі дасканалую канструкцыю і фільтры з актываванага вуглю, ваты і пяску. Апарат знаходзіўся ў прыбудове да стаенкі і, каб туды ўвайсці, трэба было зрушваць сцяну"* [277]. Пры канцы жніўня 1932 г. паліцыяй былі выкрыты два самагонныя апараты ў Беліцкай гміне: адзін у вёсцы Нагародавічы, другі - у Гезгалах. Абодва апараты былі падобныя на маленькія фабрыкі і выраблялі *"самагонку найлепшых гатункаў. У гэтым годзе гэта ўжо чацвёртая фабрыка самагонкі ў Гезгалах, выкрытая паліцыяй"* [278].

Таксама пераследавалі і пасадкі тытуню. Напрыклад, прэса пісала, што на пачатку жніўня 1933 г. паліцыя знайшла *"на тэрыторыі Лідскай гміны ў шэрагу гаспадароў нелегальныя плантацыі тытуню. Былі складзены карна-скарбовыя пратаколы і справы перададзены ва Управу Акцызаў і Манаполіі"* [279]. У 1935 г. паліцыя Радунскай гміны выкрыла цэлы шэраг дробных нелегальных плантацый тытуню, *"некаторыя з сялян садзілі па 100 кустоў тытуню"* [280].

У ноч з 14 на 15 і з 15 на 16 студзеня 1932 г. адбыліся акты вандалізму на гарадскіх могілках, былі разбіты 16 слупкоў агароджы чатырох магіл (магілы Грабліса, Роўбы і інш.) і скрадзены жалезны дрот агароджы агульнай даўжынёй каля 40 м[281].

Праз некалькі дзён з крамы Галдвасера па вуліцы 3-га Мая скралі грамафонныя кружэлкі на 1 000 злотых[282].

У сакавіку таго ж года нехта абрэзаў бандаж




***Начальніка управы скарбовага кантролю Антон Цехановіч каля аршытаванага самагоннага апарата.***

паміж слупам і пасынкам і гэтак звярнуў слуп, пашкодзіўшы тэлефонную сувязь паміж Лідай і Гародняй[283].

Уначы 7 лютага 1933 г. у Лідзе з Народнага Яўрэйскага банка было скрадзена 20 000 злотых грашамі і ўпрыгожаннямі, якія там захоўваліся. Паліцыя паведаміла, што рабаўнікі забралі 7 банкнот па 500 злотых, 1 500 злотых малымі купюрамі, 500 долараў банкнотамі, 20 залатых рублёў, 10 залатых англійскіх фунтаў, срэбны партсігар з залатым гузікам, залаты дамскі гадзіннік з доўгім ланцужком, 3 залатыя брошкі з каштоўнымі камянямі і 2 залатыя заручальныя пярсцёнкі. Браніраваная каса была разрэзана. Возны банка спаў недалёка ад касы, але нічога не чуў[284].

Улетку 1935 г. у Лідзе выкрылі псеўда-лекара Сацыяльнага забеспячэння Казіміра Парноўскага. Выкрыў яго павятовы доктар, які заўважыў, што калега не мае элементарнай кваліфікацыі. Выкрыты псеўдалекар уцёк з Ліды, прыхапіўшы пры гэтым некалькі дзясяткаў тысяч злотых. Высвятлілася, што дыплом Парноўскага быў падроблены. Уцекача аб'явілі ў вышук, але *"магчыма, махляр ужо перайшоў летувіскую мяжу"* [285].

**Савецкія шпіёны**

25 красавіка 1932 г. па выраку Лідскага Ваеннапалявога суда (Sadu Doraznego) да кары смерці праз павешанне былі прыгавораны савецкія шпіёны Іосіф Турбач і Міхал Чаховіч. Позна ўначы 26 красавіка з Варшавы прыйшла адмова прэзідэнта Польшчы памілаваць шпегаў, і на раніцы 27 красавіка прыехалы з Варшавы кат павесіў абодвух на дзядзінцы Лідскай турмы[286].

На пачатку лістапада 1932 г. Ваенна-палявы суд ў Вільні разглядаў справу савецкіх шпіёнаў: сталага жыхара Ліды, 22-х гадовага Станіслава Маркоўскага (партыйная мянушка - "Блакітны", прафесія - сталяр, рыма-каталік), 29-ці гадовага Зміцера Сая (мянушка - "Буш", селянін, праваслаўны, бацька траіх дзяцей), брата Маркоўскага, лідзяніна Рышарда Маркоўскага (28 гадоў, сталяр) і Пятра Русака (селянін, бацька 4-х дзяцей). Усе чацвёра з 1931 г. шпіёнілі на карысць СССР і былі выяўлены амаль што выпадкова. Суд прыгаварыў Станіслава Маркоўскага і Зміцера Сая да павешання, а Рышарда Маркоўскага і Пятра Русака да пажыццёвага турэмнага пакарання[287].

7 кастрычніка 1933 г. у Лідскім акруговым судзе быў зачытаны вырак па справе сям'і Клімашэўскіх: Францішкі, Людвікі, Вацлава, Бранiслава, а таксама Драбка Браніслава - усіх іх абвінавачвалі ў шпіянажы. Гэтыя людзі былі асуджаны на вялікія турэмныя тэрміны[288].

Усе гэтыя шпегі здабывалі інфармацыю пра 5-ты лётны полк.

**8. Пажары**

На пачатку 1930 г. пажар у вёсцы Малейкаўшчына зрабіў шкоды на 10 000 злотых.

У лютым таго ж года выбухнуў пажар на вытворчасці алею ў Лідзе. Пажар паўстаў з-за выкарыстання свечак пасля таго, як знікла электрычнасць. Полымя ахапіла ўсю фабрыку. Акрамя добраахвотнай гарадской пажарнай варты на месца прыбылі вайсковыя пажарнікі, і толькі тады агонь быў патушаны. У выніку шкода ацэньвалася ў 10 000 злотых, цяжкія апёкі атрымалі 7 пажарных[289].

20 кастрычніка 1930 г. у маёнтку Вялікае Ольжава былі падпалены стадола і свіран. Пабудовы згарэлі разам з 16 тонамі збожжа. У тушэнні пажару бралі чынны ўдзел добраахвотныя пажарныя дружыны з вёсак Далекія і Парачаны, а таксама мясцовыя сяляне. Шкода ад пажару - 75 000 злотых[290].

12 лютага 1931 г. загарэўся дом яўрэйскага таварыства "Мішмарыс-Хойлем" (Miszmeris-Chojlem) па вуліцы Завальная, 68 у Лідзе, але пажар не перакінуўся на іншыя будынкі і быў хутка патушаны[291].

Пры канцы лютага таго ж года ў калоніі дзяржаўных дамоў у Лідзе *"ў адной з кватэр чыноўнікаў выбухнуў пажар... . Пажар паўстаў у выніку неасцярожнасці: прыслуга выносіла перагарэўшы вугаль ў драўляным посудзе ў камору, ... але праз некалькі гадзін у каморы вугаль зноў разгарэўся, загарэлася падлога і ўзняўся пажар. Калі дым выбіўся на вуліцу, сярод суседзяў узнікла паніка, і былі выкліканы пажарныя. Але калі яны прыехалі, пажар ужо быў цалкам патушаны сваімі сіламі"* [292].

У красавіку 1931 г. пад час кінасеансу ад праекцыйнай лямпы загарэлася кінастужка. Узнікла паніка, але кінамеханік Мозель Віцільд хутка загасіў узгаранне[293].

13 ліпеня 1932 г. у цэнтры горада адбыўся моцны пажар. *"Горад у моры агню"*, - паведамляла прэса. Пажар пачаўся з дома Сувальская, 54. Спачатку агонь ахапіў дах гэтага дома, потым перакінуўся на кінатэатр "Нірвана". З-за моцнага ветру полымя хутка ахапіла суседнія дамы, і загарэўся цэнтр горад па вуліцы Сувальскай. Гарэла "Нірвана", крамы і цэлы шэраг жылых дамоў у кірунку ракі Лідзеі. Пажар тушылі добраахвотныя пажарныя дружыны, пажарныя службы абодвух лідскіх палкоў і чыгункі, прыехалі нават пажарныя машыны з Гародні. Недалёка ад месца пажару, тлумы пагарэльцаў, якія страцілі ўсю маёмасць, стварылі сапраўдны бівак. Да 20-00 агульнымі намаганнямі пажар быў лакалізаваны. Галоўнай цяжкасцю быў недахоп вады, якую прыходзілася падвозіць з Лідзеі, бо толькі гарадзенскія пажарныя мелі адмысловы шланг даўжынёй у 300 м і наўпрост пампавалі ваду з ракі. Агонь гарэў да вечара наступнага дня. Пры тушэнні загінуў жаўнер 5-га лётнага палка Ян Валюкевіч, былі цяжка паранены добраахвотныя пажарныя Кацэнеленбоген, Баярскі, Лебедзь і Вацлаў Мілан з Гародні.

Згарэлі дамы № 54, 56, 58, 60 па вуліцы Сувальскай (належалі Фларыяну Длускаму, Beралю Дваржэцкаму, Фруме і Гіршу Таўшынскім) і шмат дамоў у бок ракі Лідзейкі, згарэў кінатэатр "Нірвана" і шмат крам і складаў: гарэлачны склад Міхала Баркоўскага, крама капялюшоў Ядвігі Яўген, піўярня Макса Левіна, піўярня Антона Ляховіча, галантарэйная крама Якаба

Брэма, склады "Сельскагаспадарчага сіндыката", рымарня Чайкоўскага, склады мануфактуры Якуба Вінера, крама шкла Абрама Флякса, крама машын "Зінгер", памяшканне "Таварыства польскіх купцоў" [294]. Страты ад пажару ў цэнтры горада склалі 712 000 злотых. Найвялікшыя страты панёс Длускі, уладальнік дамоў №56 і 58 - каля 500 000 злотых, пры тым, што гэтыя дамы былі застрахаваны толькі на 145 000 злотых. Кінатэатр "Нірвана" меў страты ў 15 000 долараў, Якаб Вінер - 40 000 злотых, Юзаф Гальперын - 35 000 злотых, асабіста ўладальнік "Нірваны" Яблонскі - 18 000 злотых[295].

Падчас пажару краў рэчы пагарэльцаў і быў арыштаваны Станіслаў Кедык[296]. Праз некалькі дзён за крадзеж 330 злотых гатоўкай, арыштавалі Караліну Давідовіч[297]. Як падлічылі пасля пажару, цалкам, было скрадзена розных рэчаў на 42 000 злотых[298].

Праз 10 дзён у тым жа раёне горада з-за маланкі згарэла стадола пры касцёле піяраў, страты склалі 6000 злотых[299].

Пры канцы лютага 1933 г. выбухнуў пажар у фотаатэлье Мойшы Хаіма Левіна па вуліцы Сувальскай, каля рэстарана "Брыстоль". Згарэла ўся мэбля, 4 фотаапараты і 6 дэкарацый. Страты - 6 000 злотых[300].

У сакавіку 1933 г. для добраахвотнай пажарнай дружыны гуты "Нёман" была закуплена мотапомпа[301].

23 і 24 ліпеня 1932 г. горад святкаваў 40-гадовы юбілей заснавання добраахвотнай пажарнай аховы ў Лідзе. У межах 1-ых ваяводскіх спаборніцтваў пажарных каманд, якія праходзілі ў гэты час у нашым горадзе, адбыліся паказальныя выступы добраахвотных пажарных, узнагароджанне лепшых пажарнікаў, паказ ў кінатэатры "Эдысон" фільма "Рыцары агню" і г.д.[302]

Жыхары горада знаходзілі для пажарных дружын горада і іншыя заняткі, у чэрвені 1934 г. нехта з лідзян пісаў у газеце "Слова": *"Тое, што ў горадзе не паліваюцца вуліцы, ёсць вялікая бяда. Таму паўсюдна ў нас уздымаецца пыл, які забруджвае паветра. У Лідзе ёсць дзве пажарныя дружыны. Ці не можа магістрат загадаць, каб яны час ад часу прыязджалі з бочкамі вады і палівалі вуліцы?"* [303].

**9. Здарэнні**

25 студзеня 1930 г. аўтамабіль 5-га лётнага палка, якім кіраваў капрал Браніслаў Брукштус, на вуліцы Вызвалення ў Лідзе наехаў на кабылу, якая належала Юльяну Змітровічу, і пасвілася на вуліцы без нагляду. Пасля сутыкнення з кабылай аўтамабіль збіў тэлеграфны слуп. У выніку аўтамабіль быў разбіты, слуп вывернуты з зямлі, а кабылу па выраку ветэрынара дарэзалі[304].

У сакавіку 1930 г. на Лідчыне ў вялікай колькасці з'явіліся "лісты шчасця". Гэта звычайная, "вірусная", рассылка паведамленняў, пры якой кожны, хто атрымаў такі ліст, павінен быў у той жа дзень перапісаць яго 9 раз і накіраваць сваім знаёмым, бо ліст абяцаў розныя жыццёвыя клопаты і нязгоды таму, хто гэтага не зробіць. Прэса паведамляла, што рассылкай "лістоў шчасця" займаліся нават паважаныя супрацоўнікі дзяржаўных арганізацый[305]. Аналагічныя "лісты шчасця" я асабіста памятаю з 1970-х гг., яны з'яўляліся ў нашай паштовай скрыні і не мелі маркі, г.зн. былі ўкінуты кімсьці з суседзяў. Са з'яўленнем электроннай пошты, а потым сацыяльных сетак таксама прыйшлося некалькі разоў атрымліваць такія лісты, у гэтым выпадку я адразу назаўжды блакаваў "аўтара".

Утраўні 1930 г. у Лідзе ўся сям'я Баняроў атруцілася грыбамі: *"Двое малых дзяцей прывезены ў шпіталь, дзе хлопчык хутка памёр, а дзяўчынка змагаецца са смерцю. Бацькі таксама знаходзяцца ў вельмі цяжкім стане"* [306].

У ноч на 25 чэрвеня 1930 г. у Лідзе ў дом па адрасе: Пастаўская, 33, які стаяў недалёка ад яўрэйскіх могілак, патрапіла маланка. Адразу, падчас сну была забіта маці Анэля Бутурля і яе 16-ці гадовая дачка Яніна. Ад маланкі дом загарэўся, другая дачка, 22-х гадовая Ядвіга атрымала цяжкія пашкоджанні. *"Агульнай увагі заслугоўвае геройскі чын чыноўніка Лідскай пошты Міхала Лісецкага, які вынес з палаючага дома цяжка параненую Ядвігу Бутурлю, якая аднак праз гадзіну памерла ў бальніцы"* [307].

У студзені 1931 г. у Лідзе адбыўся шэраг самазабойстваў: 14 студзеня вядомы лідскі купец Дубчанскі з-за эканамічных праблем павесіўся на сваім складзе па адрасе: Рынак, 8. 16 студзеня жыхар Ліды шавец Міхал Мікалайчык павесіўся з-за здрады жонкі ва ўласным доме па вуліцы Райская, 29. Вечарам таго ж дня Мікалай Мазавецкі з невядомай прычыны кінуўся ў студню і ўтапіўся[308].

На пачатку жніўня таго ж года прэса пісала пра бухгалтара "Ардаля" Хаіма Ківялевіча. Ён ўратаваў жанчыну, якая танула ў рацэ Молчадзь каля Навальні. Да гэтага выпадку Ківялевіч ужо два разы ратаваў людзей: у 1914 г. ён выцягнуў з вады дзіця, якое ўпала з моста ў раку, а ў 1920 г. у Лідзе вынес дзіця з полымя пажару. Ківялевіч быў членам лідскай дабраахвотнай пажарнай дружыны[309].

У жніўні 1931 г. уладальнікі маёнткаў Шаўры і Салпенішкі Зыгмунт і Віктар Зялінскія пад час палявання, замест ваўка падстрэлілі 11-ці гадовага Цыпрыяна Спудзіса - сялянскага сына. Хлопец спаў у хаце і быў паранены шротам, які прабіў акно[310].

Пры канцы жніўня 1931 г. у горадзе бура паабрывала драты электрычнасці і сувязі, з-за чаго на Лідскай тэлефоннай станцыі ледзь не адбыўся пажар. Таксама моцны дождж дзе-нідзе размыў дарогі і падмыў гарадскія могілкі, што прывяло да таго, што папрасядалі новыя магілы[311].

21 кастрычніка 1931 г. з Ліды ў Беліцу выехаў аўтобус з 12-ю пасажырамі. На 4-м кіламетры дарогі аўтобус дагнаў легкавы аўтамабіль лідскай Касы хворых. Легкавік, якім кіраваў Антон Бляўскі, вёз доктара Ястржэмскага. Пры абгоне легкавік ударыў аўтобус у пярэдняе кола, пасля чаго аўтобус выехаў у канаву. Усе 12 пасажыраў атрымалі раненні, аўтобус быў моцна разбіты[312].

Вясна 1932 г. вызначылася моцным паводкам. На пачатку красавіка вада ў Лідзейцы і Каменцы пад-

нялася на 3 метры. Вада заліла шэраг дамоў па вуліцы Школьнай і Завальнай, былі затоплены 4 дамы ў раёне Слабодка-2, дамы на Закасанцы і Пясках. Справа дайшла да эвакуацыі людзей з затопленых дамоў[313]. А 6 траўня па Лідчыне прайшла магутная вясенняя бура, якая паваліла тэлефонныя слупы і парвала драты на чыгуначным шляху Ліда-Маладзечна (адразу, за мостам цераз Лідзейку). Маланка патрапіла ў гарадскую электроўню, кіраўнік электроўні і дзяжурны манцёр часова страцілі прытомнасць, і таму да 19-30 горад апынуўся ў цемры. З-за моцнага дажджу на 1 метр паднялася рака Лідзейка і месцамі выйшла з берагоў[314].

Падчас працы на дзядзінцы плябаніі ксендза Баярунца рабочыя абарвалі электрычны дрот. Адзін з рабочых, Юзаф Місюра, вырашыў дрот адкінуць і ўзяўся за яго рукой. *"Пацярпелы ў цяжкім стане трапіў у шпіталь"* [315].

Паміж фабрыкай цвікоў "Дротындустрыя" і шкіпідарняй па вуліцы Фабрычнай знаходзілася вялікіх памераў яма, у якую сцякалі ўсялякія нечыстоты з абедзвюх фабрык. Пры канцы 1932 г. сцёкі атруцілі грунтовыя воды, і з усіх студняў у раёне гэтых фабрык стала немагчыма браць ваду. Напрыклад, атручаны былі ўсе чатыры студні фабрыкі "Ардаль" і нават студні па вуліцы Крупаўскай[316] (цяпер 8-га Сакавіка, *рэд.*).

Пры канцы лютага 1933 г. каля чыгуначнай станцыі Бастуны прызямліўся савецкі самалёт. Пілот служыў у Менску і на сваім самалёце ўцёк з Саветаў. Лётчыка прывезлі ў Ліду і перадалі вайсковым уладам[317].

У жніўні таго ж года на полі каля вёскі Сямейкі Ваверскай гміны жыхар гэтай вёскі Браніслаў Макарчук, *"узрост 28 гадоў, знайшоў стары снарад і пры дапамозе малатка паспрабаваў яго разабраць, выбух снарада забіў неасцярожнага селяніна"* [318].

На пачатку жніўня 1934 г. на горад абрынулася моцная бура разам з маланкамі. Ад маланак загарэліся два дамы, струмені вады пазалівалі вуліцы горада, асабліва дасталася вуліцам Сувальскай і Лідскай, дзе вада пазалівала крамы, лёхі і кватэры першага паверха. Па вуліцы Міцкевіча вецер пазрываў дахі з дамоў.[319]

### 10. Дадаткі

#### Паноптыкум[320]

Ліда. Што ёсць Ліда?

Людзі? Цыдзяровіч, Капяловіч, Калмановіч і нават Берлінерблаў? Ёсць др. Каплан з надпісам на дзвярах: "Дзіцячыя хваробы, вонкавыя, скураныя, унутраныя і мочапалавыя". Калі пацыент не зразумее апошняе слова, дык каля яго напісаны сінонім. Каб прасцей арыентавацца. Ёсць нават дынастыя Пупкоў: галантарэя Пупко, абутак Пупко, матэрыялы для пісьма Пупко і піва - усюды піва Пупко. Ну, так, ёсць яшчэ Папірмайстра.

Ад вакзала ідзе вуліца Мацкевіча. Не Міцкевіча, а Мацкевіча. На гэтай вуліцы ёсць Гістарычны паноптыкум. Ведаеце гэтыя гукі катрынак, якія бываюць у паноптыкумах і луна-парках? Яны неабходны - утрымаць чалавека, паралізаваць волю, уцягнуць унутр. У лідскім паноптыкуме ляжыць паміраючы марак. Памятаю яго з часоў дзяцінства. Ляжыць, як і тады, з ранай у грудзях, з марацкай бародкай, але без вусоў. Нахілімся над ім. Ні хрыпаў ні цяжкага дыхання, і з цёмнай раны не струменіцца кроў.

- Марак сапраўды памёр, - думаю, - праз столькі гадоў! ...

Але ўласнік паноптыкума нешта памайстраваў у скрынцы з мараком: старая рана закіпела. О, несмяротны, паміраючы марак! О, незнішчальная трываласць мёртвых рэчаў! I цябе памятаю, капітан Дрэйфус у чырвоных портках[321]. I цябе таксам, дзіцё з двума галовамі. Эміль Заля, слаўны французскі пісьменнік, Абрам Лінкольн, знакаміты прэзідэнт Злучаных Штатаў, эрц-герцаг Рудольф на ложку смерці - мне таксама як сваякі. Спаткаўся ўпершыню з вамі ў Лідзе. Меў чатырнаццаць гадоў.

Калі выходзіў, затрымала мяне тоўстая, вусатая касірка.

- Кавалер хоча ўбачыць нешта цікавае?

I адразу стала горача, першы раз у жыцці ... Пазнаў стэрэаскоп.

Выйшаў з лідскага паноптыкума, і ніхто мяне не затрымаў.

* * *

Потым бачыў рынак і цесныя, крывыя але прыгожыя і маляўнічыя завулкі каля яго. Дзень быў смутны, дождж падаў без перапынку. Сялянскія лапці, жаночыя чаравікі і яўрэйскія доўгія боты хлюпалі ў чорным, размазаным балоце.

***Выш.***

#### На беларускім школьным фронце[322]

*Рэдакцыйны артыкул, верагодны аўтар - Ян Пазняк.*

Сумна на гэтым фронце. Польскі ваяўнічы нацыяналізм усцяж націскаў ва беларускую школу і няміласэрна яе нішчыў.

Пачаткі беларускай школы сягаюць 1906 г., калі пад кіраўніцтвам Якуба Коласа (К. Міцкевіча), слаўнага беларускага паэта і пісьменьніка, а так-жа Яз. Лёсіка, вядомага беларускага філёляга, з прафэсіі вучыцялёў, заснаваўся тайны вучыцельскі гурток, дзеля тайнага навучаньня беларускіх дзяцей у іх роднай беларускай мове.

Выбухнула вайна, і на Беларусь прышлі немцы. Ідэя будаўніцтва роднай школы ізноў уваскрасае. Паўстае да 350 беларускіх пачатковых школ і бел. вучыцельская сэмінарыя ў Сьвіслачы, Ваўкавыскага пав.

Пасьля немцаў, беларускія землі, разам з Мінскам, у 1919 г. займаюць палякі. Паўстае так званы "Урад Усходніх Зямель", які адразу пачынае наступ на нашыя пачатковыя школы і нішчыць іх дазваньня, у тым ліку і вучыцельскую сэмінарыю ў Сьвіслачы.

У 1920 г., пасьля польска-бальшавіцкай вайны, палякі, каб утрымаць пры Польшчы Віленшчыну, ствараюць як нешта пераходнае, так зв. "Сярэднюю Літву". У гэтым часе ізноў паўстае да 200 бел. школ і бел.

вучыцельская сэмінарыя ў Барунах, Ашмянскага павету.

Але вось у 1921 г. устанаўляецца сучасная польская дзяржаўная граніца, і землі Заходняй Беларусі застаюцца за Польшчай.

Пачынаецца ізноў націск ва беларускія школы. У 1922 г. з гэтых 200 бел. школ застаецца толькі 36; рэшту польскія ўлады закрываюць; закрываюць яны ў тым-жа годзе таксама і Беларускую Вучыцельскую Сэмінарыю ў Барунах.

У наступным годзе да гэных школ з мінулага году прыбывае яшчэ адна. Такім чынам у 1923 г. (у сакавіку мес.) ува ўсёй Зах. Беларусі існуе 37 бел. пачатковых дзяржаўных школ.

31.VII.1924 г. выходзіць так зв. "Устава языковая". Згодна з гэтай уставай беларусы складаюць дэклярацыяў на 412 бел. школ. Польскія аднак улады да заснаваньня гэтых школ не дапускаюць. Больш таго - яны 7.01.1925 г. выдаюць "інструкцыю", як гэтую ўставу праводзіць у жыцьце. Гэта інструкцыя уводзіць цэлы рад труднасьцяў пры адкрыцьці бел. пачатковай дзяржаўнай школы і развой яе ізноў спыняе.

У часе ад 1925 да 1928 г. на беларускай землях у Польшчы існуе толькі 6 школ, ды ўжо не беларускіх, а "ўтраквістычных" (польска-беларускіх).

У 1928 г. усіх беларускіх дзяржаўных пачатковых школ існуе 65: 21 беларуская і 44 польска-беларускія.

Гэткі, з малымі зьменамі, лік беларускіх дзяржаўных пачатковых школ трывае да 1931 г., у якім налічваецца іх 63: 22 школы беларускія і 41 польска-беларуская.

Пры гэтым трэба ведаць, што ўсе гэтыя школы - яны толькі завуцца беларускія, ці польска-беларускі, бо фактычна яны ўжо польскія, фактычна польскі нацыяналізм бел. пачатковую школу ўжо зьнішчыў цалком.

Аднак для прычын палітычных у 1930 г. у Вільні закладаецца яшчэ Вучыцельская польска-беларуская Сэмінарыя ім. Фр. Багушэвіча.

Прад гэткім наступам польскага нацыяналізму не магло разьвіцца так-жа і бел. школа прыватная. Дый трудна вымагаць ад бел. селяніна, каб ён плаціў за дзяржаўную школу падаткі і адначасна - на школы прыватныя. Зрабіць гэта ён ня ў сілах. А дзе і на гэта здабываўся, там спыняў яго асьветныя імкненьні той жа польскі нацыяналізм.

У 1928 г. існуюць 4 школы беларускія прыватныя, а сяньня ўжо толькі адна, у Шаўлянах Браслаўскага павета.

Дый у будучыне надзеі ва прыватную беларускую школу мала. У сакавіку месяцы 1932 г. Варшаўскі Сойм выдае закон аб прыватных школах. Закон гэты так шмат дае магчымасьці ўмешваньня ў справы заснаваньня прыватных школ уладам школьным і паліцыйным, што надзеі на прыватныя школы мусяць быць дужа сумныя.

Будуе таксама беларус і сваю сярэднюю школу. Паўстаюць калейна беларускія гімназіі: у Будславе, у Вільні, у Гарадку - Радашкавічах, у Нясьвіжы - Клецку і Навагрудку. Але той-жа польскі націск робіць сваё і тут. Сёньня існуюць, напалову галадуючы, ужо толькі дзьве беларускія гімназіі: у Вільні і ў Наваградку. Дый і гэтыя ці астануцца? У пачатку сакавіка 1932 г. Соймам прыняты закон аб перабудове гімназіяў і вучыцельскіх сэмінарыяў. Закон гэты зможа даць магчымасьць "перабудовы" і нашых гімназіяў.

Гэтак сумна прадстаўляюцца беларускія справы на школьным фронце. - А вось і апошнія весьці і чуткі з гэтага фронту.

Дзяржаўная польска-беларуская Вучыцельская Сэмінарыя ім. Фр. Багушэвіча ў Вільні канчае школьны год і зачыняецца. ...

А вось чуткі. Беларуская Наваградзкая Гімназія быццам з гэтым годам таксама нейкім чынам і нейкім правам мае ліквідавацца, і быццам нешта нядобрае з боку польскага мае спаткаць і Беларускую Віленскую Гімназію.

Праўда, гэта яшчэ толькі чуткі, але надта магчыма, што сумныя гэтыя чуткі стануцца фактам. А стацца ім фактам дужа лёгка. ...

Словам, зусім няружова на беларускім школьным фронце.

Ня гледзячы аднак на гэта беларускі народ і беларускае грамадзянства павінны стойка бараніцца і не павінны падаць духам. Мы мусім жыць і будзем жыць. Калі не даецца нам родная, належная нам, школа і нішчацца астаткі гэтай школы - дык мы павінны ўзяцца за роднае навучаньне пазашкольнае, хатняе. Беларускі лемантар, кніжка беларуская павінны замяніць вам школу і вывесьці народ ва шлях волі і долі. Гэтак было і з іншымі народамі...

### Разьвіцьцё й значэньне радыётэхнікі[323]

Піянэрам на полі практычнай радыётэлеграфіі быў Марконі, якому першы раз у 1896 годзе ўдалося размаўляць бяз дроту паміж дзьвума ангельскімі станцыямі на адлегласьці некалькі кіламэтраў.

Калі Марконі ў 1896 г. рабіў першыя пробы, то дасягнуў з пачатку адлегласьць каля 100 м., а пасьля 3 км. У 1908 г. можна было перагаварвацца ўжо праз Антлянтыцкі акіян на адлегласьці 3 000 км, а цяпер вялікія трансатлянтыцкія станцыі паразумяваюцца з кожным пунктам нашае зямное кулі.

Катодная лямпа, знойдзеная яшчэ перад вайной, пхнула радыётэхніку на новыя шляхі; дзякуючы гэтым лямпам магчыма ўзмацненьне слабых токаў, атрыманых на станцыях адбіраючых з адлеглых станцыяў надаўчых. Дзякуючы гэтаму, самыя апараты могуць быць меншыя, і замест высока нацягнутых антэн, можна ўжыць антэну рамавую, складаючыся з некалькіх дзесяткаў метраў тонкага дроту, накручанага на драўлянай раме. Такім чынам можна будаваць малыя, лёгкія і танныя радыёапараты. Маючы ў сябе радыёапарат, мы можам слухаць мову, сьпеў і музыку з вельмі далёка адлеглых станцыяў. Цяпер няма таго гаспадарства, якое-б ня мела, прынамсі, адну надаўчую станцыю. Для камунікацыі на вялікія адлегласьці ўжываецца

радыётэлеграф. Радыётэлефон ужываецца на адлегласьці, не перавышаючай пару тысяч кілёметраў. Радыётэлефонія ўжываецца на караблёх і аэраплянах. Пасажырскія аэрапляны, курсуючья на лініі Парыж-Лёндан, праз увесь час падарожжы маюць радыётэлефанічнае злучэньне з Парыжам і Лёнданам. Вялікае значэньне мае радыётэлеграфія і радыётэлефонія ў мараплаваньні. Кожны карабель мае радыётэлеграфічную станцыю, якая атрымлівае мэтэоролёгічныя й прэсавыя камунікаты, сыгналы часу з дакладнасьцю да 0,01 сек. У тым выпадку, калі караблю пагражае катастрофа можна прызваць на помач караблі, якія знаходзяцва на вялікай адлегласьці. Трэба ўспомніць яшчэ аб радыёфарах. Радыёфары гэта такія радыётэлерафічныя прылады, якія так, як маякі, служаць караблём для арыентацыі ў часе ночы, пры вялікім тумане і т. п. Яны стала высылаюць праз пэўны час сыгналы, дзякуючы якім караблі і могуць арыентавацца. Гэтае самае значэньне радыёфары маюць і для авіятыкі. Не магу тут апісаць усіх застасаваньняў радыётэхнікі, бо гэта патрабуе шмат часу й месца, але ўспомню яшчэ аб астатніх здабыцьцях веды: телемэханіка, перанашэньне абразоў на адлегласьць, перанашэньне сьвятла,

Телемеханіка палягае на тым, што пры помачы радыётэлеграфічнай эмісыі (высыланьня), мы можам кіраваць параходам, альбо нават і аэраплянам, пушчаючы ў рух матор радыётэлеграфічнай дарогай. Спробы ў гэтым кірунку роблены ўжо ў 1918 г., але да гэтага часу тэлемэханіка ня мае практычнага застасаваньня. Перанашэньне на адлегласьць абразоў ёсьць таксама ў пачаткавай стадыі - гэта пачатак тэлевізыі. Калі прыблізна 30 гадоў таму назад Марконі збудаваў сваю станцыю, ужываў каля 50 ваттаў энэргіі, індукцыйную шпульку, якую прыводзіў у рух сталым токам і антэну ў нэкалькі дзесяткаў мэтраў вышыні. Цяпер працуюць вялікія станцыі з моцай у некалькі дзесяткаў, а нават і сотняў, а антэны маюць вышыню ў пару сот мэтраў.

Тое, што яшчэ нядаўна здавалася ўтопіяй, думкай фантазёраў - зрабілася сапраўднасьцю.

***П. Радзюк.***

**На хвалі 1442 мэтры**[324]

***Мотто:*** *Зараз мы пераключаемся на Маскву, стуль слухайце перадачу для дзяцей.*

З цікавасьцяй беларусы Зах. Беларусі слухаюць Менскай радыёстанцыі.

Ня маючы ніякіх іншых магчымасьцяў чуць аб жыцьці ў Савецкай Беларусі, трэба задаволіцца гэтым радыё-інформатарам. - Прэса з Саветаў да нас не даходзіць, дастаць экзэмпляр "Чырвонае Зьмены" ці якога-колечы "Калгасьніка Беларусі" могуць толькі адзінкі. Безпасярэднага культурнага кантакту мы з Савецкай Беларусяй ня маем.

Кітайскі мур, дзелячы абедзьве часткі нашае краіны, выключае магчымасьці культурных зносінаў. Розныя экскурсыі, якія адбываліся ў СССР з Польшчы і якія дагэтуль пропагандуюцца, ахаплялі гандлёвыя, літарацкія і іншыя слаі польскага грамадзянства і кіраваліся ў буйнейшыя цэнтры СССР.

Савецкая Беларусь ня была прадметам досьледаў і дзеля гэтага мы ў Зах. Беларусі ня зусім добра ведаем аб сапраўдным жыцьці Беларусаў у Сав. Беларусі. Радыёфонія ёсьць адзіным рэхам, якое адбівае нам тамашняе жыцьцё.

Дык вось - увага! Гаворыць Менск, радыёстанцыя імяні "Совнаркому БССР" на хвалі 1442 мэтры.

Наўперад трэба спыніцца на мове, якая даходзіць да нас з Менску на хвалях этэру. Язык, каторым паслугоўваюцца, - беларускі, зрэформаваны дэкрэтам Рады Народных Камісараў БССР 28 жніўня 1933 году. Гэтая рэформа ёсьць першым этапам да эвалюцыйнага пераходу на мову расейскую.

Беларуская Акадэмічная Конфэрэнцыя ў 1926 годзе імкнулася да рэформы беларускага правапісу і граматыкі ў сэнсе чысьціні языка і ўнезалежненьня яго ад чужых уплываў, - дэкрэт "Савнаркому" скасаваў усю гэную працу. Бальшавіцкая рэформа беларускага языка гэта ўдар па беларускай культуры ў цэлым, з мэтаю загнаць яе ў агульнарасейскую.

Слухаючы менскага радыё, атрымліваем ўражаньне, што беларуская мова ў Сав. Беларусі - гэта нешта непажаданае, але дзеля тактычных прычынаў займаючае нейкае месца. Напрыклад: перадаецца музыкальная загадка, некалькі твораў на піаніно, альбо на іншых інструмантах: прапануецца слухачом адгадаць, хто напісаў гэныя творы, як яны называюцца і г.д.

Таварыш, каторы робіць перадачу, зварочваецца гэтак: - "Ребята, вазьмеце карандаш і паперу і запісвайце" - Другім разам чуеце йнакш: - "Ребята, вазьмеце аловік і бумагу і запісвайце" - Гэта не анэгдот, а запраўднасьць!

Далей, перадаюцца мэтэоролёгічныя ведамасьці, варта таксама паслухаць. - "Бачность добрая, умеренные ветры, по Мінску чакается" і г. д. У мэлёдыі языка, у словах, ва ўсім адчуваецца узброеная, ужо нават незаконспіраваная, маскоўшчына.

У начы адбываюцца пераклічкі - гэта рэвізія розных урадавых устаноў. Менск выклікае Магілёў, Оршу і іншыя месты; пачаўшы гутарку, напрыклад, з Магілёвам, загадвае іншым падрыхтавацца да справаздачы. Гутарка йдзе, у даным выпадку, аб школьных справах. Начальнік з Менску пытае, ці прыбылі падручнікі для пачатковых школ на наступны школьны год; ці колькасьць іх ёсьць задавальняючай.

- Таварыш Гусеў, пытаюся, ці атрымалі вы падручнікі? - У адказ даносіцца: Я? - Пытаньне паўтараецца. З Магілёва адказвае працяглым: "Что?" - Ці атрымалі вы падручнікі? - Магілёў безнадзейна маўчыць. На начальніка з Менску находзіць праясьненьне: "Ці атрымалі вы учебнікі?". І вось "зав" з Магілёва зразумеў, без тэлевізыі можна ўгледзіць шырокую ўсьмешку здаволеньня на ягоным твары і плаўна, без перапынкаў, пачынае рэфэраваць аб палажэньні на мясцох ва ўсіх галінах школьнае справы, зразумела, на "общепонятном языке" - па-руску. Адным словам буйнае разьвіцьце беларускае культуры, нацыянальнае па форме і соцыялістычнай зьместам!

Цяпер прыгледзімся да праграмы перадач і спрабуем выбраць усё тое, што вядзецца ў беларускай мове.

Апошнія паведамленьні, - лекцыі ў дапамогу самаадукацыі, завочныя курсы партвучобы і часам перадачы для дзяцей. І, здаецца, гэта ўсё, далей гэтага беларуская мова не сягае.

Чым-жа напаўняюцца праграмы беларускай радыёстанцыі? Яны напаўняюцца трансмісіяй з Масквы, альбо перадачамі ў польскай і жыдоўскай мовах. Трансмісіі з Масквы - гэта той дзейнік, які мае на мэце стрымліваць "надмер" беларускіх аўдыцыяў і не даваць слухачом ілюзыі нейкай самастойнасьці менскага радыёфону. Менск - гэта маскоўскі "совхоз", толькі ў вялікім маштабе і, каб аб гэтым не забываліся, каб вуха слухача ня надта прывыкала да гукаў беларускага языка, што дзьве гадзіны менскія батракі павінны "пераключацца" на Маскву і стуль слухаць тое, што ў Маскве лічаць патрэбным запродукаваць. Каб надаць інтэрнацыянальны характар менскім перадачам, вядуцца радыёмонтажы, дзіцячыя перадачы і інш. у польскай мове.

Праўду кажучы, рахітычныя аўдыцыі, жабрацкія галасы, марная польшчына, але часу займаюць шмат - нацдэмам на злосьць, а Домбалям на пацеху. Наступна ідуць аўдыцыі ў "яўрэйскай" мове, мо найкарысьнейшыя з усіх, бо знаёмяць, часам, з творамі беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў: Купалы, Коласа і інш., але заганаю ёсьць - доўгая праца, каб навучыцца жыдоўскае мовы, каб праз радыё са сталіцы Сав. Беларусі пачуць і зразумець нешта з беларускай літаратуры. Нарэшце дадамо, што перадаюцца яшчэ апошнія паведамленьні ў латыскай і літоўскай мовах. Словам, цэлы скарб для поліглёта

Калі пачнем дашуквацца беларускага элемэнту ў беларускіх перадачах, дык апрача афіцыяльнай бальшавіцкай, ці гэта партыйнай, ці ўрадавай, славеснасьці, нічога больш ня знойдзем. Усюды на першым месцы расейшчына.

Аўдыцыі для дзяцей, калі перадае Менск (часьцей трансмісіі з Масквы), складаюцца з твораў расейскіх клясыкаў, толькі ў змодэрнізаванай, прытарнаванай да расейскага вуха, беларускай мове. Напрыклад: "Як пасварыліся Іван Іванавіч з Іванам Нікіфаравічам, паводле Гоголя, альбо апавяданьні Чэхава (найбольш дробнабуржуазнага з усіх расейскіх пісьменьнікаў).

Расейская мяшчанская літаратура дарэвалюцыйнае пары, з гледзішча кіраўніцтва беларускага радыё, не зьмяшчае ў сабе мамэнтаў расейскага вялікадзяржаўніцтва і не прадстаўляе небясьпекі для соцыялістычнага будаўніцтва, у той час, як уся беларуская літаратура старэйшай эпохі, адраджэнская і сучасных пісьменьнікаў, створаная перад іх пакаяньнем, у мікрафон не дапускаецца.

Ці гэта не парадокс, што ў Савецкай Беларусі Антон Чэхов зьяўляецца больш за Багушэвіча нацыянальным па форме і соцыялістычным па зьместу?!

Неяк раз удалося пачуць на хвалі 1442 мэтры разучваньне песьні на словы Якуба Коласа, але твор гэты апошняга выданьня завецца "Чэлюскінцы".

З "беларускіх" аўтараў перадаваліся яшчэ творы маладога паэты Броўкі, вельмі таленавітага, але тэматыкай нават рэгіянальна ня зьвязанай ні з чым беларускім. Паэмы ягоныя прысьвечаны баём пад Перакопам, разгрому Врангеля, геройскім дзеяньням коньніцы Будзённага. Беларуская літаратура траціць у гэтым паэце вельмі яркі талент, ня дзеля таго, што ён належыць да пралетарскага кірунку, а таму, што творчасьць ягоная, апанаваная расейскім зьместам, служыць умацоўваньню маскоўскае акупацыі Беларусі, па-савецку выражаючыся, служыць цёмным сілам згуртаваным навакол Ц. К. партыі і яе "геніяльнага павадыра таварыша Сталіна".

Пераходзячы да канцэртнае часткі праграмаў радыёстанцыі імяні Савнаркому БССР, трэба адзначыць, што яна таксама дае яркі абраз стрымліваньня разьвіцьця беларускай культуры пад Саветамі.

Каго цікавіць беларуская песьня, няхай шукае яе па загранічных радыёстанцыях, бо Менск яе ўважае за праяву мясцовага нацыяналізму, - з Менску беларуская песьня амаль цалком выкінута. Яна пайшла на эміграцыю. Прыпадкова можна пачуць беларускую песьню з Прагі, Коўна, з Рыгі, але не са сталіцы Савецкае Беларусі, Менскія канцэрты - адпачынкі, канцэрты для калгасьнікаў даюць Рахманінава, Рымскага-Корсакава, Чайковскага і Мусоргскага - усе арыі, натуральна, на мове "рускай". Па-беларуску нічога - літаральна! Розныя камсамольскія песьні, пешыя, конныя, калгасныя на языку Леніна-Сталіна - па-расейску.

Характэрна, што песьні Шумана выконваюцца па-расейску; відаць, цяпер на трэцім годзе другой пяцігодкі, няма ўжо каму займацца перакладамі з нямецкага на беларускі, бо ж нацдэмы будуюць беламорска-балтыцкі канал, а "акадэмікі" тыпу Горына маюць больш паважныя заданьні ў усесаюзным маштабе.

Цікаўна, што нацыянальная палітыка ВКПБ у адносінах да іншых народаў больш толерантная. Радыёстанцыя ў Сімфэропалі амаль штодня перадае татарскія нацыянальныя канцэрты ў выкананьні хору і солістаў. Беларуская песьня сваёй арыгінальнасьцяй і характвом здолела-б захапіць слухачоў далёка за межамі Беларусі. Продукцыі беларускага хору занялі-б у агульна-эўропэйскай радыёаўдыторыі пачэснае месца і былі-б напэўна ня менш папулярнымі, чымся канцэрты цыганскай капэльлі з Будапэшту.

* * *

Нашыя спасьцярогі адносна менскага радыёфону - гэта толькі канва, на каторай што-раз ярчэй выступае абраз узаемаадносінаў і антаганізмаў паміж партыяй і ўрадам з аднаго боку і працоўнымі масамі Савецкай Беларусі з другога.

Адносіны гэтых апошніх да ўраду найтачней можна адзначыць назовам пасыўнага апору. Пасьля разгрому найбольш усьвядомленай часткі сялянства і пролетарскай інтэлігенцыі, барацьба з камуністычнымі душыцелямі беларускага народу перайшла ў больш асьцярожныя, каб ня кідаліся ў вочы, формы.

Калі ў "ведамсьцьвенных інформацыях" Менск паведамляе аб наяўнасьці калгасаў, на грунце каторых назіраецца апор проціў новага правапісу, дык у гэтым тольк сьляпы ня ўгледзіць, што працоўныя масы Сав. Беларусі нацыянальна дасьпелі і ня гледзячы на тое, што пазбаўлены духовых павадыроў, якія сасланы ў савецкія катаргі, ня хочуць ісьці на павадку "інтэрнацыянальных" грабароў беларускае народнае думкі.

А хто прыслухоўваўся да паседжаньняў зьезду пісьменьнікаў Савецкай Беларусі ў Менску (перад усесаюзным кангрэсам пісьменьнікаў у Маскве), на каторых абнаглеўшыя маскалі брутальна дыктавалі карыфеям беларускага слова заданьні і кірунак творчасьці, той хіба што ня будзе мець ніякіх ілюзіяў што да ўзаемаадносінаў пад уладай Саветаў.

Таксама праслухаўшы інформацыю Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту (перадавалася 9.V. с.г.) аб прыйме 90 слухачоў на рабфак, з каторых 30 чалавек на польскае аддзяленьне і 30 на яўрэйскае, можна мець зусім конкрэтнае прадстаўленьне аб мэтодах стрымліваньня працэсу нарастаньня беларускае інтэлігенцыі, роўналегла з фарсоўным разьвіцьцём інтэлігенцыі нацыянальных меншасьцяў у Сав. Беларусі.

Той матар'ял, які нам дае радыёстанцыя імяні Совнаркому БССР, ярка сьведчыць аб пасьлядоўнай акцыі заціраньня сьлядоў беларускай самабытнасьці і аб паступовай інкорпорацыі ўсяго беларускага ў агульнарасейскі культурна-нацыянальны савецкі арганізм. Гэта акцыя адбываецца зусім адкрыта. Прытарнаваўшы беларускую мову да вымогаў расейскай граматыкі, бальшавіцкія рэформатары, на далейшым этапе, даводзяць беларускі язык да ўзроўня нейкага правінцыянальнага фольклёру, адначасна перагружаючы ўсе галіны жыцьця цяжкім балястам расейшчыны.

У гэтым рэпортажы, які датыча выключна радыёвяшчаньня, падчырківаем значэньне сталых трансьмісіяў з Масквы, каторыя, перагружаючы праграму, убіваюць у галовы слухачоў расейскія словы, мэлёдыі і інш.

Няма сумліву, што на нявырабленага слухача, пазбаўленага сваёй музыкі і сьпеву, цэлыя цэбры расейскага сьпеву, гутаркі (з маскоўскае станцыі імяні Комінтэрну), на чале з разухабістымі частушкамі ў выкананьні заслужанае артысткі рэспублікі Ольгі Ковалевай ( - Уморилась, уморилась, уморилася! - ), разам з букетам усялякіх адрыўкаў з "Князя Игоря" альбо "Хованшчыны", перадаваных з Менску і яшчэ на фоне разбураньня асноў беларускага языка наагул, мае вялізарны дэзорыентацыйны ўплыў. Дзеля паўнаты характарыстыкі менскіх праграмаў радыёвешчаньня, не адрэчы будзе дадаць, што творы клясыкаў эўрапэйскай музыкі, прыкладам Пуччіні, Вэрдзі і іншых, тамака цалком ігнаруюцца - відавочна, таксама, з мэтаю засугэраваць слухача, выключна, творамі расейскіх маэстро.

На заканчэньне сьмеем выказаць сваё пераканаьне, што маскоўскае ахвосьце на Савецкай Беларусі сваіх плянаў, у сэнсе асыміляцыі беларускага народу, не зрэалізуе - адпорнасьць працоўных мае і зьменнасьць палітычнае коньюнктуры стаіць гэтаму на перашкодзе.

І таму перадчасным выдаецца нграджэньне таварышоў Галадзеда і Гікалы ордэнам Леніна за выкарчоўваньне контр-рэвалюцыйнай нацдэмаўшчыны.

***А. Бужанскі.***

**Спіс аўтамабіляў і матацыклаў у Лідскім павете, на 15 снежня 1934 г.**[325]

29.07.0930 г. Міністры Унутраных і Вайсковых спраў Польшчы аддалі распараджэнне паставіць на ўлік для войска ўвесь механічны транспарт (нават ровары).

| № | Рэгістрацыйны нумар | Від траспарту | Марка | Гаспадар | Месца знаходжання |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 79135 | аўтобус | Chevrolet | Гапановіч Нэвах | Беліца |
| 2 | 79003 | аўтобус | Chevrolet | Кавальскі Бэрка | Беліца |
| 3 | 79177 | аўтобус | Chevrolet | Кругер Эдвард і Пуйдак Васлаў | Іўе |
| 4 | 79331 | асабісты аўтамабіль | Morris | Палячак Леў | Ліда, Камерцыйная, 18 |
| 5 | 79301 | паўгрузавік | Chevrolet | Я. Папірмайстр і М. Пупко | Ліда, Сувальская, 72/88 |
| 6 | 79324 | асабісты аўтамабіль | Ford | Гута шкла Столе | Нёман, гміна Дакудава |
| 7 | 79312 | аўтобус | Chevrolet | Зарэцкі Шлёма | Ліда, Фалькоўскага, 39 |
| 8 | 79316 | асабісты аўтамабіль | Buick | Мальто Антон | Эйшышкі |
| 9 | 79018 | асабісты аўтамабіль | Ford | Шапіра Ісак | Ліда, Турэцкая 1 |
| 10 | 79260 | асабісты аўтамабіль | Overland | Кандратовіч Ада | маёнтак Гародна, гміна Жырмуны |
| 11 | 79292 | асабісты аўтамабіль | Fiat | Марацэвіч Уладзімір | Эйшышкі |
| 12 | 79316 | асабісты аўтамабіль | Ford | Грузель Раман | Неман |
| 13 | 79338 | асабісты аўтамабіль | Polski Fiat | кс. Шчамірскі Станіслаў | Радунь |
| 14 | 79021 | асабісты аўтамабіль | Tatra | Ляскові Вітольд | маёнтак Філіпкі |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 15 | 9505 | асабісты аўтамабіль | Ford | маёр Ратомскі Станіслаў | Ліда, 5 лётны полк |
| 16 | 79239 | асабісты аўтамабіль | Ford | Арлецкі Аўгуст | Ліда, Варшаўская, 26 |
| 17 | 79310 | асабісты аўтамабіль | Polski Fiat | Грабоўскі Рудольф | Ліда, Сыракомлі, 2 |
| 18 | 79012 | паўгрузавік | Ford | Павятовая дарожная управа | Ліда, Сувальская, 15 |
| 19 | 9517 | асабісты аўтамабіль | Harley-Dawidson | Брыгада кантролю скарбо-вага (bryg. kontr. skarb.) | Ліда, Сувальская, 13 |
| 20 | 79343 | асабісты аўтамабіль | Polski Fiat | Управа Тэлекамунікацый | Ліда, Сувальская, 107 |
| 21 | 79192 | асабісты аўтамабіль | Chevrolet | Сацыяльнае забеспячэнне | Ліда, Сувальская, 58 |
| 22 | 79093 | асабісты аўтамабіль | Overland | Сацыяльнае забеспячэнне | Ліда, Сувальская, 74 |
| 23 | 79013 | паўгрузавік | Chevrolet | Наваградская дырэкцыя публічных работ | Ліда, Сувальская, 15 |
| 24 | 9425 | матацыкл без каляскі | Indian | Катовіч Пётр | Радунь |
| 25 | 9516 | матацыкл без каляскі | Gillet | Антановіч Віктар | Эйшышкі |
| 26 | 9476 | матацыкл без каляскі | B.S.A. | Галінскі Дамінік | Ліда, 11 лётны полк |
| 27 | 9485 | матацыкл без каляскі | Ariel | Антковяк Ян | Ліда, 77 пяхотны полк |
| 28 | 9488 | матацыкл без каляскі | Harley-Dawidson | кс. Байкевіч Пётр | Гута Неман, гміна Дакудава |
| 29 | 9554 | матацыкл без каляскі | Harley-Dawidson | Арлоўскі Міхал | Ліда, Шэптыцкага |
| 30 | 9445 | матацыкл без каляскі | FN | паручнік Баравецкі Рамуальд | Ліда, казармы 77 пяхотнага палка |
| 31 | 9522 | матацыкл без каляскі | Harley-Dawidson | Паплаўскі Ян | Ліда, 3-га Мая, 8 |
| 32 | 9435 | матацыкл без каляскі | Douglas | Касоўскі Стэфан | Гута Неман, гміна Дакудава |
| 33 | 9508 | матацыкл | B.S.A. | Багдановіч Станіслаў | Ліда, 19-ты дывізіён лёгкай артылерыі |
| 34 | 9440 | матацыкл | N.S.U. | Ласацінскі Зыгмунд | Ліда, Сувальская, 182 |
| 35 | 9416 | матацыкл | T.N. | кс. Штэйн Чэслаў | Воранава |
| 36 | 9478 | матацыкл | C.W.S. | K-da Pol. P. Lida | Ліда, Фалькоўскага,25 |
| 37 | 9403 | матацыкл | Indian | Лявіцкі Аляксандр | Ліда, Вызваленне, 22 |
| 38 | 9546 | матацыкл без каляскі | Royal-Enfield | Мальто Антон | Эйшышкі |
| 39 | 9437 | матацыкл без каляскі | Harley-Dawidson | Казлоўскі Эдвард | Іўе |
| 40 | 9481 | матацыкл без каляскі | Motosacoche | капітан Грывач Станіслаў | Ліда, казармы 77 пяхотнага палка |
| 41 | 9422 | матацыкл без каляскі | Niemen | Туровіч Леапольд | Ліда, Шэптыцкага |

За старасту павета падпісаў В. Дзядовіч, намеснік старасты.

**Ліда, тэлефонны даведнік 1934 г.**

2 29 - Інфармацыя тэлефоннай станцыі.
2 26 - Пасылка тэлеграм праз тэлефон.
2 27 - Кіраўнік тэлефоннай станцыі.
1 70 - Бюро рамонту тэлефонаў.

**Агульныя перамоўныя пункты**

Управа паштова-тэлеграфная Ліда-1, Сувальская, 90.
Управа паштова-тэлеграфная Ліда-2, Чыгуначны вакзал, зала чакання 3 кл.
Агенцтва паштова-тэлеграфная Ліда-3, Казармы 77 п.п.

**Аўтаматы**

На чыгуначным вакзале зала чакання 3 кл.
У цукерні Цукерніка, вул. Сувальская, 30.

27 - Адвакат Цыдзяровіч Беньямін, Сувальская, 87.
48 - Адвакат Хайковіч Аляксандр, Замкавая, 2.
1 36 - Адвакат Каменскі І., Сувальская, 22.
88 - Адвакат Кэрзняр Ісідор, Мацкевіча, 41.
1 24 - Адвакат Скіндар Чэслаў, Пілсудскага, 11.
18 - Аптэка Сеймікова, Мацкевіча, 3.
84 - Аптэка Стукатара Ізраіля, Сувальская, 63.
1 28 - "Ардаль" абутковая фабрыка, Фабрычная, 10.
---- (дадатковы) кабінет дырэктара, Фабрычная, 10.
83 - Гарадскі ізалятар (arest miejski), Фабрычная, 10.
---- (дадатковы) Лідская рэзня, Фабрычная, 10.
99 - Банк Купецкі, Сувальская, 10.
--- (дадатковы) кабінет дырэктара.
43 - Банк Народны Каапературыўны, Сувальская, 19.
59 - Банк Народны Яўрэйскі, Сувальская, 40,

12 - Банк Віленскі Прыватны Гандлёвы, аддзел у Лідзе, прадстаўнік Польскага Банка, Сувальская, 84.
70 - Багаткоўскі Генрык, стараста, Жаромскага, 1.
1 41 - Баярчык Баляслаў, адвакат, 3-га Мая, 69.
93 - Баркоўскі Міхал, 17-га Красавіка, 19.
1 52 - Бажок Ян, карэспандэнт Польская тэлеграфнага агенцтва (P.A.T.), Замкавая, 4-7.
92 - Браты Вінаградавы С. і М., Сувальская, 21.
26 - Бровар Пупко, Сувальская, 88.
---- (дадатковы) кватэра.
74 - Бровар спадкаемцаў Я. Папірмайстра, Сувальская, 72.
----- (дадатковы) кватэра

31 - **Тэлефонная цэнтраль кашараў 77 п.п., казармы імя ген. Рыдз-Сміглава.**
39 - 77 п.п.
**Тэлефоны дадатковыя.**
- 2 - эскадрон уланаў.
- 4 - звяз жандармерыі.
- 5 - кватэрмайстар.
- 7 - вайсковы суд рэгіянальны.
- 10 - гарнізонны шпіталь.
- 11 - 2-гі радыётэлеграфны звяз.
- 12 - харчовы склад.
- 14 - кіраўніцтва 77 п.п.
- 15 - 3-ці дывізіён 19 гарматнага палка.

**Тэлефонная цэнтраль 5-га лётнага палка, казармы імя ген. Жалігоўскага.**
- 2 - парахоўня.
- 3 - апарат прыёмны.
- 4 - камандаванне.
- 5 - каманда парку, камендант парку.
- 6 - казіно афіцэрскае.
- 7 - радыёстанцыя.
- 8 - порт авіяцыйны.

14 - цукерня "Амерыканка", Будзін Барыс, Сувальская, 13.
22 - доктар медыцыны Эйзынберг, Сувальская, 62.
58 - доктар медыцыны Галенбіеўскі, Сувальская, 65.
1 23 - доктар медыцыны Кантар, Сувальская, 62.
1 15 - доктар медыцыны Каплан Саламон, Сувальская, 54.
37 - доктар медыцыны Казубоўскі, Школьная, 54.
25 - доктар медыцыны Сапоцька Рамуальд, Шаптыцкага, 9.
1 47 - гарадская электроўня, Сувальская, 179.
1 29 - Элкінд Леон, Шаптыцкага 17.
44 - фабрыка цвікоў "Дротіндустрыя", Фабрычная, 1.
35 - Фішар Алберт, інжынер-дырэктар "Ардаля", Пераца, 19.
56 - дзяржаўная гімназія імя гетмана Караля Хадкевіча, Школьная, 62.
1 04 - Глазман Арон, 3-га Мая, 7.
1 21 - Гарфунк Леў, Рынкавая, 13.
41 - Халперн Юзаф, перапрацоўка дрэва, Сувальская, 58.
1 05 - гатэль "Грант", Беньямін Ландо, Сувальская, 9.
80 - гатэль "Еўрапейскі", Ісак Глаўберман, 3-га Мая, 6.
1 18 - тытунёвая гуртоўня, Сувальска, 65.
78 - Хураўлез Еліях, перапрацоўка дрэва, 17 красавіка, 10.
89 - інспектар установы ўзаемнага страхавання, Шаптыцкага, 15-17.
69 - інспектар працы 65 акругі, Сувальская, 11.
38 - інспектар школьны, Сувальская, 103.
1 01 - Каплінскі Ісак, гандляр лесам, Сувальская, 86.
34 - Каса скарбовая, Сувальская, 4.
66 - Дзяржаўная чыгунка.
**Тэлефоны дадатковыя.**
- 75 - начальнік дарожнага аддзела.
- 72 - пастарунак паліцыі.
- 74 - чыгуначная электроўня.
- 78 - бюро кіраўніка рухам.

20 - Калегіюм айцоў піяраў, Сувальская, 68.

57 - Паліцыя.
---- (дадатковы) кабінет каменданта.
32 - Камісарыят паліцыі.
36 -
---- (дадатковы) канцылярыя.
---- // ---- кабінет кіраўніка камісарыяту.
---- // ---- кватэра кіраўніка камісарыяту.

95 - камунальная ашчадная каса, Сувальская, 13.
1 09 - леснічоўка в. Сухвальня.
11 - Левінсон Г., кватэра аптэкара.
137 - Левінсон, будаўніцтва, Сувальская, 22.
51 - "Лідол", алярня, 11-га лістапада, 4.
42 - Магістрат, кабінет бургамістра, маёра Мацкевіча, 6.
13 - Агульная канцылярыя магістрата, маёра Мацкевіча, 6.
---- (дадатковы) кабінет намесніка бургамістра.
1 03 - Мелур Саламон, 3-га Мая, 15.
40 - "Метал" супольная фірма, склад жалеза, маёра Мацкевіча, 22.
---- (дадатковы) бюро.
73 - млын "Аўтамат", бюро, Рынак, 61.
2 - млын "Таханова", бюро, маёра Мацкевіча, 8.
94 - Галоўнае лясніцтва, в. Гарні,
---- (дадатковы) кватэра галоўнага ляснічага.
1 45 - Ненартовіч Ян, землямер, 17-га красавіка, 20.
1 26 - Чыжэўскі Баляслаў, натарыюс, Сувальская, 74.
77 - Дваракоўскі, натарыюс, Сувальская, 74.
16 - аддзел "Усходняга агенцтва", 3-га Мая, 27.
87 - ліцейня жалеза, "Бенлянд", Сувальская, 142.
1 00 - Агніска (клуб) "Кола Поляк", Сувальская, 13.
1 33 - Агушэвіч Міхал, адвакат, Сувальская, 77.
1 46 - алярня "Шэмен" супольная фірма, Дварцовая, 38.
4 - Арэцкі Аўгуст, кіраўніцтва павятовых дарог, Варшаўская, 24.
1 12 - Дзяржаўная рамесна-прамысловая школа, канцылярыя, Сувальская, 182.
1 30 - пякарня "Узорная", Камерцыйная, 14.

96 - Палячак Я., Фалькоўскага, 33.
1 50 - Палячак Бр. матэрыялы, радыё-электра-матэрыялы.
30 - Палячак Макс, кватэра, Сувальская, 91.
1 32 - "Полгум" камісійны склад, маёра Мацкевіча, 65.
53 - Польскае хімічнае прадпрыемства "Карона", Крупаўская, 8.
1 02 - паліцэйскі пастарунак Лідскай гміны, маёра Мацкевіча, 1.
85 - павятовы саюз вайсковых асаднікаў, Пескі, 19.
54 - пракуратура віленскай судовай акругі, аддзел у Лідзе, 3-га Мая, 45.
---- (дадатковы) кабінет кіраўніка аддзела.
82 - Павятовая каса хворых.
19 - Пупко Абель, Пілсудскага, 15.
29 - Пупко Хонан, таварная экспедыцыя, 3-га Мая, 6.
---- (дадатковы) кватэра.
1 07 - Пупко Ш., склад фарбаў і будаўнічых матэрыялаў, Сувальская, 20.
1 38 - Пупко Ш. кватэра, Лідская, 5.
35 - Рачынская Меланья, абмен валюты, Сувальская, 45.
1 13 - Рафаловіч Эла, Сувальская, 83.
58 - Польскі рэсурс, Сувальская, 74.
24 - Радзевіч Андрэй, крама вяндлін, Сувальская, 52.
1 22 - Рабіновіч Пінхус, аклад будаўнічых матэрыялаў, 3-га Мая, 16.
55 - Гарадскі суд, кіраўнік суда, 17-га Красавіка, 14-19.
98 - Акружны суд, карны аддзел, 3-га Мая, 45.
---- (дадатковы) следчы акруговага суда.
1 54 - Акруговы суд, грамадзянскі аддзел, Камерцыйная, 17.
1 34 - Сялужскі, дырэктар сіндыката, Сядлецкая, 3.
31 - Саламянскі Гірш, Пілсудскага, 19.
1 43 - Аб'яднанне "Еднасць" і механічная пякарня, Сувальская, 6.

**Староства, Сувальская, 15.**

50 - кабінет старасты.
49 - агульная канцылярыя.

8 - Сталоўскі Ісак, доктар медыцыны, Мацкевіча, 51.
5 - добраахвотная пажарная ахова, Сувальская, 189.
79 - пажарная ахова на Слабодцы, Варшаўская, 31.
45 - земляробчы сіндыкат, 3-га Мая, 13.
75 - Шапіра Якаб і Эбер, ліцейная і фабрыка сельскагаспадарчых машын, Сувальская, 170.
---- (дадатковы) кватэра Шапіры.
1 35 - Шаваховіч, пастаўшчык жывёлы.
17 - Шплікоўскі Мардух, Чырвоная, 18.
67 - яўрэйскі шпіталь, Сувальская, 130.
10 - дзяржаўны шпіталь, Школьная, 8.
1 10 - тартак, млын, Мельнік Берка, Пастоўская, 39.

52 - управа Лідскай гміны, маёра Мацкевіча, 35.
72 - управа павятовая, земская, Сувальская, 15.
1 34 - дзяржаўная управа скарбовых акцызаў і манаполіі, Сувальская, 13.
45 - управа скарбовых падаткаў і выплат, Сувальская, 13.
47 - турма, 3-га Мая, 77.
---- (дадатковы) кватэра начальніка.
7 - Вярсоцкі Аляксандр, крама вяндлін, Сувальская, 9.
90 - Вінэр Якаб, мануфактурнае таварыства, Сувальская, 58.
---- (дадатковы) кватэра, Пераца, 5.
1 48 - Вісмант Францішак, адвакат, Легіяновая, 6.

**Аддзел павятовы, маёра Мацкевіча, 18.**

63 - сакратарыят.
---- (дадатковы) агульная канцылярыя.
64 - павятовая дарожная управа, Сувальская, 15.

1 - прадпрыемства прамысловае Е. Гурвіч і сын і Л. Кронік, Тартакі, 2.
1 11 - управа касы хворых, Сувальская, 83.
---- (дадатковы) кабінет камісара.
33 - Аб'яднанае тэкстыльнае прадпрыемства К. Шаблера і Л. Грохмана, галаўное прадпрыемства ў Лодзі, аддзел у Лідзе, Сувальская, 42.
5 - Звяз яўрэйскіх купцоў, маёра Мацкевіча, 12.
71 - Супольнасць спажыўцоў жалеза ў Польшчы, аддзел у Лідзе, Каляёвая, 7.
1 42 - Жыльберман, камерсант фірмы "Карпаты", Турэцкая, 5.

**Пошта, тэлефон, тэлеграф**

62 - начальнік праўлення Лідскага павета, Ліда-1, кабінет, Сувальская, 90.
139 - начальнік управы Лідскага павета, Ліда-1, кватэра.
108 - канцылярыя праўлення.
76 - аддзел паштовы.
230 - дзяжурны электрык.
226 - тэлеграф, прыёмны апарат.
3 - управа Лідскага павета, Ліда-2, Чыгуначны вакзал.
---- (дадатковы) кабінет начальніка.
151 - начальнік управы Лідскага павета, Ліда-2, кватэра, Каляёвая, 7.
140 - агенцтва павета, Ліда-3, кашары 77 п.п.
---- (дадатковы) перамоўная.
97 - начальнік тэлеграфнай управы, кватэра, Сувальская, 107а.
65 - тэхнічна-рахуновы аддзел.
---- (дадатковы) агульная канцылярыя.
9 - тэхнік па нагляду, кватэра, Пілсудскага, 12.

**Літаратура, заўвагі, каментары:**

[1] Беларуская Крыніца № 6 (505), 5 лютага 1933.
[2] Родны Край № 11 (63), 17 траўня 1935.
[3] Naruszewicz W. Wspomnienia lidzianina. Warszawa, 2001. S. 118.
[4] Slowo № 135 (3984), 19 maja 1935.
[5] Naruszewicz W. Wspomnienia lidzianina. Warszawa, 2001. S. 119
[6] Ogniwa № 11, listopad 1932. S. 21.

[7] Ogniwa № 11, listopad 1932. S. 27-31.
[8] Беларуская Крыніца № 8, 26 лютага 1930.
[9] Slowo № 71 (2281), 26 marca 1930.
[10] Беларуская Крыніца № 18, 16 траўня 1930.
[11] Наперад № 16, 30 сакавіка 1930.
[12] Наперад № 19, 21 траўня 1930.
[13] Наперад № 10, 5 сакавіка 1930.
[14] Slowo № 33 (2243), 9 lutego 1930.
[15] Slowo № 105 (2315), 8 maja 1930.
[16] Slowo № 106 (2316), 9 maja 1930.
[17] Беларуская Крыніца № 19, траўня 1930.
[18] Slowo № 126 (2336) 4, czerwca 1930.
[19] Беларуская Крыніца № 26, 9 верасня 1930.
[20] Slowo № 222 (2432), 27 wrzesnia 1930.
[21] Slowo № 239 (2449), 17 pazdziernika 1930.
[22] Slowo № 248 (2458), 28 pazdziernika 1930.
[23] Slowo № 260 (2470), 12 listopada 1930.
[24] Slowo № 265 (2475), 18 listopada 1930.
[25] Slowo № 272 (2482), 26 listopada 1930.
[26] Slowo № 195 (4044), 19 lipca 1935.
[27] Slowo № 250 (4099), 12 wrzesnia 1935.
[28] Slowo № 136 (2346), 17 czerwca 1930.
[29] Slowo № 173 (2383), 31 lipca 1930.
[30] Zycie Nowogrodzkie № 149 (863), 1 lipca 1930.
[31] Slowo № 173 (2383), 31 lipca 1930.; Zycie Nowogrodzkie № 179 (863), 5 sierpnia 1930.
[32] Kurier Nowogrodzki № 157 (242), 5 lipca 1932.
[33] Kurier Nowogrodzki № 54 (825), 25 lutego 1934.
[34] Slowo № 112 (2322), 16 maja 1930.
[35] Kurier Nowogrodzki №30 (447), 31 stycznia 1933.
[36] Kurjer Wilenski № 178 (2719), 8 lipca 1933.
[37] Slowo № 227 (2437), 3 pazdziernika 1930.
[38] Kurjer Wilenski № 154 (1796), 8 lipca 1930.
[39] Гіпаліт Гарневіч (сын Казіміра і Адэлі), нарадзіўся ў 1888 г. у Лідзе. У 1913 г. скончыў Кіеўскі ўніверсітэт з дыпломам лекара. Палітычны дзеяч, пасол у Сойм (1928-1930), радны Лідскага магістрата. Арыштаваны 9 кастрычніка 1939 г. у Лідзе, да канца 1939 г. расстраляны.
[40] Zycie Nowogrodzkie № 261 (975), 5 listopada 1930.
[41] Zycie Nowogrodzkie № 264 (978), 8 listopada 1930.
[42] Slowo № 65 (2573), 20 marca 1931.
[43] Slowo № 138 (2646), 19 czerwca 1931.
[44] Slowo № 233 (2741), 10 pazdziernika 1931.
[45] Slowo № 68 (2875), 23 marca 1932.
[46] Slowo № 248 (3055), 5 pazdziernika 1932.
[47] Kurjer Wilenski № 33 (1675), 9 lutego 1930.
[48] Zycie Nowogrodzkie № 74 (788), 28 marca 1930.
[49] Slowo № 122 (2630), 30 maja 1931.
[50] Slowo № 239 (2741), 17 pazdziernika 1931.
[51] Kurjer Wilenski № 52 (2593), 27 lutego 1933.
[52] Kurier Nowogrodzki № 69, 6 grudnia 1931.
[53] Slowo № 266 (2774), 18 listopada 1931.
[54] Kurier Nowogrodzki № 56, 21 listopada 1931.
[55] Kurier Nowogrodzki № 56, 21 listopada 1931.
[56] Kurier Nowogrodzki № 92 (178), 22 kwietnia 1932.
[57] Kurjer Wilenski № 320 (2861), 28 listopada 1933.
[58] Kurier Nowogrodzki № 352 (769), 29 grudnia 1933.
[59] Kurier Nowogrodzki № 86 (857), 29 marca 1934.
[60] Slowo № 214 (4063), 7 sierpnia 1935.
[61] Slowo № 252 (4101), 14 wrzesnia 1935.
[62] Kurjer Wilenski № 195 (3085), 20 lipca 1934.
[63] Kurjer Wilenski № 214 (1856), 17 wrzesnia 1930.
[64] Zycie Nowogrodzkie № 221 (935), 21 wrzesnia 1930.
[65] Kurjer Wilenski № 228 (1870), 18 pazdziernika 1930.
[66] Zycie Nowogrodzkie № 222 (936), 23 wrzesnia 1930.
[67] Zycie Nowogrodzkie № 13 (1036), 17 stycznia 1931.
[68] Kurier Nowogrodzki № 24, 15 pazdziernika 1931.
[69] Kurier Nowogrodzki № 19, 9 pazdziernika 1931.
[70] Slowo № 219 (3026), 6 wrzesnia 1932.
[71] Slowo № 174 (2981), 22 lipca 1932.
[72] Slowo № 277 (3084), 4 listopada 1932.
[73] Slowo № 281 (3088), 8 listopada 1932.
[74] Slowo № 297 (3104), 24 listopada 1932.
[75] Slowo № 301 (3108), 28 listopada 1932.
[76] Slowo № 307 (3114), 4 grudnia 1932.
[77] Kurjer Wilenski № 18 (2559), 22 stycznia 1933.
[78] Kurjer Wilenski № 19 (2560), 24 stycznia 1933.
[79] Kurier Nowogrodzki № 27 (444), 28 stycznia 1933.
[80] Kurjer Wilenski № 44 (2585), 19 lutego 1933.
[81] Kurjer Wilenski № 118 (2659), 7 maja 1933.
[82] Kurjer Wilenski № 133 (2674), 22 maja 1933.
[83] Slowo № 213 (3351), 7 sierpnia 1933; Slowo № 214 (3352), 8 sierpnia 1933.
[84] Kurjer Wilenski № 261 (2802), 29 wrzesnia 1933.
[85] Kurjer Wilenski № 266 (2807), 4 pazdziernika 1933.
[86] Kurier Nowogrodzki № 320 (710), 23 listopada 1933.
[87] Slowo № 229 (4078), 22 sierpnia 1935.
[88] Slowo № 72 (3564), 15 marca 1934.
[89] Kurjer Wilenski № 30 (1672), 6 lutego 1930.
[90] Slowo № 250 (4099), 12 wrzesnia 1935.
[91] Kurjer Wilenski № 68 (1710), 22 marca 1930.
[92] Slowo № 93 (2601), 24 kwietnia 1931.
[93] Zycie Nowogrodzkie № 109 (823), 11 maja 1930.
[94] Kurjer Wilenski № 215 (1857), 18 wrzesnia 1930.
[95] Kurier Nowogrodzki № 25, 16 pazdziernika 1931.
[96] Slowo № 139 (3277), 23 maja 1933.
[97] Kurjer Wilenski № 62 (2603), 9 marca 1933.
[98] Slowo № 273 (4122), 5 pazdziernika 1935.
[99] Беларуская Крыніца № 26, 9 верасьня 1930.
[100] Беларуская Крыніца № 2, 20 студзеня 1931.
[101] Zycie Nowogrodzkie № 232 (946), 3 pazdziernika 1930.
[102] Slowo № 73 (2581), 29 marca 1931.
[103] Slowo № 16 (2524), 21 stycznia 1930.
[104] Slowo № 224 (2723), 30 wrzesnia 1931.
[105] Kurier Nowogrodzki № 20, 10 pazdziernika 1931.
[106] Kurier Nowogrodzki № 70 (156), 25 marca 1932.
[107] Kurier Nowogrodzki № 39, 1 listopada 1931.
[108] Kurier Nowogrodzki № 37, 30 pazdziernika 1931.
[109] Zycie Nowogrodzkie № 43 (1066), 22 lutego 1931.
[110] Zycie Nowogrodzkie № 45 (1068), 25 lutego 1931.
[111] Zycie Nowogrodzkie № 71(1094), 27 marca 1931.
[112] Slowo № 9 (2816), 13 stycznia 1932.
[113] Slowo № 222 (3029), 9 wrzesnia 1932.
[114] Kurjer Wilenski № 292 (2833), 30 pazdziernika 1933.
[115] Slowo № 206 (2416), 9 wrzesnia 1930.
[116] Zycie Nowogrodzkie № 207 (921), 6 wrzesnia 1930.
[117] Slowo № 215 (2425), 19 wrzesnia 1930.
[118] Zycie Nowogrodzkie № 61(1084), 15 marca 1931.
[119] Zycie Nowogrodzkie № 179 (1192), 25 lipca 1931.

[120] Kurier Nowogrodzki № 26, 17 pazdziernika 1931.
[121] Kurier Nowogrodzki № 48, 12 listopada 1931.
[122] Slowo № 162 (3300), 17 czerwca 1933.
[123] Slowo № 188 (2995), 5 sierpnia 1932.
[124] Kurier Nowogrodzki № 64 (150), 18 marca 1932.
[125] Slowo № 162 (3300), 17 czerwca 1933.
[126] Kurier Nowogrodzki № 170 (587), 25 czerwca 1933.
[127] Slowo № 194 (3332), 19 lipca 1933.
[128] Slowo № 62 (3554), 5 marca 1934.
[129] Slowo № 231 (3723), 25 sierpnia 1934.
[130] Kurier Nowogrodzki № 37, 30 pazdziernika 1931.
[131] Slowo № 206 (3013), 24 sierpnia 1932.
[132] Kurier Nowogrodzki № 295 (381), 22 listopada 1932.
[133] Kurier Nowogrodzki № 34 (120), 12 lutego 1932.
[134] Kurier Nowogrodzki № 47 (133), 27 lutego 1932.
[135] Slowo № 176 (2983), 24 lipca 1932.
[136] Slowo № 179 (2986), 27 lipca 1932.
[137] Kurjer Wilenski № 66 (2607), 13 marca 1933.
[138] Slowo № 204 (3342), 29 lipca 1933.
[139] Slowo № 252 (4101), 14 wrzesnia 1935.
[140] Slowo № 266 (4115), 28 wrzesnia 1935.
[141] Slowo № 32 (2242), 8 lutego 1930.
[142] Slowo № 292 (2502), 20 grudnia 1930.
[143] Slowo № 228 (4077), 21 sierpnia 1935.
[144] Kurjer Wilenski № 13 (1655), 17 stycznia 1930.
[145] Kurier Nowogrodzki № 13 (99), 17 stycznia 1932.
[146] Slowo № 219 (3026), 6 wrzesnia 1932.
[147] Slowo № 297 (3104), 24 listopada 1932.
[148] Slowo № 23 (3872), 24 stycznia1935.
[149] Kurjer Wilenski № 158 (1800), 12 lipca 1930.
[150] Slowo № 35 (2543), 13 lutego 1931.
[151] Slowo № 71 (2579), 27 marca 1931.
[152] Slowo № 111 (2619), 16 maja 1931.
[153] Kurjer Wilenski № 15 (2905), 17 stycznia 1934.
[154] Slowo № 85 (2295), 11 kwietnia 1930.
[155] Kurjer Wilenski № 130 (1772), 7 czerwca 1930.
[156] Slowo № 258 (2468), 9 listopada 1930.
[157] Slowo № 258 (2468), 9 listopada 1930.
[158] Kurier Nowogrodzki № 44, 7 listopada 1931.
[159] Kurier Nowogrodzki № 43 (129), 23 lutego 1932.
[160] Kurier Nowogrodzki № 128 (214), 6 czerwca 1932.
[161] Kurier Nowogrodzki № 264 (350), 21 pazdziernika 1932.
[162] Kurjer Wilenski № 88 (1730), 15 kwietnia 1930.
[163] Zycie Nowogrodzkie № 86 (800), 11 kwietnia 1930.
[164] Kurjer Wilenski № 70 (1712), 25 marca 1930.
[165] Slowo № 106 (2316), 9 maja 1930.
[166] Zycie Nowogrzdzkie № 106 (820), 8 maja 1930.
[167] Slowo № 121 (2331), 28 maja 1930.
[168] Zycie Nowogrodzkie № 197 (911), 27 sierpnia 1930.
[169] Там жа.
[170] Kurjer Wilenski № 215 (1857), 18 wrzesnia 1930.
[171] Slowo № 288 (2498), 16 grudnia 1930.
[172] Slowo № 12 (2520), 16 stycznia 1931.
[173] Slowo № 23 (3515), 25 stycznia 1934.
[174] Slowo № 117 (3609), 2 maja 1934.
[175] Беларуская Крыніца № 26, 25 жніўня 1931.
[176] Беларуская Крыніца № 24 (523), 25 чэрвеня 1933.
[177] Беларуская Крыніца № 25 (524), 10 ліпеня 1933.
[178] Slowo № 3 (2810), 5 stycznia 1932.
[179] Беларуская Крыніца №1, 10 студзеня 1932.
[180] Slowo № 234 (3041), 21 wrzesnia 1932.
[181] Kurjer Wilenski № 85 (2975), 28 marca 1934.
[182] Zycie Nowogrodzkie № 10 (724), 12 stycznia 1930.
[183] Slowo № 171 (3663), 26 czerwca 1934.
[184] Kurjer Wilenski № 25 (1667), 31 stycznia 1930.
[185] Kurjer Wilenski № 54 (1696), 6 marca 1930.
[186] Slowo № 147 (2357), 1 lipca 1930.
[187] Slowo № 151 (2361), 5 lipca 1930.
[188] Zycie Nowogrodzkie № 73, (1096), 29 marca 1931.
[189] Slowo № 215 (3022), 2 wrzesnia 1932.
[190] Kurier Nowogrodzki № 37 (123), 16 lutego 1932.
[191] Kurier Nowogrodzki № 50 (135), 1 marca 1932.
[192] Kurier Nowogrodzki № 82 (168), 12 kwietnia 1932.
[193] Slowo № 305 (3112), 2 grudnia 1932.
[194] Kurier Nowogrodzki № 40 (126), 19 lutego 1932.
[195] Kurier Nowogrodzki № 50 (135), 1 marca 1932.
[196] Kurier Nowogrodzki № 92 (178), 22 kwietnia 1932.
[197] Kurier Nowogrodzki № 140 (226), 18 czerwca 1932.
[198] Kurjer Wilenski № 273 (2814), 11 pazdziernika 1933.
[199] Гелена Цэгак-Галубовіч (Helena Cehak-Holubowiczowa, 1902 - 1979), скончыла факультэт філасофіі і права Львоўскага ўніверсітэта (1930). У 1931-39 супрацоўніца кафедры археалогіі Віленскага ўніверсітэта, потым - Літоўскага музея мастацтва. У 1935-39 гг. Г. Цэгак-Галубовіч разам з мужам, вядомым археолагам У. Галубовічам праводзіла раскопкі ў Заходняй Беларусі, на тэрыторыі Глыбоцкага, Міёрскага, Пастаўскага, Наваградскага, Лідскага і іншых раёнаў. У 1945 Х. Цэгак-Галубовіч - супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР. У 1946-50 - ад'юнкт (асістэнт) кафедры археалогіі Торуньскага ўніверсітэта імя М. Каперніка, у 1950-56 - Уроцлаўскага ўніверсітэта, з 1968 г. - прафесар, загадчыца кафедры археалогіі.
[200] Kurjer Wilenski № 275 (2816), 13 pazdziernika 1933.
[201] Slowo № 70 (6352), 12 marca 1939.
[202] Zycie Nowogrodzkie № 6 (720), 8 stycznia 1930.
[203] Zycie Nowogrodzkie № 14 (728), 17 stycznia 1930.
[204] Slowo № 37 (2247), 14 lutego 1930.
[205] Kurjer Wilenski № 70 (1712), 25 marca 1930.
[206] Kurjer Wilenski № 122 (1764), 28 maja 1930.
[207] Kurjer Wilenski № 275 (2816), 13 pazdziernika 1933.
[208] Там жа.
[209] Загідулін А. М. Арганізацыя кансервацыі і рэстаўрацыі замкаў, палацаў і сядзібаў у Заходняй Беларусі (1921-1939 гг.) // Замкі, палацы і сядзібы ў кантэксце еўрапейскай культуры: Зб. навук. арт. / Мін. культ. РБ, Замкавы комплекс "Мір". Мінск: Медысонт, 2013. С. 40.
[210] Slowo № 216 (4065), 9 sierpnia 1935.
[211] Slowo № 228 (4077), 21 sierpnia 1935.
[212] Наперад № 19, 21 траўня 1930.
[213] Slowo № 183 (2990), 31 lipca 1932.
[214] Kurier Nowogrodzki № 30, 22 pazdziernika 1931.
[215] Kurier Nowogrodzki № 35, 28 pazdziernika 1931.
[216] Kurier Nowogrodzki №79, 19 grudnia 1931.
[217] Slowo № 181 (2988), 29 lipca 1932.
[218] Kurier Nowogrodzki № 146 (232), 24 czerwca 1932.
[219] Цехановіч Лех. Незабыўная вуліца Сувальская 30-х гадоў XX стагоддзя // Лідскі Летапісец № 4 (32) - 2005. С. 33.
[220] Slowo № 139 (3277), 23 maja 1933.

[221] Kurjer Wilenski № 248 (2789), 16 wrzesnia 1933.
[222] Slowo № 255 (3393), 18 wrzesnia 1933.
[223] Slowo № 10 (2220), 14 stycznia 1930.
[224] Kurjer Wilenski № 20 (1662), 25 stycznia 1930.
[225] Kurier Nowogrodzki № 76 (162), 3 kwietnia 1932.
[226] Zycie Nowogrodzkie № 134 (848), 12 czerwca 1930.
[227] Zycie Nowogrodzkie № 222 (936), 23 wrzesnia 1930.
[228] Slowo № 41 (2251), 19 lutego 1930.
[229] Беларуская Крыніца № 35, 16 кастрычніка 1932.
[230] Slowo № 263 (3070), 20 pazdziernika 1932.
[231] Slowo № 264 (3071), 21 pazdziernika 1932.
[232] Slowo № 139 (3277), 23 maja 1933.
[233] Slowo № 249 (3387), 12 wrzesnia 1933.
[234] Slowo № 301 (3793), 3 listopada 1934.
[235] Slowo № 214 (2722), 18 wrzesnia 1931.
[236] Kurier Nowogrodzki № 339 (756), 13 grudnia 1933.
[237] Slowo № 287 (4136), 19 pazdziernika 1935.
[238] Беларуская Газета № 6, 26 жніўня 1933.
[239] Slowo № 181 (2988), 29 lipca 1932.
[240] Slowo № 267 (4116), 29 wrzesnia 1935.
[241] Slowo № 127 (2337), 5 czerwca 1930.
[242] Slowo № 142 (2352), 25 czerwca 1930.
[243] Slowo № 198 (2408), 30 sierpnia 1930.
[244] Slowo № 206 (2416), 9 wrzesnia 1930.
[245] Slowo № 221 (2431), 26 wrzesnia 1930.
[246] Slowo № 238 (2448), 16 pazdziernika 1930.
[247] Slowo № 42 (2550), 21 lutego 1931.
[248] Slowo № 43 (2551), 22 lutego 1931.
[249] Slowo № 128 (2636), 9 czerwca 1931.
[250] Slowo № 209 (2717), 12 wrzesnia 1931.
[251] Slowo № 211 (2719), 15 wrzesnia 1931.
[252] Slowo № 211 (3018), 29 sierpnia 1932.
[253] Slowo № 222 (3029), 9 wrzesnia 1932.
[254] Slowo № 273 (3080), 30 pazdziernika 1932.
[255] Kurjer Wilenski № 28 (2569), 3 lutego 1933.
[256] Kurjer Wilenski № 273 (2814), 11 pazdziernika 1933.
[257] Kurjer Wilenski № 120 (3010), 5 maja 1934.
[258] Kurjer Wilenski № 167 (3057), 22 czerwca 1934.
[259] Kurjer Wilenski № 213 (3103), 7 sierpnia 1934.
[260] Ciechanowicz Lech, Ryszard Mierzwa. Niezapomniana ulica Suwalska lat trzydziestych XX wieku // Ziemia Lidzka № 4 (56) - 2003.
[261] Siemionow Aleksander. Pilot Stefan Witorzeniec // Ziemia Lidzka № 2-3 (30-31) - 1998.
[262] Slowo № 61 (2271), 14 marca 1930.
[263] Kurjer Wilenski № 25 (1667), 31 stycznia 1930.
[264] Kurjer Wilenski № 179 (1821), 6 sierpnia 1930.
[265] Kurjer Wilenski № 182 (1824), 9 sierpnia 1930.
[266] Там жа.
[267] Zycie Nowogrodzkie № 254 (968), 29 pazdziernika 1930.
[268] Slowo № 283 (2493), 10 grudnia 1930.
[269] Kurjer Wilenski № 78 (1720), 3 kwietnia 1930.
[270] Slowo № 167 (2377), 24 lipca 1930.
[271] Slowo № 32 (2540), 10 lutego 1931.
[272] Slowo № 73 (2581), 29 marca 1931.
[273] Slowo № 77 (2585), 3 kwietnia 1931.
[274] Slowo № 109 (2617), 13 maja 1931.
[275] Slowo № 122 (2630), 30 maja 1931.
[276] Slowo № 221 (2729), 26 wrzesnia 1931.
[277] Kurier Nowogrodzki № 24, 15 pazdziernika 1931.
[278] Slowo № 212 (3019), 30 sierpnia 1932.
[279] Slowo № 216 (3354), 10 sierpnia 1933.
[280] Slowo № 279 (4128), 11 pazdziernika 1935.
[281] Kurier Nowogrodzki № 18 (104), 23 stycznia 1932.
[282] Kurier Nowogrodzki № 20 (106), 26 stycznia 1932.
[283] Kurier Nowogrodzki № 57 (143), 10 marca 1932.
[284] Slowo № 39 (3177), 9 lutego 1933.
[285] Slowo № 187 (4036), 11 lipca 1935.
[286] Slowo № 97 (2904), 28 kwietnia 1932.
[287] Slowo № 277 (3084), 4 listopada 1932.
[288] Kurjer Wilenski № 271 (2812), 9 pazdziernika 1933.
[289] Slowo № 40 (2250), 18 lutego 1930.
[290] Slowo № 245 (2455) 24 pazdziernika 1930.
[291] Slowo № 35 (2543), 13 lutego 1931.
[292] Slowo № 49 (2557), 1 marca 1931.
[293] Slowo № 76 (2584), 2 kwietnia 1931.
[294] Slowo № 180 (2987), 28 lipca 1932.
[295] Kurier Nowogrodzki № 172 (258), 20 lipca 1932.
[296] Slowo № 166 (2973), 14 lipca 1932.; Slowo № 169 (2976), 17 lipca 1932.
[297] Slowo № 180 (2987), 28 lipca 1932.
[298] Slowo № 177 (2984), 25 lipca 1932.
[299] Slowo № 176 (2983), 24 lipca 1932.
[300] Slowo № 53 (3191), 23 lutego 1933.
[301] Kurjer Wilenski № 66 (2607), 13 marca 1933.
[302] Slowo № 177 (2984), 25 lipca 1932.
[303] Slowo № 171 (3663), 26 czerwca 1934.
[304] Kurjer Wilenski № 25 (1667), 31 stycznia 1930.
[305] Kurjer Wilenski № 66 (1708), 20 marca 1930.
[306] Slowo № 111 (2321), 15 maja 1930.
[307] Kurjer Wilenski № 146 (1788), 28 czerwca 1930.
[308] Slowo № 20 (2528), 25 stycznia 1931.
[309] Slowo № 175 (2683), 2 sierpnia 1931.
[310] Slowo № 190 (2698), 21 sierpnia 1931.
[311] Slowo № 196 (2704), 28 sierpnia 1931.
[312] Slowo № 243 (2751), 22 pazdziernika 1931.
[313] Slowo № 77 (2884), 5 kwietnia 1932.
[314] Slowo № 104 (2911), 8 maja 1932.
[315] Kurier Nowogrodzki № 128 (214), 6 czerwca 1932.
[316] Slowo № 308 (3115), 5 grudnia 1932.
[317] Slowo № 52 (3190), 22 lutego 1933.
[318] Slowo № 232 (3370), 26 sierpnia 1933.
[319] Slowo № 210 (3702), 4 sierpnia 1934.
[320] Slowo № 265 (3072), 22 pazdziernika 1932.
[321] Герой знакамітай "Справы Дрэйфуса" - судовага працэсу ў Францыі (снежань 1894 г.), які ўзняў сацыяльны канфлікт з-за справы аб шпіянажы на карысць Германскай імперыі афіцэра французскага генеральнага штаба, яўрэя з Эльзаса (на той момант тэрыторыі Германіі) капітана Альфрэда Дрэйфуса (1859-1935), разжалаванага ваенным судом і прысуджанага да пажыццёвай ссылкі пры дапамозе фальшывых дакументаў на хвалі моцных антысеміцкіх настрояў у грамадстве. Справа адыграла велізарную ролю ў гісторыі Францыі і Еўропы канца XIX - пачатку XX стагоддзяў.
[322] Беларуская Крыніца № 16, 24 красавіка 1932.
[323] Вучнёўскі Звон № 1-1929. С. 10-11.
[324] Беларуская Крыніца № 25 (618), 9 чэрвеня 1935.
[325] Nowogrodzki Dziennik Wojewodzki. № 30, 15 grudnia 1934. S. 202-203.

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Цярнопаль**

Ноч, амаль дасвецце. Машына высаджвае мяне ў цэнтры. Шукаю рэдакцыю “Бальшавіцкай праўды”, акружной газеты, якая рэдагавалася на польскай мове Дружбацкім. Гэта савецкі паляк. Малады, высокі і худы, вельмі парадачны, не дурны. Сустракаў яго ў Львове, дзе ён звяртаўся да мяне па матэрыялы.

Іду цёмнай вуліцай. Што крок, патрулі. Правяраюць дакументы. Пытаюся пра “Бальшавіцкую праўду”, і гэта дапамагае.

У рэдакцыі нікога няма. Дзяжурная дазваляе пагасціць. Пару гадзін сну.

Дружбацкі:

- Ну што ж? Значыць, заставайся. Хоць чаго было выходзіць? У Львове ўсё ў парадку.

Гэта хутчэй у Цярнопалі пэўны парадак. Цэлы дзень сяджу за сталом. Перакладаю нудны, як флякі з алеем артыкул Вольгі Кабылянскай, прысвечаны вайне. Пішу таксама верш на тую ж тэму.

Тут ёсць пару прыемных хлопцаў. Нейкі Гаўронскі, яшчэ двое. Ем добры абед. Пачынаю думаць, а можа Дружбацкі рэальна мае рацыю? Можа вярнуцца?

Адпужвае мяне адна акалічнасць: успаміны львоўскага бязладдзя. Там ніхто намі не цікавіўся, нікому мы не былі патрэбныя. Гэтыя больш пачцівыя можа адчувалі збянтэжанасць, што не могуць нас эвакуяваць. Іншыя мелі па-просту большыя клопаты.

Тут нарэшце я на нешта прыдаўся - паводле сваіх магчымасцяў змагаюся пяром супраць Гітлера, хоць бы, як на першы раз, то незвычайна трапна...

Налёт. Шалёная кананада: артылерыя адганяе самалёты. Пару застрэленых. Д’ябальскі не хачу вяртацца таксама і з той прычыны...

На працягу дня яшчэ пару налётаў. Абарона выдатная. Тут размяшчаецца штаб нейкай вялікай часткі: пазней даведваюся, аж Паўднёва-заходняга фронту!

Першыя зводкі. Невыразныя: бітва пад Менскам і Луцкам. Але нашыя хлопцы тлумачаць гэта ўсё вельмі лёгка. Не бачылі яшчэ ні сапраўднага налёту, ані панікі. Сплю ў рэдакцыі.

Назаўтра рана з’явіўся з жонкай бледны, запылены Пастарнак. Той бачыць, што панікі няма, рэагуе вельмі бурна:

- Не кажыце мне, таварыш, я ведаю, гэта цяжкая памылка! Не павінен быў з Львова...

Пастарнакі выйшлі ў той жа вечар, што і я, толькі што затрымліся ў дарозе. Былі з імі такія, хто вярнуўся ў Львоў. Ужо іх не ўбачым: пераважна пагінулі пры другіх уцёках.

Жывём у нейкага кузіна Пастарнака, лекара, які пакінуў сваё памяшканне. Цэлы дзень сядзім у рэдакцыі. На вуліцах войска, танкі, запыленыя шапкі і твары. Налёты цераз кожныя пару гадзін. Пачынае іграць артылерыя. Перасоўваюся пад сцену. Дом аднапавярховы, але стары, муры тоўстыя. Перакладаю артыкулы.

Гаўронскі і іншыя крычаць: зараз іх разаб’ём. Непрыемны гэты аптымізм, як той з Жэшавам і Люблінам. Не паддаюся сумненню, што прынамсі ў першай фазе вайны перавага немцаў будзе ліквідавана. Уся справа ў тым, дзе іх затрымаюць. Зводкі гавораць пра Барысаў і Бабруйск. Гэта вельмі кепска! Бо таемна марыў пра старую мяжу, дзе, здаецца, былі збудаваныя вельмі моцныя лініі абароны. Тыя Барысавы сведчаць, што і гэтая лінія ўжо пяройдзена.

Таму размовы пра вяртанне ў Львоў так нярвуюць. Ведаю з таго першага дня, што нельга разлічваць на нечую дапамогу зверху ў раптоўных выпадках...

Шмат знаёмых. Плонскі, Грош і Браўн (з Кіева, спецыяліст па “тылу”). Яны ў “палітупраўленні”. У мундзірах, са зброяй. Выклікаюць маю жывую зайздрасць. Просім, каб і нас узялі ў войска. Абяцаюць нехаця. Канешне не зробяць нічога.

Бомза ў мундзіры! Вярнуўся тады ў Львоў. Назаўтра ваенкамат яго мабілізаваў, пашмарт адабраў, даў мундзір. Выйшлі з аддзелам. Пад Злочавым усіх “заходнікаў” распусцілі на ўсе чатыры вятры. І вось ён тут - у мундзіры, але без пашпарта! Іцак Фэфер, яўрэйскі пісар з Кіева, абяцае яму дапамогу.

Я прыйшоў у Цярнопаль у сераду. У нядзелю ўбачыў чорныя, спаленыя паперкі ў паветры. Прыйшоў Прыходзька, састарэлы і няшчасны. Яго жонка і дачка загінулі ў транспарце, спаленым у Злочаве. Прапануе нам выезд вечарам у Кіеў.

Але вечарам не з’явіўся. Тэлефануе, што не вядома, калі той цягнік. Ведаю ўжо, што гэта значыць: разлічвай на сябе самога.

Назаўтра, на світанні 30 чэрвеня, выходзім утраіх з лекарскага дома.

**Жмерынка**

Шаша і грузавікі. Адзін нас падвозіць некалькі кіламетраў. Палявы аэрадром, вялікі і акуратны. Пару спаленых самалётаў - з боку, шмат непашкоджаных знішчальнікаў. У паветры патрулюе дзяжурнае звяно.

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Wojna.”** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

Былі гэта яшчэ тыя смешныя куртатыя “ястрабкі”, якіх столькі знішчылі на пачатку вайны.

Шмат войска на дарогах. Сонца, гарачыня. Пры дарозе стары мужык з вядром малака. Від вайны пэўна ўсё яму памяшаў у галаве. П’ём па некалькі шклянак, гатовы плаціць дзесяткі рублёў. Хоча дваццаць капеек.

Група людзей будуе дарогу.

Падвалачышка. Доўгая вёска. На вакзале платформа з цюкамі. Налезла туды шмат баб. Пытаемся пра цягнік.

- А сядайце. Можа пойдзе. Калі? Не вядома.

Як фраеры ідзём у міліцыю па дазвол.

- Ніякіх прапускоў цераз былую граніцу.

Знерваваныя сядаем у цяні касцёліка. Шмат бежанцаў. Пазнаю такога худога, чорнага з рухавымі вачыма і тварам. Гавораць, што гэта брат Барэйшы. Недзе паблізу мусіць таксама быць Слабоднік: у раённай газеце знайходзім яго вершык.

Бежанцы гавораць, што цераз граніцу перайсці нельга, што патройная лінія пастоў, рака, марна гаварыць.

Каля паўдня мне гэта надакучыла. Ідзём пяшком.

Даліна ракі. Збруч балоцістая і вузкая. Мост. На мосце памежнік.

Іду, падрыхтаваўшы доўгую прамову, што пісьменнік і г.д.... Акурат самалёт, вельмі высока. Памежнік застумае мне дарогу, касавурыцца ў неба. Не маю вялікай надзеі, сказалі ж: ніякіх прапускоў.

Памежнік аддае мне дакументы без слова. Пераходжу, сам сабе не верачы. Адразу за мной - Пастарнакі. Канешне, “ніякіх прапускоў”.

Здаецца, патрапілі якраз на момант скасавання тых абмежаванняў...

Валачышка. Цягніка няма. Чакаем у скверыку перад вакзалам. Вечарам узлазім на нейкую платформу. Цёмна. Пачынаецца лёгкі дожджык. Ноччу рушым, пякельна галодныя: нічога з яды.

На кожным прыпынку цягнік чакае гадзінамі. Дождж лье. Мерзнем, змоклі да ніткі. Цёмна. Чорны будынак вакзала. У гары, вельмі высока, знаёмае выццё нямецкага самалёта. Здаецца, што гэта нас шукае, круціцца, ціхне, паварочвае. Нарэшце адлятае.

На платформе людзей што раз меней. Усе параспаўзліся па вагонах. Сядзі ўтраіх, прытуленыя, пакрытыя маім пакрывалам і прамоклымі газетамі. Нарэшце і мы спрабуем шчасця. Нас пускаюць у таварны вагон. Месца акурат толькі, каб стаць. Едзем у “водары” мокрай вопраткі і ног. Вельмі холадна.

Досвітак. Спыняемся каля Пласкірава. На гарызонце перад намі бліскі, пасля доўгай хвіліны гукі. Трывае гэта з гадзіну. Налёт.

Ранак. Едзем. Каля рэек вырвы ад выбухаў. У вагонах едуць рэзервісты, прызваныя ў франтавыя палкі. Пакуль даехалі, палкі былі разбітыя. Сказалі ім спыніцца ў Пласкіраве ў каменданта. Але ім не хочацца.

- Дзе гэты цягнік, там і мы, - кажуць. - Чаму павінны спяшацца.

Жмерынка. Голад выпіхвае нас з цягніка: суткі нічога не елі. Рэйкі, рэйкі. Велізарная станцыя. На кожным кроку кучы бруду. Міліцыянт. Пытаемся:

- Дзе тут можна нешта з’есці?

- Нічога няма.

- Рэстаран? Можа на вакзале? Можа ў горадзе?

- Нічога няма.

Голад даймаў. Зырылі на кожнага з акрайцам хлеба. Яшчэ хвіля і пачнём жабраваць.

Вакзал далёка. Ідзём нарэшце, па дарозе два разы зварочваем на свіст лакаматыва, перапужаныя, што цягнік адыдзе. Нарэшце на вакзале.

Што за сцерва той міліцыянт! У буфеце салодкі пірог з сырам, трускалкі,ількі, селядцы, смажаная вантроба, абед з хлебам і мясам.

Вяртаемся да цягніка з пірагом. Потым ідзём у горад і вяртаемся з папяросамі. Смешная, малая мясціна. Год таму правялі тут жахліва нудныя суткі. З ядой тады было горай.

Сядзім у “нашым” цягніку. Свіст. Уязджае доўгі, стовагонавы таварны цягнік. Стае. З усіх акон вылазяць дзіцячыя азадкі - вагоны перапоўненыя, і маці не могуць іначай задаволіць патрэб сваіх пацех.

Гэта цягнік з Чарнавіц. Гэтыя выехалі “з выгодамі”. Поўна лам’я. Палова аднаго вагона занята клеткамі з жывымі гусямі.

Лічачы, што гэты цягнік пойдзе першым, спрабуем туды перабрацца. Знайшлі тамбур, яшчэ не забіты, сядаем.

Збоку вайсковы цягнік. Платформы з гарматамі, аўтамабілямі, танкамі. Што пару вагонаў - пачварны зенітны кулямёт. Размаўляем, жартуем, ужо наетыя і ўсцешаныя перспектывай хутка дабрацца да Кіева.

Раптам усё ціхне. Нехта пачынае ўцякаць. Сірэны. Семдзесят жмерынскіх лакаматываў пачынаюць рычэць. Гэты рык найгоршы. Уцякаем цераз рэйкі, сыплемся з высокага насыпу. Сядаем, заслоненыя раптам ажно кустом глогу.

Трывога не страшная. Нават не страляюць.

Але потым за кожным разам, калі салдат на платформе падыме ўверх рулю кулямёта - мімавольна робіцца крок у кірунку дрэваў, абы далей ад таго цягніка.

Змярканне. Прыходзіць нейкі смаркач у блакітнай шапцы - начальнік цягніка - і кажа нам выбірацца з тамбура. Адходзім і адразу вяртаемся.

Нажаль, адразу вяртаецца і начальнік. Зноў нас выганяе. Сабралася такіх з дваццаць, галоўным чынам з Львова. Ідзём за ім, просім доўга і прыніжана.

- У тамбуры нельга!

- Так, але вагоны перапоўнены.

- Не. Не і не.

Ён не раздражняецца. У грунце рэчаў мы імпануем яму, паказваючы мяжу яго ўлады. Ідзём за ім, паказваем пасведчанні, смяёмся з яго дрэнных жартаў.

Спрабуем купіць яго Карнейчуком.

- А гэта хто?

- Старшыня Саюза пісьменнікаў Украіны.

Нічога яму гэта не гаворыць, дзіўна. Чым найхутчэй дадаём:

- Таксама намеснік старшыні Савета Народных Камісараў...

Ужо запозна, агеньчык зацікаўлення маёй асобай, і так ледзве тлеўшы, знікае. Пагаджаецца пусціць Пастарначыху: жанчына. З гвалтам і крыкам уціскаем яе да забітага немаўлятамі вагона. Пастарнак улазіць за ёй. Начальнік кідаецца на яго: мужчына! Пастарнак

доўга яму тлумачыць: муж.

Са мной няўмольны. Максімум уступак: каб прынёс "спраўку" ад каменданта станцыі. У тагачасных абставінах на гэта такі ж шанец, як і ў жадання злавіць жар-птушку.

Цягнік у кожную хвілю можа пайсці. Вакзал за два кіламетры. Іду, адчужаны, і так не выйсце - тут начаваць.

Па дарозе затрымліваюць мяне праз кожныя два крокі. Нарэшце сам выцягваю пашпарт і паказваю першым. Так выходзіць хутчэй. Бо, пакуль запытаюць, доўга, недаверліва глядзяць і затрымліваюць, калі я ўжо іх мінаю.

Вакзал велізарны. Цёмна. Унутры поўна людзей. Нікога не відаць, і кожны крок - гэта тры здарэнні.

Хаджу і пытаюся: дзе камендант вакзала, дзе камендант...

Кожны другі нешта мармыча, кожны пяты адсылае некуды яшчэ. Нехта гаворыць, што ў горадзе, каля вакзалаю. Ноч. Цёмна. Знайходжу ўказаны дом - адтуль пасылаюць на вакзал.

Роспач. Нічога не відаць. Дзяжурная руху, якая год таму так бліскуча арганізавала "пасадку" - пасылае мяне ў тунэль. Два разы схадзіў - ніхто нічога пра каменданта не ведае.

Трэці раз лезу ў яму. Ужо хутчэй з прынцыпу: дзве гадзіны тут швэндаюся, цягнік ужо пэўна пайшоў. Але я ўсяроўна не маю нічога лепшага да работы.

Тунэль доўгі, блакітнаваты агенчык недзе далёка. На падлозе спяць салдаты са змучанымі тварамі. Праходжу, з другога боку ступенькі ўверх, зноў у цемнаце. З той цемнаты крык:

- Хто ідзе?

- Да каменданта.

- Калі прыехалі?

- А дванаццатай.

- А дванаццатай? І толькі цяпер аб'явіліся? Дзе вашае пачуццё абавязку? У тых пятнаццацігадовых дзяўчат з парашутамі...

Слухаю доўгі час, не разумеючы, за што на мяне крычыць. Нарэшце перапыняю:

- Я пісьменнік ...

Голас змаўкае. Потым прабачаецца. Узыходжу наверх.

Маленькі пакоік. І тым большы малады велікан, светлавалосы, блакітнавокі, з вялікім прамым носам, напэўна лейтэнант. Глядзіць на мяне, выглядае, што не разумее, што я гавару. Гаворыць дзве хвіліны і за гэты час атрымоўвае тры тэлефанаванні і пару візітаў салдат. Кідае ў слухаўку: "Так, ад'едзеце праз пятнаццаць хвілін, высылаю лакаматыў", альбо: "Падрыхтаваць тысячу салдацкіх порцый на другую ноль-ноль", альбо: "Сігналізуюць, што ў Вінніцы, але там налёт".

Салдатаў бліскавічна адсылае ў цягнікі, пачакальню, горад, куды належыць. Гляжу на яго захоплены, з гонарам, збянтэжаны: што з такой дробяззю...

Мужчына працуе, як машына. Хоць не вельмі вялікая, адчуваецца ў яго стомленасць. Напэўна ўжо пару дзён сядзіць так у тым д'ябальскім млыне.

Ужо без слоў, падсоўваю свае паперы. Глядзіць на мяне, не на паперы, бярэ нейкую картку, піша, ставіць пячатку, без слова мне аддае.

Не верачы ўласнаму шчасцю выскакваю з вакзала. Цёмна. Жудасная блытаніна рэек, стрэлак, семафорных пераходаў. Што хвілю пытаюцца дакументы, якіх нельга разгледзець, бо забаронена паліць святло.

Адчуваю трыумф, як той рыцар з казкі, якому грозны ўладар загадаў прынесці чарадзейную жар-птушку, аддаючы ўзамен руку дачкі і паўкаралеўства - месца ў цягніку. І гэтая птушка, дзякуючы таму зычліваму велікану, трапеча ў маёй далоні папяровым шэлестам.

Цягнік стаіць! Бягу ўздоўж вагонаў, крычу: "Начальнік, начальнік!" Раптам голас:

- Я начальнік, Чаго крычыце?

Задыханы, паказваю паперку. Глядзіць на мяне, як на вар'ята. Гэта не той. Той смаркач недзе знік. А гэты аддае мне абыякава чарадзейную птушку і гаворыць:

- Добра, паедзеце. Але не ў тым цягніку.

- Чаму?

- Перапоўнены.

- У тамбуры...

- Нельга.

Паварочваецца і адходзіць. Паварочваюся і адходжу, раз'юшаны. Лопнула ўва мне адна са струн душы: павага да законнасці.

Знайходжу першы тамбур. Сядзіць там пяцёра дзяўчат з вёскі. Мейсца няма. Сядаю на ступенькі. Парэнчаў няма, трэба абапірацца на сцяну вагона. Дзяўчаты не пратэстуюць, сонна абменьваюцца паміж сабою некалькімі абыякавымі фразамі, асветленымі цудоўным наддняпроўскім "л".

**Уваход у Кіеў**

Ноччу цягнік рушыць. І ўжо ніхто аж да Кіева не спытае мяне пра правa на той цягнік. Сяджу, значыць маю права...

Ноч цёплая. І зноў мучыць мяне кашмар. Што хвілю засынаю, не маючы за што схапіцца рукамі. Цягнік імчыць. Адрыўкі сноў прыходзяць да мяне і блытаюцца з фрагментамі начных, паўбачных пейзажаў. За мной зрэдку сонна мармычуць дзяўчаты.

Засынаю - і прачынаюся ўражаны, што лячу ў пустату. Не падаю. Святло застае нас пад Фаставам. Прачынаюся на станцыі. Відно. Вагон наш стаіць каля бабы, што сядзіць на стосе клункаў. Другая сядзіць побач на меншым. Размаўляюць талкова, хоць з драбком неспакою:

- А мае ночвы засталіся. Такія добрыя, яшчэ амаль новыя...

Як бы з Пушкіна...

На пероне прадаюць піражкі. Прыношу цэлую кучу, частую дзяўчат. Едуць дадому, пад Канеў. Працавалі на шашы пад Злочавам. Вайна, налёт, дырэкцыя знікла, не выплаціўшы належнага, едуць, як Пан Бог дасць...

Цяпер цягнік валачэцца. Прыстанак "Пост Валынскі". Тут мусіў быць налёт: разгромлены баракі. З-за гэтага што хвілю спыняемся. Мне не церпіцца: а шостай Саюз пісьменнікаў заканчвае нараду, а так бы хацеў нарэшце знайсці апору, нешта рабіць, на нешта прыдасца...

Нарэшце рызыкую, злажу з цягніка. Тут ужо драўлянае прадмесце. Дрэвы, агародзікі, малыя домікі. Дождж. Людзей не шмат, але кожны напатканы нейак дзіўна на мяне аглядваецца. Пачынаю здаваць сабе справу, што выглядаю дзіўна: у вясёнцы, але з голай галавой. Пад пахай скрутак.

Паварочваю ў першую брукаваную вуліцу. Каля малога доміка стаіць ветлівы і мілы дзядок, такі з кніжак для дзяцей. Глядзіць на мяне аслупянелы, але ні пра што не пытаецца. Мінаю яго і адчуваю, як у ім змагаюцца страх і жаданне спытаць пра дакументы: паварочвае за мной твар, як сланечнік. Робіцца мне яго шкада, чаму ён павінен мець папрокі сумлення

- Пэўна хочаце паглядзець мае дакументы? - кажу да яго. - Калі ласка.

Дзядок абрадаваўся, але і змяшаўся. Хапае мой пашпарт, бачыць на вокладцы тыповы штэмпель дзяржаўнага герба, разліты нечытэльнай чорнай плямай і з радасцю, што гэты ветлівы чалавек - не дыверсант:

- Не, не, дзякую, ужо не трэба. Я ведаю. Ёсць гэтая пячатка, значыць добры пашпарт. Нямецкія без пячаткі.

Пакідаю яго, не адважваючыся бурыць яго ілюзій. Вельмі шчаслівы.

Група васьмігадовых дзяўчынак на мой выгляд перапыняе гульню ў класы і глядзіць у маўчанні на мой плашч і голую галаву. Потым усе рушаць за мной.

Задзесяцігадовыя падлеткі пераходзяць на мой бок вуліцы, становяцца на дарозе і грозна глядзяць. Выцягваю дакументы. Праглядаюць, трохі канфузяцца, нарэшце ідуць, перапрашаючы за падазрэнне. Размаўляем пра тое, пра сёе. Міліцыянт бачыць гэтую кампанію і падходзіць да нас. Зноў аглядае дакументы, кажа стаяць, тэлефануе ва ўчастак. Хлопцы набіраюцца важнасці, пачынаюць адганяць дзяўчынак, глядзяць на мяне з-пад ілба: гэй, нешта тут павінна быць...

У міліцэйскім участку зноў дакументы. Кажу: патэлефануйце ў Саюз пісьменнікаў.

- Добра, - адказваюць. - Вы тут сабе пачакайце.

Сяджу злы, гляджу цераз акно: натоўп падшпаркаў ля дзвярэй не расходзіцца. Пачуваюся нудна і нашча.

Нарэшце міліцыянт аддае мне дакументы.

- Праверылі?

- А мы і так ведалі.

- То для чаго мяне трымалі?

- Каб зявакі разышліся. Ідзіце і не рабіце зборышчаў.

**Кіеў 3 ліпеня**

У клубе пісьменнікаў ужо паўзмрок. Зноў дакументы. Але пасля студзеньскага візіту ўжо мяне тут ведаюць. Бажан кажа, што пераначую ў "салоне", а пакуль, каб паабедаў у рэстаране.

Ах гэты растаранчык! Гэтая калекцыя налівак асаблівa! Выпіў 100 грамаў шафранаўкі, у галаве ў мяне пачало кружыцца, пачуўся супакоеным, знармалізаваным: нарэшце канец уцёкам, нешта сталае пад нагамі. Нарэшце нешта рабіць...

Пайшоў у сакратарыят. Паўзмрок, святла запальваць не дазволена. Круцяцца людзі, твараў іх не бачу, гавораць, шэпчуць, аглядаюцца па баках.

Санлівасць мяне агарнула. Далятаюць толькі абрыўкі слоў: "для мяне два месцы", "для мяне тры", "канешне ў першым цягніку, не забудзьце..."

Што за д'ябал? Пасля першай хвалі здзіўлення адчуваю, як мне па душы пачынаюць поўзаць першыя мурашкі неспакою. Няўжо ўжо і тут?

Але калі спрабую запытаць, у чым справа - усе разлятаюцца, як пух: а нічога, нічога!

Сплю цудоўна, на крэслах. Гэта ж не тамбур.

Назаўтра найпрыгожы сонечны ранак 3 ліпеня. А пятай з раніцы выступаў Сталін. Горад узрушаны - маюць перадаваць зноў.

Іду да цырульніка. Дабрадушны, поўны дзядок. Забаўляе мяне размовай: "Як падстрыгчы бачкі? Адкуль прыехалі?"

Сяджу з намыленымі шчокамі і слухаю Сталіна. Дзверы адчыняюцца, тупат жаўнерскіх крокаў, патруль маладых людзей з карабінамі. Тупат ціхне за маім крэслам. Камандзір, напэўна студэнт:

- Грамадзянін, дакументы!

З уздыхам выцягваю цэлы пачак. Праверыўшы камандзір прабачаецца, і ўвесь аддзел спружыніста адходзіць. Дзядок, як бы нічога ніякага, заканчвае галенне. Спрытнюга! Калі здалеў іх выклікаць?

Дастаткова мне таго. Пакідаю плашч у Саюзе, купляю за тры рублі саламяны брыль, надзяваю. У імгненне вока станаўлюся адным з трох мільёнаў "мясцовых". Гэта сапраўдная шапка-нявідка. Больш мяне ніхто нідзе пра дакументы не спытаў.

Горад прыгожы. Ліпы ўжо цвітуць. Няма леташняга пылу. Ну і завалены таварамі, на вуліцах поўна прадаўцоў булак, піражкоў, трускалак.

Налёт, але ніхто не звяртае на яго ўвагі.

Заходжу да Барэйшы, якога вайна застала ў Кіеве. Жыве ў "Кантыненталі". Ляжыць голы з абвіслым жыватом і чытае кніжку. Пакрыўджаны на розныя рэчы. У тым ліку на Пруткоўскага, які насылае на яго бабаў з патрабаваннем грошай, немаведама за што.

Прыходзіць Галан, які быў у Кактэбелі. Дзясняк таксама ў Кіеве. Ведаюць ужо пра Тудора, Гаўрылюка і іншых.

Вечарам сустракаемся на абедзе ў пісьменнікаў. Васілеўская, Дзясняк, Барэйша, Пастарнак. Галан, Слабоднік, Карнова. Якраз плануем нейкую супольную імпрэзу, каб нарэшце "нешта" рабіць, калі з'яўляецца працаўніца з сакратарыяту і чытае нашыя прозвішчы. Кажа быць праз паўгадзіны каля дома пісьменнікаў. Адтуль адыдзе машына на вакзал: эвакуацыя.

Барэйша пратэстуе: не паеду! Галан таксама. Пастарнак - таксама. Але на першае слова Дзясняка, які "камандуе" выездам, апазіцыя сціхае, усе, апрача Барэйшы, кідаюцца пакаваць манаткі.

Вялікае зборышча каля грузавіка. Чакаем, каб вярнуўся назад. Далёкі налёцік, зеніткі. Рушым. Зноў дождж. Пачынаю нудзіць нейкую песеньку, каб забавіць пяцігадовую дачку Ганчарэнкі, але Гофштайн, які сядзіць збоку, суха прызывае мяне да парадку.

Дождж, залева, мокнем да ніткі. На вакзале зусім цёмна. Перуны. Адвык, падаюцца мне зеніткамі. Позна, пасля паўночы, цягнік нарэшце рушыць.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




**У Менску ва ўстанове “Рэдакцыя газеты “Звязда” выйшла кніга Андрэя Блінца “Клецк. Старонкі даўняй гісторыі”, 112 ст. Наклад 700 асобнікаў.**




**У Смаленску ў выдавецтве “Інбелкульт” выйшла кніга Рымвідаса Пятраўскаса “Літоўская знаць у канцы XIV - XV с т. Склад-структура-улада”, 386 ст. Наклад 500 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецкім доме “Звязда” выйшла кніга Людмілы Рублеўскай “Авантуры драгуна Пранціша Вырвіча”, 320 ст. Наклад 1600 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Рэгістр” выйшла кніга Юрыя Татарынава “Завещание князя Гедимина”, 272 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Медысонт” выйшла кніга Алеся Усені “Грэх”, 634 ст. Наклад 500 асобнікаў.**







**У Менску ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшлі кнігі збору твораў Уладзіміра Караткевіча: т. 8 , 928 ст., наклад 2000 асобнікаў; т. 9, 736 ст., наклад 2000 асобнікаў.**

